ISSN 0130 — 8068

9/2007



# ПОЛЫМЯ

Завітайце на нашу Шклоўшчыну!
Яна глядзіцца ў люстра вод
маладымі бярозкамі,
Зоркі над ёй праляглі ў вышыні
скошанай у лузе сцяжынкай.
А землякі не кідаюць надзеі —
Шклоўскія касманаўты
Пракладуць зорныя трасы у небе.
А пакуль —
У іх самыя будзённыя справы:
Узводзяць —
вянец за вянцом —
новыя зрубы.

*Яўген Крупенька*



# ПОЛЫМЯ

9

(935)

2007

верасень

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2007

## ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



## Казімір КАМЕЙША

### ХУТАР НЯШОТА

*(Радзіма маці Янкі Купалы)*

Чакаючы свята,
далёка зайшоў ты.
І вывела сцежка на хутар Няшота.

Тут быў я,
і веку нямала мінула,
Травою, як хмараю,
груд зацягнула.
А ліпа старая
спачыла на доле.
Як рукі нябожчыцы,
складзена голле.
Ужо не прыўстане,
не гляне ніколі
На гэта,
ад лубіну жоўтае, поле,
На неба,
дзе статак аблокаў пасецца,
На птушку,
што марай далёкай здаецца.
Зноў нехта лаўжы
каля Тонава паліць.
О, як зарасла ты,
дарога праз памяць!

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя». Цяпер — у часопісе «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы», «Мембрана», «Нектар», «Тут мае вёсны прычалены», «Сябрына», «Плёс», «Галоўная вярста», «Пярэймы дня», «Кубак блакіту», «Лінія лёсу» і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка», «Буслянка», «Дзятлава кузня», «Добры дзень, шафёр», «Крыгагром», кнігі прозы «Духмянае дзіва».*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Даўно ўжо, даўно ўжо
не слухаюць ногі
Ні сэрца самога,
ні гэтай дарогі.

Бянігна Іванаўна!
Вы мне даруйце,
Што вас не спаткаў я
сягоння на грудзе.
Забавіўся,
доўга па свеце бадзяўся,
І груд без мяне
ўвесь травою узяўся.
А чую:
пялёсткамі шэпча пяшчота
Далёкае тое:
— Няшота, Няшота...
А ліпень рамонкамі сыпле
і сыпле
У імя Сына,
Сына Святога —
Для маці, Айчыны і свету самога.

Ад хутара ўгору бярэцца дарога.
О, хутар Няшота!..
— А вырасце што там?
— Ну што за пытанне?!
Амаль недарэчнасць.

...Там вырасла вечнасць!

## БОЛЬ ВЯСНЫ МАЁЙ

*Памяці дачкі Ілоны*

А столькі слёз начной парою
Я лью, што хопіць іх і свету...

*Уладзіслаў Бранеўскі*

Сплакаў вочы і ночы без сну,
А цябе ўжо ніхто не разбудзіць.
Зноў сустрэну вясну,
А цябе ў ёй не будзе.

Сёння раніцай бэз ля акна
Баль пялёсткаў разгушкаў.
Што мне тая вясна,
Як няма ў ёй найроднае самае птушкі.

Ты ніколі не вернешся ў май
І крылом не кранеш пабялелыя скроні.
Птушкі я не збярог,

Птушкі я не ўтрымаў
На дрыготкай бацькоўскай далоні.

Паляцела яна, паляцела адна
Ці за бор векавы, ці за мора.
Што мне тая вясна,
Калі сэрца сціскае зімоваю змовай.

Цэлы вырай сяброў самых верных маіх
Спачывае ў тым вечным спакоі.
Можа, ты сярод іх
Будзеш птушкай сваёю.

Зноў вясна на крыле сцяг зялёны нясе,
Разліваецца сонца паводкаю шчырай.
Гэта ж з выраю толькі вярнуліся ўсе,
Ну а ты нечакана — у вырай.

Чым бы зрушыць мне цёмныя сховы твае?
Хоць бы нейкім крылом над сабою узняцца.
Мне сягоння дыхання і слоў не стае,
Да цябе не магу дакрычацца.

Як слязінка ў самотным, маўклівым пяску,
Гасне-глухне мой сплаканы голас.
Я вясну прыпыню,
Я акно прасяку,
Я сіло разарву таго голля,

Што трымае цябе ў цёмных сховах сваіх.
Чуеш, пташка мая?
Ты чаму не ўзлятаеш?
Усе вёсны свае я дзялю на дваіх,
Ты назад іх вяртаеш.

Мо таму й не магу я паладзіць з вясной,
Я аглух ад свайго і птушынага крыку.
Ты гняздзечка віла, ну а выйшаў вянок,
І вянком твае склаліся крылы —
Пры вясне, пры бары, пры дарожаньцы самай...
Спі, дачушка мая!..
Аман!..

## ШЛЯХ, ЯКІ НЕ ПРОЙДЗЕШ ДВОЙЧЫ

Як стаіць наш свет вялікі,
Колькі круціцца зямля,
Перш, чым выбраць чаравікі,
Кожны выбірае шлях,

Той, на ўсёй зямлі адзіны,
Ад калыскі твой, як плоць,

Па якім вякі хадзілі,
Спатыкаліся шматкроць.

Гнуў цяжар камусьці спіну,
Ну а хтосьці ўлегцы бег.
Нехта нават след пакінуў
Незнаёмаму табе.

Кожны йшоў, каб не вярнуцца,
Блытаў ноч і блытаў дзень.
І хаця б не азірнуцца
Ён баяўся ў той хадзе.

А назад няма звароту,
Гэты шлях не паўтарыць.
Недзе ўперадзе вароты
Той пакутлівай цямры́.

Ён і скончыцца аднойчы,
Ціха кане ў небыццё.
Шлях, які не пройдзеш двойчы,
Называецца — ЖЫЦЦЁ!

## ВОСЕНЬСКАЕ

Што ў старым у нашым свеце новага?
Творыць даўняе сваё стары наш свет.
Залатым пяром ліста кляновага
Піша восень светлы свой санет,

Пошту лісцвяную перагортвае
Узмакрэлы вецер-паштавік.
Недзе там, за сінімі пагоркамі,
Ад дымоў, ад спекаці прагорклымі,
Хмуры лес стаіць,
Як франтавік.

Бітвы ўсе на нашым полі скончаны,
У лугах даўно атава скошана.
Колькі лету клопатаў аддадзена,
Колькі сноў у цёплых ночак скрадзена!
Так усё прабегла неўпрыкмет.
Ну а тое, што ў стагі не складзена,
Ляжа ў сумны восеньскі санет.

## НІЗОК

Паэтаў уздзенскіх калыска,
Куточак той як Божы дар.
Нізку я пакланюся нізка.
Хто госць тут, хто тут гаспадар?

Яна тут, вёска, — гаспадыня.
І адпаведна ёй назоў —
Каб ухапіцца за вышыні,
Ішла паэзія з нізоў.

У світцы сціпленькай сялянскай,
З крыху нахмураным брывом,
Яна з ахвярнасцю паганскай
Шальмоўца секла крапівой.

Яна вяснова прыўсміхнецца
Праз наднямонскія груды,
Каб у сузор'е разгарэцца
На небасхіле маладым.

Уся відаць, здалёк і зблізку,
Цераз алешнік і лазу.
Адсюль і сам я вершаў нізку,
Мне сэрца кажа, прывязу.

* * *

На новы лад перавяла
Вясна стары гадзіннік сонца.
А як жа мой стары расклад,
Дзе шлях адзін, —
праз бор, праз сосны,

Дзе птушкі даўнія адны
І ў песні кожны гук знаёмы?
Ці ў такт стары пачнуць яны
Спяваць гадзінніку старому?..

Не бойся новага, мой свет, —
Няма ў жыцці неспадзяванак.
Усюды там, дзе ёсць сакрэт,
Разгадка побач прыхавана.

* * *

Сцежкамі аж на край свету
Лёсу вадзіла рука.
Дзеўчыну з імем Альжбета
Я ці прысніў, ці спаткаў.

Светлая ўся, як ружанец,
Вейкі бы таюць, дрыжаць.
Жаль у вачах, калі гляне,
Нават у імені жаль.

Што ж ты варожыш, Альжбета,
Карты радочкам кладзеш?

Ведаю сам, што налета
Змоўніца — злая камета —
Нашы шляхі развядзе.

Тут і не трэба прарока,
Нават не трэба гадаць:
Ходзіць ад нас за паўкрока
З чорным абліччам бяда.

Колькі хвілін яшчэ, колькі
Піць гэтых ночак смугу?..
Рукі разнімуцца толькі —
Зноў у абдымкі бягуць.

* * *

*Д. К.*

«Адвязі мяне ў лета!» —
Ты гукала здалёк.
А паэту на гэта
Трэба толькі радок.

Ды радка не знайшлося...
Ты і сёння ў зіме.
На шляхах разгалосся
Вецер здрадлівы дзьме.

І не ў лета, а ў Лету
Нашы ночы сплылі.
Ападае ранетам
Саду белы наліў.

Яблык спелы, васковы,
У руцэ растае.
...Аднаго толькі слова
Для радка не стае.





Міхась ЮЖЫК

# ЛЕСВІЦА

*Раман*

## 14

Павел Алегавіч доўга хадзіў па горадзе. Жвавай хадой намагаўся суняць ліпучае, неадчэпнае раздражненне. Бачыцца, размаўляць і як-небудзь пераконваць брата ён не жадаў. Прынамсі, сягоння.

Адвячоркам Багатку вынесла на мост. Унізе паблісквала шырачэзная стужка ракі. Ззаду, за высокім бетонным бардзюрам, тарахцелі і грукалі аўтамабілі. У небе не было ні воблачка. Чэрвеньскае сонца плавіла дарожнае пакрыццё, ад яго ішоў густы задушлівы пах.

Павел Алегавіч налёг грудзьмі на высокае біла, паставіў сумку пад ногі. Задуменна глядзеў на раку. Яе рэчышча з добры кіламетр ішло не згінаючыся. Правы бераг, дзе горад, высокі. Левы нізкі — там паплавы, пашы. У трохстах метрах паперадзе гарадскі пляж. Там пагорак найменей круты, а ля вады — ладная пясчаная пляцоўка. На пяску і ў вадзе поўна народу. Збольшага пялёхкаюцца ля берага, мала хто адважваецца хаця б наблізіцца да сярэдзіны — рака славіцца сваімі вірамі, быстракамі, халоднымі падводнымі плынямі.

І, як заўсёды, колькі акіне вока — лодкі, лодкі і лодкі. Надзіманыя, драўляныя пласкадонкі, чаўны. Нехта рыбачыць, нехта проста катаецца. Вунь, далёка-далёка, узнімае пену маторка. З-за лукавіны вынікнуў рэйсавы цеплаход. Пільнуецца правага берага, дзе глыбей.

А там, ад пляжа якіх сто метраў, блішчыць на сонцы металічны дах чатырохпавярховага дома. Высокія кашлатыя дрэвы атачаюць яго. Побач — яшчэ некалькі захінутых зелянінай ніжэйшых будынкаў. У той чатырохпавярхоўцы нарадзіўся і вырас Павел Алегавіч. Тры гады ўжо там не бываў — як пахаваў бацьку. І карціць туды завітаць, а нешта не пускае, тармозіць. Ужо колькі прыездаў ходзіць вакол гэтага дома Багатка, прыглядаецца, да двара набліжаўся, у альтанцы суседняй сядзеў…

Жыве там цяпер братава дачка Ксеня з мужам і сынком Колем — Паўла Алегавіча, значыць, пляменнікам. Не паспелі, можна сказаць, памінкі прайсці, як яны туды пераехалі. Акурат гэтая паспешлівасць і ўразіла Паўла Алегавіча, затаіў ён з таго часу на пляменніцу злосць: нібы чакала яна дзедавага скону. Хутка, трывала абжылася Ксеня з сям'ёю. Адзін толькі раз і наведаўся да іх

---

Працяг. Пачатак у № 8, 2007 г.

Багатка, на саракавіны па бацьку. Ух і здзівілі яго перамены ў кватэры! Не тое каб рэчы якія новыя — а дух, у тым сэнсе, што і духу ад ягоных бацькоў за месяц не засталося. Як не жылі на свеце зусім.

А дом гэты для мінчаніна Паўла Алегавіча трыццаць пяць гадоў быў слаўным прыстанкам. На выхадныя, у водпуск, на святы ездзіў ён да бацькоў і заўсёды выдатна там пачуваўся. Спаў на тым жа ложку, што і ў дзяцінстве, глядзеў у тое ж акно, на раку... Ложак цяпер выкінуты, а замест яго стаіць шырокі, двухспальны.

І хоць, калі паглядзець аб'ектыўна, па-іншаму і быць не магло — дагэтуль Ксеня з мужам чатыры гады здымалі палову прыватнай хаты, — не ў стане ёй даравалі Павел Алегавіч той паспешлівасці пераезду, той гаспадарлівасці ды разважнасці. Не можа, і хоць ты трэсні.

Згадваецца, як бацька, што перажыў маці роўна на год, пасля пахавання жонкі катастрафічна драхлеў, дзяцінеў, хадзіў недагледжаны, і ніхто з ім, акрамя Вольгі, не няньчыўся. А ў той свае клопаты. Там Славік, якому штат абслугі патрэбны.

Зімой і ўлетку, цэлымі днямі, сядзеў Паўлаў бацька ў двары на лавачцы ды смаліў папяросы. Утравелы, маршчыністы, слязліва-смаркаты. Вечарам Вольга падскочыць з работы, завядзе яго наверх, пакорміць, памые. А зранку ён гарбаты нап'ецца — і чыкільгае ўніз, на двор. Апусціцца на лаўку, сядзіць нерухома. Так і заставаў яго заўсёды сын, калі прыязджаў са сталіцы на выхадныя. «Што ж ты, тата, так сябе губіш?» — больш пытаўся ў сябе, чым у старога, Павел Алегавіч. А той хмурыцца сабе моўчкі, зрэдчас адарве бляклыя вочы ад долу: на сына зірне, на неба, закурыць, уздыхне, праперхаецца... Страшна.

Памёр ён ціха, смерцю праведніка, у сне перад досвіткам. Занепакоіліся суседзі, што няма старога на звыклым месцы, на лаўцы, пазванілі Славіку ў школу. Прыджгаў ён, адчыніў ключамі дзверы — гэта ўжо апоўдні было, — а бацька ў пасцелі, на спіне, халодны. Было яму тады семдзесят шэсць. Нічым не хварэў аніколі. Так і сканаў, па сутнасці, здаровы. Ад тугі, ад немагчымасці жыць.

Таму ўсё памятае Багатка. Ні пра што не забыўся: ні пра бацькаў пакутны год, ні пра шпаркі пераезд пляменніцы на вызваленую жылплошчу.

...Ужо вечаровае, але яшчэ моцнае праменне лілося долу. Водары прыбярэжных раслін змешваліся з пахам нагрэтага асфальту і выхлапнымі газамі.

Павел Алегавіч стаяў і глядзеў на раку.

Шырокая стужка вады марудна паўзла на поўдзень.

*З дзённіка...*

*16.06.200**

Дома. У Мінску. Учора прыцёгся а першай гадзіне ночы, зайшоў праз свае дзверы, забурыўся спаць. А сёння ніхто да мяне не падняўся, хоць ведаюць, што прыехаў. Ну адпаведна і я не спускаюся.

Унізе цэлы дзень сноўдаліся ўзрушаныя, вясёлыя. Падслухаў, што збіраюцца да Жыгоцкага, — Тамарка, выходзіць, запрасіла. Мыліся, апраналіся, прычэсваліся. Усё, халера, чутно мне было праз лесвіцу, дый пахі духоў цвялілі бязбожна. З-за гэтага ўвесь дзень не ў стане нічога рабіць, нібы застарэлая хвароба мая абвастрылася. І мог жа сысці з дому да вечара, каб залішне не раздражняцца. Дык не: тэпаў па кватэры, прыслухоўваўся і прынюхваўся. Ажно пачало сэрца балець.

Спрабаваў адарвацца тэлевізарам. Дзе там! Ці не адразу нарваўся на перадачу пра жывёл, пра сабак пародзістых. Быў ашаломлены тым, што да 90%

асобін некаторых парод пакутуюць на хранічныя захворванні. У бульдогаў, напрыклад, праблемы з дыханнем; у нейкіх там тэр'ераў — з ныркамі... Гэта, аказваецца, чалавек, паскуда, дзеля сваёй пацехі выводзіць сабак, якія ўсё жыццё пакутуюць! Сволач, іншага слова і падабраць не магу. Як пасля гэтага любіць чалавека? Адразу ж абвастрыўся боль ад нядаўняй паездкі да брата. Ух мне гэтыя біёлагі-вынаходнікі, перавешаць іх мала. Даруй, Госпадзе, за кашчунскія словы. Зрываюся, слабы. Але ж балюча, балюча, балюча…

З нянавісцю выключыў тэлевізар. Хадзіў па кватэры, курыў. У ванную нават залез. Аднак не мог супакоіцца.

Гадзін у пяць за імі (за Веркай і цешчай) машына прыехала. Кінуўся да акна, назіраў: шырачэзная, бліскучая, чорная. Углядаўся да трэску ў вачах, хто там сядзіць (ці не Тамара?). Але ж выйшаў толькі кіроўца, дзяцюк двухметровы. Адчыняў дзверы, дагодліва саджаў іх. А шыбы ж, трасца, таніраваныя, не разгледзець салон. Дапускаю, што дачка там сядзела. Не выйшла, баіцца мяне як агню. Я для яе цяпер самы заклюты вораг. Вось яно, брат Багатка, як у жыцці бывае. Ты іх кармі, гадуй, а яны табе дулю пад нос! Хораша.

І хоць, папраўдзе, на запрашэнне я не разлічваў, такая крыўда раптам агарнула, калі яны паехалі. Крыўда і злосць. Тры гадзіны мяне, як наркамана, ламала. Змагаўся з жаданнем рынуцца з дому, уварвацца да Жыгоцкага любой цаной і біць там усё, руйнаваць, дэбашырыць. Хай мяне ў пастарунак, думаў, хай наогул заб'юць яго малойцы, але ж і я ім «свята» наладжу.

Хоць ты звязвай сябе па руках і нагах — такое было жаданне. Насілу суняўся. Аднак да самага іх прыезду мяне патрэсвала. Лягу, здаецца, больш-менш заспакоены, куру — і раптам: то нага ў калене сагнецца, то тузанецца рука, а то і сківіцы заскачуць, заляскаюць зубы.

Як машына якая ў двор (мне добра чуваць) — бягом да акна, пільную. Позна яны прыбылі, а палове дванаццатай, мусіць. Тут ужо і Юрка з імі вылез, ён, аказваецца, таксама там быў. Гаманілі ўнізе гадзіны дзве, шоргалі, бразгалі, захоплена абмяркоўвалі асабняк. (Во, значыць, куды іх Пецька вазіў!)

Дзе ж тут заснеш! Зноў разгарэлася злосць. Карцела спусціцца ўніз і скандаліць. Не ведаю, як стрымаўся…

Зараз тры гадзіны. Яшчэ не сплю. Нервы на грані. Схапіўся за дзённік, як за ратунак. Прадчуваю, што ўсё гэта (маю на ўвазе эпапею з Жыгоцкім) кепска закончыцца. Слабы я, не зжыў, не змірыўся, стрываць не змагу. Малюся, каб толькі не крымінал. Баюся турмы. Стары я ўжо для яе, нямоглы… Ведаю, гэта спакуса д'ябальская, жахлівае выпрабаванне маё. Дай Госпадзе сіл!

Адзінае выйсце пакуль — з'ехаць як найхутчэй на дачу. Аддаліцца ад іх. Але што потым? Вось у чым штука. Праз колькі дзён — на работу, хочаш не хочаш, а будзеш у Мінску сядзець па пяць дзён… Во калі ўся мая воля спатрэбіцца.

Несціханы, ужо колькі гадзін, боль за грудзінай. Цяжка дыхаць, хоць і насцеж акно. Ноч бязветраная, цёплая.

Ведаю — не засну. Але ж і хадзіць ужо не магу, натупаўся. Сядзець — ломіць у паясніцы. Словам, ні дня табе, Багатка, ні ночы.

*17.06.200**

Ну, нарэшце, хоць у нечым пашанцавала. Аказваецца, за дні маёй адсутнасці на дачы дрот паднялі. Дзякуй, цяпер з электрычнасцю.

Перад абедам пасунуўся ў лес і быў там да вечара. Нарваўся на сунічную палянку — аж чырвана ўсё. За якую гадзіну набраў пяцілітровае вядро з верхам. Шкада, больш не было тары. Планую праз пару дзён яшчэ туды падысці.

Але не бывае, відаць, у мяне, каб усё добра. Такі чалавек. На зваротным шляху здарылася нешта незразумелае. Ішоў, задумаўся і раптам адчуў тры-

вогу. Гляджу, стаю на паляне, пад дубам. Наўкол, у радыусе мо пятнаццаці метраў — ні дрэўца, ні кусціка, а толькі куртатая траўка. Абкружае гэтую паляну малады шчыльны сасняк. І не відаць, як я сюды выбрыў, па якой такой сцежцы. І куды мне ісці? Знерухомеў, аглядаюся баязліва. А дуб нада мной сваю крону раскінуў, пакалыхваецца, як жывая істота. Сасняк жа, што наўкол, наадварот — быццам мёртвы зусім. Сухі, рукасты, каравы. І паляна нейкая дзіўная, высахлая: пад нагамі пашэрхлая трава, пясчаная глеба.

А трывога, што спыніла мой рух, расце-нарастае.

Да таго ж і сонца, як на грэх, за аблокі нырнула.

Ужо не толькі ў страўніку ные, але і цяснее ў грудзях, не стае паветра; у нагах і руках кволасць з'явілася. Паставіў вядро. Баязліва пратупаў вакол дуба. Дрэва не старое, не дужа тоўстае, але ўжо вельмі высокае, разгалістае. Стаіць, весела зелянее пасярод гэтага сухоцця. І падумалася чамусь: гэта ад таго так мёртва наўкол, што дуб сваім магутным карэннем усе сокі зямныя забраў.

І яшчэ адна з прычын майго страху (не адразу даўмеўся): амаль поўная адсутнасць гукаў. Хоць бы птушка якая чырыкнула, хоць бы прадзумкаў чмель… Нібы замкнуў мяне гэты безжыццёвы сасняк, нібы счапілі свае сукаватыя рукі дрэвы. Ані прагалінкі паміж імі няма. Як выйсці?

А страх, халера, усё нарастае, усё мацнее задуха. Гляджу: кісці рук маіх сінія, схаладзелыя. Бацюхны, думаю, што ж гэта са мной дзеецца? І галоўнае, як волю хто маю адабраў. Ні на што не магу рашыцца. Ногі, рукі як быццам непадуладныя сталі.

Урэшце скінуў я з сябе гэтае ачмурэнне. Праўдзівей, не скінуў, а як бы каманду пачуў: лезь на дрэва. Бы ў спіну мяне хто штурхнуў. Адкуль толькі спрыт з'явіўся! Скачок — за галіну рукамі, рывок — падцягнуў ногі, штуршок — ускараскаўся, і гэтак вышэй і вышэй. Па меры таго як лез, страх слабеў, адпускаў. Недзе на палове вышыні дуба згледзеў, што сасняк, які мяне абкружаў, з аднаго боку вузкі зусім, метраў дваццаць. Там, аказваецца, край пагорка, які пераходзіць у лугавіну, а за ёй — хутка і прыветны ліставы лес.

Праз пяць хвілін быў я пад дубам. Яшчэ праз тры — спускаўся з пагорка. А неўзабаве і наогул на знаёмую дарогу выйшаў.

Сяджу вось зараз, мудрую над дзённікам, а перад вачыма тая паляна з дубам. Няздорава там усё ж, анамальна неяк. Ці, можа, гэта ў маёй галаве глузды пазліпаліся? Пранясі, Божа.

А такі ўсцешна, што суніц назбіраў. Дарэчы, па дарозе ў свой «бярлог» завітаў у вясковую краму, цукрам прыбарахліўся. Мяшэчак такі сціпленькі, сем кіло. Адным словам, ледзь дапёрся да хаты. Заўтра варэнне буду варыць.

Ды ўсё з галавы не выходзіць: што ж такое сёння са мной адбылося, чаму кісці ссінелі, чаму ногі як адняло, а потым, наадварот, незвычайная сіла ўва мне паявілася.

Ой, Алегавіч, глядзі за сабой. Нешта ў табе не тое, браток. Дзічэеш, злосны, як Бармалей. Гэх, ну ды ладна. На бакавую пара. Як той казаў, пераначуем — лепш пачуем. Каб так!

*21.06.200**

Вечар. На дачы. Знадворку грымае навальніца.

Учора не пісаў па адной простай прычыне: ледзь капыты не адкінуў.

Вось як яно было.

Пасля сняданку здзейсніў невялікі шпацыр па ўзлеску. Вярнуўся ў гуморы, расклаў за хатай цяпельца, усталяваў цагліны, узгрувасціў на іх каструлю. Словам, варэнне зачаў. А трэба сказаць, суніцы я зазвычай доўга вару, да жэлепадобнага выгляду. Хай і непрыгожа, хай ягады ў кашу ператвараюцца,

затое захоўваецца надзейна і не трэба з накрыўкамі вымудрацца. Проста цукру ўволю даю, і стаіць гэтае варэнне як міленькае.

Гэта я да таго, што даволі доўга над цяпельцам прапоркаўся. Тут жа трэба, каб працэс запаволены быў, без полымя. Падкладу паленца — і сяджу, прыродай любуюся. А дзянёк цудоўны надарыўся, цёплы, вільготны. Сонца пакажацца з-за аблокаў, неназойліва пагрэе і скрыецца. Вятрыска ў спіну: авявае, лагодзіць. Хораша, адным словам.

Даварыў, ціхамірна разліў у слоікі, аднёс у хату. Ну, а потым трэба ж каструлю адчысціць. Шкрабаў я, шкрабаў і не заўважыў, як аса ўнутр залящела. Яны і дагэтуль, чэрці, побач кружлялі, аднак дыму баяліся. А тут асмялелі і прама ў каструлю палезлі, на салодкія сценкі. Адна, адразу ж другая, трэцяя. Стаў я іх лыжкай выганяць. Справа прывычная. Ну, бывала, і кусне якая. Нішто. Я чалавек трывучы. А тут, чортведама як, адна з каструлі ды мне ў твар шуганула. Я машынальна яе прыціснуў далонню. Тут яна і ўджаліла. У правую шчаку, бліжэй да скроні.

Ну балела і балела сабе. Я намачыў анучку ў халоднай вадзе і, час ад часу прыкладаючы да шчакі, даканчваў шараваць каструлю. І якраз ветрык аблокі рассеяў, сонца надоўга выглянула — і мне ў галаву. Тут шчака гарыць невыносна, а яшчэ і лысіна плавіцца. Цярплю. Дамываю. Дамыў. Рушыў у хату.

І тутака заўважаю, што мяне з боку ў бок калывае, а перад вачыма — зіхоткія сонечныя зайчыкі. Цераз парог ужо ледзь перайшоў. Даплёўся да канапы, сеў. А ўваччу плыве ды туманіцца. Узяў з тумбачкі маленькае люстэрка, паглядзеў і жахнуўся: фізіяноміі не пазнаць. Мясістая, хваравіта чырвоная, правага вока зусім не відно, толькі шчылінка; левае таксама заплывае, звужаецца. Божухна, думаю, вось табе і аса.

Гадзіна, можа, прайшла, а я ўжо нічога не бачу, ляжу, і калатун б'е. Гарачка, значыць, разыгралася. Не ў змозе зрушыцца, і няма каму памагчы.

Гэта цяпер я кумекаю, што мог ацёк мозгу пачацца і знайшлі б мяне, магчыма, праз некалькі сутак паедзенага чарвякамі і мухамі. А тады…

А вось што я пабачыў тады.

Раптам разліпаюцца мае вочы, устаю, з нечаканай лёгкасцю іду да дзвярэй, адчыняю, выходжу. Не здзіўляюся, хаця на дварэ ранняя вясна, голыя мокрыя дрэвы, і стаю я на ганку *свайго* пад'езда. Поруч — высокі старэйшы хлопец. У руках ягоных рагатка. «Глядзі», — кажа мне, а тады нацягвае, цэліцца ў суседні дом, што напроці, страляе. Праз імгненне бразгае і абрынаецца ўніз шыба на трэцім паверсе. Мне робіцца страшна. Страшна, відаць, і хлопцу. Ён зладзеявата совае рагатку ў кішэнь курткі, сыкае: «Хавайся!» — і бяжыць уздоўж дома ў суседні пад'езд. Ён там жыве. А я працягваю затарможана тырчаць на сваім ганку. З-за рага суседняга дома вынырвае нізкая каржакаватая цётка, рашуча шыбуе ў мой бок. Я доўга не кранаюся з месца, хаця трэба ўцякаць. Падманваю сябе, што яна рухаецца не да мяне. Але гэта відавочна не так. Калі паміж намі застаецца метраў пяць, зрываюся і бягу. Я абраў найгоршы шлях — хавацца ў сваім пад'ездзе. Гэта яўны гамон. Аднак штомоцы бягу наверх, дасягаю трэцяга паверха, званю, затым малачу ў дзверы кулакамі. Адказу няма, а ззаду пыхканне і тэпанне каржакаватай цёткі з суровым тварам. Між намі ўжо адзін лесвічны пралёт. У роспачы зрываюся і імчуся вышэй, на апошні паверх. Ззаду злавесныя крокі. Дабягаю да пляцоўкі, дзе дзверы, але стукацца бессэнсоўна: хто мне адкрые? Я ж тут не жыву. Позірк ліхаманкава шукае выйсця і натрапляе на жалезную лесвіцу, што вядзе на паддашак. «Гэта ратунак мой!» — праносіцца ў галаве; я хапаюся рукамі за парэнчы, стаўлю нагу…

Тут відзеж мой абарваўся, і заўважаю, што ляжу я на ложку, у хаце прыцемак. У акно відаць, як познавечаровае сонца залоціць макаўку клёна на ўзлеску. Бяру люстэрка. Пстрыкаю кнопкай таршэра. Ацёчнасць з твару спадае,

адкрылася левае вока. Правая частка твару, праўда, усё яшчэ страхалюдная. Мяне больш не калоціць, але пакутліва баліць галава.

Усю ноч правёў, напаўлежачы на канапе, не ў сне, а ў трывожнай дрымоце. Хто толькі да мяне не яўляўся! І жывыя, і мёртвыя, і ворагі, і сябры. Пры тым разумеў, што не сплю і што гэта не насамрэч. Страху не адчуваў, бо такі стан мне знаёмы: ён бывае раніцамі, калі кепска, у душным пакоі, адасплю ноч і не магу канчаткова прачнуцца.

Розум мой працаваў як бы паралельна відзежам. За ноч дэталёва ўспомніў, хто такія той хлопец і кабета з суровым тварам. Нанова ўсё перажыў.

Гэта было ў маленстве, мне гадоў сем-восем, хлопец жа на гадоў пяць старэйшы, сусед. Забыўся, як яго звалі… Так і здарылася напраўду: ён стрэліў з рагаткі і змыўся. Цётка схапіла мяне ля пад'езда, нікуды я не ўцякаў. Ад страху ледзь не наклаў у штаны і здаў таго хлопца з трыбухамі. Яго жорстка пакаралі бацькі. А мяне некалькі год мучыла сумленне. І найбольш вярэдзіла тое, што раней хлопец браў мяне ў кампанію старэйшых (хуліганаў), так бы мовіць, давяраў. Ён не пабіў мяне, хаця і павінен і мог бы, а толькі пры сустрэчы сказаў, што так мужыкі не паступаюць. Больш са мной ён не знаўся.

Дзіўна, адперажываўшы пасля таго выпадку колькі гадоў, я потым начыста пра яго забыўся.

Сёння цэлы дзень жыву, як лімон выціснуты, — такая слабасць. На душы пустэча. Хаця, на добры лад, радавацца трэба і танчыць: бо цяпер ясна, як лёгка я мог спруцянець. Але ж не радуюся. Такі чалавек.

Толькі што пярун ляснуў над самай хатай. Ані трохі не было страшна — настолькі на ўсё напляваць.

Прастрацыя.

## 15

Гадзін у шэсць вечара блізу бальніцы № 4 спынілася раскошнае блакітнае аўто. З задніх дзвярэй выйшла маладая жанчына ў белым летнім касцюме. Хутка да яе падышла кабета, апранутая ва ўсё шэрае. Яны прывітальна цмокнуліся, перакінуліся некалькімі словамі і залезлі ўнутр, на задняе сядзенне. Кіроўца, які так і не паказаўся, спрытна развярнуўся і пагнаў аўто па вуліцах горада. Было пагодліва, сонечна, але не надта спякотна. Машына неслася пад заценню пышных дрэў, паўз пазалочаныя дамы і зіхоткія шыбы, міма кіёскаў, слупоў, пешаходаў. Неўзабаве вырулiла на праспект Скарыны, крыху праехала па ім, збочыла направа і праз метраў пяцьдзесят прыпаркавалася ля аднаго рэстаранчыка.

На гэты раз кіроўца выскачыў першы, знасцежыў заднія дзверы, падаў руку кабеце, затым — маладой жанчыне, памагаючы выйсці. Маладзіца нешта яму сказала, ён згодна кіўнуў, адышоўся на пару крокаў і дастаў з нагруднай кішэні пачак цыгарэт.

Жанчыны ж паважна рушылі да ўвахода ў рэстаран. Вартаўнік, што тырчаў у дзвярах, згледзеўшы гэтую пару, расплыўся ў халуйскай усмешцы, якая была больш скіравана да маладзейшай.

Спадарожніцы падняліся па вінтавой лесвіцы на другі паверх. Там іх сустрэў паўнатвары дзяцюк, дагодліва ссутуліўся, залапатаў скарагаворкаю, замахаў рукамі.

— Ігнат, нам бы кабінку, — уладарна кінула маладая.

— Канешне, канешне, Тамара Паўлаўна! — тузануўся ўсім целам таўсматы Ігнат і пабег наперадзе, абарочваючыся на хаду і прыгаворваючы: — Сюды, сюды, калі ласка.

Прамінуўшы стойку бара, маленькую залу, калідорчык з уваходам у більярдную, жанчыны дапялі дзвярэй, перад якімі дзяцюк запыніўся, па-лакейску прыгнуўся і штуршком рукі адчыніў.

— Прашу, спадарыні. — Унутр ён пранік толькі ўслед за жанчынамі. — Размяшчайцеся, калі ласка, зараз жа прышлю чалавека. — І ўюном выслізнуў вон.

Тамара Багатка, дачка нашага Паўла Алегавіча, і Вера Генадзеўна, яго жонка, уселіся за столік, у мяккія крэслы, напроці адна адной. Сцены кабінкі былі абабіты рудым аксамітам, такі ж колер мелі і столь, і драўляная падлога. Стол пакрываў ружовы абрус. На ім знаходзіліся прыборы, попельніца ў выглядзе чарапахі, ляжалі сурвэткі. Над сталом, даволі нізка, вісела мудрагелістая крыштальная люстра.

Вера Генадзеўна ва ўсе вочы аглядала пакойчык. Яе дачка, наадварот, нічому тут не здзіўлялася. Яна дастала з дамскай сумачкі вузкі пачак, выбіла тонкую карычневую цыгарэту, пачак нядбайна кінула на стол. Тады пстрыкнула запальніцай, падкурыла і млява адвалілася на спінку фатэля. На прыгожым Тамарыным твары выяўляўся ўнутраны неспакой. Кісць правай рукі, у якой яна зграбна трымала цыгарэту, аздаблялі два пярсцёнкі з каменьчыкамі. Паблісквалі каменьчыкамі і завушніцы.

Афіцыянт, якога абяцаў прыслаць разваротлівы Ігнат, сябе чакаць не прымусіў — убег з ручніком на сагнутай у локці руцэ і паслужліва застыў перад гасцямі. У другой, апушчанай долу, руцэ ён трымаў меню. Гэта быў хлопец гадоў дваццаці пяці, даўгалыгі, вузкаплечы, з мілавідным жаночым тварам і пышнымі кучаравымі валасамі.

— Прашу вас, — далікатна працягнуў ён Тамары меню; голас у хлопца таксама аказаўся тонкі і не зусім мужчынскі.

— Жэнечка, — ласкава звярнулася да яго Тамара, выпускаючы дым разам са словамі, — прынясі ты нам, дарагі… — Тут яна, адклаўшы меню ўбок, вымавіла некалькі французскіх слоў. — Праўда, мама? — павярнулася яна да Веры Генадзеўна.

— Добра, добра, — збянтэжана прамармытала тая.

— І яшчэ віна… — (зноў незразумелыя для Веры Генадзеўны словы), — белага…

— Слухаюся, — пакланіўся Жэнечка і выплыў з кабінкі.

Даволі хутка перад гасцямі з'явіліся ўсе заказаныя стравы, было разліта ў келіхі светлае віно, а затым, па просьбе Тамары, афіцыянт іх пакінуў, зачыніўшы за сабой дзверы.

Тамара паспешліва паспытала таго-сяго, адвалілася ў крэсла, зноў закурыла, а тады звярнулася да маці, што з апетытам схілілася над талеркай:

— Дык вось, мам, для чаго мне трэ было з табою сустрэцца… — Яна неяк нервова падалася наперад, стрэсла попел у «чарапаху», зноўку адкінулася на спінку. — Трэба нешта з бацькам рабіць.

— У якім сэнсе, дачушка? — не данёсшы відэлец з наколатай рыбай да рота, замерла Вера Генадзеўна.

— У тым сэнсе, што ён пераходзіць усякія межы, — холадна прамовіла Тамара. — Гэтыя пастаянныя пагрозы, званкі, гэтая нездаровая нянавісць да мяне з Пецем. Гэтак жа жыць немагчыма!

— Ну, Томік, — прымірэнча пачала маці, — хіба ты свайго бацьку не ведаеш. Хай злуецца, хай локці сабе кусае. Табе што з таго?

— Ды каб проста злаваўся! — ускінулася дачка. — Ён жа пагражае, агрэсіўна ўмешваецца ў маё асабістае жыццё. Ты ведаеш, што ён раздабыў нумар нашага дамашняга тэлефона і мардуе званкамі?

— Як?! — здрыганулася Вера Генадзеўна. — Томік, дальбог, я яму не давала твой нумар. Ні я, ні бабуля.

— Ай! — махнула рукой Тамара. — Ды якая цяпер розніца: давала — не давала. Здабыў, вось у чым бяда. Цяпер гэта няцяжка. Адрас жа ведае. Дзякаваць Богу, хоць на дачу і на мабільнік пакуль не звоніць.

— Дык а што ж ён, дурань, да цябе прычапіўся, чаго дамагаецца?

— А ты не ведаеш? — сярдзіта зіхатнула вачыма дачка. — Усё таго ж. Таго, што заўсёды. Таго, што і тым разам, калі перад домам да мяне прыставаў.

— Ну ён жа павінен разумець, што гэтага не будзе, што ты дарослы чалавек і ён табе не ўказ!

— Гэта ты, мам, разумееш. Гэта я і Пеця разумеем. А як яму, ідыёту, давесці? — усклікнула Тамара.

— Ну-ну, дачушка, не трэба на бацьку такімі словамі… — пралепятала Вера Генадзеўна. Есці яна ўжо не змагла, хоць некаторыя стравы стаялі перад ёй некранутыя; аднак узяла келіх і адпіла тры чвэрці з налітага.

— А якімі яшчэ на яго словамі, калі ён па-людску не разумее?! — усё больш закіпала Тамара. — Ты ж зразумей, мам, што, калі ён не спыніць свае дамаганні, калі не сунімецца, то Пеця… — тут яна секунду павагалася, — то Пеця прыме самыя жорсткія захады.

— Пачакай, Томік, якія захады? — насцярожылася Вера Генадзеўна.

— Не бойся, — супакоіла яе дачка, — біць яго ніхто, канешне, не будзе. Але ж ёсць законныя структуры, закліканыя абараняць спакой сваіх грамадзян. Ёсць тая ж міліцыя, ёсць прымусовыя медыцынскія ўстановы, дзе будуць высвятляць прычыны ягонага шалу…

— Не, дачушка, тут ты, здаецца, перагібаеш. Бацька, канешне, чалавек неўраўнаважаны, псіхаваты, але і ты яго зразумей. Ён (як, дарэчы, і я) хвалюецца за твой лёс.

— А вось не трэба за мяне хваляваацца! — запальчыва ўсклікнула дачка. — Сама як-небудзь…

— Ну-ну, Томік, навошта ж так нерваваацца? Ужо ж мне ты павінна верыць, ужо ж я толькі дабра табе магу пажадаць.

— Табе я веру, мам, — Тамара зляпіла грымасу пакрыўджанай дзяўчынкі, — для таго і сустрэлася тут з табой. Дык памажы, парай, што рабіць…

— Асноўнае, чым бацька незадаволены, як я разумею, гэта, дачушка, твой сацыяльны статус. Прабач, але ён і мяне хвалюе. Жыгоцкі, вядома ж, чалавек станоўчы, харошы… Але не дай Бог у вас разлад, — загаварыла шэптам Вера Генадзеўна, — і ўсё рэзка для цябе зменіцца…

— Нічога не зменіцца, мы кахаем адно аднаго, і больш я нічога не хачу ведаць! — Тамара ўзяла ў руку келіх, адпіла зусім трошкі віна, вярнула на стол.

— Ты зноў гарачышся, — з любасцю пазірала на яе маці, — а я прасіла выслухаць мяне памяркоўна…

Дачка скрывілася і прамаўчала.

— Дык вось, Тамарачка. У Пятра Вацлававіча ёсць двое дарослых сыноў, жонка, з якой ён так дагэтуль і не развёўся. Усе яны, хочаш не хочаш, а прэтэндэнты на яго грошы, а ты ім — саперніца. Як ні круці. Гэта, дачушка, трэба заўсёды памятаць. Скажы, чаму ён не разводзіцца?

— Няўжо ты думаеш, што я вось так у лоб і спытаю: «Пець, а чаму ты не ў разводзе?»

— Не, не думаю, — сур'ёзна сказала маці, — але празандзіраваць, тактоўна выведаць усё — табе неабходна. Каб не было потым расчараванняў. Я вось, напрыклад, ад цябе ніколі не чула пра яго малодшага сына. А між тым ведаю, што сыноў у Жыгоцкага двое: малодшы Андрэй і старэйшы Саша…

— Ён з ім не жыве, — буркнула Тамара, маючы на ўвазе малодшага.

— Чаму, цікавілася?

— Не цікавілася, але падазраю, што яны з ім у напружаных адносінах. Дакладней — у ніякіх адносінах. Больш таго, я адчуваю, што ўсякія размовы такога плана для Пеці балючыя, а таму не прыстаю…

— А ты не прыставай, — крыху пасунулася да яе Вера Генадзеўна, — аднак ведаць павінна. Можа, гэта пастка для цябе якая, можа, там што нячыста?..

— Дык што ты мне прапаноўваеш? — утаропілася на яе дачка.

— Канкрэтна — нічога. А ўвогуле — быць асцярожнай і лавіць кожную чутку, кожны намёк. Мабыць, дакументы якія, фотаздымкі ў доме захоўваюцца. Можа, у размове са старэйшым сынам што прамільгне…

— Сашка — гэта правая рука бацькі, самы адданы яму чалавек. Ён нічога не скажа. — Тамара зноў задыміла цыгарэтай. — І наогул, нікуды я лезці не буду.

— І ўсё-ткі, — настойвала маці, — чаму ён з жонкай не развядзецца, як думаеш?

— Ай, ну мам! Ты хочаш, каб я табе намалявала ўсю паднаготную іхняй сям'і. Я магу толькі здагадвацца, разумееш?.. — Дачка памаўчала надзьмуўшыся. — Ну, я мяркую, што ці то яна не дае яму разводу, ці то ўмовы, пры якіх ён можа адбыцца, Пецю не здавальняюць. Па законе ж, мабыць, нешта і ёй належыць.

— Належыць, і думаю, што нямала. А адкупіцца ён не спрабаваў?

— Ат, мам! — абурылася Тамара. — Ты пераходзіш усякія межы разумнага! Ну адкуль жа мне гэта знаць? — І істэрычна: — Госпадзе, ды дайце ж мне проста спакойна пажыць!

— І зноў ты хвалюешся, — працягвала дапытлівая маці, — а між тым твой спакой залежыць іменна ад ведання сітуацыі…

— Мой спакой залежыць ад роднага бацькі! Вось ад каго мой галаўны боль. Ён жа, напэўна, мне нейкую падлянку задумаў. Ды што там задумаў — ён адкрыта гаворыць, што сапсуе мне жыццё, што не дасць нам з Пецем быць разам. — На Тамарыных вачах навярнуліся слёзы. — Скажы, хіба так можна, як ён паступае? Пеця аднойчы з ім гаварыў (да тэлефона падышоў першы), дык татка мой яго мацюкамі накрыў. Пеця, калі хочаш знаць, з таго дня спіць дрэнна, раздражнёны, а ў яго, ведаеш, якая нагрузка. Яму ж з людзьмі кожны дзень працаваць, вырашаць найважнейшыя справы. І хоць ён нічога такога не казаў, думаю, што зробіць усё магчымае, каб захаваць наш спакой…

— Не спяшайце пакуль, я паспрабую яшчэ раз пагутарыць з тваім бацькам, пераканаць, каб ён ад вас адчапіўся.

— Калі ласка, мам, — дачка нахілілася праз столік і паклала сваю далонь на матуліну, — пераканай ты яго. А то, дальбог, апошні месяц як на гарачым вуголлі жыву. Усё нейкай выхадкі ад яго чакаю. Гэтак жа немагчыма… І тэлефон, чуеш, нумар мабільнага майго, яму нізашто не давай. У цябе ён нідзе не запісаны?

— Не, Томік, не запісаны, я ж навучаная.

— І Юрку накажы, каб не даваў.

— Усё будзе нармальна, не бойся, — запэўніла Вера Генадзеўна; выраз яе твару быў надзвычай рашучы.

— Хацелася б спадзявацца, — прамовіла дачка, — вельмі хацелася б… А ведаеш, мам, давай за гэта вып'ем, а? — Яна напоўніла келіхі, узняла свой: — Вып'ем, каб усё было ціхамірна!

Маці з дачкой чокнуліся, затым падаліся адна да адной, пацалаваліся, выпілі. Тамара — да дна. Вера Генадзеўна — да паловы.

Хвілін праз дзесяць яны ўжо сядзелі ў машыне, што імчала іх па праспекце Скарыны. Над горадам цараваў чароўны чэрвеньскі вечар. У прачыненыя вокны залятаў таполевы пух. Міргалі нястомныя святлафоры.

## 16

У пятніцу вечарам Пятро Вацлававіч Жыгоцкі знаходзіўся ў сваім загарадным асабняку, калі яму далажылі, што ля варот тырчыць нейкі чалавек і настойліва дамагаецца, каб яго прапусцілі. Называе сябе бацькам Тамары Паўлаўны.

Ад гэтай звесткі Жыгоцкаму стала прыкра, бо праз гадзіну ён мерыўся выехаць з Тамарай у начны клуб. Яна, дарэчы, зараз была ў сауне, на нулявым паверсе асабняка. Колькі секунд павагаўшыся, Пятро Вацлававіч вырашыў прапусціць гэтага непажаданага наведвальніка, аднак скрыць, што яго дачка знаходзіцца дома, і размаўляць без яе.

Жыгоцкі загадаў правесці настойлівага Паўла Алегавіча на другі паверх, дзе ён яго прыме. А пакуль тое, пазваніў сыну Аляксандру на пяты паверх і папрасіў спусціцца на тры паверхі ніжэй. І яшчэ: усё ж паслаў чалавека папярэдзіць Тамару, што яе бацька ў доме і што ён, Пятро Вацлававіч, прасіў бы яе пакуль затаіцца.

Усе загады Жыгоцкага былі выкананы бездакорна.

Калі Павел Алегавіч Багатка ў суправаджэнні квадратнага малайца з барадой падняўся па мармуровай лесвіцы на другі паверх, у прасторнай светлай зале яго сустрэлі двое: сам гаспадар і малады чалавек гадоў дваццаці трох. Яны сядзелі на вялізнай мяккай канапе, ля супрацьлеглай сцяны.

Пятро Вацлававіч пры з'яўленні госця ўстаў і з працягнутай для прывітання рукой паплыў насустрач. Сын жа Аляксандр застаўся сядзець, прычым у ягоным позірку, накіраваным на Багатку, той згледзеў яўную непрыязнасць. Гэты хлапчына да болю нагадаў Паўлу Алегавічу Жыгоцкага ў маладосці. Такі ж прыгожы, дагледжаны, упэўнены ў сабе чалавек, толькі з твару суровейшы. Адным словам, парода.

Пятро Вацлававіч, якога Багатка не бачыў гадоў пяць, непрыемна ўразіў тым, што ніколькі не пастарэў. Ніколькі не пасівелі яго русыя валасы, не агрузла цела. Гэта быў па-ранейшаму абаяльны мілун, мара жаночых сэрцаў. Не ў прыклад Багатку, які заявіўся да яго ў мятых штанах, нясвежай старамоднай кашулі, ды яшчэ і падмоклы ад дажджу, пад які неспадзеўкі патрапіў. Але ён зусім тут не бянтэжыўся, мала таго, у адказ на працягнутую гаспадаром руку дэманстратыўна схаваў свае за спіну, чым адразу паставіў Жыгоцкага ў няёмкае становішча. Той мусіў зрабіць выгляд, што і не думаў рукацца з госцем.

— Прывітанне, Пашка! — тым не менш радасна сказаў Пятро Вацлававіч, спыніўшыся ад Багаткі ў двух метрах. — Слухай, гэта ж колькі гадоў мы не бачыліся? А ты пастарэў, брат, схуднеў…

— Прывітанне і табе, — дзёрзка зірнуў яму ў вочы госць, — прывітанне, грамадзянскі зяць, як пачуваешся?

— Цудоўна, — заўсміхаўся гаспадар, — ведаеш, Паш, цудоўна. А гэта мой сын Саша, — ён хітнуў галавой праз плячо, — вы, здаецца, з ім незнаёмыя.

Малады чалавек на канапе працягваў свідраваць Багатку нядобрым паглядам. Маўчаў.

— Не цесна табе тут, зяцёк? — насмешліва азірнуў залу Павел Алегавіч. — Плошчы дастаткова, пашырацца не трэба? А то ж, глядзі, сыны-дочкі новыя пойдуць.

Тут хлебасольны выраз твару Жыгоцкага памяняўся на заклапочаны.

— Ну, навошта ты так, Паша? Прыйшоў — і адразу грубіш, абражаеш. А я спадзяваўся, што пасядзім мы як старыя сябры-прыяцелі, пагамонім, паўспамінаем гады маладыя…

— Не, шаноўны, — абарваў яго Багатка, — я лепш адразу расстаўлю кропкі над «і», а таму найперш папрашу, каб пры нашай размове нікога ста-

ронняга не было. — Ён красамоўна сказеліў вочы на сына Жыгоцкага. Той аж саўгануўся на канапе — так яму закарцела адказаць няпрошанаму госцю, але, відаць, моцна паважаючы бацьку, змаўчаў.

— Ну, па-першае, мой сын — чалавек зусім не староннi. — Жыгоцкі ўсё яшчэ не выказваў раздражнення. — Па-другое, ён тут пражывае на адных правах са мной, і загадаць яму нас пакінуць я не магу. Хіба што папрасіць…

— А ты папрасі, братка, — з’едліва ўсміхнуўся Павел Алегавіч. — Папрасі, або давай адыдземся ў іншы пакой. Балазе ў гэтых харомах месца нямерана. Тым больш, што я маю агучыць некаторыя малапрыемныя для цябе факты…

— Што ж, Саша, пакінь нас, дружа, — звярнуўся Жыгоцкі да сына.

Той, з бледным ад злосці тварам, марудна падняўся, перасек залу і скрыўся пад аркай. Гэты вялізны пакой, аказваецца, меў два зробленыя ў адной сцяне выхады.

— А давай, брат, вып’ем, — прапанаваў Жыгоцкі, указаўшы рукой на перасоўны міні-бар, што стаяў ля правай ад Багаткі сцяны.

— Дзякуй, не п’ю, — прабурчаў той.

— Ну тады прысядзь: хочаш — на канапу, хочаш — у крэсла. А я ўсё ж такі вып’ю. Каньячку. Ведаеш, надвор’е пахмурнае на мяне ўплывае — нейкая апатыя, стомленасць… — Ён падышоў да міні-бара, выбраў пляшку, каньячны келіх, плюхнуў на дно. З келіхам у руцэ накіраваўся да канапы, прысеў.

Павел Алегавіч працягваў стаяць, дзе стаяў. Сухарлявы, неахайны, пляшывы, пасярод раскошнага пакоя ён выглядаў недарэчнай памылкай.

— А цяпер давай адкінем усякія сантыменты і пяройдзем да справы, — прамовіў Багатка, сурова пазіраючы на гаспадара. — Тым болей што ты чалавек дзелавы.

— Слухаю, Паш, — млява прамовіў з канапы Жыгоцкі, прыгубіў каньяк.

— Найперш я жадаю даведацца, дзе зараз мая дачка.

— Адсутнічае, — чыстымі вачыма ўсмешліва глядзеў на яго Пятро Вацлававіч.

— Так, выдатна. А дзе яна, калі не сакрэт? — Натапыраны, з шырока расстаўленымі нагамі і рукамі, счэпленымі за спінай, стаяў Багатка ў чатырох метрах ад гаспадара.

— Хм… Яна паехала па сваіх справах.

— А па якіх справах, ты, канешне, не ведаеш.

— Ну, па магазінах там, да прыяцелек, — нядбайна махнуў левай рукой Жыгоцкі; сядзеў ён, дарэчы, закінуўшы нагу на нагу, разняволена. — Прыедзе, казала, позна…

— Ага, позна, — хмыкнуў Павел Алегавіч, — і, вядома ж, я яе не дачакаюся. Добра… А скажы ты мне, зяцёк, нумар яе мабільнага тэлефона.

— Навошта?

— А вось хачу зараз ёй пазваніць і высветліць, дзе яна насамрэч. Ці ты, можа, і нумара яе мабільніка не ведаеш?

— Ведаю, Паш, — адказаў Жыгоцкі і сербануў з келіха. — Ведаю, але сказаць табе не магу. Не маю такога права. Тамара забараніла.

— Так, цудоўна. Дык ты, акрамя таго, што скрываеш ад бацькі ягонае дзіця, яшчэ і не даеш з ім па тэлефоне звязацца.

— Не я не даю, Паш, Тамара не хоча, — прыязна ўсміхаўся Пятро Вацлававіч. — Ты, брат, у гэтым сам вінаваты. Прыстаеш да яе на вуліцы, выкручваеш рукі, даймаеш грасьбой і праклёнамі. Яна баіцца цябе і натуральна, што пазбягае.

— Слухай, ты, — ступіў два крокі наперад Павел Алегавіч. — Я не папрашайнічаць сюды прыйшоў, а папярэдзіць, што, калі я зараз жа не пабачуся

з дачкой, то ты будзеш мецъ справу з законам. Ты будзеш прыцягнуты за ўкрывальніцтва, можна сказаць, выкраданне чалавека і ўтрымліванне яго ў сваім доме, як у вязніцы.

— Ой, Паш, дружа ты мой, — Жыгоцкі пераклаў ногі (цяпер — правую на левую), — ну, як маленькі, яй-бо. Няўжо ты не разумееш, што гэта ні да чаго не прывядзе? Да таго ж і па законе, якім ты мяне палохаеш, Тамара — дарослы чалавек і можа жыць дзе і з кім пажадае. Я ж яе не ўтрымліваю гвалтоўна. Калі ласка, хай вяртаецца жыць да цябе, я гэта любому следчаму з мілай душою скажу. Але ж, Паш, рэч у тым, што не вернецца яна дамоў, не хоча, разумееш: не хо-ча. У гэтым уся соль. А няволіць дарослага чалавека нават бацьку закон не дазволіць. Так што прабач.

— Ну што ж, — сіпата прамовіў Багатка. — Я бачу, ты добра падкаваны ў крымінальным праве, добра падстрахаваўся. Аднак, павер, і мой квасок не з трасок. А таму папярэджваю, што бестрывожна табе будзе толькі ў двух выпадках. Першы, гэта калі вы з маёй шалапутнай дачкой папросту расстанецеся. А другі, гэта калі ты, вельмішаноўны бізнесовец Пятро Вацлававіч, явішся да мяне па бацькоўскае блаславенне на шлюб, з паклонам.

— Ой, Паш, ну ты гумарыст! — Жыгоцкі ад душы рассмяяўся.

— Увесь гумар будзе тады, калі выпадзе трэці варыянт, Пятро, — яшчэ на паўкроку падступіў да яго агрэсіўны Багатка. — Здагадваешся, які?

— Ты, мабыць, забіць мяне ўдумаў — няйначай, — не мог суняць смех Пятро Вацлававіч. — Ой, не пужай… — Ён затуліў твар рукамі і нагнуўся да самых каленяў.

— Добра. Але ж цікава мне, чалавеча, як ты пасмяешся, калі ў друку з'явяцца ўсе брыдкія падрабязнасці тваёй сям'і.

Жыгоцкі ўсё яшчэ рагатаў, але ўжо неяк ненатуральна, натужліва.

— Тады табе, мусіць, не да смеху будзе, га? — цішэў і разам з тым набіраў важкасць голас Паўла Алегавіча. — Табе, вядома ж, пляваць на мяне, на мараль, нават на законы грамадства. Ты ўсё купіш, замнеш, улагодзіш. Але ж, упэўнены, разгалошванне ў прэсе сямейных інтымнасцяў пойдзе не на карысць твайму бізнесу, га? І сябрына ваша, багацеяў паршывых, як на гэта адрэагуе? Дый дачка мая, хоць яна і распусніца, ці захоча пасля гэтага з табой любошчы разводзіць?

Жыгоцкі падняў твар. Гэта быў зусім іншы чалавек: рашучы, непрыхільны, драпежны. Суровы яго пагляд быў накіраваны кудысьці за плечы Паўла Алегавіча. І нездарма. Адтуль, ззаду, з двух розных выхадаў, выскачылі барадаты бамбіза і сын Пятра Вацлававіча Сашка.

Павел Алегавіч пачуў іхні тупат, але і абярнуцца не паспеў, як бамбіза апынуўся каля яго, схапіў адной рукой за шыварат, другой за штаны на правым сцягне, рвануў і павалок да выхаду.

— Ды што ж гэта такое! — толькі і ўскрыкнуў Багатка, у апошні раз абярнуўшыся да Жыгоцкага.

Усё той жа скамянела-адчужаны твар драпежніка глядзеў на яго.

Новы рывок — і, як непаслухмянага хлопчыка, цягне квадратны дзяцюк пажылога Багатку да выхаду. Ззаду, жвавымі штуршкамі ў спіну, памагае яму Сашка. У шырокім дзвярным праёме Павел Алегавіч з нечаканай сілай учапіўся ў вушак, і бамбіза ніяк не мог яго адарваць. Ад моцных штурхалёў матлялася лысая галава Багаткі, па швах распаўзаліся штаны і кашуля. Аднак левая рука не адпускала пукаты вушак. І тады зухаваты Саша ўдарыў абцасам свайго туфля па пальцах Паўла Алегавіча.

Ад страшэннага болю пальцы расчапіліся, і Багатку нібы ветрам вынесла ў праём. Гэты брыдкі чалавек скрыўся нарэшце з вачэй Пятра Вацлававіча.

— Сашка, тваю так! — раўнуў ён услед сыну. — Каб ніякіх мне траўм, чуеш!

— Угу! — пракрычаў ужо з лесвіцы Саша. І ўсё ж, пакуль госця выцягвалі на двор, яшчэ два разы ўзнагародзіў яго выспяткамі.

Далей Паўла Алегавіча спускалі па высокім, але не крутым ганку, вялі пад дэкаратыўнай, абсаджанай вінаградам каменнай аркаю, затым — па алеі з блакітных ялінак, паўз мураваную альтанку і кветнікі.

Нарэшце апошні штуршок — і Багатка за брамай. Бразгаюць моцныя дзверы, прыглушана ляскае замок. І цішыня.

Наўкол пахмурна і сыра. Мошчаная пліткамі дарожка цягнецца ўдалечыню. Бязлюддзе. За бетоннымі агароджамі высяцца вежы асабнякоў. Далёка наперадзе збочыў, заязджаючы ў вароты, аўтамабіль.

Да бліжэйшага аўтобуснага прыпынку каля двух кіламетраў.

*З дзённіка...*

*30.06.200**

Субота. Душны бясконцы вечар. На дачы.

Цэлы дзень не магу з сабой саўладаць. Нічога не рабіў і як апантаны снаўдаўся па ваколіцах. Расколваецца галава. Гудуць ногі. Зараз пішу і мушу іх трымаць на спінцы крэсла — гэтак меншае боль.

Ну што, брат Багатка, вось і далі табе перцу панюхаць. А ты, небарака, на міндальнасці спадзяваўся? Ну-ну.

Карацей, не памятаю, як учора дадому дашкандыбаў. Ішоў, ехаў? Хрэн яго знае. Зірнуў на гадзіннік — без дваццаці дзве. Да ранку нават і не прылёг, ведаў, што не засну. Знарок гучна тупаў на сваім версе: хай чуюць, хай таксама не спяць.

Цікава, ці глядзела Тамарка, як мяне цераз двор валаклі. А займальнае, мусіць, было відовішча. Нябось, паршыўка, з акна назірала. Ну ды Бог з ёй. Ва ўсякім разе, цяпер усё ясна стала — вайна не на жыццё, а на смерць. Я гэтага ім не забуду.

Бацюхны, чаго толькі я не перадумаў мінулай ноччу, якая толькі брыдота не згадвалася. І маленства, і маладосць у драбніцах перад вачыма праплылі. Але што, халера, цікава: раўную я сваю дачку да Жыгоцкага. Здавалася б, ненавіджу, гатовы праклясці і не бачыць ніколі, а прымірыцца з тым, што яна спіць з гэтым вырадкам, не магу. Хоць ты што хочаш. Выходзіць, люблю?.. Пэўна ж, люблю. Не, не цяперашнюю яе — прадажную самку, а тое немаўля, што я спавіваў, тую дзяўчынку, якую на санках вазіў, у якой затым правяраў школьныя заданні, поспехам якой радаваўся. Цацкі і лялькі, што ёй купляў, успамінаю, першыя кніжкі... Не верыцца, Божа мой, што гэта на марна пайшло. Але так гэта, бясспрэчна так. Целам жыве чалавек. Рэфлексамі. За што? За што мне такая горыч? Сотні разоў, тупаючы па кватэры, задаваў я сабе ўчора гэтае пытанне. Адрачыся, не бачыць, не думаць — хіба змагу? Як страсны палюбоўнік, што забівае каханку, адно каб не была яна ў абдоймах іншага, гэтак і я гатовы на ўсё... Тсс... Што я такое кажу! Аж і праўда: я цяпер звер, сабой не валодаю. Разбудзілі, развярэдзілі, распалілі.

А было ж гэта са мной аднойчы. У інстытуце. На трэцім, здаецца, курсе. Хадзілі тады да Жыгоцкага некалькі хлопцаў — сябрукоў па п'янках-гулянках. Я з імі амаль не знаўся, брыдкія яны мне былі. Асабліва адзін. Высокі, мардаты, забіячлівы і юрлівы. Як прыйдзе, толькі пра баб і мог гаварыць. І голас такі крыклiва-зычны, агідны. Я заўсёды стараўся выйсці з пакоя, калі ён там. А Жыгоцкаму нішто, ён усяедны. Адны сябры ў яго па вучобе і камсамоле, другія для распусты. Словам, да яго мала пасуе прымаўка: скажы, хто твой сябар. Шматаблічны гэта чалавек, слізкі. Ну ды каб ён згарэў,

не пра яго зараз гаворка, а пра таго мардатага. З год ён да нас цягаўся, а мяне як быццам не заўважаў. Я, відаць, для яго карлікам быў, нікчэмнасцю. Дый сапраўды — кавалер я нягожы, з такім на пагулянку не выправішся. Не тое, што прыгажун Пецька. Дык вось гэты мардаты любіў тэрарызаваць слабейшых. Гэтым славіўся. Мяне, думаецца, не кранаў толькі таму, што я Пецькаў сябрук. А было ў яго некалькі чалавек, збольшага з першакурснікаў, на пабягушках. То па гарэлку іх пасылаў, то яшчэ па якіх сваіх прыхамацях. Словам, шасцёркі. Калі што не так — і аплявухай узнагародзіць, а то і добра наб'е. Раз і згледзеў я яго за гэтым заняткам. Іду па калідоры (а яны ў нашым інтэрнаце — не раўнуючы лабірынты) і бачу: прыціснуў ён аднаго здыхлю да сцяны і тузае. Азартна так, распаляючыся. Той бядак галаву ўтуліў, не абараняецца, трывае пабоі. І такая мяне раптам раз'юха апанавала. Падскочыў, заступіўся, сказаў пару «цёплых» слоў. А мардаты, не будзь уломак, адпускае сваю ахвяру, хапае мяне за пляча (а ён на паўгалавы за мяне вышэйшы), выяргае вадаспад мацюкоў і штурхае далонню мяне ў лоб. Я адлятаю да сцяны, цюкаюся аб яе патыліцай і асядаю. Уваччу цямрэча. Мардаты нешта мне яшчэ настаўленча казаў, але я не расчуў, агаломшаны.

Суткі мяне калатун біў — ад бяссільнай, неспатоленай злосці. У свядомасці — толькі ўхмылка таго хлапчыны, толькі неўтаймоўнае жаданне з ім расквітацца. І разам з тым — усведамленне сваёй нямогласці. Такі боль у душы, што лягчэй, здаецца, павесіцца. На заняткі наступнага дня не пайшоў, а блукаў па горадзе, не ў сілах выйсце знайсці. Вечарам зразумеў: калі не разлічуся з мардатым, — не жыць мне болей: або захварэю на запаленне мозгу, або сам задушуся. І як прыйшло да мяне гэтае рашэнне, так і палягчэла адразу. Тут жа на вочы і гожая зброя патрапілася — ножка ад старога стала. За тумбачкай яна нашай ляжала, чамусьці не выкінулі. Схапіў я яе, абмацаў. Важкая, рабрыстая. Выскачыў у калідор і да пакоя таго хлопца шыбую. Нікога не стрэў па дарозе. Стукаюся, а зброю сваю за спінай каварна трымаю. Адчыняе ягоны сужыцель. Няма мардатага. Толькі што выйшаў кудысь. Далёка? А хрэн яго ведае. Добра. Я ў адну кухню — пуста, у другую, што ў суседнім крыле, — там ён. Курыць, мярзотнік. Як убачыў мяне, спачатку заўсміхаўся пагардліва, хацеў нават штосьці сказаць. Але ж, відаць, твар мой яго насцярожыў, жахлівы, напэўна, быў я ў тую хвіліну. Моўчкі іду да яго, моўчкі вышморгваю з-за спіны дрын, узмахваю люта… І тут: твар мардатага ўмольны зрабіўся, баязлівы, дзіцячы. Чуццём зразумеў, падла, што я жыццё гатовы аддаць, што яно для мяне — нішто, калі з ім не распраўлюся. Авечкай стаў гэты дзяцюк. Не тое што нападаць, адбівацца толкам не можа. У тры ўдары збіў я яго на падлогу. Малачу па спіне, па плячах, па галаве, якую ён захінае рукамі. Сілы ўва мне страшныя абудзіліся. Карацей, пляжыў, пакуль не ссінячыў яго, не скрываніў. Тады павярнуўся, пайшоў. І такая патоля ў душы пасялілася. Цела палягчэла, вось-вось узляціць. У пакоі лёг на ложак, рукі пад галаву, вочы ў столь. Думкі стройныя, добрыя. Ні нянавісці табе колішняй, ні зайздрасці, ні комплексаў скрытых. Нібы народным героем умомант стаў, і заўтра пра мяне ў газетах напішуць. Незабыўнае пачуццё.

А мардаты дзяцюк, загаіўшы пабоі, як нічога не было, зноў стаў да Пецькі хадзіць. Але ж паважліва вітаўся са мной і стараўся не дакучаць: падоўгу цяпер не сядзеў, не крычаў, не рагатаў, не пахабнічаў. Пра тое, каб як-небудзь адпомсціць, ён, пэўна, і думаць не думаў. Ніхто мяне не падпільноўваў, не цкаваў, не збіваў. Хоць маглі: сябрукоў у мардатага было нямала…

Да чаго я гэта напісаў? А рэч у тым, што гэткая ж прага помсты зараз да мяне падступіла. Так, брат Багатка, гатовы ты Пятра Вацлававіча забіць. І гэта святая праўда. Аднак разумею, што больш ён мяне не толькі ў дом — на трыста метраў да яго не падпусціць. Не, вядома ж, забіць я яго не наважуся. А вось адмяцеліць якой арматурынай — з лёгкай душою…

Ды пра гэта і думаць забудзь.

І ўсё ж як стрываць, як пераажыць гэтае прыніжэнне — не ведаю.

Памажы, Божа.

А тут адно да аднаго: з панядзелка б трэба на працу, дык завод стаў. Кажуць, на месяц. Так бы хоць нечым забыўся, засланіўся ад Пятра Вацлававіча. Хаця, ці можна ад такога чалавека схавацца? Паўсюдны ён нейкі, усепранікальны і ўсюдыісны.

Дарэчы, цяпер, у звязку з прастоем, траціна зарплаты далоў. А рэальна — на палову менш атрымаю. Трэба падцягнуць паясок. Да таго ж і жонка будзе касіцца, як на злыдня і дармаеда. Так хоць грошай калі-нікалі даваў. Толькі б не да канца лета без працы. Звар'яцею, яй-бо.

*1.07.200**

Так, відаць, і сапраўды жыццё рашыла мяне даканаць. Ледзь не перайшоў я сёння мяжу, ледзь у прорву не праваліўся. Нібы апускаецца пада мною зямля, утвараецца варонка і няўмольна зацягвае. Жах! Пішу і дрыжаць пальцы, зубы ляскаюць. Пакутлівы галаўны боль.

Аднак па парадку.

Устаў гадзін у восем з добрым настроем. Паеў, пасоўгаўся туды-сюды і выправіўся ў лес па грыбы. Дай, думаю, паспытаю шчасця свайго, а раптам? Рана, канешне, яшчэ. Першыя грыбы скончыліся, а другія ці пачаліся? Адно абнадзейвала: прайшлі неблагія дажджы. Словам, патупаў.

Грыбоў я, вядома ж, не сабраў. Адно некалькі чарвівых сыраежак ды з тузін драбнюткіх лісічак у вядро ўкінуў. Затое які лес! Якое паветра! У якіх мясцінах я пабываў! Хараство. Неруш. Водары непаўторныя. Во дзе лякарства! Забыліся ўсе мае сталічныя клопаты. Толькі прырода і я наўкола. Карацей, за абед прахадзіў.

…Прахадзіў, але трэба ж і назад вяртацца. А забрыў я далёка, аж возера абагнуў. Вяртаўся ўздоўж берага. Сонца пячэ, ад вады прахалода, конікі ў высокай траве стракочуць. Дабрадаць.

…Дабрадаць, каб не было чалавека. Ды як ад яго схаваешся? На шляху маім дзве вёскі ляжалі. Адну, Бялынічы, прамінуў краем. Праз кіламетры два — новая, Студня. Прытулілася да самага берага. Прыйшлося яе перасякаць. Доўгая. І вось ужо пры канцы гэтай Студні прыдбаў я сабе прыгоду. Рушу, а ля правага плота тузаніна ідзе. Адзін хлапчук, буйнейшы, бялявы, з рабаціністым круглым тварам, б'е меншага і худзейшага, такога ж бялявага хлопчыка. Той патрабуе, каб круглатвары нешта аддаў, плача, прыстае. А дужэйшы яго ў грудзі штурхае, валіць на зямлю і тыцкае ў галаву кулакамі. Вакол ні душы. Ужо прайсці я хацеў, ды кальнула нешта: несправядлівасць. Чорт яго ведае, чаму ўмяшаўся. Звычайная ж сцэна, такіх тысячы ў любую секунду адбываецца на зямным шары. Але ж не стрываў. Без усякіх папераджальных слоў падляцеў я да дужэйшага хлопчыка і балюча выдраў за вушы. Загадаў ісці дахаты і болей не хуліганіць. Ён і пабег да бліжэйшых весніц. Прытым па дарозе віскліва і нязмоўчна выў. Як сірэна якая. Не абарочваўся. Натузаны хлопчык таксама сігануў кудысьці пад плот, на другім баку вуліцы.

Пацёгся я сабе, задаволены, прасёлкам, усцяж возера. А праз хвілін дзесяць, у кіламетры ад тае вёскі, мяне веласіпед абганяе. Саскокваюць з яго два дзецюкі з голымі торсамі, загарэлыя, жылістыя. Аднаму гадоў сорак. Другому мо гадоў дваццаць пяць. У таго, што старэйшы, наколкі на грудзях і руцэ. Твары гэтых малайцоў звернуты да мяне: рашучыя і няўмольныя.

Паваліліі яны веласіпед у траву. Падступаюцца моўчкі. А кулакі, што кувалды, яй-бо. І вось тут ліхаведама што са мной здарылася. Замест таго каб драпануць на ўсе пяткі, вымаю з вядзерца нож, што паверх грыбоў там ляжаў,

прымаю баявую паставу і на тых малайцоў кідаюся. Так знячэвіў гэтых здаравілаў мой напад, так яны, бедныя, напалохаліся — каб хто бачыў! Бягом, навыперадкі, а затым — урассыпную, па полі ад дзядзькі з нажом. А мяне нейкае ўтрапенне апанавала. Пагнаўся я за старэйшым, што з наколкамі, бо малады такога драпака задаў, што ўвобмірг у жыце схаваўся. А старэйшы, ад страху ці што, спатыкаўся пару разоў, ледзь паспяваў ускочыць, пакуль я яго наганяў. Хвілін пяць перада мной гэтая загарэлая мускулістая спіна мільгала. І гатовы я быў, вось як на духу гавару, нож у яе ўсадзіць. Без усякай шкадобы.

Затым як ачмурэнне з мяне спаўзло, кінуў я праслед.

А замарудзься той дзяцюк на зямлі лішнія секунды пасля падзення? Ай-ёй! Яны ж мне і зла зрабіць не паспелі. Толькі намерваліся.

Звер я. Люты драпежны звер.

Бачыш, Багатка, нельга табе ў Мінск пакуль што вяртацца. Дыхай, купайся, нервы лячы.

Але дзе такое месца знайсці, каб зусім без людзей. Хіба пад зямлёю.

## 17

Было ўжо даволі позна, калі Ліна Качура пачула званок у дзверы. Ігар, яе сужыцель, у дадзены момант адсутнічаў, таму Ліна досыць апасліва прайшла ў вітальню, ціхенька зірнула ў вочка. На лесвічнай пляцоўцы стаяў яе пляменнік Юрась, сын Паўла Алегавіча. Стаяў і нецярпліва націскаў кнопку званка.

— Прывітанне, якім ты ветрам? — прапусціла яго цётка ў кватэру.

Юрась почасту завітваў сюды без асаблівай патрэбы. Хаця, дакладней, нязменнай мэтай ягоных візітаў было падхарчавацца. Пляменнік, нягледзячы на хілы целасклад, вельмі любіў паесці. Асабліва задарма.

— А так, ішоў, дай, думаю, адведаю цётухну. — Малады чалавек скінуў абутак. — Рукі можна памыць?

— Валяй, — кіўнула яму Ліна. — Нябось згаладаўся?

— Ну як вам сказаць, Ліна Піліпаўна, — данёсся да яе ўжо з ваннай голас пляменніка. — Думаю, лішняя скарынка хлеба працоўнаму чалавеку не зашкодзіць.

Ён пусціў ваду і доўга там плёхаўся, смаркаўся і выціраўся.

Праз колькі часу за кухонным сталом, устаўленым талеркамі і сподачкамі, размова прадоўжылася.

— А Ігар дзе? — вельмі жвава жуючы, пацікавіўся пляменнік. — У мяне тут да яго адно пытаннечка ёсць.

— У камандзіроўцы, у Піцеры. — Ліна сядзела, аблакаціўшыся на стальніцу.

— Вось яно як... — Юрась схіліў свае патлы над талеркай з салатай, гучна і непрыемна чвякаў.

— А што ты ад яго хацеў? — Гаспадыня сама не ела, а з дваістым пачуццём шкадобы і прыкрасці глядзела на фарбаваныя, чырвона-сінія валасы пляменніка.

— Ды так, чыста мужчынская размова, — сцямніў Юрась. — А калі ён будзе?

— Да выхадных, казаў, вернецца.

— Добра, я яму пазваню. — Юрась скончыў з салатай і прысунуў да сябе талерку з нарэзанай каўбасой, узяў скібу белага хлеба.

— А ты цяпер усё начамі працуеш? — спыталася Ліна, каб не маўчаць.

— Калі як. Сёння, напрыклад, начны канцэрт у клубе на Шабанах. Я больш у студыі, канешне, працую, але прадзюсер часцяком і на канцэртах,

на клавішных, запрагае лайбаць. Клавішнік у нас жа не пастаянны, ён яшчэ ў адным гурце задзейнічаны. Да таго ж п'е, сабака.

— Дык у вашым рэпертуары ўсе мелодыі табой напісаны? — Ліна ўстала, каб наліць кіпеню ў кубак.

— Ну… не зусім, я збольшага — аранжыроўшчык. Але ёсць і мае. Штукі чатыры песні пастаянна выконваюцца. — Хударлявы госць усё жаваў і жаваў; дальбог, было дзіўна, як у яго столькі ўлазіць.

— Табе чай, каву? — Ліна паставіла на стол кубак з кіпенем.

— Каву, калі можна, мацнейшую, — кіўнуў Юрась. — На мяне, Ліна Піліпаўна, ужо гарбата не дзейнічае. У тым сэнсе, што не прыводзіць у тонус. А ведаеце, колькі за канцэрт энергіі траціш! Гэта як вагон вугалю разгрузіць. Даплятуся гадзіны ў чатыры дадому, тыц у падушку — і да абеду наступнага дня як адключылі. — Ён прыняў ад цёткі бляшанку «Чыба», усыпаў тры поўныя лыжкі, дадаў столькі ж цукру, стаў перамешваць.

Рабіў усё неяк таропка і мітуслівa. Нават круціў лыжкай у кубку занадта шпарка, занадта гучна ляскаў ёй аб фарфор. Пры гэтым яго плечы, шыя, спіна пацепваліся, торгаліся, а часам і проста хадзілі ходырам. Матлялася вялікая завушніца.

— А, дарэчы, — сказаў Юрась, сёрбаючы гарачую каву. — Цётка Ліна, такая справа… — Ён на секунду сумеўся, і цётка зразумела, што менавіта зараз ён агучыць тое, дзеля чаго прыйшоў: папросіць грошай.

— Такая справа, цёць-Лін… — крыху паружавеў бледны твар госця. — З фінансамі ў мяне зараз напруга. — І, перш чым Ліна адкрыла рот, затараторыў: — Канцэрты, чорт яго бяры, позна заканчваюцца. Праз дзень — на таксі, ды ўсё з процілеглых кутоў горада даводзіцца дабірацца. А Лёўка, прадзюсер, сволач, машыны сваёй шкадуе. А раней жа развозіў людзей. Гаворыць, гад, я вам і так добра плачу, а там — вашы клопаты. А дзе ён добра плаціць, скупенда? За апошнія два канцэрты наогул нічога не даў...

— Колькі табе? — перарвала цётка ягоныя жальбы.

— А колькі можаце, Ліна Піліпаўна, — з прыніжанай удзячнасцю глядзеў на яе пляменнік. — Ну, хаця б пяцьдзесят…

— Дваццаць пяць, — голасам, які не цярпеў пярэчанняў, сказала Ліна.

— Добра, добра, цётка Ліна, — тут жа згадзіўся Юрась. — Хаця б дваццаць пяць… О, як вы мяне выручыце!

— Пачакай. — Гаспадыня ўстала і выйшла з кухні.

Пляменнік натапырыў вушы, прыслухоўваючыся, куды яна пайшла, адкуль возьме грошы. Здаецца, цётка запынілася недзе ў прыхожай. Чымсьці там пашамацела і праз хвіліну вярнулася.

— На, — працягнула яна Юрасю тры разгорнутыя зялёныя купюры.

— Ой, цёць-Лін, — пляменнік прыціснуў да грудзей грошы, — каб вы толькі ведалі, як мне гэта паможа! А я аддам, яй-бо, праз тыдзень мне Лёўка заплаціць, куды ён, халера, дзенецца! Аддам, аддам, цётухна! — кляўся Юрась, засоўваючы даляры глыбока ў кішэнь штаноў.

— Ай, ладна, — махнула рукой Ліна.

Гэта была далёка не першая пазыка. Усе папярэднія Юрась не вярнуў, і, дальбог, сорамна яму было чарговы раз звяртацца да цёткі. А што паробіш?

Пасля харчовага падмацунку і атрымання жаданых грошай пляменнік павесялеў, стаў не ў меру гаваркі і развязны. Закурыў проста ў кухні. Ліна, якой пасля турботнага працоўнага дня хацелася засесці ў фатэль перад тэлевізарам, стала ім няёмчыцца. Яна падумвала ўжо, як бы найтактоўней выправадзіць пляменніка, калі з прыхожай данёсся яшчэ адзін нечаканы званок.

Ліна выслізнула з кухні ў калідор, падышла да дзвярэй, зірнула ў вочка. Звонку, скажоны хітрамудрай оптыкай, стаяў Павел Алегавіч Багатка.

Сястра прапусціла яго ў кватэру.

— Як справы? — павітаўся Павел Алегавіч. — Прабач, што не папярэдзіў. — Быў ён у светлай, узмакрэлай ад поту майцы, заўсёдных шэрых штанах, задыханы і ўзрушаны.

— А нічога, — хмыкнула Ліна. — У мяне ж сёння вечар Багаткаў.

— А? — не зразумеў госць. Ён ужо скінуў абутак і намерваўся прайсці ў залу.

— Ды сын твой у мяне, можаце паздароўкацца! — Гаспадыня ўказала рукой на кухню, адкуль, праўда, не даносілася ніякіх гукаў. Юрась, пачуўшы, што прыйшоў бацька, затаіўся, як мыш.

— Што? — твар Паўла Алегавіча набыў падазроны, нядобры выраз. — Якога ражна ён у цябе? — і рашуча пасунуўся на кухню.

— Ды проста зайшоў, а што, нельга? — Ліна ішла ўслед за ім.

— Ага! — Багатка спыніўся ў дзвярах, — цудоўненька. Я, значыцца, з дому ўцякаю, каб з-за гэтага аболтуса не раздражняцца, а ён ужо тутака са сваёй завушніцай! Уф! — Ён сярдзіта фыркнуў.

Сын сядзеў за сталом, напаўпаварот да бацькі, і баязліва, спадылба пазіраў на яго.

— Дык з якой, дазволь даведацца, мэтай ты тут? — адрасаваў да яго пытанне Павел Алегавіч.

— Я ж табе казала, проста зайшоў. — Ліна праціснулася з-за яго спіны ў кухню і неўпрыкмет падміргнула пляменніку.

— Так, я прыйшоў пабачыць цётку, — нарэшце адкрыў рот Юрась.

— Ну і што ты цікавага пабачыў? — зласліва глядзеў на яго бацька.

— Як — чаго? Проста... — сумеўся сын.

— Слухай, Алегавіч, не дуры галаву, а? — пачала сердаваць гаспадыня. — Што ты ад яго хочаш?

— Дык, кажаш, сынок, ты прыйшоў падзівавацца на цётку? — доўжыў свой наступ Багатка-старэйшы. — Цудоўна. А заадно, канешне, пад'есці. Так? На халяву, як ты ўмееш. А заадно, вядома ж, і папрасіць грошай. Так? Балазе ж можна не аддаваць. — І раптам рэзка: — А ну глядзець мне ў вочы: браў грошы ці не?

— Ды не браў ён ніякіх грошай, адстань ты! — абараняла пляменніка Ліна.

— Не ўмешвайся, сястра. Я ў гэтага бэйбуса пытаюся: браў ці не? А ну адказваць! — Бацькаў твар не абяцаў нічога добрага.

Ён зрабіў адзін крок да сына.

— Ну?

— Нічога я не браў! — падняўся той з табурэткі. І дадаў з выклікам: — А калі б і браў, то не твая справа! Я дарослы чалавек! Ды што ты, урэшце, ад мяне хочаш?!

— Праўда, Паша, адстань! — прасіла сястра.

— Чакай, Ліна! — Павел Алегавіч зрабіў яшчэ паўкроку да сына. — Гэты маладзён кажа, што ён дарослы. Добра. Аднак я хачу, каб ён быў не проста дарослым, а прыстойным дарослым. Уцяміў?! Проста дарослыя здзяйсняюць злачынствы, гвалтуюць, забіваюць людзей. Гэта таксама дарослыя справы. А паколькі ты, — ён тыцнуў пальцам у бледнага недалужнага Юрася, — усёткі мой сын, то я не збіраюся за цябе чырванець. І калі ты пазычаеш у цёткі грошы, то аддавай, паршывец, вяртай даўгі, як, дарэчы, павінны паступаць дарослыя людзі.

— Не, ну слухай, гэта ж невыносна! — схапіла яго за руку Ліна. — Палова дзевятай вечара, а ты скандал распачаў. Няўжо нельга спакойна?

Юрась насуплена маўчаў, а бацька працягваў сваё казанне:

— І калі табе ўжо так карціць дармовых грошай, то звярніся да сваёй шустрай сястры — хай яна цябе ашчасліўціць. Або да яе высоказаможнага хахаля, мо ён падасць! У іх грошы нямераныя. А да маёй сястры, якая зарабляе мазольнай працай, не лезь! А то, — Павел Алегавіч узмацніў голас, — так правучу, што непанадна будзе!

— А ты мне не пагражай! — з адвагай баязліўца выкрыкнуў сын. — Я цябе не баюся!

— Што, швагру свайму наскардзішся?! — усміхнуўся бацька. І да Ліны: — Яны, сястра, усім кагалам супроць мяне інтрыгуюць. Ведаю!

А тады зноў да сына:

— Не баішся, кажаш?! — Ён зрабіў двухсекундную паўзу: — А ну выварочвай кішэні і грошы, што ўзяў у цёткі, — на стол! Я табе пакажу — «не баюся»!

Ашаломлены, Юрась толькі лыпаў вачыма.

— Ты здурнеў, Пашка?! — усклікнула Ліна; яна стаяла паміж праціўнікамі.

— Выварочвай, шэльма, кішэні! Лічу да трох! — зароў раз'ятраны Павел Алегавіч.

Грымаса жаху перакасіла Юрасёў твар. Але грошы ён не дастаў.

— Раз, два, тры! — адрывіста вымавіў Багатка-старэйшы і, адштурхнуўшы сястру, рынуўся на сына.

Той спрытна зманеўраваў за сталом, і Паўлу Алегавічу не ўдалося злавіць яго за каўнер джынсоўкі. Да таго ж Ліна ўхапіла брата за рэмень штаноў, цягнула назад. Бразнулі на стале патрывожаныя талеркі і кубкі.

— Дурань, спыніся! — лямантавала сястра.

— Кладзі грошы на абрус! — настойліва патрабаваў бацька і намагаўся авалодаць праз стол сынавымі рукамі. Адну ён такі ўхапіў, вывернуў. Не зважаючы на супраціўленне сястры, абабег стол і прыціснуў сына да сцяны тварам. Руку заламаў назад.

Юрась, які з прычыны хілага целаскладу не мог аказаць годнага супраціўлення, пусціў у ход голас:

— А-а-а! — тонка закрычаў ён. — Адпусці, зломіш! А-а-а!

— Пашка, стары ідыёт! — вісла на Багаткавых плячах Ліна.

І тут яна машынальна схапіла нападніка пяцярнёю за твар, сціснула нос, губы, падрапала пазногцямі скуру. З-за гэтага Павел Алегавіч аслабіў захоп сынавай рукі, чым Юрась не марудзячы скарыстаўся, тузануўся, павярнуўся тварам да бацькі і, сутаргава адбіваючыся, патрапіў таму кулаком у кадык. Павел Алегавіч усхліпнуў, схапіўся за горла, засоп.

Юрась тут жа вужом праскочыў паміж бацькам, сцяной і сталом, выслізнуў з кухні. Літаральна праз дзесяць секунд ляпнулі ўваходныя дзверы.

— Задушу гадзянё! — адсопваўся Павел Алегавіч, паціраючы ўдаранае горла.

Ускудлачаная расчырванелая Ліна стаяла перад ім і не ведала, што сказаць.

Яны даволі доўга маўчалі.

— Даруй, сястра, — нарэшце прамовіў брат і апусціўся на табурэтку, на якой нядаўна вячэраў Юрась. — Сам не ведаю, што са мной робіцца… Давялі, павер, так яны мяне давялі… — Ён перавёў дух. — На мяне, Ліна, як на быка, ягоныя чырвоныя валасы дзейнічаюць.

— Ну-ну, супакойся. — Ліна правяла далонню па братавай плешыне.

— Але гэта нішто, — працягваў узмакрэлы ад бойкі і духаты Павел Алегавіч, — гэта кветачкі ў параўнанні з тым, што дачка са мной вычварае. — Ён зноў крыху памаўчаў. — Дарэчы, да твайго ведама: мяне нядаўна выштурхалі ў каршэнь з асабняка Жыгоцкага. Выкінулі як сабаку. Ды яшчэ і скалечы-

лі. — Багатка сунуў сястры пад нос пасінелую кісць. — Дзякуй роднай дачцэ. Гэта яна загадала мяне з лесвіцы скінуць. Але ж, Лінка, па сакрэце табе скажу, не гэта мяне найболей раз'юшвае. А ведаеш, што. — Ён нахіліўся бліжэй да сястры. — Не магу прымірыцца з тым, што гэты смярдзюк Жыгоцкі непадзельна валодае яе целам. Як уяўлю гэта — гатовы за сякеру і забіць падлу.

— Ну-ну, — толькі і прамовіла сястра.

— Ты дзяўчынка дарослая, — доўжыў Багатка, — табе гэта можна казаць. Без сораму, як на духу. Дык вось, Ліна, я, жывучы з Жыгоцкім у інтэрнаце, бачыў усіх путан, з якімі ён пераспаў. Гэта ж шлюхі, брудныя, гнойныя, мярзотныя пачварыны. І пасля гэтага як мне прымірыцца, што ён, гад, тымі ж рукамі, што цяскаў гэтых шалаў, дакранаецца да маёй дачкі, а значыць, і да мяне. Бо яна ж — мая плоць. Страшна!

...Доўга яшчэ сядзелі Павел Алегавіч і Ліна на кухні. Затым пайшлі ў залу, уключылі тэлевізар, даседзелі перад ім, збольшага зноў жа гамонячы, да дзвюх гадзін ночы. Сястра паслала брату на звыклым ложку. Як ні дзіўна, спаў ён гэтую ноч непрабудна, без сноў. Ліна ж задрамала на якую гадзінку, а так усё круцілася, уставала, выходзіла на балкон пакурыць. Назаўтра выправілася на працу з каламутнаю галавой і без сіл.

*З дзённіка...*

*11.07.200**

Серада. Сяджу на сваім «паддашку», як сыч. А яны, мабыць, спадзяваліся, што з'еду. Дык вось не, панове. Непрыемны я вам, але буду сядзець у Мінску, цярпіце.

А на добры лад, трэ было сёння паехаць. Гэта пасля ўчарашняга дэбошу ў Ліны. Ужо на вакзал нават прыбыў, ужо ў білетнай касе стаяў. Ды падштурхнула мяне нялёгкая застацца. Падумалася, што гэта ім вельмі прыкра будзе, турботліва. А значыць, мне — радасць. Вось такая я дрэнь.

Ну ды паспрабую крыху папярэдні дзень узнавіць.

Даўно не пісаў. Думаў нават, што кіну. Але зноў засвярбела рука, сама пацягнулася да нататніка.

Чаму я прыпёрся ўчора ў Мінск? Дакладна і сам не ведаю. Логікі тут няма, а ёсць адна алагічнасць. Ляжаў сабе на дачы, пакурваў, загараў — і раптам неадольна ў Мінск пацягнула. Падхапіўся, як быў, не пераапранаючыся, — на электрычку і пакаціў.

І толькі на вакзале, выбраўшыся з душнага вагона ў гарадское спякоцце, зразумеў: прыехаў я Жыгоцкаму насаліць. Не магу ўжо, аказваецца, без яго, роднага. Зяць як-ніяк. Хоць і грамадзянскі. Хе-хе. Ды ведама ж мне, дурню, што Пятро Вацлававіч да сябе цяпер на кіламетр не падпусціць. Як жа я яго дапяку? А вось як. Тэлефончык жа ў мяне ягоненькі маецца. Не мабільны, шкада. Не асабняковы. Але і той, кватэрны, прыдасца.

Шуснуў я ў будку, набраў нумар. Пасля трох гудкоў адказвае незнаёмы голас. Вітаюся і патрабую Пятра Вацлававіча. Няма. А іначай і быць не магло — сярэдзіна працоўнага дня, я і не спадзяваўся. Але гавару афіцыйным тонам, што тэлефануе яму Павел Багатка, просіць абавязкова звязацца да вечара. І папярэджваю, што пытанне вельмі важнае і ў Жыгоцкага, калі ён не выйдзе на сувязь, могуць быць непрыемнасці. Тут жа вешаю трубку. Ха-ха. Непрыемнасці, вядома ж, я яму наладзіць наўрад ці змагу. А вось пужануць, пасеяць смуту ў яго подлай душы — гэта як лёду.

Затым бадзяўся па горадзе. Наведаў парк Чэлюскінцаў, падымаўся на «чортавым коле». Ездзіў на Камсамольскае возера. Драмаў у цянёчку. У ваду

не палез — гідка, не можа яна ў рысе горада чыстай быць. Адвечар спусціўся ў падземку і з гадзіну катаўся па ўсіх лініях. Там прахалода. Вечарам рашыў наведаць сястру. Нарваўся ў яе на сына. Прыйшоў ён, пусты чалавек, грошы вымольваць. Застрашыў яго, выгнаў вон. Ух, і ненавідзіць жа ён мяне — па вачах бачна. Начхаць. Пасля ўжо расхацелася ехаць дамоў. Застаўся ў Ліны. Ігар у камандзіроўцы. Шкада. Добры ён чалавек. Спаў надзвычай хораша. Нічога са сноў не прыпомню.

Пра сёння ўжо казаў: вырашыў нервы ім патрапаць, каб жыццё мёдам не падавалася. А то, нябось, і радыя, што я ўсё на лецішчы перабываю.

А наступная мэта мая такая: ноччу, пасля дзвюх гадзін, выйсці на раён і пазваніць з якога аўтамата на кватэру Жыгоцкага. Шанцаў зноў жа няшмат, што ён там з Тамаркай начуе. Напэўна, з прычыны страшнай спякоты яны там і не паяўляюцца. У асабняку песцяцца, з адчыненымі ва ўласны сквер вокнамі. Гэх, датэлефанавацца б туды! Аднак і на гарадскую кватэру дзынкну: хоць невялікі шанцік ды ёсць. А калі не будзе, паганцаў, я ім паведамленнечка надыктую або зноў жа праз слугу перадам. Хаця, навошта ж з аўтамата званіць, калі я сябе ўсё адно назаву? Можна ж і з дому… Не ведаю, ці насмелюся: а што, калі ўзлуецца Жыгоцкі і тэлефон мой адключыць — у яго ж, гада, усё куплена. Неяк усё ж спакайней — з аўтамата. Дый, папраўдзе, не ведаю, што канкрэтна я гаварыць стану. Усё залежыць ад таго, хто падніме. Імправізацыя, чорт яго бяры.

Драману, бадай што, пару гадзін. А каб не праспаць, будзільнік на палову другой выстаўлю.

Так што, вельмізаможныя Пятро Вацлававіч і Тамара Паўлаўна, спакою я вам не дам. Бо Багатка такі чалавек, што ліха не забывае. Але і добрае памятае. Вось як перад Богам клянуся: калі выканаюць яны мае патрабаванні (афіцыйна пажэняцца або расстануцца), — адразу ж палагаднею. Любіць, зразумела, не буду, але ні разу не папракну.

Ладна, нешта балбатлівы я стаў, мнагаслоўны. Заканчваю.

*12.07.200**

Пераехаў на дачу. І адразу стала лягчэй. Цэлы дзень збіраў каларадскага жука, і надзвычай гэты занятак мяне супакоіў. Пасвятлелі думкі. Нягледзячы на трыццаціградусную спёку, працаваў лёгка, з настроем. Гэх, каб гэтак заўсёды.

Зараз сутонне, вечар. Гадзіну таму адгрымела магутная навальніца. І знадворку, і ў хаце дыхацца стала прывольней. А збіралася навальніца доўга, з абеду. Марудна цямнела на захадзе. Не раз здавалася, што вось-вось даастатку захмарыць. Ды колькі разоў пачынала гэтак жа марудна святлець. Хмары паўзлі наўзбоч. Усё ж такі каля сямі гадзін вечара сабраліся. Счарнела, як уначы. Грымнула. Палілося. Заблісkалі маланкі, адна за адной. Выбухі перуна дык наогул не аціхалі, зліваліся ў безупынную грымоту. Вецер біў у акно, і я назіраў, як вада ліецца долу суцэльным патокам.

Навальніца доўжылася з гадзіну. Тады адваліла на ўсход. Стала цудоўна, лёгка. Нібы электрычныя разрады знялі з мяне жудасную напругу апошніх дзён. Словам, хочацца быць тут, збіраць жука, хадзіць па грыбы ці на возера. А не хочацца аднаго — успамінаць прамінулае.

Але ж трэба. Хоць трошкі. Не для таго я распачаў гэты дзённік, каб адно замілоўвацца харaством наваколля. Праўда жыцця — вось, пэўна, што стаяла на мэце.

А праўда такая, што ўчора ўначы я такі здзейсніў задуманае. Прачнуўся па будзільніку а палове другой, крадком выбраўся з дому, паглыбіўся ў цёмны квартал, выбраў сабе зацішную тэлефонную будку і набраў нумар кватэры Жыгоцкага. Усё ж быў невялікі спадзеў, што палюбоўнікі там начуюць. Але не толькі яны не ўзнялі трубку, а наогул ніхто. Няўжо гэты чорт такі смелы, што

кватэру без нагляду можа нанач пакінуць? Дзівата. Хаця магчымы варыянт, што прыслуга самавольна адлучылася ці дрыхла і наплявала на гэты званок. Ва ўсякім разе, я налічыў ажно восем гудкоў і ўжо мерыўся павесіць трубку, як раздаўся голас аўтаадказчыка, які прапанаваў пакінуць паведамленне. Што ж, я скарыстаўся гэтай прапановай і нагаварыў Жыгоцкаму багата ўсялякай брыды. У прыватнасці гразіў яму, што, калі будзе пазбягаць са мной стрэч, падам у жоўтую прэсу матэрыял пра яго малодшага сына. Малодшы сын — гэта былі ключавыя словы маёй пагрозы. Бо і Жыгоцаму, і Тамары за ўвесь час нашае варажнечы я ўпершыню свой козыр адкрыў. Дагэтуль яны маглі спадзявацца, што я бляфую. Цяпер жа Пятро несумненна ў штаны накладзе. І гэта я яшчэ не называў падрабязнасцяў. Адно сказаў: «пра малодшага сына». Для Тамары, калі яна першая праслухае плёнку, гэта будзе няпэўнасць, падазрэнне — не болей. Для Жыгоцкага ж, які сам лупцаваў па мардасах і выганяў з дому сына-гомасексуаліста, сумненняў, мяркую, у маёй дасведчанасці не ўзнікне. І напрыканцы паведамлення, каб дадаткова паказытаць яму нервы, я яшчэ раз паўтарыў чатыры важкія словы: «Дзе твой малодшы сын?»

Ох ужо прадчуваю, як разлютуецца Пецька. Ох ведаю, да чаго ж не любіць ён, калі яму ўпоперак дарогі становяцца. Ох падазраю, што ўзнікне ў яго збродлівая думка мяне парашыць. Ды не наважыцца, сволач. Больш чым упэўнены ў гэтым. Як жа заб'еш бацьку маладой і найжаданай каханкі? А палохаць мяне, ён ведае, бессэнсоўна. Ні пабояў, ні іншага ўціску я не баюся. І гэта ён, прайдоха, нутром адчувае. Звярыным сваім нутром. Але ж прымірыцца з паразай не зможа і будзе выйсце шукаць, не спаць, нервавацца, міжволі спаганяць раздражненне на палюбоўніцы. Дык мне толькі таго і трэба, Пятро Вацлававіч, толькі і трэба.

Ужо колькі дзён як узнікла і непакоіць думка: а што, калі сустрэцца з Пецькавай жонкай. Дзе яна, што з ёй? Ці ў Беларусі цяпер жыве? Што з іхнім малодшым сынам? Колькі цікавага ды займальнага яна мне магла б распавесці! Адно што пра яе ведаю — імя ды дзявочае прозвішча. Дарэчы, прозвішча ў яе рэдкае — Цебужынская. Найхутчэй, польскае прозвішча. Нячастае ў нашых краях. І каб мець вялікае жаданне, можна б па даведніку якіх-небудзь яе мінскіх родзічаў адшукаць (у яе ж самой, напэўна, прозвішча Пецькава). Але гэта ў выпадку, калі хто з ейных у Мінску жыве. Сястра там якая, а найлепей брат ці бацькі. Не ведаю. Не ўпэўнены. Сумняваюся. Дый, папраўдзе, калі і адшукаю яе, не ведаю, што сказаць здолею, не ўяўляю, як аб'яўлюся. А па вялікім рахунку, не бачу і мэтазгоднасці такое сустрэчы. Каб мардаваць Пецьку, мне і нагавору пустабрэха Чусевіча дастаткова. Бо знаю, што ў дадзеным разе гэты пусты чалавек не схлусіў — надта ўжо той выпадак з маім дасканалым веданнем Жыгоцкага стасуецца. Гэты не толькі сына — старую маці з дому выганіць не маргнуўшы.

Усе-ўсё. Мушу заканчваць, а то зноў распсіхуюся. А такі быў цудоўны дзянёк.

Пра адно толькі неабходна сказаць пару слоў. Калі вяртаўся ўчора ноччу ў кватэру, як толькі адамкнуў, адчуў нейкае варушэнне на маім версе. Замёр у дзвярах. На лесвічнай пляцоўцы цёмна было, а ў вітальні я святло ўключыць не паспеў. І тут выпырхвае з майго пакоя цьмяная і як быццам жаночая постаць, амаль бязгучна перасякае калідор, нырае ў пройму лесвіцы, знікае як здань. Хто гэта, што? Запальваю нарэшце святло, кідаюся туды, спыняюся ля праймы, услухоўваюся. Ані стуку ўнізе, ані шолаху. Жонка? Дык здалося, што постаць зашырокая для яе, хударлявай, больш на цешчын абрыс выдае. Але ці змагла б старая карга так спрытна спусціцца? Наўрад. Чартаўшчына, дый годзе.

Невыказна рады, што з'ехаў адтуль. Не хутка цяпер вярнуся.

## 18

У нядзелю раніцай Паўлу Алегавічу, які бесклапотна бавіўся на лецішчы, паштальёнка прынесла тэрміновую тэлеграму. Тэлеграма была ад братавай, Вольгі Ігараўны, і ў ёй даволі блытана паведамлялася, што брат Слаўка ўчора пасля абеду знік з дому, не начаваў, сёння не аб'яўляўся і Вольга, вядома ж, у паніцы.

Першым пачуццём Паўла Алегавіча, якое ўзнікла па прачытанні тэлеграмы, быў не страх і нават не трывога за брата, а крайняе на яго раздражненне. Калі не сказаць — злосць. Ну зусім гэты выпадак не ўпісваўся ў планы Багаткі, які пасля нядаўніх бурных падзей толькі-толькі пачынаў супакойвацца. Думаў пажыць тут невылазна да канца месяца, назбіраць і насушыць грыбоў, і вось табе на. Удружыў, узычыў паганы Слаўка. Нейкім нязводным прышчом сядзіць гэты чалавек на целе Паўла Алегавіча, турбуе адным толькі фактам свайго існавання, пастаянна ад яго чакаеш якойсьці выхадкі. Што ж ён удумаў на гэты раз?

Багатка рашыў перабыць на дачы да вечара, а толькі тады пайсці на пошту, што ў трох кіламетрах, і пазваніць у Бічаў. Спадзяваўся, што Слаўка аб'явіцца сам і такім чынам вызваліць яго ад неабходнасці перціся дзвесце кіламетраў па невыноснай спякоце. Час да вечара прайшоў для Паўла Алегавіча неспакойна. Прыкрая тэлеграма незваротна сапсавала дзень. Нічым не мог Багатка грунтоўна заняцца. Усё валілася з рук, усё не ладзілася. Высмаліў ці не пачак цыгарэт. Адвечар заныў страўнік, а потым і закалола ў патыліцы. Дый сэрца, каторы ўжо раз за апошні месяц, не тое што балела, а настойліва нагадвала пра сябе за грудзінай. Яно без дай прычыны пачашчала свой рытм, білася і стукалася, як птушка ў няволі. Дыхаць стала складана, быццам не ставала ў паветры элементарнага кіслароду. Каб раздыхацца, Багатка пайшоў у лес і з гадзіну прагульваўся пад цяністымі кронамі.

У сем вечара Павел Алегавіч адправіўся ў аддзяленне сувязі, якое знаходзілася ў той жа вёсцы, што і праўленне калгаса. Ішоў узлескам. Яшчэ гарачае сонца хілілася да небакраю. З густой лістоты дрэў і хмызоў, з высокай травы ляцеў размаіты пошчак птушак. Памацнелі водары прыдарожных раслін. Адчуўшы блізкую прахалоду, выбраліся са сваіх схованак дакучлівыя камары, лезлі ў твар, каварна кусалі ў голыя да локцяў рукі.

У аддзяленні сувязі, куды Багатка прыбыў без пятнаццаці восем, наведвальнікаў не было. У пыльным памяшканні, за стойкай, лускала семкі пажылая кабета. Павел Алегавіч патлумачыў ёй мэту свайго прыходу і прысеў за адзіны тут столік, на якім стаяў брудна-белы тэлефонны апарат. Набраў патрэбныя код і нумар. Яшчэ не скончыўся першы гудок, як Вольга схапіла трубку, і ўжо па яе нервовым «Ало!» Павел зразумеў, што Слаўка не аб'явіўся і прыйдзецца-такі ехаць у няблізкі Бічаў.

Доўга размаўляць з братавай, што тут жа разрумзалася, не стаў. І нават прыкрыкнуў на яе, каб узяла сябе ў рукі. Сказаў, што выедзе заўтра як найраней. З прыкрасцю паклаў трубку.

І толькі на паўдарозе да хаты пашкадаваў Павел Алегавіч, што не спытаўся ў Вольгі, ці не забраў Слаўка з сабой якія рэчы. Гэта б дало сякі-такі след.

Ноч Багатка, можна сказаць, не спаў. Змогшыся круціцца ў ложку, выбраўся з хаты, сеў на ганак. Курыў, пазіраў на распісанае сузор'ямі неба і сцяну недалёкага лесу. Злаваўся на брата і адначасова моцна трывожыўся за яго. І, як гэта часта бывае падчас бяссоння, усплыло ў памяці ўсё найболей непрыемнае і дакучлівае. Згадаўся ўхмылісты самаўпэўнены твар Жыгоцкага, зіхатнула постаць Тамары ў даражэзным плацці, якое шчыльна абцягвала яе крутыя бёдры. Дачка, як наяве, ганарліва аддалялася ад Паўла Алегавіча,

паважна сядала ў аўто, скрывалася за таніраванымі шыбамі... А то ўзнікала з начнога эфіру жонка Вера — рыжая, рухавая, насатая, звяглівым голасам выкрыквала мужу абразы. З-за яе спіны высоўваўся поўны твар цешчы, глумліва глядзелі яе лупатыя вочы... Зноў паўставаў у думках брат Слаўка, назойліва соваў Паўлу Алегавічу пухлую папку з рукапісам, напіраў, гарлаў, пырскаў слінаю.

Зрэшты, перад самым світаннем Багатка зайшоў у хату і на гадзінку прыснуў.

З Мінска выехаў каля васьмі раніцы. А для таго, каб сесці на гомельскі цягнік, давялося, устаўшы ў шэсць, абы-як перакусіць і трухаць па росным ранішнім лесе тры кіламетры да электрычкі. Балазе ў гэтым напрамку электрычкі хадзілі часта і давозілі да сталічнага вакзала за якіх дваццаць хвілін.

На гэты раз дарога далася Паўлу Алегавічу надзвычай цяжка. Ужо з дзевяці гадзін раніцы ўстанавілася звыклая дзённая спёка, і ў вагоне стала не прадыхнуць. Да таго ж — жудасная цесната, бо ў панядзелак раніцай многія кіравалі з лецішчаў у гарады, каб паспець на работу. Асабліва тыя, хто працаваў у другую змену на заводах Асіповіч, Бабруйска, Жлобіна. Гэтыя людзі садзіліся па дарозе. Зрэшты, ужо ў Мінску на пероне віраваў вялізны натоўп. І ўсё ж Багатку ўдалося заняць выгоднае месца ў агульным вагоне, ля акна, па ходзе цягніковага руху. Так, унураны ў акно, ён трываў вонкавыя шумы і задуху да самага Бічава.

Праўда, на паўдарозе выйшаў адзін канфлікт, у які ўлез Павел Алегавіч. Недзе за Мар'інай Горкай селі ў вагон трое маладзёнаў, прадраліся праз таўханіну і палезлі на верхнія полкі таго адсеку, дзе сядзеў Багатка. Адзін з іх заняў цэлую полку, улёгшыся ўздоўж, а двое другіх размясціліся на проціле-глай, прычым з-за цеснаты перакінулі ногі да таварыша, па-над галовамі ніжніх пасажыраў. Мала таго, пачалі гэтыя пятнаццацігадовыя малайцы голасна размаўляць, перасыпалі гамонку мацюкамі і выбуховым рогатам. Пасажыры знізу, суседзі Паўла Алегавіча, былі людзі пажылыя, адна кабета — з унучкай. Гэтай жанчыне яўна не падабалася, што дзіцё слухае гэткую адборную лаянку, але зрабіць заўвагу расперазанцам яна насмелілася не адразу. Калі ж папрасіла малайцоў «не выражацца», то яны не толькі не прыкрылі раты, а, наадварот, узмацнілі свае галасы. Адзін дык наогул паслаў, праўда, нягучна, суседку знізу куды падалей. Аднак толькі ён гэта прамовіў, як Багатка, што дагэтуль абыякава глядзеў у акно, спружынай ускочыў з месца, схапіў таго хлапца за нагу, ды тузануў, ды трасянуў, ды перахапіў за кашулю і пагразіў выкінуць на наступнай станцыі. Барвовы ад шалу, з узмакрэлай лысінай, на якой рэзка выступілі сінія жылы, з перакошаным тварам, Павел Алегавіч так застрашліва падзейнічаў на хлапцоў, што тыя нібыта знямелі. Ва ўсякім разе, да Бічава, пакуль вылез Багатка, іх зусім не было чуваць.

Ад вакзала і па меры набліжэння да братавага дома трывога ў душы Паўла Алегавіча нарастала. Апошнія сто метраў ён ужо не ішоў, а бег.

У дзверы званіў працягла, нервова. Але, што дзіўна, не паспяшалася братавая знасцежыць перад ім дзверы, горш таго, не адчыніла наогул. Прадчуванне чагосьці кепскага і непапраўнага авалодала ў тую хвіліну Паўлам Алегавічам. Стрымгалоў кінуўся ўніз па лесвіцы, выскачыў на ганак, азірнуўся. На двары, як найчасцей і бывае ў гэтым маланаселеным доме, нікога не было. Туліліся да штыкетніка нізкарослыя вішні і слівы, на працягнутых наўскос шнурах сохла бялізна, у пясочніцы адзінока тырчаў забыты дзіцячы шуфлік. І ўсё гэта палівала зыркае і напорыстае, паўдзённае ліпеньскае сонца.

«Чорт ведае што такое! Я ж сказаў, якім цягніком прыязджаю! — сердаваў Багатка, усё яшчэ аглядаючы пустэльны падворак. — І што мне зараз рабіць?»

А рабіць заставалася, па вялікім рахунку, адно: ісці да бліжэйшай тэлефоннай будкі і званіць пляменніцы Ксені. Не тырчаць жа, сапраўды, перад пад'ездам, каравулячы Вольгу Ігараўну.

Багатка ўжо шыбаваў цераз двор, калі з брамкі, праз якую ён мерыўся выйсці, выскачыла братавая. Заплаканая, узбуджаная, спалатнелая, з круглымі напалоханымі вачыма, яна, убачыўшы Паўла Алегавіча, растапырыла рукі і ўпала яму на грудзі.

— Ён сышоў! — скалапалася яе худасочнае цела ў Багаткавых абдымках. — Ён мяне кінуў, Паш! А-ы-і-й!

— Што? — Павел Алегавіч, схапіўшы за плечы, рашуча адарваў яе ад сябе. — Дык ён знайшоўся?!

— Знайшоўся-я-я! — крывіла ў плачы Волька свой і без таго непаглядны твар. — Знайшоўся, паразіт! Спакойна сабе на работу сёння прыйшоў. А я ўжо ў морг званіла, заяву ў міліцыю падала-а-а…

— Пачакай! — строга прамовіў Багатка. — Дык ты з ім гаварыла?

— Я гаварыла! Ды ён са мной гаварыць не жадае! Уй-ы-і! — Вольгу Ігараўну здушыла гарлавая спазма.

— Ну? — падганяў яе дзевер.

— Ён ска-ска… сказаў толькі, што сышоў да іншай жанчы-ын-ны-ы… — Гора братавай было несуцешным. — Паш, давай пабяжым у школу, ён яшчэ там! Адгавары яго, Паш, вярні ты старога боўдзілу!

— Не, любка мая, — з раздражненнем прагаварыў Павел Алегавіч, — зараз я нікуды не пабягу, а спярша мы зойдзем у кватэру і там спакойна, без агорклых тваіх істэрык, пагаворым.

— Дык ён жа сыдзе, Паш, — маліла яго Вольга Ігараўна, — я ж не ведаю, дзе ён цяпер жыве-е-е… А-у-ы-і! — Яна зноўку зайшлася плачам.

— Ну і халера з ім! — гаркнуў узлаваны Павел Алегавіч. — Аб'явіўся, дык нябось не падохне! А ну хадзем у кватэру, хопіць тут гледачоў збіраць! — Ён кіўнуў на вокны дома. — Хочаш, каб усё наваколле пра тваё нягоды плят-карыла?

Ён схапіў братавую за руку і пацягнуў да пад'езда. Няшчасная жанчына, як падстрэленая птушка, крывым подскакам валаклася за ім.

У кватэры Багатка шпурнуў сваю торбу на абутковую паліцу, скінуў туфлі і рушыў у пакой Вячаслава Алегавіча. Дэманстратыўна разваліўся ў крэсле, паклаў нагу на нагу.

— А вось цяпер слухаю цябе, — дзелавіта зірнуў ён на Вольгу Ігараўну, што ўвайшла ўслед за ім і стаяла, камечачы рукамі сукенку.

— А? — нервова перасмыкнулася яна.

— Слухаю, кажу, — паўтарыў Багатка. — Выкладай па парадку, што з вамі здарылася.

— Дык Слаўка ж сышоў… — разгублена прамовіла гаспадыня.

— Як сышоў, куды, — сурова дапытваў яе Павел Алегавіч, — з якой мэтай сышоў, што з сабой узяў? Далажы.

— Я ж табе казала — да жанчыны, — рахмана адказвала сіня-бледная Вольга Ігараўна.

— Цудоўненька! Малайчына! — тэатральна ўсклікнуў Багатка. — А рэчы, якія ўзяў гэты зухаваты хлопец, гэты бравы залётнік, га?

— Не… Папкі толькі, рукапісы свае… Я шчэ ўчора заўважыла… А па рэчы ён сказаў… — тут Вольга ўсхліпнула, — сказаў, што па рэчы свае чалавека прышле…

— Ах вось яно як! Ай малайчына, ай зух! — працягваў куражыцца Павел Алегавіч. — А ты — дурніца, набітая, канчаная дурніца. — Голас яго пасур'ёзнеў: — Ты гадамі здзьмухвала парушынкі з гэтага юрода, запабягала

ды танчыла — значыць, цяпер крыўдуй на сябе. А такіх людзей, любка мая, трэба ў шорсткіх рукавіцах трымаць. Уразумела? Не? Іначай яны абавязкова табе «аддзячаць». За дабрыню тваю і лагоду.

— Ай, Паш!.. — расціралa слёзы па зморшчаным твары братавая.

— Вось табе і «Паш»! — перадражніў яе Багатка. — Вось табе і хрэн з перцам. Атрымала? А цяпер румзай, хныкай, локці грызі. Ды не паможа. Раней трэба думаць было, калі перад гэтым эгаістам на пару з дачкой вытанцоўвалі. Ды Ксюха, відаць, разумнейшая за цябе аказалася. Выскачыла замуж — і бывайце здаровыя. Да мужа прыляпілася, ад бацькі схавалася. Правільна! — Павел Алегавіч размахваў рукамі, соўгаўся ў крэсле. — Або ты не ведала, недарэка, што так бывае? Га?

— Што, Паш? — прашаптала Вольга.

— Не ведала, што старыя кабялі кідаюць жонак, каб жыць з маладзейшымі?! — ужо крычаў, злосна ўтаропіўшыся на гаротную жанчыну, Багатка. — Не ведала, я пытаюся ў цябе? Не?! Усё ты ведала, бо і кніжкі чытаеш, і кіны глядзіш, і жывеш на Зямлі — не на Месяцы. Але, пэўна ж, думала, што гэта цябе не тычыцца, што гэта толькі з іншымі, дрэннымі, людзьмі адбываецца. Не, любка, — саркастычна ўсміхнуўся ён, — адбываецца гэта пераважна з харошымі, добрымі, памяркоўнымі. Ад такіх вось станоўчых, як ты, і сыходзяць мужы — у падзяку за тое, што ты перад ім трыццаць гадоў завіхалася!

Вольга Ігараўна бездапаможна глядзела на Багатку. Гэтая пакора крыху змякчыла ягоны гнеў.

— Дык вось, сястрычка, — сказаў ён, крыху памаўчаўшы. — Я, канешне, схаджу ў школу і сустрэнуся з братам. Не таму, што я хачу табе дагадзіць. І не таму, што хачу яго абразуміць. Больш таго, прызнаюся, што з гэтай хвіліны ён стаў мне настолькі брыдкі, што я і бачыць яго не жадаю. — Павел Алегавіч кашлянуў, зрабіў паўзу. — Пагутару я з ім толькі дзеля таго, каб, гледзячы ў яго бессаромныя вочы, давесці сваю пазіцыю. Разумееш?

— А?

— Давесці, любка мая, сваё стаўленне да ягонага ўчынку. Патлумачыць, што з гэтага моманту я яму — не памочнік. І хай больш на мяне не разлічвае, калі што з ім здарыцца…

— Паша…

— Я пяцьдзесят пяць гадоў — Паша! — абарваў гаспадыню госць. — І столькі ж, дарэчы, гадоў я брат гэтага ідыёта! Я стаміўся з ім ваявацць. І абрыдла! А таму, вось як на духу гавару: сустракаюся з ім апошні раз.

Запанавала маўчанне. Толькі цікаў на апусцелым братавым стале груваст-кі гадзіннік.

— Дык ён і машынку забраў? — заўважыў Павел Алегавіч адсутнасць на стале пішучага апарата.

— Не, я яе на крэсла прыбрала. — Вольга паказала рукой — куды. — Пыл выцірала, забылася на месца паставіць.

— Пыл яна выцірала! — перадражніў Багатка. — І нават таго не ведаеш, што, калі чакаеш чалавека, нельга за ім прыбіраць. Эх ты!

Вольга Ігараўна толькі роспачна панурыла галаў. Яна ўсё працягвала недарэчна тырчаць перад Паўлам Алегавічам.

— Ды сядзь ты, яй-бо! — нарэшце сказаў ёй госць.

Братавая апусцілася на дбайна засланы мужаў ложак. Аддана паглядзела на дзевера.

— Дык, кажаш, пісаніну сваю забраў?

— Ага, нідзе няма, Паш. Усё абшукала, — кіўнула Вольга Ігараўна. — Адразу і не заўважыла, што рукапісаў няма. А потым убачыла, што ён іх забраў,

і ўзрадавалася. Значыць, думаю, хоць не раптоўна прапаў, не забілі, — яна ў каторы раз усхліпнула і заплакала.

— Ага! Вось, выходзіць, як ён рукапіс свой ацаніў. Больш за жонку! — Багатку ўсердзіла Вольгіна ўсхліпванне, і ён зноў зрабіўся бязлітасным. — І, канешне ж, новая яго сяброўка ў захапленні ад яго навуковай працы, ад яго светлага генію! Ну-ну. Слухае, нябось, Слаўкавы трызненні з адкрытым ротам. А сама, сцерва, прыкідвае: хай сабе і немалады, хай з урэзаным страўнікам і нямоглы, а ўсё ж мужык. Я вашу, — ён зіхатнуў вачыма на Вольгу, — пароду ведаю. У новай яго пасіі, нябось, і дзеці ёсць. А ён ім — падмога. Га?

— Не ведаю я, Паш, нічога не ведаю. — Гаспадыня беспаспяхова змагалася з плачам; выцірала слёзы адваротам сукенкі. — Можа, усё-такі пойдзеш зараз, а? А то ён са школы сыдзе… Калі ўжо не сышоў. Гадзіна ж ужо, — кіўнула яна на будзільнік.

— Ладна! — Павел Алегавіч рэзка адштурхнуўся ад падлакотнікаў, устаў. — Але памятай, што я нічога не абяцаю і што гэта ў апошні раз.

У калідоры, абуваючыся, ён узяў Вольгу Ігараўну за руку і сказаў па-сяброўску:

— Не бядуй, сястрычка. Не варты ён, каб з-за яго пакутавалі. — І ўжо зусім на парозе кватэры: — Сядзі на тэлефоне і нікуды не адыходзь. Дарэчы, дачцэ не забудзь пазваніць. Ці, можа, яе бацькаў лёс ужо не хвалюе?

І выйшаў. Худы, жылісты і рашучы.

Жвава застукалі пад яго нагамі драўляныя прыступкі.

## 19

Да школы было чатыры кварталы, два да цэнтральнай вуліцы і два за ёю. Павел Алегавіч рушыў шпаркай хадою — пад таполевымі прысадамі, затым — пад заценню прыватных садоў, паўз платы, і далей, перад самай школай, пад ліпамі ў скверыку.

Зайшоў ва ўтульны дзядзінец. Прамыя сцяжыны з пабеленымі бардзюрамі праразалі ахайную, з раўнютка скошанай травою пляцоўку. Сама будыніна ўяўляла сабою трохпавярховую камяніцу, пафарбаваную ў жоўты колер. Фасад, з двума ганкамі па баках, глядзеў на Паўла Алегавіча. Ззаду, ён ведаў, ад галоўнага корпуса адыходзяць два крылы — спартыўная зала і майстэрня. Па-за імі знаходзіцца школьны стадыён: футбольнае і баскетбольнае палі, турнікі, лёгкаатлетычныя дарожкі, пясок для скачкоў у даўжыню. Калісьці, гадоў сорак таму, лётаў падлетак Павел Багатка па гэтым стадыёне, ганяў мячы, тужыўся на перакладзінах… Ён вучыўся ў гэтай школе з сёмага па дзесяты клас. Тут на той час былі лепшыя выкладчыкі ў горадзе, і вучні старэйшых класаў, хто мерыўся паступаць у ВНУ, па магчымасці сюды пераводзіліся.

Багатка ўзбег на даволі высокі правы ганак (левы ўваход аварыйны, закрыты), адчыніў груваснкія дзверы. Знаёма дыхнула прахалодай цяністага памяшкання, пачуўся гнілаваты пах анучак, якімі шаруюць падлогу.

У дзяжурцы сядзела «тэхнічка» цётка Адэля. Падслепаватая старая пазнала Паўла Алегавіча не адразу, хоць ён дагэтуль неаднойчы тут бываў, завітваючы да брата. Прыйшлося тлумачыць, хто ён і з якой мэтай. Успомніўшы, нарэшце, Багатку, «тэхнічка» змяніла строгі выраз свайго твару на ветлівы, але паведаміла сумную навіну: Вячаслаў Алегавіч якіх пятнаццаць хвілін таму пайшоў са школы.

— Ну вы праверце, канешне, схадзіце наверх, — параіла падабрэлая Адэля. — Бо я на пяць хвілін адыходзіла. Можа, вярнуўся.

— А гэта ў якім кабінеце, бабуля?

— Дык у дзвесце чацвёртым, налева ад лесвіцы.

— Дзякуй.

Павел Алегавіч рушыў па пустэльным гулкім калідоры, падняўся па сцёртых прыступках. Ішоў маршрутам свайго юнацтва. Помніцца, як аднаго разу менавіта на гэтай лесвіцы падставілі добрыя таварышы яму падножку, і ён здзейсніў жахлівы палёт паміж трэцім і другім паверхамі. Зламаў ключыцу і паўтара месяца цягаўся на занятківу ў страшэнна невыгодным гіпсавым гарсэце, з недарэчна ўзнятай рукой. Таварышаў, якія яго скалечылі, не выдаў. За што гэтыя «чулыя» людзі ўвесь час, пакуль Павел пакутаваў у гіпсе, мардавалі яго насмешкамі, дражнілі за няўклюднасць, а то і злёгку штурхалі. Дужа ім было цікава паназіраць, як бразнецца на дол аднарукі.

Вось выхад на другі паверх. Позірк направа — казарменная прамізна калідора, строгасць зачыненых дзвярэй, у тарцы — святло з вузкага акна. Позірк налева — тое ж самае, адно ў калідоры ёсць пашырэнне: з аднаго боку няма кабінетаў, гэта пляцоўка для ўсялякіх лінеек і сходак. За пляцоўкай — зноў кабінеты абапал калідора, і так да тарца, дзе такое ж акно і туалет. З тым акном звязаны непрыемныя ўспаміны. Перад летам, калі яно зазвычай знасцежана, на пераменках забаўляліся яго аднакласнікі тым, што выбіралі якую ахвяру, гуртам валаклі да акна і звешвалі, трымаючы толькі за ногі. Паверх быў другі, унізе бетон і метраў шэсць лёту. Адпусцяць няўзнак — і ты, калі не заб'ешся, зламаўшы шыю, то з вялікай верагоднасцю будзеш пажыццёвым калекам. Дык вось аднаго разу падвесілі так і Паўла. Калі цягнулі да акна, крычаў ён як рэзаны. Калі ж апусцілі і з рогатам трымалі за ногі, маўчаў як мыш. Ведаў, хлопцы штурхаюцца, узбуджаны; трымаюць як быццам усе, але бескантрольна, і таму можна сарвацца ў любую секунду. Так вусцішна яму ніколі ў жыцці не было.

Праз пару дзён, падпільнаваўшы ў туалеце зачыншчыка, хлопца даволі дужага і нахабнага, дзевяцікласнік Павел доўга і грунтоўна яго калашмаціў. Ён больш не хацеў быць падвешаным, не хацеў паламаць хрыбет на пацеху гэтаму быдлу. А таму меў бясспрэчную псіхалагічную перавагу над тым хлопцам, які адно абараняўся ад Паўлавых наскокаў і прыніжана прасіў літасці. Біў Багатка кулакамі ў жывот, у грудзіну, а таксама туфлямі — па каленях, галёнках. Твар не кранаў.

…Павел Алегавіч таргануў дзверы, зазірнуў у клас. Пустата. І душна — фрамугі зачынены. Сонца струменіць скрозь шыбы, асвятляе абшарпаныя парты, мурзатую дошку, сцены з партрэтамі розных вучоных. На адной парце ляжыць забыты пенал, на стале настаўніка — кіпа газет, спісаны аркуш паперы. Багатка ўзяў аркуш у рукі і пазнаў почырк брата. Так і не навучыўся ён разбіраць братавы каракулі, а таму тэкст застаўся для яго збольшага незразумелым. Паклаў назад на стальніцу.

Зірнуў у акно. На школьным стадыёне ўвіхалася купка галубоў. Адны футбольныя вароты былі без верхняй перакладзіны. Бязлюддзе. І ўвогуле, ва ўсім адчуваўся занапад, недагледжанасць. Сухавей гарэзна ганяў па пляцоўках паперчыны і поліэтыленавыя мяшкі. Там-сям валяліся пустыя пластмасавыя пляшкі і бляшанкі з-пад ліманаду. За палову лета стадыён добра зарос травою.

Праз колькі хвілін Багатка пакінуў школу і рушыў убок цэнтральнай вуліцы. Там ён завітаў у краму, выпіў у кулінарным аддзеле дзве шклянкі бярозавага соку, купіў пачак цыгарэт, а тады выйшаў і пакіраваў да гарадскога парку.

Гарадскі парк межаваўся з цэнтральнай вуліцай, а тылам выходзіў на рачны спуск. Павел Алегавіч выбраў сабе лаўку так, каб бачыць вуліцу і адначасова быць у цяньку. Запаліў цыгарэту, адкінуўся на спінку і так, млява цікуючы за рухам машын і пешаходаў, прыкідваў, што яму рабіць. Спачатку, калі не застаў брата ў школе, падумаў, што і добра — сёння ж паедзе дамоў, і

хай яны без яго разбіраюцца, гары яно гарам. Цяпер жа пачало накіпаць раздражненне і нарастала злая рашучасць усё ж такі даць Слаўку заслужанага прачуханца, выказаць усё, што ён пра яго думае. А то выходзіць, што дарма душыўся дзвесце кіламетраў у цягніку, дарма пёрся ў школу. Не, Павел Алегавіч прывык усё даводзіць да лагічнага заканчэння. Якім бы горкім гэтае заканчэнне ні сталася. І яшчэ, калі выкурваў трэцюю запар цыгарэту, прыйшла ў галаву ідэя вось зараз жа, неадкладна, схадзіць да пляменніцы і пагаварыць з ёю як след. Ну зусім не задавальняла Багатку пазіцыя, якую абрала Ксеня адносна бацькі. Маўляў, мая хата з краю. Не, шаноўная, гэтак не атрымаецца, сердаваў Павел Алегавіч. Не выйдзе ў цябе схавацца ў сваёй шкарлупіне і пераваліць усё на матулю. Багатка не любіў хітрахвостых. Акрамя таго, моцна злаваў яго гэты хлюст, Ксенін муж. Прыгажунок, за якога непаглядная ад прыроды пляменніца восем гадоў таму ўчапілася мёртвай хваткай. Ідала сабе зрабіла з яго, дагаджае, пасцілкай сцелецца. А яму, шэльме, толькі таго і трэба. Адчуў, паразіт, што ён каштоўнасць вялікая, і зафілоніў. Перыядычна кідае працу, хандрыць, нібыта прыхворвае, а пляменніца тады перад ім сюсюкае: Артурчык (так яго звацъ), можа, табе таго, можа, табе гэтага? Пару разоў, ужо пасля смерці бацькі, сутыкаўся з гэтым Артурчыкам Павел Алегавіч у кватэры брата. Прыйдзе героем, зойме лепшае крэсла, чакае, пакуль перад ім стол накрыюць, і філасофствуе. Урад, маўляў, дрэнь, людзі — дзярмо, дый жывём мы, кажа, няправільна. Не стрываў раз Павел Алегавіч, асадзіў гэтага дармаеда, паўшчуваў і нават прыкрыкнуў сярдзіта. Дык пляменніца кошкай ускінулася на дзядзьку, гатовая была кулачкамі сваімі кашчавымі Артурчыка абараняць. Завішчала, заскандаліла, залямантавала, каб ніхто не смеў абражаць яе мужа. А Багатка і сказаў жа ўсяго, што ў таго «малако на губах не абсохла, каб старэйшых вучыць». Пакрыўдзіўся Артурчык, ганарліва ўзняў свой грэчаскі нос і больш з Паўлам Алегавічам у той вечар не размаўляў. Дый ладна, халера з ім.

А вось зараз прыгадаўся той выпадак і перапоўніў чашу цярпення, і закарцела Паўлу Алегавічу ўсё пляменніцы выказаць. Так, пайсці зараз да свайго дома, уламацца ў кватэру і наскандаліць. А то лоўка ўладкаваліся там яны, адгарадзіліся бетонам, песцяцца. Гэта што ж выходзіць, пажылы дзядзька павінен ейнага бацьку лавіць ды ўгаворваць, каб той не сваволіў, каб адумаўся і вярнуўся дахаты? А яна, Ксеня, будзе бяздзейнічаць?

Багатка рэзка ўстаў з лаўкі, таропка пайшоў па сцяжынцы. На хаду шпурнуў недакурак у перапоўненую паркавую сметніцу.

Трэба сказаць, што ад раёна, дзе жыве брат, да дома пляменніцы было даволі далёка. Бо знаходзіліся яны на розных берагах ракі, і даводзілася, каб дайсці да моста, рабіць велізарны крук. Дабірацца ж на аўтобусе, якога немаведама колькі прачакаеш, Багатка не захацеў.

...Ужо непадалёк ад дома пляменніцы ўбачыў тэлефонную будку, і кальнула: а трэба ж пазваніць братавай, паведаміць, што не спаткаўся са Слаўкам. Але тады прыйдзецца сказаць, куды ён кіруе. Даведаўшыся, Вольга можа адразу пазваніць дачцэ, папярэдзіць. А гэтага Павел Алегавіч не хацеў. Меркаваў заявіцца да Ксені раптоўна, як той казаў, агарошыць.

Зрэшты, падымацца ў кватэру Багатку не давялося, паколькі пляменніца была на двары. Сядзела на лавачцы і гутарыла з мажной кабетай у квяцістым капелюшы. Паблізу гарэзавалі дзеці, сярод якіх Павел Алегавіч угадаў сына Ксені — шасцігадовага Колю. Угадаў не па знешнасці, а па тым, што малы, пакуль Багатка рушыў праз двор, падбег на секунду да маці, а тады зноўку паскакаў у сваю шумлівую сябрыну.

Павел Алегавіч абрынуўся на Ксеню, як бравы казак. Яшчэ не дайшоўшы да яе чатырох метраў, крыкнуў:

— Прывітанне, пляменніца! Як адпачываецца, як гуляецца, як увогуле на белым свеце жывецца? — І, не паспела яна апамятацца і адкрыць рот, дадаў: — Дзе твой бясцэнны бацька, можа, падкажаш?

Пляменніца ўскочыла з лаўкі, бянтэжліва зірнула на сваю суразмоўніцу, прамармытала:

— Жана Усеваладаўна, выбачайце, гэта мой дзядзька… Нам трэба пагаварыць. Прабачце… — І павярнула пабялелы ад злосці твар да Паўла Алегавіча. — Давайце адыдземся.

Яна рашуча пайшла па сцяжынцы ўбок суседняга дома. Багатка рушыў за ёй. Спыніліся ля дрэва, што расло каля пляцоўкі, дзе паркаваліся аўтамабілі. Ксеня стала спінай да камля, акінула дзядзьку нядобрым позіркам, сказала суха:

— Ну вы без скандалу не можаце, праўда? Навошта гарлаць на ўвесь двор?

Перш чым адказаць, Багатка адзначыў, якая ж яна непрыгожая: такія ж невыразныя формы, як і ў Вольгі, і выглядае значна старэй за свае дваццаць восем; худая, напятая, нервовая…

— А гарлаў я, шаноўная, таму, — прамовіў нарэшце Павел Алегавіч, — што дзіўна мне бачыць, як ты песцішся ў цяньку і мянташыш языком з бабамі, калі бацька твой дарагі і адзіны з дому сышоў! Неяк, прабач, гэта мяне занятаймчыла.

— А што, па-вашаму, я павінна рабіць? — узялася ў бокі, наморшчыла лоб пляменніца. — На вушах стаяць? Дык не буду!

Дзядзька з пагардай агледзеў яе сухенькую ваяўнічую постаць.

— На вушах, любка, канешне, стаяць не трэба. А вось быць у гэты час з маці, маральна яе падтрымліваць і намагацца бацьку вярнуць — абавязана.

— Я нічога нікому не абавязана, ясна?! — Тут пляменніца ўбачыла, што сын Коля аддзяліўся ад купкі хлопчыкаў і пабег да яе, і закрычала: — Сынок, гуляй, гуляй, мой харошы, мама зараз падыдзе!

Яна відавочна не хацела падпускаць Колю да дзядзькі — як да чумнога.

Малы недаверліва спыніўся, пастаяў колькі секунд, крутануўся і памчаўся назад.

— Дык што вы ад мяне хочаце?! — з выклікам зірнула Ксеня на Паўла Алегавіча.

— Я хачу даўмецца, Ксюха, адкуль ты такая пайшла. Хаця, не, не трэба, не адказвай! — заспяшаўся ён апярэдзіць пляменніцу, якая ўжо прыадкрыла рот. — Мяне азарыла: ты дрэнная копія свайго бацькі, майго брацельніка. Такая ж кончаная эгаістка. Такая я ж самаўлюбёная пустышка.

— Замаўчыце! — прыдушана ўсклікнула Ксеня. На яе бледным твары праступілі несіметрычныя чырвоныя плямы.

— Адным вы розніцеся, — Багатка не замаўчаў, а, наадварот, узмацніў голас. — Мой брат нікога, апроч сябе, не любіў і нікога вакол не бачыў. А ты любіш двух: свайго сына, а яшчэ больш — мужа, гэтага лайдака і надзьмутага дурня.

— Ах вы падлюга! — віскнула Ксеня, дрыжучы ў шале. Здавалася, яна гатовая была ўчапіцца дзядзьку ў рэшткі валасоў.

— Але любоў твая таксама эгаістычная, бо любіш ты свайго мужыка настолькі, наколькі ненавідзіш усіх астатніх. Па табе, хай усе чужыя падохнуць, а ён жыве. Ды так не бывае! — Тут Павел Алегавіч раптам зрабіўся грозны, падаўся да пляменніцы і схапіў яе за руку. — Ды так не ўдасца, каб усе падохлі, а вы ацалелі. Мала таго, не бывае так, каб усім было дрэнна, а вам раскошна. І папярэджваю, — ён тузануў Ксеню за локаць, — калі ты будзеш так адносіцца да маці і надалей, то займееш вельмі вялікія непрыемнасці.

— І што, што вы мне зробіце! — Пляменніца тарганулася, выслабанілася, злосна тупнула ножкай. — Начхаць мне на вас!

— А вось чхаць ты не спяшай, даражэнькая, — усміхнуўся Багатка, — а лепей астынь і ўспомні, што кватэра, у якой гаспадарыць твой хрэнаў Артурчык, і мая таксама. Не забывайся! — Апошнія словы ён прагаварыў вельмі акцэнтавана. — Мне, канешне, яна і дарма не патрэбная. Але, любка-галубка, калі ты заняла пазіцыю «мая хата з краю», то вось на злосць зраблю так, што і хаты гэтай у цябе не будзе. Адаб'ю, па судах зацягаю. Уцяміла? Не? Я, Ксюха, у такіх справах зацяты. І пераедзеце вы зноў у нягеглы дамок, у халупу. Бо лепшага зняць твой бяздарны муж не агорае — для гэтага грошы трэба ўмець зарабляць. Вось такія, любка мая, пірагі…

Пляменніца са спалохам і агідай, як на вужаку, глядзела на Паўла Алегавіча. У яе нібы заняло мову. Толькі худыя кісці рук снавалі па сукенцы і камячылі яе, ды дрыжалі тонкія вусны.

— А таму падумай, шаноўная, як табе быць, — настаўленча доўжыў Багатка. — Можа, не варта са мной заядацца? Га? І, можа, варта праявіць чалавечнасць і паспагадаць старой маці? Дый бацьку, хоць ён і дурань, пашкадаваць? А не толькі бегаць з падносамі перад Артурчыкам. Падумай.

На твары пляменніцы люстравалася жудасная ўнутраная барацьба. З аднаго боку, карцела аблаяць дзядзьку апошнімі словамі, а з другога — інстынкт самазахавання, які быў моцна развіты ў гэтай непрыгожай маладзіцы, падказваў маўчаць і не пярэчыць.

— Дык вось, дакладваю, хоць гэта табе і зусім нецікава, — гаварыў Павел Алегавіч строга. — Бацьку твайго я не сустрэў, але не паеду адсюль да таго часу, пакуль яго не вылаўлю і не пагавару з ім сам-насам. Пакуль не выкажу, як і табе, што я пра яго думаю.

Ён павярнуўся і пайшоў. Але праз колькі крокаў спыніўся, скасавурыўся праз плячо і кінуў:

— А пра кватэру — я не жартую. Усё будзе ад цябе, Ксюха, залежаць. — І цяпер ужо пайшоў назусім: па сцяжынцы прама, направа паўз шчыльны хмызняк, затым пад заценню дрэў — і ў брамку, што ў агароджы.

Пляменніца праводзіла яго нейкім загіпнатызаваным паглядам. І калі скрылася з вачэй гэтая брыдкая каравая постаць, то ніяк нельга было сказаць, што Ксеня ўздыхнула спакойна.

Праз хвіліну яна забрала сына з двара і паднялася наверх, дзе яе чакаў каханы Артурчык, які ўжо другі дзень тэмпературыў, капрызіў і загружаў жонку ўсялякімі прыхамацямі.

*З дзённіка…*

*16.07.200**

Ноч. Бічаў. Сяджу, запёршыся ў пакоі брата. За сцяной плача Вольга, і не магу яе бачыць. Ненавіджу румзанне, бяссільныя слёзы, шалею ад іх і магу нагаварыць розных несправядлівасцяў.

Са Слаўкам заўтра сустрэнуся неадменна. Не застану ў школе — абшукаю ўвесь горад, з-пад зямлі выцягну. Страшна сказаць, але такая да яго нянавісць, што гатовы морду набіць. Усё жыццё быў эгаістам і сволаччу. Такая ж у яго і дачка. Во ж дзіўна, як усё дзецям ад бацькоў перадаецца. Ад маці — непрывабная знешнасць, ад бацькі — нежаданне лічыцца з меркаваннямі акаляючых, самаўлюбёная тупасць. А вонкава Ксюха цалкам сваю маці паўтарае: ідал муж, якога трэба песціць-лагодзіць, за якога трэба зубамі трымацца, каб прыгажэйшыя не адбілі. Ды ў гэтай не адаб'еш — вочы выдрапае. Гэта

табе не Вольга. І чаму ў жыцці так, што добрыя заўсёды няшчасныя, а благія раскошнічаюць? Хрэн яго ведае. Мабыць, пакуль першыя мямляць, другія ў іх кавалак з рота вышморгваюць.

У пакоі духата жудасная. Адчынена насцеж акно, але ні ветрыку, ні павеву якога. Стаў курыць, дык дым не выветрываецца. Так і стаіць слупам. Унізе нейкія падшыванцы наладзілі гармідар. Пагнаў мацюкамі. Не паслухаліся і аблаялі ў адказ. Пакуль раздумваў, ці спусціцца, каб вушы надраць, — самі зніклі.

Пасля размовы з пляменніцай, дзе нарэшце я выказаў усё накіпелае, да прыцемку швэндаўся па горадзе. Дзе толькі не быў. Кружляў вакол могілак, дзе пахаваны бацькі. Падмывала зайсці, і адначасова адштурхвала нешта. Так і не завітаў. І правільна. І не шкадую. Ненавіджу магілы, і дзівяць мяне людзі, што туды рэгулярна цягаюцца. Значыць, не засталося ў іхнім жыцці нічога цікавага, а ўсё — ззаду, з тымі, хто пад зямлёй. Прах трэба ў полі развейваць. Гэтак і жывым спакайней, і памерлым. Прынамсі не будзе атаясамлівання чалавека з разлажаным трупам. Божухна, да чаго ж мы яшчэ дзікуны, калі такога не разумеем.

Пра скандал з пляменніцай не шкадую ні ў якім разе. Наадварот, што называецца, мала даў. Трэба было б наверх падняцца ды Артурчыка пашкуматаць. Самае смешнае, што ў падзяку за яе адданае каханне гэты паршывец, я больш чым упэўнены, падгульвае, і няслаба. Па вочках яго юрлівых масленых бачна. На такіх прыгажункоў бабы клююць. Дый яны ніводнай не прапускаюць.

Але цяперака спакою ім не відаць. Ух і ашаламіў я Ксюху прэтэнзіяй на кватэру! Вядома ж, нічога не буду рабіць, пужануў толькі. Аднак слова не верабей. Вылецела, растрывожыла, скаланула. Так ёй, задзіры, і трэба. Будзе знаць, як дзядзьку падлюгам аблайваць. Цяпер нервуйся, псіхуй, начамі не спі. І Артурчыку так наўпрост адразу не скажаш. Мо дзядзька пажартаваў, а любаму мужу — галаўны боль? Не, упэўнены, што ў сабе будзе насіць. Нават маці пакуль не наскардзіцца.

Ды не шкада пляменніцу ні на грам. Заслужыла. Хай не будзе чэрствай такой.

Перажываю адно за Вольгу. Хоць і чужыя мы па крыві, а фактычна бліжэйшая мне яна, чым і Слаўка, і Ксюха. Ды хай не бядуе. Вернецца гэты боўдзіла праз некалькі тыдняў. Расшалопае яго новая пасія, што гэта за чалавек, і выставіць у адных споднiках. Хто ж так, як Волька, яго глядзець будзе? Ніхто.

А па мне б, дык баба з воза — кабыле свята. Сышоў — значыць, лёгкага ветру табе, шаноўны Вячаслаў Алегавіч. Але ж і назад, дружа, не ўздумай прасіцца. Ды не такая, трасца яго бяры, братавая. Пусціць блуднага сына. Ёй пан патрэбны. Яна па прыродзе сваёй — рабыня і не можа, каб камусьці не дагаджаць. На гэтыя катэгорыі, дарэчы, усё чалавецтва падзелена: на дабрадзеяў і спажыўцоў, на валадароў і нявольнікаў. Не дай Бог такая сям'я, дзе абодва кіраваць хочуць. Гэта не сям'я, а крывавае поле бою. Як у мяне з Веркай. Кахаў я яе калісь? Сумняваюся. Патрэбная была, жаданая як жанчына. Ды гэта па маладосці. А старэеш, прывыкаеш сужыцельстваваць. Тут нават скандалы, звады, нянавісць — як бы дарагія, свае, неадрыўныя. Не можаш, халера, без сужыцеля, які б ён кепскі ні быў. Разводзіцца з ёй і не думаю, бо мы і так у фактычным разводзе. А распачнеш гэтую валакіту, то ў дзяльбу ўлезеш, займееш лішні галаўны боль. Ну яго ў пекла. Дый на дзяцей, гэтых недарэкаў-аболтусаў, калі развядуся, апошні ўплыў страчу. Тады мяне ўніз зусім перастануць пускаць. Лесвіцу прыбяруць, праём замуруюць. Хе-хе. Ну ў цябе, брат Багатка, і трызненні пайшлі. Начныя фантазіі.

А трэба б хоць на трохі заснуць. Каб быць перад размовай са Слаўкам свяжэйшым. Ух і скажу я гэтаму тыпу! Хаця з яго ж, бессаромніка, як з гусі вада.

Гэх, з'ехаць як найдалей! На якi востраў?

***Заканчэнне будзе.***



Уладзімір СКАРЫНКІН

# ВОСЕНЬСКІЯ МАТЫВЫ

* * *

Саджуся я за стол пісьмовы свой
І пачынаю новы дзень з малітвы.
Мая душа, нібыта поле бітвы,
Між сутнасцю нябеснай і зямной.

Бескампраміснай гэтай барацьбе
І сіл, і часу я аддаў замнога.
Штодня прашу я дапамогі ў Бога,
Хоць веру, як у бога, у сябе.

Як воін перад боем на вайне,
Малюся я: «Дапамажы мне, Божа».
І ўпэўнены, што мне Гасподзь паможа,
Бо ён таксама верыць у мяне.

Калі святлом нябесным дыялог
Маёй душы збалелай і паперы
Напоўніць зможа Заснавальнік Веры,
Скажу я: «Дзякуй, Бог, што дапамог».

---

*__Скарынкін Уладзімір Максімавіч__ нарадзіўся 7 чэрвеня 1939 года ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі (1961). Працаваў у Мінскім аэрапорце і ў Беларускім упраўленні грамадзянскай авіяцыі. У 1982—1987 гг. — намеснік дырэктара бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар дзесяці зборнікаў арыгінальнай паэзіі. Пераклаў і выдаў асобнымі кнігамі творы Мікалая Рубцова («Рускі агеньчык») і Міколы Вінграноўскага («Украінскі прэлюд»), «Боскую камедыю» Дантэ Аліг'еры, «Дон Жуана» і «Прароцтва Дантэ» Джорджа Байрана, а таксама пераклаў «Кнігу песень» Франчэска Петраркі.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (2001) і Нацыянальнай прэміі Італіі за пераклады (1999).*

## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

*Песня-жальба Міхасю Міцкевічу*

Заспакоіліся лугавіны,
На вадзе лісткі, як чаўначкі.
І на ніцях белай павуціны
Зноў прывезлі восень павучкі.

Напаўняю кош махавікамі,
А журлівых жураўлёў шнуры,
Спераду загнутыя крукамі,
Цягнуцца на поўдзень угары.

Зімаваць вяслуюць у далёкі
Вечна цёплы і зялёны край:
— Да спаткання, родныя валокі!
Залатое лецейка, бывай!

Далеч адгукаецца ім звонка.
Я ж, да слёз расчулены, прыціх,
Як музыка-самавук Сымонка,
З-пад далоні гледзячы на іх.

Сум шчымлівы завалодаў мною,
Хоць яны ляцяць не назаўжды.
З радаснымі клікамі вясною
Жураўлі зноў вернуцца сюды.

Будзе песняй сэрцайка сагрэта,
Будуць казкай ясніцца дзянькі!
Вобразы любімага паэта
Так і просяцца ў мае радкі.

Змалку імі я зачараваны...
І было балюча мне адчуць,
Быццам птушак вольных караваны
Ў незваротны вырай іх нясуць.

* * *

Над гаманліваю ракой
Не плача вецер больш з надрывам.
Прыпаўшы да мяне шчакой,
Стаіш ты над крутым абрывам.

Які бязвоблачны дзянёк
Нам сёння восень падарыла!
Зялёны конік на пянёк
Пагрэцца скокнуў легкакрыла.

У ціхай засені лясной
Там, дзе дажджом размыта гліна,
Нібыта яблыня вясной,
Ужо нявесціцца брызгліна.

Пад элегічны ціхі шум
Пажоўклай восеньскай лістоты
Няхай і твой часовы сум
Азорыцца святлом пяшчоты.

Пяшчотаю да мураша,
Да вераб'ёў на азяродзе.
Хай супакоіцца душа
Суладдзем дзіўным у прыродзе.

Не думай пра сваю зіму,
Адчуй, што жыць на свеце варта.
Жыццё — дарунак! І таму
За край абрыва так упарта,

Знясіленая ад пакут,
Агаленымі каранямі,
Нібыта шчупальцамі — спрут,
Сасна трымаецца над намі.

* * *

О зграбная парывістая фея
З душою неабдымнай, як Сусвет!
Ты для мяне і абярог ад бед,
І спраўджаная мара, і надзея.

Пяром увекавечваю цябе я
І так шліфую кожны свой санет,
Нібы раблю скульптурны твой партрэт.
Я — твой Пігмаліён. Ты — Галатэя.

Ім добра, як і нам, было ўдваіх.
Святое трапяткое пачуццё
Крылом і нашы душы закранула.

З табою мы — як паўтарэнне іх,
Хоць Афрадыта не ў цябе жыццё
З каханнем разам, а ў мяне ўдыхнула.

* * *

Тваё каханне першае — балет.
Нашчадак легканогай Тэрпсіхоры —
У венскім вальсе і ў малдаўскай хоры
Сябе ты выяўляеш з юных лет.

Калі за піруэтам піруэт
Рабіла ты і малявала ўзоры
Пуантам у паветры, — быццам зоры,
Зіхцелі вочы нават у кабет.

Хоць мы з табой — дзве долькі спарыша,
Ты сніш сябе і зараз балерынай.
Каханню першаму твая душа

Не здрадзіла — і з рукзаком за спінай
Ты робіш фуэтэ і антраша,
Да электрычкі ідучы сцяжынай.

* * *

На празрыстым жоўтым небасхіле
Наравіста ўздыбіўся рысак.
Асцярожна крочыць у бахілах
Восень па змакрэлых верасах.

Не чуваць ні сакатання соек,
Ні грамоў, ні булькату крыніц.
Між аціхлых арабін і хвоек
Ціхае пасвістванне сініц.

Больш не рассцілае самабранак
На палянах і на ўзлесках бор.
Мне кастрычніцкі халодны ранак
Нешта ціха шэпча, як суфлёр.

Пэўна, падказаць імкнецца словы,
Што сказаць я меўся і забыў.
Ды, на жаль, мной завалодаў новы —
Не вясновы — восеньскі матыў.

І ніколі тое, што калісьці
Напісаць хацеў, не напішу.

З дрэў ціхутка ападае лісце
На траву, на сцежку, на душу.

Што такое шчасце, невядома.
Я любому радуюся дню.
Адчуваю сэрцам, падсвядома,
Што я неба гэтае прысню.

Буду згадваць светлай і шчаслівай
Раніцу, калі па верасах
Крочыў я і з пурпуровай грывай
Нада мною дыбіўся рысак.

* * *

Закончыліся дні асенняй слоты,
Зноў далягляды вабяць светлынёй,
Але намалявалі самалёты
Вялізны белы крыж па-над зямлёй.

І працінае сэрца мне трывога
За нашу шматпакутную Зямлю,
За ка́тамі абражанага Бога,
За ўсіх, каго люблю і не люблю.

* * *

Нідзе ні гудка, ні сірэны.
На шолахі ліп і асін
Настроіла восень антэны
Бліскучых даўгіх павуцін.

Празрыста, ўрачыста, прасторна
Ў маёй неспакойнай душы.
І сонца гарыць міратворна,
І вучаць дабру мурашы.

І думаць зусім неахвота
Пра блізкасць завей і парош...
Сцякае з бяроз пазалота
Струменямі яркімі ў кош.

* * *

Вецер струны крануў — і на брук
Ападае за гукам гук.
Ападае на сцежкі і пожні
Ліп і клёнаў агонь апошні.

Ад зазімкаў, як скроні, луг
Пакрываецца сівізной.
Самы дзіўны і мужны гук
Абрываецца цішынёй.

* * *

Здзяйсняюцца прароцтвы Заратустры,
Перамагае цемнату святло.
Глядзяцца сосны ў ледзяныя люстры —
І смутку на душы як не было.

Мая дарога сёння скіравана
На поплаў, дзе бліскочуць ледзяшы.
Нябеснае святло адлюстравана
Ў маёй кранутай халадком душы.

Я так стараўся, каб крывым люстэркам
Яна зрабіцца раптам не змагла.

Баяўся стаць ханжой і недаверкам
І не насіў за пазухаю зла.

Быў шчыры, хоць і жыў у каралеўстве
Крывых люстэрак, позіркаў крывых...
Чаму ж так добра думаецца ў лесе
Пад ціхі пошум сосен векавых?

Я жыццялюб, хаця даўно гатовы
На невясёлую сустрэчу з днём,
Калі надзенуць на мяне абновы,
Завесяць люстры чорным паркалём.

Не здзейсняцца прароцтвы Заратустры,
І дабрыня не пераможа зло,
Ды лес глядзіцца ў ледзяныя люстры —
І суму на душы як не было.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Уладкаваўся на начлег
Каля рачулкі
І спаць улёгся першы снег
На поплаў мулкі.

Неўтаймаваную душу
Уладна цягне
Паспавядацца шарашу,
Замёрзлай багне.

Чаму, не разумею сам,
Да іх імкнуся.
Пустым палям, пустым лясам
Я пакланюся.

Няма грыбоў уздоўж дарог,
Чарніц і кветак.
О, дай душу ачысціць, Бог,
І мне вось гэтак.

А потым ахіні, прашу,
Дол цішынёю
І да краёў маю душу
Напоўні ёю.

* * *

І самай востраю сякерай
Я зла вузлы не рассяку,
Хоць і жыву дагэтуль з верай,
Што ўсё асілю на вяку.

Хацеў на ўсё знайсці адказы,
Ды зразумеў, што тым грашу.
Сусветнай злосці метастазы
Не закрануць маю душу.

Я слухаць перастаў папрокі,
Зважаць на ўласную тугу.
Не набіваюся ў прарокі,
Быць бессмяротным не магу.

І боль, што ранай незагойнай
Душу вярэдзіў, змог суняць,
Бо выспела душа спакойна
Наканаванае прыняць.

* * *

Калі я памру, а памру
Я некалі абавязкова,
Радню і сяброў я збяру,
Але не скажу ім ні слова.

Быў і пры жыцці я такі ж
Зацяты і негаварлівы
І нёс да магілы свой крыж,
Нялёгкаю доляй шчаслівы.

Увыш я з-пад веек зірну
І так, як належыць паэту,
Бы ў рэчку маленства, нырну
Са стромы пясчанай у Лету.

Патомны прыдзвінскі крывіч,
Сваёй праматою адметны, —
Я знікну, як znічка, як Зніч,
Пакінуўшы след непрыкметны.

Не ўсё, што ў мяне з-пад пяра
Выходзіла, людзі любілі.
Затое зрабіў я дабра
Не меней, чым зла мне зрабілі.

* * *

Мне паспрыялі зоры ў раз чарговы.
Я кропкаю перапыняю словы
І зачахляю вернае стыло.
Так, як святло недасягальных зорак
Даходзіць да зямлі праз вечны морак,

З былых стагоддзяў да мяне дайшло
Петраркі, Дантэ, Байрана святло.
Няўрымслівы, упарты, апантаны —
Хацеў я, каб адлюстравана мной
Яно было, як сферай люстраной.

Не прагну я ні славы, ні пашаны.
Хай прамяні, што мной адлюстраваны,
Прымусяць зіхацець яшчэ ярчэй
У цемрадзі духоўнага калецтва
Грань беларускай часткі чалавецтва.

Хай ні рубля не дасць мне казначэй.
Іх твораў словы для маіх вачэй —
Як яханты на залатым пярсцёнку.
І я таму сягоння вельмі рад,
Што здолеў гэты антыкварыят,

Які праменіцца знутры і звонку,
Пакласці ў нашу моўную скарбонку,
Хоць мо зрабіў я гэта не ў пару.
Бліскучыя тэрцэты і тэрцыны
Узнёслым патрыётам той краіны,

Дзе нарадзіўся колісь і памру,
Я ў карыстанне вечнае дару
І веру, што ў бібліятэчным пыле
Яны не знікнуць — і нашчадак мой
Не скажа, пыл змахнуўшы з іх рукой:

«Якую мову мы, аднак, згубілі!
За што яе так продкі не любілі?»





Валерый ГАПЕЕЎ

# КРОПКА НА КАРЦЕ

### *Апавяданне*

Тады была яе праўда. Тады, калі, прадчуваючы яе крык, магчымыя слёзы, ён, адчуваючы сябе падсвядома подлым, а ў свядомасці — невінаватым, сказаў спакойна, з ноткай шкадобы:

— У нас не было з табой размоў аб вяселлі. Нам не па 16 год, а па 30, каб табе выпадкова зацяжарыць. І твая «навіна», выбачай, больш падобная на шантаж. Ты магла б сказаць, што хочаш дзіця. І мы б пра ўсё пагаварылі…

— Вось як… — яна прыкусіла вусны, стрымалася і ад крыку, і ад слёз. — Ну, што ж, няхай тое будзе на маім сумленні. Але ведаеш… — яна прыпынілася, а потым прадоўжыла надзіва спакойна: — Мне цябе шкада. Прыйдзе час, стукне табе сорак, і ты адчуеш сябе, нібыта на востраве. У цябе будуць жанчыны, напачатку такія вось дурніцы, як я, што на нешта будуць разлічваць, пазней — звычайныя бабы, якія аб замустве перасталі марыць і крадуць дзе ўбаку якую ноч, каб хоць не забывацца, што яны — жанчыны. Але табе захочацца нечага іншага. І ты, я гэта цяпер бачу, будзеш крадком ад сваіх знаёмых купляць у кіёсках газеты, дзе ёсць рубрыка «Знаёмствы». І будзеш пачынаць чытаць газету з гэтай рубрыкі. І некалі будзеш пісаць пісьмы. Ці сам дасі туды аб'яву…

— Нават так? — разгубіўся Віктар ад гэтых яе слоў, якіх ніяк не чакаў, да якіх не рыхтаваўся, а таму цяпер не мог знайсці вартага адказу.

— Бо ты ніколі нікога не палюбіш. У цябе наперадзе толькі разлік. Што ж, будзь шчаслівы…

Яна мела рацыю, тая жанчына, рысы твару якой за 10 гадоў сцерліся (не без яго жадання) з памяці, захавалася толькі імя — Валянціна, ды яшчэ ягоная далонь помніла яе гладкую, халаднаватую скуру, і жыло ў памяці адчуванне ўсяго яе цела: незвычайна гнуткага, чулага, што адгукалася на самы нязначны рух ягоных рук, угадвала яго жаданні і, здавалася, існавала асобна ад яе, Валянціны, існавала толькі для яго, Віктара, для задавальнення любых яго

---

***Гапееў Валерый Мікалаевіч*** *нарадзіўся ў 1963 годзе ў пасёлку Восава Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум электрычнай сувязі (цяпер — вышэйшы каледж сувязі).*

*Працаваў майстрам у вучылішчы ў г. Балхаш (Казахстан), рабочым на мінскім ВА «Інтэграл», на прыборабудаўнічым заводзе ў Івацэвічах. Цяпер – адказны сакратар газеты «Івацэвіцкі веснік».*

*Аўтар кнігі прозы для падлеткаў «Пастка на рыцара» (2002).*

капрызаў. І ён любіў гэта цела… А саму Валянціну? Чаму расстаўся з ёй? Не кахаў? Няўжо надакучыла, як можа надакучыць часты прагляд самага дзівосна-цікавага фільма, нават і з нязначнымі адхіленнямі ў сцэнарыі, ды ўсё з тым жа фіналам?

«Яна не для мяне», — сказаў сам сабе перад апошнім іх вечарам, і ніхто б не змог пераканаць яго ў адваротным. І не было, зрэшты, каму пераконваць…

Яна мела рацыю — вось ужо два месяцы ён купляе газету, дзе ёсць рубрыка знаёмстваў, праглядвае, напачатку быццам і несур'ёзна, так, для цікавасці, каб пасмяяцца мо над якім словам, а ў глыбіні душы ловіць сябе на думцы, што ён усё ж шукае. Шукае такую аб'яву, якая б адгукнулася ў яго душы цеплынёй і спагадай, якая б падказала: «Для цябе».

Ён знайшоў. Невялічкая, без абавязковых там «90x60x90», простая і сціплая: «Не красуня, 37, без дзяцей. Свая кватэра ў маласямейцы. Хачу нарадзіць дзяцей, але каб у іх быў бацька».

Ён пісаў ёй пісьмо тыдзень: на рабоце за сваім сталом тэхнолага, за абедам у сталоўцы, дома, гледзячы без цікавасці тэлевізар. Пісьмо атрымлівалася вялікім, шчырым, цікавым і, вядома ж, вясёлым. А на паперы выйшла кароткае і няўклюднае.

Але адказ атрымаў: кароткі, затое з фотаздымкам. Яна жыла далёка ад Мінска ў невялікім райцэнтры. На фотакартцы выглядала досыць прывабнай. Прасіла, каб, калі што, вярнуў здымак, нават канверт даслала са зваротным адрасам. Ён і пажартаваў: свой ліст адправіў у тым самым канверце. Ліст атрымаўся вясёлым, паўжартаўлівым, можа, таму, што настрой у Віктара быў добры — цешыла думка, што з дзесятка лістоў яна адказала менавіта яму першаму (так сама напісала: чаго маніць?).

Перапіска працягвалася тры месяцы. Ён дамовіўся, каб яна лісты адпраўляла ў панядзелак, а ён адказы — у чацвер. Было прыемна ў сераду знайсці ў паштовай скрынцы ліст. Іншы раз ён прыходзіў пазней, і тады Віктар адчуваў нейкі дыскамфорт: збіваўся ўстаноўлены ім рытм дыялога з жанчынай.

Бо калі табе 40 год, калі ты нязменна працуеш на адным заводзе, калі нязменна ездзіш на работу і вяртаешся з яе адным і тым жа тралейбусам вось ужо 20 год, калі ў ванную ты ходзіш штораз у адзін і той жа час, калі хлеб купляеш па аўторках, чацвяргах і суботах, і калі… Ды ёсць яшчэ безліч гэтых «калі». Табе сорак год, і дзесяць з іх пражыта ў аднапакаёвай кааператыўнай кватэры… За гэты час выпрацуецца пэўны і нязменны расклад жыцця. У сераду трэба ісці на кухню, разаграваць учарашні суп, а ў чацвер вечарам —варыць боршч. Таму ў гэты дзень, вярнуўшыся з працы, Віктар перахопіць альбо пельменяў, альбо пачастуецца кансервамі — ён любіць белую рыбу, ды і мікраэлементамі можна так разжыцца.

Віктар быў не супраць таго, каб уносіліся нейкія змены, вось толькі не любіў, калі гэтыя змены патрабавалі да сябе змены яго прывычак і распарадку.

Напачатку хацеў запрасіць Галіну (так звалі яго знаёмую па лістах жанчыну) да сябе. Цікава б было паназіраць за ёй у сталіцы, ды і сябе няблага можна было б паказаць на гарадскіх вуліцах. Але калі б больш ён не захацеў сустракацца з гэтай жанчынай, то чаго яе было весці адразу ў сваю кватэру?

Таму Віктар пасля доўгага роздуму, змястоўна прадумаўшы ўсе магчымыя варыянты, па якіх могуць разгортвацца падзеі іх сустрэчы, вырашыў: першая сустрэча з Галінай адбудзецца не ў яго кватэры, не на нейкай «нейтральнай тэрыторыі», а ў яе дома.

Тады можна будзе пабачыць жанчыну ў такіх абставінах, якія, хавай ты гэта ці не хавай, але прымусяць хоць на нейкую хвілінку стаць самой сабой. Ды, увогуле, глянеш на пакой, у якім жанчына жыве, — палову аб ёй ведаць

будзеш. Страў яе паспрабуеш, а галоўнае, пабачыш, як яна іх гатуе, як на стол ставіць, куды відэльцы кладзе і як кладзе, — вось і ўвесь партрэт.

Ён і напісаў, што добра б было, каб сустрэча адбылася на «яе баку». Яна адказала, што яго жаданне пабачыць яе ў ролі гаспадыні зразумелае, але пакойчык у маласямейцы — не самы добры варыянт для сустрэчы. Затое каля райцэнтра ёсць вёска, а ў той вёсцы — дом яе памерлых бацькоў, пусты ўжо. Яна там жыве цяпер, у водпуску. Хата стаіць наводшыбе, там незвычайна ціха і ўтульна. І лішніх вачэй няма. То калі ён жадае…

Віктар жадаў. Яны назначылі дзень.

Віктар склаў падрабязны спіс таго, што трэба зрабіць, што ўзяць з сабой, на што звярнуць найперш увагу. Сабраў усё яшчэ з вечара: запасную пару шкарпэтак і бялізны, кашулю, спартыўны касцюм, брытву, мыла і іншую драбязу. Прэзерватывы. Ну, на ўсякі выпадак. Клаўся спаць, здаецца, і хвалявання не было ніякага, але раптам, як толькі выключыў святло, пачало мроіцца, што ён вось так вольна гаспадарыць у сваёй хаце апошні раз, што з заўтрашняга дня ўсё пачне імкліва мяняцца. А гэта значыць — рушыцца. І сам ён засынаў, быццам ляцеў у нейкую страшную прорву, і не сваёй глыбінёй была страшная прорва, а той невядомасцю, што хавалася на яе дне, і само дно хавалася ў гэтай невядомасці. Пачуццё таго, што заўтра адбудзецца нешта незвычайнае, узрушыла і не давала супакоіцца. Незвычайнасць была ў тым, што ўпершыню за многа гадоў свайго размеранага жыцця мелася адбыцца нешта, што мала залежала ад яго… Гэта і турбавала.

Ехаць аўтобусам было ажно сем гадзін. Першы прыпынак на невялікай аўтастанцыі быў толькі праз дзве гадзіны мяккага пагойдвання ў адкінутым крэсле. Паездка прыносіла задавальненне Віктару: і тым, што ехаць так доўга — можна многае абдумаць яшчэ і яшчэ раз, перабраць сотню варыянтаў сустрэчы і прайграць у думках свае першыя словы, яе магчымы адказ і зноў — свае словы. Віктар нават запісную кніжку дастаў, паспрабаваў запісваць: «Ну, вось і я. Дзень добры!» — «Добры дзень! Праходзьце, калі ласка». А калі «Добры дзень… Ой, я…» і далей няёмкае маўчанне, то ён: «Мне можна прайсці, каб хоць вады напіцца? А то сем гадзін дарогі высушылі, як тую воблу…»

Спісаў колькі старонак, усміхнуўся сам сабе. Здаецца, перабраў усе варыянты першых хвілін.

Выйшаў з аўтобуса, з задавальненнем закурыў — якраз дзве гадзіны перапынку, як у яго і па раскладзе. Ад нечага рабіць, бо не хацелася сядзець і чакаць вадзіцеля ў крэсле, зайшоў у будынак аўтастанцыі, пусты, гулкі, шэры. Прыпыніўся ля карты-схемы маршрутаў.

Трэба ж, гэта невялікая аўтастанцыя была пазначана на схеме самым вялікім кружком! Нават Мінск выглядаў у параўнанні з ёй сціпла, не кажучы пра іншыя населеныя пункты. Аўтастанцыя гарадка тут лічыла сябе цэнтрам сусвету — гэта ад яе разбягаліся ва ўсе бакі дарогі-маршруты…

Віктар на наступнай аўтастанцыі спецыяльна зайшоў у будынак: так і ёсць, цяпер ужо гэта вёска лічыла сябе цэнтрам сусвету — яна працягвала ва ўсе бакі ад сябе лініі дарог, пазначана была самым вялікім кружком. Стала ажно смешна, а на трэцім прыпынку (гэта быў ужо вакзал горада) Віктар не сумняваўся: тут карта-схема будзе вялікая, а сетка маршрутаў будзе нагадваць павуціну, дзе ў цэнтры павуком-кружком, самым вялікім будзе пазначаны гэты горад. Так і было.

Віктар заўсміхаўся сам сабе — угадаў. Бач ты, думаў Віктар, колькі тут яе ёсць, а пхнецца вонкі гонар: я самая галоўная, гэта ад мяне ўсе дарогі пачынаюцца, гэта ад мяне ўсе залежаць…

Астатнюю частку дарогі Віктар драмаў, хоць крэсла не было ўжо такім утульным — надакучыла сядзець без прывычкі гэтулькі часу. Але перакусіў

узятым бутэрбродам, і прыемная напоўненасць страўніка, і пачуццё сытасці лёгка мроілі галаву, выганяючы з яе ўсе больш-менш сур'ёзныя думкі.

З аўтобуса Віктар выйшаў адпачнуўшым і бадзёрым. Адсюль, ад гэтага прыпынку, яму трэба ці пешкі прайсці пяць кіламетраў, ці чакаць спадарожную машыну.

Было каля чатырох гадзін. Ціхі, пагодлівы летні дзень — на перакрыжаванні, дзе прыпыніўся аўтобус, ні душы. Віктар паглядзеў на дарогу, па якой, згодна з указальнікам, яму трэба прайсці пяць кіламетраў. «Ісці і ісці — на горку, з горкі, на горку, з горкі. А потым адкрыецца вёска, невялікая, хат на пяцьдзесят. Справа па ходзе наводшыбе будзе стаяць адзінокі дом, ярка-жоўты, з бляшаным дахам. А дах пад сонцам ззяе на захадзе ружовым…» — так пісала Галіна.

Роўная шаша не выглядала гарачай, бо ўзбоч яе раслі бярозкі: вялікія ўжо, з тоўстымі камлямі, кідалі на дарогі густы і роўны цень. І трава ад дарогі выглядала свежай, не выгарала на сонцы. Прама бегла дарога і праўда, уздымалася на горку стромка, насустрач небу. Аж цягнула ступіць на яе — і ісці доўга, бесклапотна, ведаючы, што цябе чакаюць, табе будуць рады. Любая дарога выглядае прывабнай, калі ў канцы — добрая сустрэча…

Палову прайшоў, адчуваў, што паднімецца на чарговы ўзгорак — і ўбачыць вёску, калі ззаду пачуўся шум аўтамабіля. Не хацелася, каб аўтамабіль стаў: а калі ў аўтамабілі хто з вяскоўцаў? Што адказаць, калі спытаюць, да каго ён? Навошта некаму ведаць, што ён прыехаў да Галіны?

Віктар не паварочваўся да аўтамабіля тварам, калі той пранёсся міма, адчуў палёгку.

З узгорка ўбачыў і сапраўды ўсю вёску і дом сярод саду, з некалькімі вялікімі кустамі (можа — бэзу?), які выглядаў адсюль закінутым хутарам, адно што некалькі бетонных белых слупоў лініі электраперадач цягнуліся ад вёскі да таго надворка. І копанку невялікую Віктар пабачыў — адразу за садам, у паўкружжы кустоў вербалозу, якія сядзелі так, каб закрыць з усіх бакоў, акрамя самой хаты, гэту копанку.

Нешта ёкнула ўсярэдзіне, нечакана, неспадзявана, і Віктар аж прыпыніўся. Што за чорт? Не збіраўся ж хвалявацца. Усё павінна пайсці па плане, якія тут нечаканасці могуць быць?

Перакінуў у левую руку свой вялікі карычневы «дыпламат», запаволіў крок.

Веснічкі былі адчынены, і таму яшчэ з вуліцы адкрываўся ўвесь невялікі надворак.

— А хто дома? — моцна гукнуў Віктар, зайшоў, не прычыняючы за сабой.

Ніхто не выйшаў з сянец, нідзе нічога не бразнула, не стукнула.

Віктар прайшоў далей і раптам спыніўся як укопаны — на клямцы сянец вісеў замок. Яе не было дома! Нешта як абарвалася ўнутры.

«Хлапчук, сапляк! Так табе і трэба, ідыёту! Запісваў, падлічваў!..» — Віктар лаяў сябе так, як не лаяў яшчэ ніколі. І на самой справе — усе варыянты будучай сустрэчы прадугледзеў, а да такога простага не мог дадумацца: Галіны не будзе дома. Не будзе і ўсё!

Было такое адчуванне, што яго абакралі. І не проста абакралі, а ўзялі нахабна, кпліва смеючыся. Так было прыкра… Хоць плач.

«Ат, вады папіць, ці што?» — падумаў Віктар, зачапіўшы позіркам калодзеж пад сіняй будачкай. «Ды чорт яго ведае, што тут за вада… А можа, я зусім не туды трапіў?» — яго аж скаланула ад гэтай думкі, раптам падалося, што не туды ўзяў білет, сеў не ў той аўтобус, сышоў не на тым прыпынку, на скрыжаванін скіраваў не на тую дарогу і не да той хаты завярнуў. Імгненне

Віктар стаяў проста аглушаны сваімі ж думкамі, роспач ахапіла яго, але прымусіў сябе спакойна дастаць пачак цыгарэт і закурыць.

Усё правільна ён зрабіў. І сеў, куды трэба, і дом гэта той — блішчэла ружовым пад промнямі сонца бляха даху. Няправільна адно — Галіны няма. Ну, будзем мудрэй надалей…

Ззаду раздаўся ціхі шоргат нечага па траве. Віктар імкліва азірнуўся: у веснічкі, коцячы веласіпед, заходзіла Галіна. Пазнаў адразу. Яна такой і на картцы была, і — гатовы быў на заклад пабіцца — менавіта ў гэтай светласіняй сукенцы.

— Ой, Віктар, Божа мой, прабачце калі ласка! Ой, якая я ж няўклюда, усё са мной здараецца не тады, калі трэба! Так і думала, што нешта будзе, вось жа так і думала! — загаварыла хутка Галіна, і столькі дзіцячай вінаватасці было ў яе голасе, твары, вачах, што Віктар разгубіўся. Калі б заўважыў Галіну раней, ён бы змог прадумаць свае магчымыя словы, а яна з'явілася так нечакана для яго, што ніякіх пачуццяў не паспела выспець у яго душы.

Галіна падыходзіла бліжэй — і між імі апынуўся яе веласіпед!

Выпадкова гэта атрымалася ці не — але было так дарэчы! Веласіпед быццам стаў патрэбнай мяжой менавіта вось пры такой, пры першай сустрэчы, і не трэба было думаць над тым, наколькі блізка можна падысці адно да аднаго…

— Добры дзень Віктар! А я вас пазнала!

— І я вас пазнаў. Вы ж спецыяльна гэту сукенку апранулі, так? Добры дзень, — павітаўся і Віктар.

— Ага, спецыяльна! — прызналася Галіна. — Вось, думала, прысяду на лавачцы ля сянец пад куст язміну, вы мяне такой і пабачыце, — шчыра заўсміхалася яна. — А тут успомніла, што няма ў мяне піва. А вы ж не напісалі, любіце яго ці не. Тут добра было б у прахалодзе яго папіць. Паехала ў магазін — і кола спусціла! Іду пешкі, бачу — вы ўжо на двары… Не злуяце на мяне?

— Ды ну, чаго тут злаваць, — пацісnуў плячыма Віктар. — Усё можа здарыцца.

— Ну, пойдзем, пойдзем у хату. А то трымаю вас тут на вуліцы, — заспяшалася Галіна, прыставіла веласіпед да сянец, выцягнула з-пад палавічка на ганку ключ, хутка адамкнула замок, расчыніла дзверы: — Заходзьце! Толькі адразу вельмі прашу: не саромейцеся нічога. Мы тут адны, так што вядзіце сябе так, як прывыклі.

Прыемным было тое, што на картцы Галіна выглядала нават горш, чым цяпер убачаная ім. Відно, што жанчына не маладая, але ж формы цела акуратныя, твар мілавідны, вочы добрыя. «І чаму яна замуж не выйшла? Пісала, што так склалася… Г-мм, нешта тут ёсць. Каб такая ды ў вёсцы адна засталася? Можа, залішне патрабавала?» — думкі ціха мроіліся ў галаве недзе далёка, як сказаў бы сам Віктар, — «на заднім плане». А на пярэднім быў пакой дома, вялікі, са сталом ля акна, ужо сервіраваны зусім не па-вясковаму, на дваіх. Другая палова дома была падзелена на тры часткі: дзве бакоўкі-спальні і вялікі пакой.

Віктар імкнуўся не затрымліваць позірк на нечым доўга, але вочы самі выхоплівалі кожную драбніцу, якая магла б характарызаваць гаспадыню дома: чыстыя шыбіны акон; роўна пакладзены саматканы шырокі пярэсты палавік на фарбаванай, цяпер блісучай падлозе; хатнія кветкі на падаконніках са здаровым зялёным лісцем; акуратна засцелены ложак і другі таксама; ідэальна роўнае і зноў жа саматканае пакрывала на канапе; кніжны шкапік — кнігі розныя, на паліцах няма пылу; стары абраз Маці Божай у куце, свежыя (але не сёння і не ўчора павешаныя — трымалі б яшчэ пах пральнага парашку) вышываныя ручнікі…

Віктар сеў на канапу, з задавальненнем скінуў туфлі і выцягнуў ногі. Бач ты, пяць кіламетраў усяго, а пабольваюць крыху.

Ну што ж, калі яна хацела выглядаць адразу ў вачах госця акуратнай і клапатлівай гаспадыняй, — ёй гэта ўдалося.

Было ціха, толькі Галіна тупала хутка туды-сюды ў пярэднім пакоі, ды стукала калі лыжка аб талерку. Раптам падалося, што гэта вось — яго дом (а бацькоўскі дом і насамрэч нечым падобны… Зрэшты, ва ўсіх вёсках хаты аднолькава ладкуюцца). Хацелася адкінуць прэч тую самую сваю частку, якая на тым «заднім» і «пярэднім» планах аналізавала, параўноўвала, рабіла высновы, даводзіла. Хацелася проста вось так бесклапотна сядзець, выцягнуўшы натомленыя ногі і чакаць (а так прыемна чакаць!), як цябе хутка пазавуць за багата застаўлены стол. Вось баршчу б цяпер, такога, з печы, з чырвонымі кубікамі бурака, смажанай бульбы з рабрынкай…

Калі Галіна з'явілася на парозе, крыху заружавелая, усміхнулася і запрасіла за стол, Віктару амаль што ўдалося саўладаць з той аналітычнай часткай сябе. Ва ўсякім разе, ён еў з апетытам боршч, потым — катлеты і салату з агуркоў і памідораў, выпіваў па 50 грамаў халоднай гарэлкі без аніякіх там «запісаў у нататнік». Проста еў і піў — і было прыемна бачыць, як ля яго завіхаюцца, як імкнуцца ўгадаць яго жаданні, як шчыра пытаюцца, ці смачна.

— Ну, вы сабе адпачніце з дарогі гадзіну-другую, — прапанавала Галіна. — А я са стала прыбяру, а потым клубніц крыху навыбіраю. Будуць у нас на вячэру клубніцы. Са смятанай. Піва пап'яце, можа?

— Не, дзякуй, — адмовіўся Віктар. — Вы мяне перакармілі. Так смачна я і не памятаю, калі еў.

— Праўда? Я так і думала, што вам спадабаецца боршч з печы, — Галіна ўсміхнулася, пачакала, пакуль Віктар устане з-за стала, тады ўзнялася сама, стала збіраць посуд.

Ад парога Віктар нейкі момант назіраў за яе зграбнымі рухамі. Цяпер ён пабачыў загарэлую скуру на яе руках і лытках, шчыльна абхопленыя тканінай сукенкі круглыя, пругкія сцёгны.

І вось цяпер у ім варухнулася жаданне. І галоўным у гэтым жаданні было тое, што жаданне было не абстрактным, а мэтанакіраваным: ён хацеў блізкасці з гэтай жанчынай. Правільней сказаць: гэта жанчына ўзбудзіла ў ім жаданне блізкасці.

Быццам нехта шчоўкнуў уключальнікам — Віктар з задавальненнем адзначыў гэты факт. Асабліва тое, што ўзнікла жаданне менавіта ў той момант, калі Галіна прыбірала са стала. Значыць, яго жаданне трэба яшчэ расцэньваць як і жаданне аддзячыць гэтай жанчыне за такі цёплы прыём і шыкоўны абед. Карацей, падлічвалася недзе «на заднім плане», Віктар ужо і жадае Галіну як жанчыну, адчувае да яе павагу як да гаспадыні, удзячны ёй. Няблага.

Ён пакурыў на лавачцы ля сянец, потым Галіна паклікала ў дом — каб прылёг на канапе ў другой палове. Што і зрабіў, і хоць хацелася (ці той другой яго частцы) нешта падумаць, прааналізаваць, але сон змарыў, лічы, імгненна. Так прыемна было падаць у яго мяккую чорную глыбіню.

Прачнуўся — у вокнах паменела святла. Па чырвані шыб зразумеў, што заходзіць сонца.

Галіна быццам стаяла і чакала, пакуль ён прачнецца — тут жа з'явілася на парозе.

— О, самі прачнуліся! А я хацела ўжо будзіць. Сонца садзіцца, не трэба спаць, старыя людзі казалі, у такі час.

— І я ведаю, што не трэба, — адказаў Віктар. — Хоць з такім задавальненнем я б паспаў сутак двое!

— Выспіцеся! — весела махнула рукой Галіна.

Яна была ўжо ў доўгім, зусім не вясковым, халаце, ружавашчокая і з мокрымі валасамі.

— Тут ля копанкі невялікая лазенька ёсць, некалі татка зрабіў для сябе і мамы. То я крыху пратапіла яе, каб адно вады нагрэць. Я ж не ведала, любіце вы пару ці не… — крыху зніякавела Галіна, невядома чаму. Можа, уявіла, як яны разам збіраюцца ў лазню? — Я памылася ўжо, буду зараз гатаваць што нам на вячэру, а вы ідзіце, апаласніцеся. Ручнікоў там два вісіць, мыла, шампуні ёсць…

— Усё сваё нашу з сабой, — рагатнуў Віктар і падцягнуў да сябе дыпламат. — З задавальненнем абмыюся.

— І піва бутэльку, калі жадаеце, то ў халадзільніку.

— Лепш пасля.

— То і добра…

Віктар распранаўся ў невялічкім — паўтара на паўтара метры прылазніку, накінуўшы на дзверы зашчапку. Хоць і не думаў, што Галіна раптам прыйдзе сюды «спінку пацерці», але вырашыў дакладна выключыць магчымасць таго, каб яна, апранутая, пабачыла яго голым.

Але Галіна не прыйшла. Віктар плёхаўся не доўга — мыўся ж напярэдадні, хіба што пыл каб змыць ды пот.

Апранаўся ў чыстую бялізну, і зноў «задні план» спрацаваў: калі сама памылася ды яго яшчэ адправіла ў лазню, значыць, дакладна рыхтуецца да таго, што спаць будуць разам. Добра гэта ці дрэнна, што яна так дэманструе гэту падрыхтоўку? Добра: наўрад ці было б прыемна цалаваць жаночае цела, калі б не ведаў, што яно вось толькі што памытае. Ну, і самой ёй ці хочацца прыціскацца да мужчыны, на якім засох пот сямігадзіннай паездкі ў аўтобусе?

Яны сядзелі ля адкрытага акна, пілі піва, елі клубніцы, размаўлялі. Аб розным: Віктар аб сваёй рабоце расказваў, Галіна — аб сваёй (яна працуе ў бібліятэцы), юнацтва ўспаміналі, спавядалі-дзяліліся, чаму ў жыцці засталіся адны.

— Я то пэўна ведаю, — казала Галіна. — Чытала многа, рамантычная надта была. А ў жыцці мае героі аказаліся куды больш зямнымі. І недахопаў у іх было ўга як многа. Карацей, так нікога з тых, хто на кніжнага прынца быў падобны, і не сустрэла. Азірнулася — 25, сяброўкі дзяцей нараджалі, клічуць у госці, а мне балюча ехаць…

За акном неяк раптоўна пацішэла, з-за фіранак пацягнула прыемным халадком. Праз колькі хвілін цішыні нясмела падаў голас цвыркун. Смялеў, набіраў моц і ўрэшце зазвінеў пад самым акном, галасіста, чысцютка, аж не верылася, што гэты гук ад нейкага жука, на выгляд далёка не прыгажуна.

— Ну, я вам галаву задурыла, а час ужо не ранні, пара класціся адпачываць, — сказала Галіна і ўзнялася з-за стала.

Віктар міжволі спрактыкаваным рухам глянуў на гадзіннік — палова дванаццатай. Час нечакана для яго праляцеў хутка. Ён не ўтрымаў свайго жадання, і салодка, далёка адкінуўшы рукі назад, пацягнуўся ўсім целам. Атрымалася неяк зусім па-дамашняму.

— От, нядрэнна б было гадзін дваццаць пяць пацiснуць вухам на падушку! — засмяяўся сам, хоць адчуў сябе з-за свайго пацягвання трошкі ніякавата.

— Можна і дваццаць пяць, я ж не пярэчу, — адказала, як паабяцала Галіна. — Тут вас ніхто не пабудзіць, ніхто не перашкодзіць. Да гадзін трох дня горача не будзе, выспіцеся на тыдзень. Дзе мне вас пакласці?

Спытала спакойна, вельмі нават проста, але гэтая прастата насцярожыла, захвалявала Віктара. Тое кароткае жаданне, якое ўзнікла падчас назірання за Галінай, калі тая прыбірала са стала, цяпер выразна акрэслілася, стала дамiні-

руючым сярод іншых жаданняў. Ды, што тут казаць, апошні раз ён спаў з жанчынай якраз перад тым, як першы раз купіць газету са знаёмствамі. І ён жадаў, увесь вечар жадаў Галіну. І прызнацца: гэта жаданне нарадзілася ў глыбіні свядомасці кволым парасткам з першым яе лістом, так і жыло, больш абстрактнае, не асэнсаванае да канца да гэтага дня. І амаль штовечар уяўлялалася яму іх першая ноч. Хоць і гнаў ад сябе гэтыя ўяўленні, і сам перад сабой саромеўся іх, бо задужа па-дзіцячы гэта выглядала для яго, саракагадовага, але ў гэтым чаканні і ўяўленні было нешта даўно забытае ім, прыемнае, рамантычнае і светлае. Ён стрымліваў тады сябе, хоць і не мог зразумець, што яго прымушала тое рабіць: літаральна красці ў самога сябе свае ж думкі, хаваць ад самога сябе свае ж жаданні. Не мог зразумець, што прымушае і цяпер стрымлівацца, што перашкаджае адчуваць задавальненне, калі ён крадком заглядвае ў глыбокі выраз яе халата, ці, калі позірк быццам міжволі, але сквапна ўхопіць пругкія, загарэлыя ногі, як адхінецца вольна крысо халата.

Можа, таму не мог цяпер Віктар цалкам атрымаць асалоду ад сваіх пачуццяў і ад прадчування блізкасці, што быў амаль упэўнены: гэты вольны халат, які толькі на поясе перахоплены шырокай стужкай, яна, Галіна, апранула спецыяльна. І над сталом нахілялася невыпадкова, і станік не апранула (гэта Віктар заўважыў) дзеля гэтых самых нахілаў, і нагу на нагу клала з пэўным разлікам. Ён думаў, што разумее яе гэтыя маленькія хітрыкі, і не асуджаў. Але разуменне штучнасці ў яе паводзінах прымушала і яго паводзіць сябе недзе ўнутры крышку штучна, не давала волі пачуццям заваладваць ім.

«Дзе мне вас пакласці?» — з напускной лёгкай турботай спытала Галіна, а ён быў упэўнены: яна прапаноўвала яму адказаць гэтак жа проста, можна і з лёгкім здзіўленнем: «Ды з вамі ж побач!». Яна на гэта зноў адкажа нешта падобнае, жартаўлівае, кшталту «А памесцімся ўдваіх?». Ён працягне ў тым жа стылі.

Галоўнае ж — пачаць цягнуць вось гэты ланцужок, у якім кожнае звяно рабілася ўсё больш празрыстым, але заставалася моцным: нават самую рызыкоўную прапанову можна было ўспрыняць як жарт дарослых людзей. І пажартаваць, а на самай справе прапанаваць самае сур'ёзнае. І з жартам, з жартам ісці і ісці да таго самага моманту, калі словы ўжо не будуць патрэбны. Дарэчы, усю ноч можна перавесці ў такую гульню. А ў выпадку чаго і яму, і ёй можна потым апраўдацца: «То ж было несур'ёзна».

Віктара і цягнула адказаць якім рызыкоўна-сур'ёзным жартам, але гэта выглядала для яго задужа ўжо проста, наіўна, аж пошла. Быццам яны пачыналі гуляць у хованкі: ён ведае, куды схаваецца яна, ды ўсё адно шукаць пойдзе ў другі бок, а яна ведае, што ведае ён, ды бяжыць хавацца ўсё адно ў тое месца, бо ведае, што шукаць ён пойдзе ў іншы бок. Такія правілы.

І Віктару стала нешта аж брыдкавата. Ну, як дарослым людзям у нейкія гульні гуляць? На якую халеру трэба гэтыя ўмоўнасці? І раптоўна ў той жа час нясцерпна захацелася пакласці руку на яе круглае калена, адчуць цёплую аксамітнасць скуры, правесці рукой вышэй, вышэй... Ды яшчэ цвыркун на вуліцы, цішыня і ўсведамленне таго, што астатнія людзі так далёка ад іх...

Віктар задушыў сваю прыкрасць, адмахнуўся ад разважанняў, што назойліва свідравалі мозг, і адказаў з лёгкай тэатральнасцю ў голасе, каб прадоўжылася гульня:

— Я на новым месцы, бывае, адзін баюся спаць. З дзяцінства засталося.

Галіна засмяялася.

— Вось не думала, што ў такім мужчыне сядзіць маленькі хлопчык, што цемры баіцца. Ну, нічога, я вам начнічок запалю.

Віктар у думках чартыхнуўся — Галіна адказала не зусім па правілах. Яна альбо штурхае яго на вельмі ўжо рызыкоўную прапанову. Можа, хоча, каб ён

адразу прызнаўся, што жадае яе? А можа, яна на самай справе пыталася аб усім шчыра, можа, ні аб якой гульні ў словы і не думала?

У гэты ж момант Віктар вырашыў: калі ў іх не будзе блізкасці ў цяперашнюю ноч, то ўсё згубіць сэнс, усё будзе нелагічным, несправядлівым. Ён бадай што запанікаваў, пачуцці яго былі блізкімі да тых, калі спыніўся на падворку Галіны перад замкнёнымі сенцамі. Яму нельга дапусціць…

Заставалася адно: трэба было вось цяпер, зараз жа пачаць казаць сур'ёзна аб сур'ёзным: што яны не дзеці, што ложак, асабліва ў іх узросце, — рэч важная. То няблага было б адразу, як гэта ні будзённа гучыць, праверыць: ці падыходзяць яны адно аднаму ў ложку… І потым… яны дасткова даведаліся адно аб адным, абое вольныя людзі, то чаму не атрымаць тое, чаго даўно ўжо не маюць?

Але замест таго, каб агучыць свае думкі, Віктар пачаў нетаропка даставаць пачак цыгарэт. Ён проста спалохаўся самога сябе, якім павінен быў бы стаць праз імгненне: збоку магло выглядаць так, як быццам ён упрошвае гэту жанчыну…

— Ведаеце, што мяне ў вас здзівіла? — спытала нечакана сур'ёзна, без усмешкі Галіна, пальцамі камечачы ражок абруса. — Вы напісалі мне ліст, самы першы, і не прасілі фотаздымак. І ў далейшых лістах не патрабавалі, каб я даслала вам сваё адлюстраванне ў купальніку ці ўвогуле без яго. А абсалютная ж большасць мужчын найперш іменна гэтага і патрабуе… Ну, гэта я разумею. А вы мяне і ў купальніку не бачылі. А я лічу — трэба. То вось я зараз перад вамі — якая ёсць…

Адным нетаропкім, лёгкім рухам яга расхінула халат. Цяжкая матэрыя пасунулася ўніз, яна ўтрымала яе, перахапіла халат на руку. Крыху пастаяла, потым павярнулася спінай, зноў тварам.

Віктар не адводзіў вачэй.

— Ну, вось, ніякіх асаблівых заганаў не маю і ногі аднолькавай даўжыні. За сабой, як бачыце, — яна правяла па круглявым жываце рукой, — гляджу, як умею, тлушчам не заплыла...

Спакойна накінула халат на плечы, захінулася.

— Мы не прызнаваліся адно аднаму, але, можа, некалі разам жыць… То… Мы дарослыя людзі. А ў нашым узросце кожная дробязь ролю адыгрывае. Чаго тут хавацца? Давайце хоць пераначуем разам напачатку… Ідземце за мной, я паслала нам. Нас ніхто не патурбуе.

Яна павярнулася, пайшла, азірнулася праз тры крокі.

— Калі вы мяне… калі вы са мной спаць не хочаце, ну, не спадабалася я вам, ці лічыце, што не трэба спяшацца ў ложак разам, ці так нешта мо падумалі, то ў другім пакоі ёсць канапа. Там таксама паслана. Калі ласка, я не закрыўдую. І нічога тлумачыць не трэба.

Віктар быў ашаломлены.

Яна чакала адказу, а ў яго перад вачыма, у святле настольнай лямпы на фоне цёмнага акна ўсё яшчэ стаяла яе постаць: постаць маладой жанчыны, кожная клетачка цела якой, яму здавалася, крычала ў знямозе ад чакання мужчынскай ласкі. У тым, што зрабіла Галіна, не было ні штучнасці, ні гулівасці, ні пошласці. З такім Віктар сутыкнуўся ўпершыню. Яна і прапаноўвала сябе — і не прапаноўвала адначасова, і клікала і маўчала…

— Я не хаджу налева-направа. Я прама іду, — заспяшаўся з адказам Віктар. — Калі дазволіце, пакуру пайду…

— Тут курыце. Акно ж адчынена. — Яна зірнула на Віктара неяк асабліва, так, што на адно кароткае імгненне яму падалося, што гэта жанчына — жонка яму, і жонка даўно, што недзе ў гэтай вялікай хаце спяць іх дзеці, а яны вось сядзелі, чакалі, калі яны паснуць, каб легчы самім і падарыць адно аднаму тое, чаго даўно кожны з іх прагне.

Яна зайшла ў пакой, дзверы толькі напалову прычыніла. Віктар бачыў край высокага ложка з блакітнавата-белай бялізнай. Ён не запальваў, чакаў таго моманту, калі яна ляжа ў ложак.

Але яна не лажылася.

І ён прыпаліў цыгарэту. І амаль адразу ж патушыў. «Ідыёт! Яго жанчына распранутая чакае, а ён курыць рассеўся!» — вылаяў сябе.

Прайшоў у куток да рукамыйніка, скінуў майку, стаў чысціць зубы, старанна памыўся. Доўга выціраўся.

Сеў каля адчыненага акна і прыпаліў цыгарэту. Не так проста было зайсці ў той пакой і курыць хацелася, асабліва пасля смаку пасты.

Пакурыў, патушыў святло. Пайшоў да прычыненых дзвярэй, адкуль клаўся на падлогу востры чатырохкутнік хваравіта-жаўтушнага святла.

...Яна прыціснулася да яго ўсім целам: грудзямі, жыватом, нагамі і папрасіла-папярэдзіла:

— Я шэсць гадоў ужо без мужчыны... І не раджала ж яшчэ. А вы... ты толькі не крыўдуй: я ж не нейкая там секс-бомба, я ўвогуле нічога не ўмею. Я так хвалююся, так баюся...

Яна раптоўна стала для Віктара слабай, няшчаснай, якую трэба суцешыць, парадаваць, і гэта супакоіла, бо і сам хваляваўся не на жарт. Ён адчуў сябе пасля яе слоў не проста дужым і вялікім, а адказным, здольным на нешта незвычайна добрае.

...У іх усё атрымалася. Не пошла, а шчыра, з павагай адно да аднаго, з увагай да жаданняў другога. Без прытворства, без штучнасці. Па-дамашняму цёпла, па-вясковаму спакойна і па-даросламу без лішняй сарамлівасці...

Няхай і не дваццаць пяць, але гадзін дзесяць Віктар спаў.

Прачнуўся. Было ціха, быццам на дне яміны. Глядзеў у столь. Успамінаў вечар і ноч. Неяк зладзеявата, пакрысе, з цёплай утульнай цемры той ночы вылезла непрыемная думка, пачала казытаць, вярэдзіць: а што, калі яна прытваралася? Яе боязь і хваляванне, яе прага быць некім абароненай, яе жаданне ціхай радасці — раптам усё гэта несапраўднае? Раптам гэта ўсяго толькі такі прыём, каб адно яму, Віктару, надаць сілы, каб толькі сам Віктар стаў больш упэўнены? Начыталася там у бібліятэцы Фрэйда...

Віктар адчуваў сябе ў нечым падманутым. Вось толькі ў чым — зразумець не мог. З'явілася прадчуванне нейкай бяды, варушылася калючым шарыкам. І гэта прадчуванне лезла ва ўчарашні дзень і там шукала адказ. Як падказвала: цяпер млосна не ад таго, што нешта будзе, а ад таго, што ўжо адбылося.

Віктар ляжаў ужо хвілін дваццаць, але ў хаце заставалася гэтак жа ціха. Паглядзеў на гадзіннік: хутка адзінаццаць.

Стаў думаць аб тым, што будзе сёння рабіць. І спатыкнуўся літаральна адразу ж: сённяшні яго дзень не залежаў і не мог залежаць ад яго аднаго. Можна будаваць планы, але прыйдзе хвіліна, калі з'явіцца нешта, што парушыць увесь наладжаны рытм. Гэтае «нешта» — Галіна.

Віктар устаў з канапы, нацягнуў спартыўныя штаны, выйшаў на першую палову. Галіны нідзе бачна не было. Праз акенца на кухні агледзеў сад і агарод: так і ёсць, далёка, ля самай копанкі Галіна ў купальніку, здаецца (яна ж спецыяльна для яго так адзелася!), палола бульбу.

Сквапна піў ваду — халодную, нядаўна прынесеную са студні. Потым мыўся, курыў ля адчыненага акна, не крануўшы накрытае ручніком сняданне на стале.

Віктар знайшоў магчымасць выпусціць на волю і сваё трэцяе «я». Тое, якое магло назіраць спакойна за двума другімі. І цяпер гэтае «я» з сумам канстатавала, што кволаму і рамантычнаму першаму «я» ў асобе Віктара засталося жыць мала. Што ён даўно педант і практык, сухі аналізатар падзей,

з'яў і пачуццяў. Што другое «я», цвярозае і прагматычнае, ніколі не змірыцца з тым, каб нехта іншы мог уплываць на яго больш за 8 гадзін у дзень пяць дзён на тыдзень. Што адна справа — быць з жанчынай у думках разам і нават адну ноч рэальна паспаць з ёй, і зусім другое для яго — выносіць яе прысутнасць, яе жаданні, падладжвацца пад яе з дня ў дзень, з месяца ў месяц, з году ў год...

Віктар зладзеявата зазірнуў у акенца на кухні — Галіна па-ранейшаму корпалася ў бульбе. Ён спахапіўся і пачаў спешна збіраць свае рэчы. За якую хвіліну пераапрануўся, паляпаў сябе па кішэнях — усё на месцы. Асцярожна прыадчыніў дзверы сянец, праціснуўся на ганак. І пайшоў, хутка пайшоў да веснічак, далей, далей — на тую шашу. Павярнуў — і не змог не азірнуцца.

Галіна стаяла сярод бульбяных разораў, у блакітным купальніку, глядзела на яго. Ён сціснуў зубы, але прымусіў сябе не спыняцца, не махаць рукой, а ісці, ісці, ісці...

«Дзень добры, Галіна!

Толькі вось цяпер зразумеў, што мяне вы маглі б палічыць і за злодзея...

Не буду ні прабачэння прасіць, ні апраўдвацца. Адзінае, што мне цяпер хочацца і што ад мяне патрабуе маё сэрца, — сказаць вам «дзякуй». Не, не за смачны абед, не за вечар цудоўны, не за чароўную ноч.

Калі ехаў да вас, пабачыў на аўтастанцыях, на схемах-картах: там лініі маршрутаў, дарогі... Дык вось, на кожнай станцыі на такой схеме сама станцыя пазначана вялі-і-кім кружком. А ўсе астатнія — малымі. Хоць на самой справе яны куды большыя.

Так і людзі. Кожны лічыць, што вакол яго круціцца зямля. Ну, правільна, так тое і ёсць.

Але каб жыць удваіх, трэба прызнаць, што яшчэ адна кропка на карце мае такую ж велічыню. Як кажуць, з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі.

Ведаеце, Галіна, якая між намі розніца?

Вы гэтыя гады, жывучы ў адзіноце, збіралі кропелька да кропелькі сваю пяшчоту і клопат. І гатовы падзяліцца гэтым цяпер хоць са мной.

А я ўсе гады сваёй адзіноты прывучаў сябе жыць адзін. Толькі за сябе адказваць, толькі з сябе за ўсё пытаць. Я забыў, калі рабіў глупствы ці непатрэбныя рэчы. Я — заведзены сам сабой аўтамат. Я — тая самая кропка на карце, якая думае, што вакол яе круціцца сусвет.

Вы адчуваеце, якая між намі прорва? Вы разумееце, у што б ператварылася наша сумеснае жыццё?

Але... Я мару аб тым, што некалі мы яшчэ пасядзім каля адкрытага акна насупраць куста язміну. Сёння выйшаў з прахадной — а тут дождж. Я скінуў туфлі, шкарпэткі, укінуў іх у сумку, падкасаў штаны і пайшоў пешкі — па лужынах на цёплым асфальце. Значыць, я яшчэ на нешта здатны. Праўда?

Не маю права вас прасіць — ды буду чакаць адказу. Ці патэлефануйце.

Дарэчы, дзякуй і за тое, што не сталі мне першай тэлефанаваць і пытацца... Я толькі цяпер, вярнуўшыся з завода, скінуўшы мокрую вопратку і, седзячы на кухні, магу адказваць на пытанні...»







## Мікола КАНДРАТАЎ

* * *

*Памяці бацькі*

Твой голас нечакана сціх.
Памёр, як жыў, у непакоі,
яшчэ паспеўшы пры жыцці
вясёлцы памахаць рукою.

У плыні дум знайшоўшы брод,
пайшоў шукаць прытулак вечны…
На твой вясновы адыход
каштаны запалілі свечкі.

### НОЧ ПЕРАД ХРОСТАМ

Маланка высвеtліць мой страх —
там, за парогам.
Праз навальніцу пройдзе шлях,
праз ночы рогат.

Гром бліскавічнага крыжа —
адно маліцца.
Баіцца грэшная душа
мацней — спазніцца

блакіту неба прысягнуць
у гэтым свеце,
аддаўшыся зямному сну,
нібыта смерці…

Аціхнуў дождж. Сустрэла ціш
перад царквою.
Зазяла сонца, быццам крыж,
над галавою.

---

***Кандратаў Мікалай Мікалаевіч*** *нарадзіўся 20 мая 1957 года ў вёсцы Замосце Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў матэматычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1978). Працаваў у Вілейскім ГПТВ № 48. Служыў у Савецкай Арміі. Цяпер працуе праграмістам у Мінскім вытворчым аб'яднанні вылічальнай тэхнікі.*

*Аўтар кнігі вершаў «Возера Рудакова».*

## ЧАРОМХАВЫЯ ВОЧЫ

Нішто дзяцінства не азмрочыць,
тых школьных сцежак, што звялі
з дзяўчынкай, у якой былі
чаромхавыя вочы.

Блішчала сонца ў коле дзён,
лагодзіў месяц сон дзявочы.
І сэрца ўзяць змаглі ў палон
чаромхавыя вочы.

Нас раскідала па зямлі,
ды сэрца ўсё забыць не хоча
дзяўчыну, у якой былі
чаромхавыя вочы.

Былое сэрцу даражэй.
Хай шчасце побач з ёю крочыць!
Напэўна, і ў яе дзяцей —
чаромхавыя вочы.

* * *

Мёд не загуснуў у сотах.
Вечар — бы вечнасці ўздых.
Сонца хаваецца ў соснах,
ты — у абдымках маіх.

Сэрцаў прыціхлых трымценне,
вуснаў пунсовы касцёр.
Доўжыцца гэта імгненне
больш за зямное жыццё…

Я пасля нашай сустрэчы,
пэўна, зусім не засну.
Сэрца змагло б і ў галечы,
восень прымаць за вясну.

* * *

Нам верасень вяртае цеплыню,
якую год у чэрвеня пазычыў.
Дзівіся, сэрца, сонечнаму дню
і небу, летуценнаму надзвычай!

Нічога больш у неба не прасі —
удзячным будзь яму без разумення,
як кропелькамі сонечнай расы
у свеце загараецца натхненне.

* * *

Калядны снег злятае на далонь.
У зморшчынках тваіх — яго святло,
нібы анёла белае крыло
нарэшце спаталенне нам дало.

Пяшчота неба льецца цераз край,
і ты мяне за лёс не дакарай.
Як музыка, што мроіў Длугарай,
нас паглынае беласнежны рай.

І мы нібы вяртаемся назад
ад сумных недарэчнасцей і страт,
бы Ева і Адам — у райскі сад,
у свята цудадзейнае Каляд.

Дзе позніх дзён не змелена мука,
дзе мары серабрацца, як луска,
ледзь чутна шчасця плешчацца рака,
дзе — у маёй руцэ твая рука.

* * *

Недасканалы й разам з тым чароўны,
свет вабіць чалавекам, дрэвам, зверам.
Меркурый мне спрыяе ў час вандровак,
дапамагае вымавіцца вершам.

Трывожным крокам сустракаю золак
зямлі, дзе можа шчасце прытаіцца.

І коціцца маёй фартуны кола,
і мільгаціць святло гадоў на спіцах.

Сто раз губляю месяц сярод зорак,
але ён мае здольнасць уваскрэснуць.
За моракам нарэшце бліснe мора,
а горкі смак змяняецца на прэсны.

А ў ясным небе сонца, як крыніца,
струменіць промні, бы ваду жывую.
І словы з цёплым пахам медуніцы
у сэрцы гояць рану нажавую.

## РАЗВІТАННЕ АНАТОЛЯ СЫСА

Запаліце свечку нада мной,
хай асветліць пройдзены ўжо шлях —
з ісцінай стасункі і з маной
і палёты на сямі вятрах.

Запаліце свечку нада мной —
жоўты ветразь кволага агню
хай асветліць шлях душы маёй
з існасці, што болей не прысню.

* * *

Дарэмна сваю маладосць я гукаў —
ні слоў суцяшальных, ні радасці гукаў.
У дні пераспелым мой голас блукаў,
дарэмна я ноч вераснёвую слухаў.

Дарэмна цябе я імкнуўся вярнуць
з празрыстых аблокаў, з вясёлага ветру —
у цёмным блакіце пагляд мой тануў.
Што гэта магчыма, і сам я не верыў.

Але спадзяваўся, што скончыцца век —
і новы пачнецца, як ранак вясновы.
І хтосьці памкненні мае назаве
мажлівай сцяжынай у свет каляровы,

які падсвядома шукаў я і жыў —
амаль што шчаслівы — з самотай зямною.
І плакалі разам са мною дажджы,
і сонца смяялася разам са мною.



## ПРОЗА



**Уладзімір ЛІПСКІ**

# ЯНКАЎ ВЯНОК

***Раздзелы з аповесці***

*Янка Купала... У гэтых двух словах усё чалавечае жыццё. Са сваімі датамі. Са сваёй біяграфіяй. Але справы Янкі Купалы не ўмяшчаюцца толькі ў тыя гады, калі ён жыў. Яны сягаюць і ў наш дзень, і ў новыя стагоддзі, якія будуць за намі. Вось чаму Янка Купала для нас не толькі народны паэт. Ён — геній, прарок, дудар, наш духоўны сцяг, пад якім мы крочым у будучае, у тую сапраўды суверэнную, незалежную Беларусь, аб якой сніў свае сны, аб якой марыў, за якую змагаўся Паэт.*

*Уладзімір Ліпскі напісаў для юных чытачоў аповесць «Янкаў вянок». Гэта па сутнасці першы аб'ёмны і аб'ектыўны твор для дзяцей пра Янку Купалу, яго радавод, нялёгкае жыццё і ўзнёслую, прарочую творчасць. Аповесць Уладзіміра Ліпскага — гэта жывыя ўрокі Купалавай мудрасці, бязмежнай любові да нашай мілай Беларусі. Яна адрасавана бацькам, настаўнікам, выхавальнікам, студэнтам, школьнікам — усім, хто пажадае наталіцца гаючым Купалавым Словам, хто захоча сваёй душой зразумець душу нашага Генія.*

*Часопіс «Полымя» прапануе чытачам асобныя раздзелы з аповесці Уладзіміра Ліпскага «Янкаў вянок».*

*Песняра святое імя*
*Навекі ў сэрцы захаваем.*

Якуб Колас

## *Купалава дрэва*

У кожнага чалавека, як і ў кожнага дрэва, — свае карані, ствол, галіны, верхавіна.

Карані — гэта людзі, з якіх некалі пачаўся сямейны радавод. Ствол — гэта своеасаблівая лесвіца, па якой уздымаюцца ў гісторыю ўсё новыя нашчадкі ад аднаго і таго ж спадчынніка. Галіны — гэта блізкая радня таго, хто трымаецца

---

*__Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч__ нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». З'яўляецца старшынёй праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар звыш сарака кніг для дарослых і дзяцей. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.*

на стрыжні радаводнага дрэва. А верхавіна — гэта месца самага маладога з усёй радні.

Радаводнае дрэва звычайна складаецца па мужчынскай лініі. Ім, хлопцам ды мужчынам, прызначана з годнасцю несці па жыцці прозвішчы пачынальнікаў свайго роду. А дзяўчаты, як вядома, у замужжы страчваюць бацькава прозвішча.

Дык якое ж радаводнае дрэва ў нашага геніяльнага паэта Янкі Купалы? Хто, якія людзі перадалі яму сваю ўзнёслую душу, дабрыню, мудрасць?

Найперш адзначым, што сучасныя гараскопы вызначаюць жыццёвым дрэвам Янкі Купалы вечназялёную елку. Вось на яе густой, іглістай кроне мы і размесцім радавод нашага Песняра, продкі якога насілі прозвішча Луцэвіч.

Архівісты і даследчыкі змаглі зазірнуць толькі ў семнаццатае стагоддзе. Яны ўстанавілі, што трыста гадоў назад на Беларусі жыў Станіслаў Луцэвіч. Ён валодаў невялікім маёнткам Кукялёўшчына з вёскамі Слабодкаю і Цярпілаўкаю. Быў панам не вельмі важным, як тады казалі, «дробным багацеем», але меў званне двараніна і свой сямейны герб. Зямля і хата Станіслава Луцэвіча знаходзіліся на Міншчыне, на тэрыторыі цяперашняга Стаўбцоўскага раёна.

Для цікаўных краязнаўцаў падкажам, што ў 1780 годзе Луцэвічы прадалі Кукялёўшчыну і Цярпілаўку заможнаму шляхціцу Драздовічу. Ён аб'яднаў гэтыя паселішчы і назваў іх у свой гонар Драздоўшчынай. І цяпер на Стаўбцоўшчыне ёсць такая вёска на рацэ Уса. Там засталося мала хат і жыхароў. Сучасныя людзі, можа, і не ведаюць, што жывуць на зямлі, на якой дбаў пра хлеб і любаваўся мясцовымі краявідамі далёкі прашчур Янкі Купалы Станіслаў Луцэвіч.

На другой галіне радаводнага дрэва — дзеці Станіслава. Іх трое: Васіль (раней называлі Базыль) і два Іваны (Янкі). Загадкай застаецца рашэнне бацькоў назваць сваіх сыноў адным імем. А можа, гэта рашэнне святара, які хрысціў дзяцей? Даўней было так: у дзень якога святога нараджалася дзіця, такое імя і давалі новanароджанаму. Вядома, што ў царкоўным календары 168 дзён памяці святых Іванаў.

Пра дзяцей Станіслава мала што вядома. Толькі з прывілеі князя Радзівіла ад 9 снежня 1692 года даведваемся, што «зямяне» Ян, Базыль і Ян Луцэвічы атрымалі засценак Лазараўшчына. Засценак — гэта невялікае паселішча. Некалькі хат і зямля, якая здавалася ў арэнду беднай шляхце. Гэты дар Луцэвічы атрымалі не ў вечнае карыстанне, а толькі на той час, калі будуць здаваць плацяжы — чынш.

Давайце запомнім тую Лазараўшчыну, бо Луцэвічы гнездаваліся там амаль два стагоддзі. У даўнейшых дакументах Лазараўшчына называецца па-іншаму — Луцэвічы. І гэта ўсё апраўдана. У тым паселішчы-засценку большасць жыхароў насілі прозвішча Луцэвіч. Яны ўсе былі раднёй. Там жылі і потам здабывалі сабе хлеб прадзед Купалы Дамінік, дзед Ануфрый. Там нарадзіўся і яго бацька — Дамінік.

А яшчэ Лазараўшчына мела назву Пяскі. Відаць, самі Луцэвічы так празвалі свой «маёнтак», бо землі там пясчаныя, патрабавалі стараннага догляду. Кажуць, на тым месцы жывуць людзі па сённяшні дзень. Мне там не давялося пабываць, а ў старых дакументах сказана, што Лазараўшчына (ці Луцэвічы, Пяскі) знаходзіцца ў чатырох вярстах ад Магільна, пры дарозе, якая вядзе з Сямёнавіч да Прусінава. Гэтыя вёскі цяпер уваходзяць у склад Уздзенскага раёна.

Юрый Луцэвіч, прадстаўнік трэцяга калена радаводу, нейкі час служыў паручнікам Вялікага княства Літоўскага. Гэту пасаду ён атрымаў з дазволу самога караля Аўгуста III. А яго бацька Іван, Купалаў прапрадзед, быў у Радзівілаў дазорцам у маёнтку Святы Двор. Такі давер ён займеў і ад мясцовай

засцянковай шляхты, і ад магната Радзівіла, на зямлі якога жыў сам. Дазорцамі былі Іванаў сын Францішак і ўнук Людвіг. Архіўны дакумент сведчыць, што Луцэвічы «службу выконвалі акуратна і бездакорна, разбіралі і судзілі спрэчныя справы паміж арандатарамі, сачылі за тым, каб правільна і своечасова яны плацілі чынш».

Мы ўсё вышэй уздымаемся па радаводным дрэве Луцэвічаў. А чым вышэй, тым бліжэй да нашай сучаснасці, тым больш звестак збіраецца пра Купалаву радню.

Пра дзеда паэта Ануфрыя вядома, што ён нарадзіўся ў 1814 годзе. Пражыў 69 гадоў у Лазараўшчыне-Луцэвічах-Пясках. У яго была жонка Валерыя Зянковіч. У сям'і гадаваліся пяць сыноў і тры дачкі: Міхаіл, Дамінік (бацька Янкі Купалы), Адам, Антон, Юльян, Марыя, Эмілія, Садалія. Усе яны — родныя дзядзькі і цёткі паэта. А ў кожнага з іх — свае сем'і. Дык вунь колькі радні толькі па бацькавай лініі было ў малога Яся (Янкі, Іванкі) Луцэвіча, калі ён з'явіўся на свет.

## *Сямейны герб*

Даўней людзі мелі сямейныя гербы. Гэты спадчынны сімвал беражліва перадавалі з пакалення ў пакаленне. Ганарыліся ім. Па гербе, як па кнізе, чыталі гісторыю радаводу. Пры знаёмстве даводзілі: «Дваранін свайго герба...» І называлі яго. А яшчэ казалі: «Пакажыце мне ваш герб, і я скажу, якога вы роду».

А пачыналі гербавую традыцыю старажытныя воіны-рыцары. На турнірах і ў баявых паходах яны насілі на адзенні ці зброі апазнавальныя знакі-гербы. Пазней такія сімвалы займелі дваране, шляхта — вышэйшае саслоўе людзей, якія мелі чыны, узнагароды, зямлю. От і прымаўка жыла: «Шляхціц на агародзе роўны ваяводзе».

І Луцэвічы, продкі Янкі Купалы, мелі сямейны герб. Ён называўся паронаму — Навіна, Войня, Златагаленчык. У цэнтры герба — блакітны шчыт, а на ім — срэбраная падкова і срэбраны меч з залатой рукаяткай. Над шчытом — шляхецкая карона і сагнутая ў калене залатая нага ў латах і са шпораю.

Гэтым гербам даўней карысталіся 239 вядомых сем'яў. Сярод іх — Абрамовічы, Барташэвічы, Вольскія, Глінскія, Залескія, Ігнатовічы, Кавалеўскія, Лісоўскія, Мацкевічы, Навіцкія, Райскія, Савіцкія, Хмялеўскія, Янкоўскія...

Але чаму Луцэвічы выбралі сабе герб Навіна? Што азначаюць гербавыя сімвалы — срэбраныя падкова і меч, карона, залатая нага збройнага воіна ў даспехах? Вядома, што блакітны колер у шчыце азначае паветра, вольнасць, срэбра — нявіннасць, белізну, золата — багацце, сілу, вернасць, чысціню, пастаянства.

У старажытных геральдычных кнігах я адшукаў такую легенду. У ёй сцвярджаецца, што кароль польскі Баляслаў III Крывавусты ўпершыню «пожаловал» гэты герб у 1121 годзе аднаму свайму ротмістру. Прозвішча камандзіра коннай роты не захавалася, але яго подзвіг жыве ў вяках.

Нібыта той ротмістр-смяльчак два разы ратаваў караля. Аднойчы, рызыкуючы жыццём, замяніў параненага пад каралём каня сваім баявым канём. А другі раз, калі кароль і ротмістр трапілі ў палон і былі закаваны ў адну калодку-кайданы, воін не пашкадаваў свае нагі. Адсек яе і так вызваліў караля. Можа, таму яна, залатая, і ўвенчвае карону ў гербе? Можа, таму і ўпрыгожваюць шчыт герба меч смелага воіна і падкова баявога каня?

Дык вунь якія гераічныя сімвалы выбралі Луцэвічы для свайго сямейнага герба. Яны з веку ў век, як маглі, баранілі сваю Айчыну, зямлю, мову. І заставаліся рыцарамі сваёй веры, вольнасці і сваіх дзяцей.

Але ў гербе Луцэвічаў ёсць яшчэ адзін сімвал. І, як мне здаецца, самы знакавы. Карона, шлем і шчыт абрамлены прыгожымі стужкамі. Чым больш узіраюся ў іх, тым больш мне здаецца, што яны падобны на лісце папараці. Можа, далёкія прашчуры Купалы верылі ў дзівосную казку пра чароўныя кветкі папараці, якія з'яўляюцца зорнай ноччу на Івана Купалу? Можа, яны нястомна маліліся, каб у іхнім родзе калі-небудзь з'явіўся заступнік, той шчаслівец, які ўрэшце адшукае таемную кветку папараці і ўславіць увесь іх род?

Луцэвічы верылі ў лепшае. Яны былі невялікімі панамі. Валодалі кавалачкам радзівілаўскай зямлі і дамагаліся, каб і іх дзяцей называлі прыстойным дваранскім імем. Яны сабралі пэўныя дакументы і падалі іх у Мінскі дэпутацкі сход. Там Луцэвічаў абнадзеілі. 6 жніўня 1802 года іх род быў прызнаны ў шляхецкай годнасці і занесены ў першую частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Гэта рашэнне зацвердзіла Віленская цэнтральная рэвізійная камісія. Дакументы Луцэвічаў перадалі ў Пецярбург, у Службовую геральдыю Сената. Там яны правяраліся ажно сорак пяць гадоў. Амаль праз паўстагоддзя Луцэвічам было абвешчана, што іх род не зацверджаны ў шляхецтве. Маўляў, не хапае доказных дакументаў.

Дзед Янкі Купалы Ануфрый за пятнаццаць гадоў стаптаў не адны боты, збіраючы патрэбныя паперы. А яны, трэба ведаць, каштавалі тады вялікіх грошай. Але Луцэвічы ішлі на ўсё. І царскі Сенат яшчэ шэсць разоў разглядаў справу Луцэвічаў. Яна складалася з 1070 аркушаў паперы на рускай, польскай, лацінскай мовах. За гэты час новы ўладар маёнткаў і зямель князь Леў Вітгенштэйн сагнаў Луцэвічаў з наседжанага стагоддзямі гнязда. Пазбавіў патомных хлебаробаў зямелькі, на якой яны «кожны каменьчык на полі і кожны кусцік на сенажаці знаілі ўжо змалку як свае пяць пальцаў, на якой кожную скібіну потам крывавым скрапілі, па якой бацькоў на могілкі вывезлі».

Пасля выгнання з Пяскоў Луцэвічы ўзялі ў арэнду ў памешчыка Гаворкі фальварак Камень. І ў ім доўга не ўтрымаліся, пераехалі ў фальварак Раговічы ў Мінскай губерні. Там бацька Янкі Купалы Дамінік ажаніўся, пайшоў са шматдзетнай сям'і сваёй дарогай.

І хаця старажытны род Луцэвічаў з часам драбнеў, бяднеў, але духоўна яны заставаліся багатымі, ніколі не страчвалі сваёй шляхетнасці, былі вернымі свайму гербу Навіна. Калі нарадзіўся Янка Купала, у метрычнай кнізе Радашковіцкага касцёла запісалі, што законныя бацькі дзіцяці Дамінік і Багуміла — дваране. Думаецца, гэта засведчана святаром па іх просьбе альбо з іх згоды.

## *Багуміла і Дамінік*

У высокім небе, дзе зіхацяць зоркі розных велічынь, Янка Купала вылучыў чатыры:

Першая — бацькава зорка яснела,  
Маткі — другая глядзела ў свет горка,  
Трэцяя мне мігацела нясмела,  
Роднай зямелькі — чацвёртая зорка...

Што мы ведаем пра дзве зямныя, чалавечыя зоркі, якія з'ядналіся ў сям'ю і нарадзілі нашай Беларусі, усёй планеце Янку Купалу?

На жаль, вельмі мала захавалася ўспамінаў пра маці і бацьку народнага паэта. Не напісаны іх поўныя біяграфіі. Маем толькі асобныя фотаздымкі, адзінкавыя партрэты.

А што ёсць пра Багумілу і Дамініка Луцэвічаў у розных пісьмовых крыніцах?

Бацька паэта Дамінік Ануфрыевіч пражыў на свеце ўсяго 56 гадоў. У маі 1846 года нарадзіўся, у маі 1902 года памёр. Кажуць, ён быў высокага росту, бландзін, насіў вусы і бародку. Па натуры — добры, вясёлы, гаваркі. Любіў шпарка хадзіць. Апранаўся чыста, акуратна. Быў хударлявы, хваравіты...

А галоўнае — усё жыццё служыў зямлі. На ёй нарадзіўся і вырас. Ёй аддаў усе свае жыццёвыя сілы.

Відаць, самым знакавым у жыцці Дамініка Луцэвіча было яго каханне да прыгожай дзяўчыны Боні. Ён спаткаў яе ў фальварку Няшота, на Стаўбцоўшчыне, у сям'і арандатараў Валасевічаў.

Як жа і калі сустрэліся і пазнаёміліся Дамінік і Боня, Бянігна Валасевіч? Бацька Дамініка недалёка ад Няшоты арандаваў кавалак зямлі ў паноў Завадскіх. Мо ўбачыліся калі ў полі ці на дарозе? Мо былі разам у касцёле і абмяняліся позіркамі, якія кальнулі ў сэрца?

Калі яны пазнаёміліся, Дамініку было 33 гады, Боні — 22. Пра іх каханне і жаніцьбу, відаць, нехта ў будучым напіша захапляльны раман. Мы ж толькі ведаем, што маці Боні Кацярына Валасевіч, валявая і рашучая гаспадыня, забараняла маладым сустракацца.

Вось што прыгадала пляменніца Бянігны Ядвіга Антонаўна Дзяўго:

«Бабка наша, Валасевічыха, была жанчына моцная і на руку, і на характар. Мела амаль шэсцьдзесят гектараў зямлі. Усюды сама ўпраўлялася, вельмі руплівая была. Хацела, каб усе дзеці былі каля яе, каб усе працавалі на зямлі. Каб выдаць замуж дачку за нейкага беднага арандатара, і слухаць не хацела. Аднаго разу палеглі ўсе спаць, а Боня сабрала свае сукенкі, яшчэ нешта і праз акно выскачыла ў сад. Там яе ўжо Луцэвіч чакаў...»

Няйначай, як у камедыі Янкі Купалы «Паўлінка». Там, у фінале, ёсць такая сцэнка. Паўлінка са сваімі вузламі, у якіх адзенне, чаравікі, падушкі, коўдра, хоча выскачыць у расчыненае акно да свайго каханага Якіма. Яе заспяваюць маці Альжбета і бацька Сцяпан. Адбываецца такая размова:

«*Альжбета.* Што ты, дзеткі, здурэла, ці што?..

*Сцяпан.* Ты гэта, каханенькая, родненькая, куды манілася ляцець?

*Паўлінка.* Я!.. Я... хацела замуж ісці!

*Сцяпан і Альжбета.* Праз акно?!

*Паўлінка.* А што ж, калі татка і мамка праз дзверы не пускаеце».

Так у спектаклі.

А ў жыцці, мы ведаем, маці Боні Кацярына Валасевіч урэшце змірылася. Маладыя павянчаліся. Валасевічыха ездзіла нават у Вільню і купіла ікону Маці Божай Вастрабрамскай і перадала яе ў Рубяжэвіцкі касцёл, дзе вянчаліся Бянігна і Дамінік.

Боня, Бянігна Луцэвіч мела яшчэ адно імя — Багуміла. Мілая Богу! Яна і сапраўды была мілая небу і людзям, а найперш — свайму любаму Дамініку, сваім семярым дзеткам. Яна дачакалася ўнукаў і праўнукаў, бо пражыла 85 гадоў. Яны і цяпер, успамінаючы яе, называюць пяшчотна «наша бабуня».

Са слоў сясцёр Купалы Ганны, Леакадзіі, Марыі даведваемся, што Бянігна-Багуміла Луцэвіч была «трохі вышэй сярэдняга росту, валасы мела цёмныя, доўгія, яна іх зачэсвала ўверх, высока закручвала «куклу», вакол якой павязвала хустку, вочы ў яе былі карыя. Спадніцы насіла доўгія, уверсе ў зборкі, больш аднакаляровыя, паверх спадніцы павязвала фартух...» Яна была прыгожая. Па натуры спакойная, ураўнаважаная, маўклівая. Добра спявала. Ведала шмат паданняў, казак, легенд. Знешнім выглядам і характарам Купала быў падобны да маці.

Янка Купала вельмі шанаваў сваю маці. Апошнія амаль два дзесяткі гадоў яна жыла ў яго сям'і ў Мінску. Ёй прысвечаны вершы «Матцы», «За што?..»,

«Сын і маці». У іх, як і ў многіх іншых сваіх творах, Купала ўзняўся да вобраза маці Беларусі, да высокага разумення Бацькаўшчыны. Учытайцеся ў хрэстаматыйны верш «Спадчына», услухайцеся ў песню з такой жа назвай, якую разнёс па ўсім свеце слынны беларускі ансамбль «Песняры», і вы шмат што зразумееце:

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай...

У канцы верша-песні Янка Купала тлумачыць, што «завецца ж спадчына мая ўсяго Старонкай Роднаю». Горача любіць сваю радзіму Беларусь навучылі сына-паэта яго бацька Дамінік, нястомны слуга зямелькі, яго мілая Богу маці Бянігна-Багуміла.

На Вайсковых могілках у Мінску на помніку з чорнага граніту пазалочанымі літарамі напісаны даты жыцця Бянігны Іванаўны Луцэвіч і словы з верша «Мая навука» яе любімага сына Янкі: «Навучыўся я слоў беларускіх ад маці...»

## *Калыска ў Вязынцы*

У бацькоў, якія кахаюць адно аднаго, звычайна нараджаюцца жаданыя дзеці. Даўней нават давалі ім такія імёны: Жадан, Дабрыня, Любім, Першын, Пястун, Чэкан, Хацян.

Свайго сына Багуміла і Дамінік запісалі Іванам, а паміж сабой называлі ласкава Янкам, Яначкам, Ясікам.

Будучы паэт з'явіўся на свет летам 7 ліпеня 1882 года. Сонца шчодра лашчыла людзей, зямлю. Пад яго наглядам было ўсё жывое ў прыродзе. Са з'яўленнем хлопчыка, здаецца, ажыла ўся Вязынка, дзе па тым часе арандавалі зямлю Луцэвічы. Тут, у фальварку пана Замбржыцкага, жылі дзядзькі Міхал, Антон, Юльян, цёткі Марыя, Эмілія, Садалія і бабуля Валерыя, якія віталі свайго нашчадка.

Сама пані Алімпія Замбржыцкая пагадзілася стаць хроснай маці Янкі. Паехала ў горад і купіла яму калыску. А можа, заказала гэту рэч у мясцовых майстроў, і яны выштуквалі тую зыбалку з ліпавых дошак.

У вершы «Да сваіх думак» Янка Купала разважае, адкуль жа ўзяліся яго «думкі-весялушкі». Можа, вецер вольны навеяў? Можа, бурлівыя паводкі з вадою прыгналі? Можа, прыгожая дзяўчынка нашаптала? Ды раптам узнікае яшчэ адна здагадка:

Ці ў калысцы у ліповай
Са мной узраслі вы,
Як дзіцём вучыўся мовы,
Вясёлы, шчаслівы?..

Чым гадаць-меркаваць, сядайце, сябры, у электрычку Мінск — Маладзечна і праз паўгадзіны выходзьце на станцыі Вязынка. Вас там адразу сустрэне бронзавы пясняр, якога ў свой час увекавечыў скульптар Заір Азгур. Ад помніка — прамой сцяжынкай да хаты, дзе некалі жылі арандатары Луцэвічы.

Заходзьце ў сялянскую хату, у якой цяпер музей, і адразу за белай печчу ўбачыце калыску. Яна падвешана да столі, ахутана саматканай посцілкай. Кожны раз, калі бачу гэту рэліквію, замірае сэрца: Божа мой, у такой жа

люльцы слухаў матуліны калыханкі будучы народны паэт! І, здаецца, у звонкай цішыні ажывае голас шчаслівай Багумілы, і з яе вуснаў гучаць паэтычныя радкі сына:

Люлі, люлі, мой маленькі!
Спі і сні вясёлкі-гулі,
Як жа вырасцеш вялікім, —
Не забудзься ты матулі.

Люлі, люлі, мой маленькі!
Спі, злажыўшы ўкрыж далонкі.
Як жа вырасцеш вялікім, —
Не забудзься ты старонкі...

У Янкі Купалы ёсць тры вершы пад адной назвай «Над калыскай». Напісаны яны ў розныя гады, але аб'яднаны адной думкай: «Дзеці, помніце маміну калыханку, шануйце маму!»

У хаце-музеі Янкі Купалы шмат даўнейшых рэчаў. Іх варта не толькі агледзець, а зразумець, для чаго яны патрэбны былі бацькам паэта, як жыла сям'я ў той год, калі нарадзіўся іх жаданы сынок.

Вось жорны — малоць муку. Ступа — таўчы крупы. Дзяжа — расчыняць хлеб. Куфар — складваць ручнікі, бялізну. Самапрадка, на якой маці прала кудзелю, каб пасля на кроснах ткаць палатно. На лаве каля печы — гліняны і драўляны посуд. Тут, кажучы словамі Янкі Купалы, «усякая рэч як гавора з табою...» Гэта «хатка сведкай была, як пазнаў божы свет» наш любімы паэт.

Пра Купалаву Вязынку добра сказаў слынны пісьменнік Уладзімір Караткевіч: «Тут прыгожа, і паступова пачынаеш разумець, што толькі на гэтай зямлі мог нарадзіцца чалавек з прыгожай душой».

Лётчык-касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза Уладзімір Кавалёнак, наведаўшы Вязынку, зрабіў на кнізе паэта такі запіс: «З вялікім хваляваннем, як перад стартам у космас, пераступіў я парог гэтай хаты. Тут нарадзіўся ён, Янка Купала, наш пясняр, наш народны паэт. Будуць праходзіць гады і стагоддзі, і новыя пакаленні з хваляваннем прыйдуць сюды, каб пакланіцца гэтаму кутку зямлі беларускай — дарагой і незабыўнай Вязынцы».

З душы народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі выліліся пра Вязынку радкі:

Мелі шмат мы раскіданых гнёздаў,
Дзе ні глянь — курганы, курганы.
Свет застаўся пахмурны і грозны
І пасля найвялікшай вайны.

Толькі Вязынку, хату Купалы,
Наш народ захавае навек,
Бо і сёння адгэтуль нямала
Пачынаецца песенных рэк.

## *Жыццё на калёсах*

У Вязынцы Ясік Луцэвіч пражыў мала. Меней як год. Што за гэты час паспеў зрабіць сынок Багумілы і Дамініка?

Удосталь насмактаўся мамінага малачка. Налюляўся ў калысцы. Наслухаўся песень-прысыпалак. Пачуў мелодыю мовы бацькоў. Убачыў сонца і неба, высокія дрэвы і кучаравыя кусты, траўку і рэчку. Усяму гэтаму зямному дзіву ўсміхнуўся, парадаваўся і выгукнуў першае слова: «У-у-га-а!..»

У Вязынцы Ясік правёў сваё першае ў жыцці лета, першую восень, першую зіму. А першай вясной пачалося яго першае вандраванне па Мінскай губерні. Бацькі вырашылі змяніць месца жыхарства. Ішоў 1883 год.

Першая сямейная вандроўка Луцэвічаў пралягала тады праз Радашковічы, Рогава, Новы Двор. Дарога вяла то па пясчаных палетках, то паміж кустоўя, то нырала ў прахалодны лес. І там колы зыбаліся па каранях дрэў, ад чаго гулкае рэха разносілася па наваколлі. А збруя на кані напружвалася і жаласліва парыпвала.

Перасеклі старажытную дарогу — Даўгінаўскі тракт. Апынуліся якраз у тых мясцінах, дзе цяпер знакаміты горна-лыжны цэнтр «Сілічы». Вандроўка закончылася ў фальварку Юзафова. Там стаяў маёнтак пана Багдановіча. Меліся будыніны для парабкаў. Знайшлося месца і для сям'і з Вязынкі. Працавітым Дамініку і Багуміле пан здаў у арэнду кавалак сваёй занядбанай зямлі.

Старажылы цяперашняй смалявіцкай вёсачкі Юзафова прыгадваюць: «На горцы стаяў багаты двор, а побач былі балоты. Каб праехаць у поле, на дарогах масцілі грэблі...» Вось такі панскі «падарунак» атрымалі Луцэвічы вакол Юзафова. Пазней Янка Купала напіша пра сяўца-сейбіта на такіх палетках:

І поўнай мазолістай жменяй
Жытцо на раллі раскідае,
Хавае ў зямельку надзею,
Што возьме з сяўбы? — не згадае...

Відаць, з гэтай прычыны Луцэвічы вытрымалі на юзафоўскіх землях толькі тры гады. Ад няўродлівых палеткаў бацькі цярпелі няўдачы. Адзін Янка меў свае здабыткі. У Юзафове навучыўся хадзіць, гаварыць, цешыцца навакольнай красой.

Наступны прыстанак Луцэвічаў — вёска Косіна. Яна цяпер — на Лагойшчыне. Тут Дамінік зноў арандаваў зямлю ў таго ж пана Багдановіча. Ён выдзеліў яму раллю, насенне, жыллё. Збірай ураджай, але заплаці падаткі, падзяліся ўмалотам, гароднінай, садавінай, нарыхтаваным сенам. А калі няўрод, сам і твая сям'я можаце галадаць, нават паміраць, але з панам трэба разлічыцца.

І Дамінік Луцэвіч запрог свайго коніка. Паехаў шукаць лепшыя мясціны. Пад Мінскам, у Сенніцы, паспрабаваў працаваць эканомам у памешчыка Турчынскага. Вытрымаў толькі год. Не ў яго характары быць наглядчыкам над сялянамі, чыніць суд над імі, збіраць падаткі.

Сям'я Луцэвічаў пераехала ў Мінск. І тут, на гарадскім хлебе, пратрымаліся адзін год. Дамінік уладкаваўся фурманам наёмнага экіпажа. Але рамізніцкіх грошай не хапала на вялікую сям'ю. У Янкі ўжо былі сёстры Ганна, Марыя, Леакадзія.

Так перад Луцэвічамі зноў пралёг стары Даўгінаўскі шлях, які перасякаў амаль усю Лагойшчыну. Дарога-калыска, складзеная з пад'ёмаў і спускаў, прывяла арандатара Дамініка спачатку ў Прудзішча, а пасля ў Селішча. У гэтых маляўніча-пакутных прытулках сям'я Луцэвічаў правяла доўгія дванаццаць гадоў. Яны ўмясціліся ў некалькі паэтычных радкоў Янкі Купалы:

Ніваў загоны,
Лес, сенажатка,
Садзік зялёны
І гэта хатка —
Не нашы, братка...

## «Настаўнікам быў беларускі абшар...»

Дзе, у каго, як і калі вучыўся Янка Луцэвіч?

Адказ знаходзім у вершы паэта «Мая навука». Аўтар прызнаецца, што яго вучылі «гоманы ў сёлах». А гэта значыць, людзі, сярод якіх ён жыў, іх мудрыя гаворкі, прымаўкі, песні, легенды. Пра аднаго з такіх настаўнікаў, парабка Песляка з фальварка Прудзішча, прыгадаў Янка Купала ў сваёй аўтабіяграфіі:

«Памятаю, што я не даваў яму праходу. Ці пойдзе ён у поле араць, ці паедзе на начлег, я заўсёды з ім і заўсёды выпрашваю ў яго казкі. Расказваў ён захапляюча. Каб яго падбадзёрыць, не раз браў я ў маці сала або сыр і нёс яму ў знак удзячнасці за казкі. Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона, хаджу я і слухаю. Другі такі апавядальнік-парабак быў ужо ў Селішчы. Таксама я яму не даваў спакою ні днём, ні ўначы. Дык вось хто, бадай, быў маім першым настаўнікам, хутчэй натхніцелем у адносінах да маёй, у далейшым, паэтычнай творчасці...»

А яшчэ ў вершы Янка Купала называе сваімі выхавальнікамі «бурлівыя рэчкі і млын гутарлівы», «у вырай лятучыя гусяў шнуры», «зялёнае поле рунеючым збожжам», «цвятучая ў сонечны цвет сенажаць», «шэлест лісцяў узмежных ігруш», «шум бору», «сонца мне песню іскрыла», «а вецер даў волю і крылле лунаці арлом»...

У той час, больш за сто гадоў назад, школ для навучання дзяцей беларусаў было вельмі і вельмі мала. Дый частыя пераезды сям'і Луцэвічаў не давалі магчымасці Янку наведваць тыя школы. Вось і ўладкоўвалі бацькі сынка да розных вандроўных настаўнікаў, якія тады называліся «дарэктарамі». Іх наймалі як пастухоў, і яны хадзілі з хаты ў хату, вучылі малых грамаце.

Упершыню аддалі Ясіка вучыцца ў Косіне. Яго, шасцігадовага, вучыў чытаць і пісаць па-польску гімназіст Патаповіч, сын служачага маёнтка. Па-руску чытаць Ясік Луцэвіч навучыўся ад сваёй нянькі. А беларускую мову ўпусціў у душу ад маці і бацькі, «навучыўся дум беларускіх без школ і кніг».

Вось з такой падрыхтоўкай Янка Луцэвіч у свае сем год прыйшоў у Сенніцкае двухкласнае народнае вучылішча. Ён тут вучыўся зімой 1889 — 1890 гадоў, можа, якіх тры-чатыры месяцы. Яго першай настаўніцай стала Алімпіяда Васільеўна Сонцава. Яна была вельмі адукаваным педагогам. Ведала французскую і нямецкую мовы, іграла на фартэпіяна. Любіла прыроду і ўмела захапіць гэтай замілаванасцю сваіх выхаванцаў.

Цяпер амаль да самага пасёлка Сенніца падступаюць гмахі Мінска. Непадалёк ад таго месца, дзе некалі стаяла драўляная будыніна народнага вучылішча, збудавана трохпавярховая сярэдняя школа, якая носіць імя Янкі Купалы. У ёй адкрыты музей народнага песняра. А на самым відным месцы — партрэт Купалавай настаўніцы, сонечнай і прыгожай Алімпіяды Васільеўны Сонцавай.

Былі і яшчэ таленавітыя настаўнікі ў Янкі Луцэвіча. Падлеткам ён пазнаёміўся са студэнтам Уладзімірам Самойлам. Той быў сынам дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча. А іх фальварак Казімірава месціўся непадалёк ад засценка Селішча, дзе арандавалі зямлю Луцэвічы.

Яны спадабаліся адзін аднаму. І Уладзімір пачаў рыхтаваць дасціпнага, цікаўнага да кніжак Янку для паступлення ў гарадское вучылішча. Займаўся з ім цэлае лета. Але бацька не рашыўся аддаць сына ў Мінск.

Непадалёк ад Селішча было мястэчка Бяларучы. А ў ім — народнае вучылішча. Вось туды і адвёз Дамінік свойго сына Янку на вучобу. Зноў жа ўсяго на некалькі месяцаў — з восені 1897 па вясну 1898 года.

Чаму бацька дазваляў сыну вучыцца толькі зімою? А таму што ў гэты час менела клопатаў на зямлі, у гаспадарцы. Сабраны ўраджай, для жыўнасці на-

рыхтаваны кармы. Хай павучыцца сын. А вясною і летам яго зноў паклічуць на працу палеткі, сенажаці, плуг, каса, сякера.

За адну зіму вучобы Янка Луцэвіч здаў экзамены за два класы народнага вучылішча і атрымаў атэстат. Гэта быў адзіны дакумент аб адукацыі, які меў Янка Купала.

У Бяларучах пашанцавала будучаму паэту на выдатнага настаўніка Мікалая Фёдаравіча Турчановіча. Ён быў вельмі адукаваны, культурны чалавек. Ведаў замежныя мовы. Меў вялікую бібліятэку. Добры, але сур'ёзна патрабавальны да ведаў вучняў. Ён палюбіў Янку Луцэвіча, бо той шчыра прагнуў навукі, кніг, прыроды.

У Бяларучах стаяла калісьці Замкавая гара. Яе называлі і салаўінай, і чаромхавай. З-пад гары выцякалі тры крынічкі, з якіх бруіўся белапенны ручай. Яго празвалі Белым, а паселішча каля яго — Бяларучамі.

У Бяларучах ёсць школа імя Янкі Купалы, а ў ёй выдатны музей паэта. Там жывуць і працуюць людзі, якія праносяць па жыцці добрую памяць пра даўнейшыя Бяларучы.

## *Загадкавая кветка*

На белым свеце мноства таямніц і загадак. Іх хопіць усім, хто жыве цяпер, хто будзе жыць у далёкай будучыні. А мы давайце разгадаем пакуль адну старонку творчага жыцця нашага героя. Чаму Янка Луцэвіч стаў Янкам Купалам?

Нагадаем, сынок Багумілы і Дамініка нарадзіўся 7 ліпеня 1882 года. Якраз жа было народнае свята Купалле. А калі ўявіць, што дзіцё з'явілася на свет ноччу, на пачатку новага дня, то гэта якраз і быў той самы шчаслівы міг, калі зацвітае папараць-кветка.

Калі Янка Луцэвіч пачаў пісаць вершы, ён задумаўся аб сваім паэтычным імені. Захацелася падабраць псеўданім, пад якім можна было друкаваць свае творы. Напачатку гэта былі розныя прыдумкі: «Адзін з «парнаснікаў», Здарэнец, Левы, Марка Бяздольны, Стары Мінчук, Янук з-пад Мінска, Янук Купала... Урэшце Іван Дамінікавіч Луцэвіч стаў Янкам Купалам.

Мне здаецца, што канчаткова выбраць паэтычнае імя падмог Купалу слынны беларускі пісьменнік Ядвігін Ш. Яго сапраўднае прозвішча — Лявіцкі Антон Іванавіч.

Іх знаёмства пачалося ў 1904 годзе і доўжылася шмат гадоў. Лявіцкі жыў тады ў сваім радаводным маёнтачку ў Карпілаўцы. А за некалькі кіламетраў ад яго жылі ў Селішчы маці і сёстры Купалы. Пазней яны пераехалі ў Бараўцы, Акопы. А гэта зусім побач з Карпілаўкай, праз лясок. І, бываючы дома, Янка заўсёды ішоў да свайго старэйшага сябра. Ужо тады Ядвігін Ш. быў вядомым пісьменнікам. Ён дагэтуль працаваў, вучыўся ў Маскве. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях быў выключаны з універсітэта, арыштаваны, сядзеў у Бутырскім астрозе. Пасля жыў у Карпілаўцы. Пісаў свае новыя творы. Пасадзіў тут вялікі сад, ліпавую алею. Займеў багатую бібліятэку.

Пра знаёмства і сустрэчы з Ядвігіным Ш. Янка Купала пісаў:

«Гэта была для мяне вялікая падзея. Я ўпершыню сутыкнуўся з чалавекам, які быў не толькі пісьменнікам, але і пісаў па-беларуску. З ім я вельмі зблізіўся. Ён мне шмат расказваў пра незнаёмыя мне дагэтуль пісьменніцкія справы...»

А дачка Ядвігіна Ш. Ванда, якая пісала вершы пад псеўданімам Вясёлка, прыгадвала ў сваіх успамінах:

«Купала прыходзіў да нас браць кнігі. Чытаў тату свае вершы і ў хуткасці стаў друкаваць іх у «Нашай ніве». З татам яны вялі доўгія гутаркі...»

Дык няўжо ж яны не абмяркоўвалі псеўданім для нованароджанага паэта? Мне так і чуецца пераканаў голас гаваркога, мудрага пісьменніка з загадкавым псеўданімам Ядвігін Ш.:

— Ды зразумей, дружа, ніякі ты ні Ясь, ні Янук. Ты — Янка. І не «з-пад Мінска», не «Стары Мінчук», не Марка Бяздольны, а — Янка Купала! Ты нарадзіўся, калі расцвітае таямнічая кветка папараці. Шукай яе. Разгадвай мову прыроды. А найважней — распазнай душу мужыка-бедака, яго думы...

Так было сказана ці інакш, але неўзабаве свет пачуў магутны голас Янкі Купалы:

Я не паэта, о крый мяне Божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала,
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Завуся я толькі — Янка Купала...

Уславіў паэт дзень сваіх народзінаў у вершах «На Купалле», «У Купальскую ноч», «Заклятая кветка», «Страх». Свята Купала дало яму паэтычнае імя. А сваёй творчасцю ён сцвердзіў, што знайшоў «зелле тое, што ў нас папараць завецца і шчаслівым быць здаецца».

Адну з казак жыцця Якуб Колас прысвяціў свайму вернаму сябру, паэтычнаму брату Янку Купалу. Ён назваў гэту казку «Ноч, калі папараць цвіце». У ёй апавядаецца пра тое, што ў ноч, калі з'яўляюцца кветкі на папараці, сабраліся на сход русалкі, лясун, ваўкалакі, вадзянік, дамавік. Чараўнікі розных гатункаў задумаліся, які зрабіць падарунак Юнаку, які даў сабе імя чароўнай ночы-свята.

Русалкі паабяцалі навучыць яго спяваць прыгожыя песні. Дамавік вырашыў падарыць яму жалейку і навучыць іграць. Вадзянік выдзеліў гуслі. Пануры Ваўкалак сказаў, што занясе на край свету яго песні і думкі. Лясун загадаў сваім пушчам-лясам, каб расказалі Юнаку пра свае адвечныя тайны, каб надалі яму цвёрдасць граба, каб да канца ён быў верным свайму народу.

Сонейка ўхваліла начных чараўнікоў і абвясціла хмаркам, каб не засланялі неба ў Купальскую ноч. Няхай такія сходы адбываюцца пры ясным небе.

Пра Янку Купалу і загадкавую кветку папараці вельмі ж вобразна напісаў Васіль Вітка:

Папараць-кветку шукаў паэт —
Кветка самога знайшла паэта.

## *Пошук сваёй дарогі*

З лагойскімі краязнаўцамі шукаем месца, дзе раней стаяў засценак Селішча. Заехалі ў вёску з такой назвай. Абкалясілі стары Даўгінаўскі шлях, новыя дарогі, і вось — удача. Стаім на палетку, які абкружаны змешаным, густым лесам. Воддаль, пасярод раллі, узіраюцца ў неба некалькі счарнелых дрэў. Тут і быў засценак Селішча. Тут жыла сям'я Луцэвічаў доўгіх дзевяць гадоў, з 1895 па 1904 год.

У Селішчы Дамінік Луцэвіч арандаваў зямлю ў памешчыцы Манюшка. Тут у яго сям'і з'явілася сёмае дзіцё — дзяўчынка Гэленка. Багуміла калыхала ў люльцы немаўля, а побач бегалі дробненькія Сабінка, Казік, Лёдзя. Янку споўнілася ўжо чатырнаццаць. Ён быў галоўным бацькавым памочнікам па гаспадарцы, у полі. Ганне было дзесяць, Марыі — дзевяць. Яны — маміны падручныя ў хаце, каля печы, у двары.

Пры ўсёй складанасці хутарскога жыцця Янка вельмі палюбіў кніжкі. Сваіх не было, пазычаў у багатых суседзяў. Хадзіў да іх лесам, адзін, нічога

не баяўся, абы толькі ўзяць кніжкі. Аднойчы «выслужыў» у бацькі грошай, выпісаў сабе часопіс «Родина».

Паслухаем успаміны сястры паэта Леакадзіі Дамінікаўны Рамаioўскай:

«Ясь не меў часу чытаць удзень, бо трэба было працаваць на гаспадарцы. Чытаў увечары і ўночы. Чытаў пры лямпе, пры лучыне, на начлезе пры вогнішчы. Сядзе, бывала, вечарам за кнігу, а яго пачынаюць гнаць спаць.

— Кідай сваё чытанне. Няма чаго вачэй сляпіць і дарэмна газу паліць.

Патушаць лямпу, а ён запаліць лучыну, прыладзіцца і чытае. У святочныя дні, улетку, ён зранку браў кнігу і на цэлы дзень сыходзіў у лес. Кніжцы ён аддаваў кожную вольную хвіліну. Што б ні рабіў, заўсёды пры сабе меў кніжку».

Вось такім кніжнікам прыйшоў Янка Луцэвіч у Бяларуцкае народнае вучылішча. Ён ахвотна наведваў урокі. За зіму перачытаў амаль усе кніжкі з хатняй бібліятэкі настаўніка.

Дома, у Селішчы, Янка ўзяўся быць «дарэктарам» для сваіх малодшых сясцёр. Навучыў іх грамаце. Вучыў рашаць задачкі. На асобныя сынавы ўрокі падсядаў і бацька. Ён умеў трохі чытаць, складваць, адымаць, множыць. Цяжка яму давалася дзяленне. Янка цярпліва тлумачыў бацьку гэта арыфметычнае дзеянне.

Падрастаў Янка. Хацеў вучыцца далей. Але бацька нязменна паўтараў адно і тое ж: «Для гаспадара хопіць і тае навукі, што маеш».

І вось наступіў 1902 год.

Янка чакаў яго з несхаваным хваляваннем. Яму спаўнялася дваццаць гадоў. Ён ужо сталы юнак. Што падорыць юбілейны год? Ці збудзецца яго запаветная мара — вырвацца з Селішча ў людзі, у вялікі свет?

Раптам здарылася тое, чаго баялася ўся сям'я Луцэвічаў. Хваравіты, знямоглы Дамінік Ануфрыевіч памёр. Браўся ў сілу месяц май. Зямля, што адпачыла за зіму, клікала на свае палеткі аратага, сейбіта. А ў гэты час адвечны працаўнік на зямлі Дамінік Луцэвіч пакінуў яе.

Янка павёз бацьку ў вёску Корань, дзе быў касцёл святога Антонія і вялікія каталіцкія могілкі. Ад Селішча да Кораня — звыш дваццаці кіламетраў. Цяпер гэта дарога, як кажуць, хоць бокам кацiся. А тады яна пралягала праз лясы, пяскі, балоты, грэблі. Цяжка нават уявіць, колькі горкіх дум перажыў за той доўгі шлях асіроцелы Янка, колькі салёных слёз наглытаўся, седзячы каля бацькавай труны.

Гэта, як аказалася, не было апошнім выпрабаваннем года для бязбацькавіча Янкі Луцэвіча. Восенню ад шкарлятыны памерлі яго брат і дзве сястры. Казіку было адзінаццаць, Сабіне — дзевяць, Гэлене — шэсць годзікаў. Бяда і гора бязлітасна ўварваліся ў сям'ю Луцэвічаў, глыбока паранілі чуллівую душу юнага Янкі.

Класік беларускай літаратуры Кузьма Чорны прыгадваў:

«Янка Купала ўспамінаў той час свайго жыцця як самую чорную безнадзейнасць, як камень, які душыў і думкі, і душу. Сёстры яго гаварылі, што іх брат стаў тады вельмі маўклівы, задуменны, увайшоў у сябе, імкнуўся аставацца сам з сабой. Начамі ён запальваў святло і падоўгу штосьці пісаў...»

Магчыма, гэта і былі першыя паэтычныя радкі да драматычнай паэмы «Сон на кургане», якую ён прысвяціў памяці свайго бацькі і брата.

У прызнанні Самога, галоўнага героя паэмы, чулася растрывожаная душа паэта:

Дома ўжо нельга мне далей так жыць, —
Дом мой магілай халоднай;
Каменем поле сцюдзёным ляжыць,
Плёны змёў вецер халодны...

У Янкі, відаць, адбыліся вельмі сур'ёзныя перамовы з маці. І ён пераканаў яе, што яму трэба ісці ў людзі, шукаць сваю дарогу ў жыцці, бо тут, на арандаванай зямлі, да якой не ляжыць душа, чакае сына бацькаў лёс.

Жаданне Янкі падтрымаў сябар дзяцінства, сірата Ясь Аўлачынскі. Яны былі аднагодкі. Разам вучыліся ў Бяларучах. Ясь закахаўся ў Янкаву сястру Марыю, маладзейшую за яго на пяць гадоў. Перайшоў жыць у сям'ю Луцэвічаў, дапамагаў па гаспадарцы і чакаў, пакуль Марыі споўніцца васемнаццаць гадоў, каб ажаніцца з ёй. Пазней усё так шчасліва і адбылося.

З блаславеннем маці і сябра Яся Аўлачынскага пакрочыў Янка Луцэвіч новымі пуцявінамі жыцця. Пакінуў хату бацькоў у 1903 годзе.

Кім толькі не быў сын арандатара!

«Дарэктарам» уладкаваўся і два месяцы вучыў панскіх дзяцей. Паспрабаваў смаку пісаравай справы ў судовага следчага. Служыў у лясніцтве, у канторы панскага маёнтка, прыказчыкам у полі. Даўжэй затрымаўся Янка на панскіх броварах у Сёмкаве, Яхімаўшчыне, у Дольным Снове. На невялікіх заводах, дзе рабілі піва, віно, ён быў то практыкантам, то чорнарабочым, то памочнікам вінакура. «Зазнаў там такога пекла, — пісаў пазней Янка Купала, — якога яшчэ дагэтуль не меў».

## *Першы верш*

Рэвалюцыяй пачаўся 1905 год.

Рабочыя ішлі да Зімняга палаца, каб прасіць цара палепшыць жыццё народа. У адказ на гэта паступіў загад страляць у бунтаўшчыкоў.

Была расстраляна вера ў цара. І паднялася хваля народнага гневу. Яна дакацілася і да беларускіх губерняў. Дзесяткі гарадоў і мястэчак падтрымалі рабочых Пецярбурга.

Супраць памешчыкаў паўсюдна паўсталі і сяляне. Іх тады пагардліва называлі мужыкамі. Маўляў, невукі, чорныя, як валы рабочыя, грубыя, як неабчасанае бярвенне.

За такога мужыка, нястомнага аратага, сейбіта, малацьбіта, касца, дрывасека, і заступіўся Янка Купала. Яго першы друкаваны верш так і называўся «Мужык». Ён быў напісаны па-беларуску, на той «хамскай» мове, якую не прызнаваў цар. А надрукавала верш мінская газета «Северо-Западный край» 15 мая 1905 года.

З першых радкоў верш Янкі Купалы браў чытача ў палон шчырай, адкрытай праўдай:

Што я мужык, усе тут знаюць,
І, як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Далёка не кожны спакойна ўспрымае абзывалкі, мянушкі, дражнілкі пра сябе. О, колькі з-за гэтага бывае боек, крыўды, злосці. А Янка Купала, далучыўшы і сябе да мужыка, з несхаванай насмешкай і добрай злосцю піша пра яго:

Чытаць, пісаць я не умею,
Не ходзіць гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Чаму ён такі цярплівы, беларускі мужык? Бо яму няма калі пачытваць кніжачкі, сядзець за партай у школе. Яму трэба здабываць хлеб для сям'і, гнуць

спіну на пана, плаціць падаткі. А для гэтага мусіць мець вытрымку, моўчкі глытае салёныя слёзы, толькі б не стаць жабраком:

Бо з працы хлеб свой здабываю,
Бо зношу лаянку і крык,
І свята рэдка калі знаю, —
Бо я мужык, дурны мужык.

Янка Купала малюе вобраз мужыка ўсімі фарбамі праўды. Яго дзеці «галеюць без хлеба», у жонкі «падзёрты чаравік». А ў самога мужыка «заліты потам горкім вочы». Нават няма магчымасці па-людску правесці яго ў апошнюю дарогу. Ён мусіць, як сабака, пакідаць белы свет. Усё гэта тлумачыцца адным-адзіным дакорам: «Бо я мужык, дурны мужык».

Намаляваўшы такі бязрадасны партрэт бяздольнага, беззямельнага селяніна, Янка Купала з гонарам гаворыць пра самае запаветнае. Душа яго хоча дакрычацца да Бога і цара. Але найперш паэт хоча, каб яго пачуў сам мужык:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

Ды і гэта яшчэ не ўсё. Янка Купала як бы набірае ў грудзі новы глыток свежага паветра і выдыхае паэтычныя радкі, якія становяцца рэвалюцыйным заклікам для ўсіх беларусаў на ўсе вякі:

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

У гэтага верша, як мне здаецца, — два крылы.

Адно крыло — Уладзімір Іванавіч Самойла, той самы, хто прыкмеціў некалі таленавітага Янку Луцэвіча ў Селішчы, рыхтаваў яго для вучобы ў Мінску. Яны сябравалі і пазней, калі Уладзімір Іванавіч стаў ужо вядомым літаратарам. Янка давяраў яму першаму чытаць свае вершы. Адзін з іх, верш «Мужык», Самойла завёз у Мінск і паспрыяў, каб ён быў надрукаваны ў папулярнай па тым часе газеце.

Другое крыло ў гэтага верша — Сігізмунд Бярнардавіч Чаховіч. Гэта быў вельмі адукаваны, мужны чалавек. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. А калі Кастусь Каліноўскі, нацыянальны беларускі герой, узняў паўстанне ў 1863 годзе супраць цара, то Сігізмунд Чаховіч стаў яго бліжэйшым памочнікам. Ён наладжваў сувязь з паўстанцамі.

Царскі ўрад жорстка расправіўся з усімі, хто хацеў волі для сваёй зямлі. Кіраўнік паўстання Кастусь Каліноўскі быў павешаны ў Вільні, а яго сябар Сігізмунд Чаховіч сасланы ў Сібір і засуджаны на дванаццаць гадоў катаргі. Вярнуўся адтуль на Лагойшчыну, у жончын маёнтак Малыя Бясяды, які быў праз лес ад Селішча, дзе жыла сям'я беднага арандатара Луцэвіча.

Кажуць, пан Чаховіч падоўгу сядзеў у сваёй вялікай бібліятэцы, перачытваў кніжкі, нешта пісаў. Любіў прагульвацца па лесе. Аднойчы, відаць, заблудзіўся і трапіў на хутар, дзе жылі Луцэвічы. А можа, Дамінік сустрэў у лесе пана і прывёў дамоў адагрэцца.

Як было, хто ведае, але старому паўстанцу Сігізмунду Чаховічу вельмі спадабаўся цікаўны, задуменны, прагны да кніг падлетак Янка Луцэвіч. Той запрасіў яго да сябе, дазволіў карыстацца сваёй унікальнай бібліятэкай. Яны пасябравалі. Пазней Янка Купала напісаў у аўтабіяграфіі:

«У пана Чаховіча была вялізная бібліятэка. Вось тут мне і адкрыўся, што называецца, скарб!.. Часта ён мне выбіраў кнігі для чытання, а часам я сам прасіў у яго творы тых або іншых аўтараў... У яго першага я пазнаёміўся з нелегальнай літаратурай...»

Дык, можа, Сігізмунд Чаховіч даў пачытаць Янку Луцэвічу і газету «Мужыцкая праўда»? Яе ж выпускаў сам Кастусь Каліноўскі. Яна была нелегальнай, забароненай. У ёй пісалася шчырая праўда пра беларускага мужыка, яго долю:

«Дзецюкі! Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здатна толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці такую праўду справядлівую, як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і як маланка праляціць па свеце!..»

Дык вось хто падштурхнуў Янку Купалу да паэтычнай смеласці, да вершаўчынку «Мужык» — гераічны Кастусь Каліноўскі, яго «Мужыцкая праўда», яго сябар і паплечнік Сігізмунд Чаховіч!

Так нарадзіўся верш-гімн, які ўзняў на паэтычны Парнас і самога Янку Купалу.

## *Віленская ніва*

Мінск, Маладзечна, Вільня...
Як жа знаёмы шлях гэты!
Змерыў яго я калісьці,
Як шукаў шчасця па светах.

Гэтыя радкі Янка Купала напісаў праз трыццаць адзін год пасля свайго першага, у 1908 годзе, прыезду ў Вільню. Паэт прызнаецца, што шлях да Вільні яму вельмі дарагі, знаёмы. Ён вымяраў яго часта, і ў мароз, і ў разводдзе. А для чаго? Якую ўрадлівую ніву, якога шчасця шукаў Янка Купала ў далёкай па адлегласці і блізкай сэрцу Вільні?

Каб зразумець гэта, трэба ведаць, што Вільня чатыры стагоддзі была, з XIV па XVIII, сталіцай Вялікага княства Літоўскага. У цэнтры дзяржавы ляжалі беларускія землі. Дзяржаўнай мовай лічылася беларуская. На ёй быў напісаны асноўны закон краіны — Статут. На ёй вялося справаводства, ствараліся летапісы, мастацкія творы.

Пазней, калі Вялікага княства Літоўскага не стала, а яго тэрыторыя была далучана да Расіі, царскі ўрад пачаў называць беларускія і літоўскія землі «Паўночна-Заходні край». Сюды ўваходзілі Віленская, Гродзенская, Ковенская, Віцебская, Мінская і Магілёўская губерні. У кожнай губерні-вобласці была свая сталіца. А Вільня (цяперашні Вільнюс) заставалася старажытным цэнтрам культуры ўсяго краю. Яна, як магнітам, прыцягвала да сябе ўсіх творчых людзей, палітыкаў, якія хацелі волі для сваёй зямлі.

Пасля рэвалюцыі 1905 года цар дазволіў беларусам карыстацца сваёй мовай. Вось тады і была створана ў Вільні легальная, узаконеная беларуская газета. Спярша — «Наша доля», а пасля — «Наша ніва». Дарогу да яе Янка Купала праклаў сваімі вершамі.

Другі, пасля «Мужыка», друкаваны верш паэта абнародавала віленская газета «Наша ніва». Было гэта 11 мая 1907 года, у васемнаццатым нумары штотыднёвіка. Верш называўся «Касцу».

Давайце ўважліва прачытаем яго.

Першы куплет як бы настройвае на вясёлую песню. Пад перастук малатка, якім кляпаюць касу, хочацца нават танцаваць:

Стукі, стук, стук, малаток!
Кляпі коску, мужычок,
Кляпі востранька сваю,
А я песеньку спяю.
Гоп, гоп, гоп!
Я табе спяю.

Далей — болей, размова пачынаецца сур'ёзная, як і ў «Мужыцкай праўдзе» Кастуся Каліноўскага:

«Падумайце добра, дзецюкі, ды, памаліўшыся богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць!.. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды косамі туды, дзе здабываецца воля ды праўда...»

І Янка Купала ў сваім вершы пад нязменны матыў «гоп, гоп, гоп» расказвае, як даўней народ, не меўшы стрэльбаў, з косаў шаблі рабіў, як з імі ішоў на ворагаў. А заканчваецца верш як бы пра звычайную касьбу. Але мы, чытачы, ужо ведаем, што меў на ўвазе паэт, калі пісаў: «Касі гладзенька, глядзі!.. Ты касі, адважным будзь».

Вось якім ваяром, прызнаным паэтам прыехаў у Вільню сын Луцэвічаў. Ён хадзіў па вуліцах Вільні, дзе ў свой час жыў і друкаваў кнігі беларускі асветнік Францыск Скарына. Тут жылі Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі, Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Станіслаў Манюшка, Францішак Багушэвіч...

Янка Купала пачаў працаваць у Вільні бібліятэкарам. Перад ім адкрыўся дзівосны свет кніг, да якіх заўсёды прагнуў. Бібліятэка называлася «Веды» і належала выкладчыку Віленскай гімназіі Барысу Лявонавічу Даніловічу. Яму, нястомнаму руплівіцу беларушчыны, Янка Купала быў бязмежна ўдзячны. Ён меў асалоду чытаць і чытаць кнігі. Набыў спрыяльныя ўмовы для самаадукацыі. Зарабляў грошы на хлеб. І для яго адкрыліся дзверы ў рэдакцыю «Нашай нівы». Спярша як аўтару, а пасля — як супрацоўніку і рэдактару.

У «Нашай ніве» Янка Купала працаваў двойчы, агульным тэрмінам амаль тры гады. І гэты час творчасці купалазнаўцы лічаць ці не самым узлётным, самым плённым і знакавым для паэта. У віленскай беларускай газеце Янка Купала надрукаваў 150 вершаў, паэмы «У піліпаўку», «За што?», «Курган», «Бандароўна». Пачаў пісаць паэт і артыкулы, у якіх проста і ясна тлумачыў вельмі складаныя пытанні. Вось які адказ ён знайшоў на пастаўленае ў загаловак пытанне «Ці маем права выракацца роднай мовы?»:

«Скажа хто-небудзь: хай бы была адна мова на свеце, бо і праўда — нашто іх гэтулькі? Яно б то, можа, было і добра, а мо і не саўсім. Скажам, каб было аднаго толькі гатунку дзерава або аднага толькі гатунку жывёліна ці збажына, то, напэўна, лёгка дагадацца, што на свеце было б далёка не так прыгожа, як цяпер ёсць. Але калі дзерава ці жывёліна ёсць толькі з верхняй аздобай зямлі, то мова людзей ёсць як бы цэнтрам гэтага жыцця, яго душой, яго ўнутранай аздобай... А вось глянем яшчэ хоць бы крылатыя стварэнні: ці ж не смешна б нам паказалася, каб салавейка пачаў кукарэкаць па-петушынаму, а певень пачаў кукаваць, як зязюля?.. Выракацца роднай мовы не маем права».

Пад адным дахам «Нашай нівы» аб'ядналіся тады лепшыя творцы Беларусі. Іх імёны навечна ўпісаны ў гісторыю нашай краіны. Гэта — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка (Алаіза Пашкевіч), Сяргей Палуян, Алесь Гарун, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Ядвігін Ш., Карусь Каганец...

## *Сустрэча на Нёмане*

Янка Купала прыехаў у Стоўбцы. Перад ім — старажытнае мястэчка. Як і паўсюдна, наўкол — драўляныя двары, крамы, карчма, царква, касцёл. Адметнае для Стоўбцаў — рака Нёман. За ёй, кіламетраў дзевяць ад мястэчка, радзіма Якуба Коласа. Вось да яго, паэта, аднадумца, духоўнага брата, і ехаў у госці Янка Купала.

Ішоў 1912 год.

У прыродзе валадарыў сонечны жнівень. У душы вандроўніка Янкі Купалы таксама было горача і спякотна. Ад думак, ад хвалявання, ад чаканай сустрэчы. Яны з Коласам — аднагодкі. Амаль адначасна пачалі пісаць вершы і друкаваць іх у віленскай беларускай газеце. Завочна былі знаёмы даўно, перапісваліся. Чыталі друкаваныя вершы адзін аднаго. А вось сустрэцца не выпадала.

Як шукаць тую вёску Мікалаеўшчыну, дзе жыве Якуб Колас? А мо ён цяпер на хутары ў Смольні? Былі б грошы, наняў бы балагола, таксіста па-цяперашняму, які за пэўную плату адвёз бы яго на фурманцы да сябра. Ды лішняга рубля не меў.

І пайшоў Янка Купала пехатою. Прыгадаўся першы друкаваны Коласаў верш:

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

Наўкол усё, як у вершы: пясок, хвойнік, верасок. «Ужо і цямнець пачынае, — прыгадваў пазней Янка Купала. — Няма ў каго спытацца дарогі. Баяўся, што прыйдзецца ў незнаёмым вялікім лесе заначаваць...»

Можа, затаілася ў душы іншая боязь. Якуб Колас нядаўна вярнуўся з Мінскага астрога. Тры гады адседзеў у турме за ўдзел у тайным настаўніцкім сходзе, за напісанне адозвы да ўсіх беларускіх настаўнікаў. Можа, і цяпер вакол яго хаты, у цёмным лесе, снуюць шпікі?

Яны былі ўжо прызнанымі паэтамі. Друкаваліся не толькі ў «Нашай ніве», але ў розныя часы працавалі там. Мелі свае кнігі. Іх нават прыкмеціў Максім Горкі, вядомы на ўвесь свет рускі пісьменнік. Вось што ён пісаў яшчэ ў 1910 годзе: «... У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — вельмі цікавыя хлопцы! Так прымітыўна-проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым бы трошкі такіх якасцей! О божа! Вось бы добра было!»

Такія паэты не маглі не сустрэцца. Яны выступілі абаронцамі мужыкоў, сялян, усіх прыгнечаных людзей. А іх кнігі, «Жалейка» ў Янкі Купалы, «Песні жальбы» ў Якуба Коласа, сталі прадвеснікамі нараджэння новай беларускай літаратуры.

І такая сустрэча двух паэтаў-братоў адбылася.

Вось як прыгадваў пра гэта знакамітае спатканне Якуб Колас, народны паэт Беларусі: «Жыў я тады на Нёмане ў сваіх родных каля вёскі Мікалаеўшчына... Перад гэтым я напісаў пісьмо Купалу і стараўся падробна апісаць яму маршрут, як мяне знайсці, бо мы ўсё ж нарэшце цвёрда рашылі сустрэцца... Дарога ад Стоўбцаў хоць і не дужа вялікая, але вельмі блытаная і большаю часцю праходзіць лесам... Купала, як расказваў ён потым, увайшоўшы ў лес, дзе асабліва многа бочных дарог, згубіў у іх арыентацыю. Якраз і ноч надышла. Але ён кіраваўся адным і правільным меркаваннем: ён ведаў, што я жыву на Нёмане, дзе павінны быць, па яго дагадках, нізіны. З боку ж гэтых нізін ён улавіў вільготнасць паветра. Гэта навяло яго на думу трымацца стараны, з якой вільготнасць адчувалася. Яна і павяла яго па вернай дарозе...»

Якуб Колас пакінуў нам і сваё ўражанне ад таго Янкі Купалы, з якім ён сустрэўся: «Гэта быў малады, статны, жыццярадасны чалавек, з вясёлымі, крыху насмешлівымі светла-карымі вачамі, з прыветнаю ўсмешкаю... Адзеты на гарадскі фасон, хоць і не надта фарсіста, з палкаю-крывулькаю...»

Амаль усю ноч прагаварылі паэты. Пра што? Можна толькі здагадвацца. Відаць, чыталі адзін аднаму свае новыя вершы. Гаварылі пра свае творчыя планы. Думалі пра будучыню Беларусі, а значыць, пра нас з вамі сённяшніх.

Назаўтра Якуб Колас правёў Янку Купалу ў Стоўбцы на цягнік. Развіталіся як добрыя, даўнія сябры. Іх дарогі надоўга разышліся. І толькі пасля вайны і рэвалюцыі яны зноў сустрэліся, цяпер ужо ў Мінску. Бачыліся амаль кожны дзень, часта гасцявалі адзін у аднаго. Ішлі рука ў руку дарогамі новага жыцця.

Якуб Колас называе Янку Купалу песняром, трыбунам, баянам, а яго паэзію крыніцай, з якой бруяцца «адточаныя, як меч, выкаваныя словы».

А сваю ацэнку сябру Якуб Колас выказаў яшчэ да першай сустрэчы. У пісьме настаўніцы Аляксандры Рамановіч 30 мая 1909 года ён прызнаецца: «Мяне, між іншым, па словах таварыша, называюць другім Шаўчэнкам, беларускім, безумоўна. Хацелася б гэтаму верыць, але як бы не выйшла тут памылкі. Хутчэй за ўсё, ён зблытаў мяне з Я. Купалам...»

## *«Грай, мая жалейка...»*

Сястра паэта Леакадзія Дамінікаўна Раманоўская пакінула нам успаміны пра дзіцячыя і юнацкія гады свайго брата. З іх мы даведваемся, што Ясь апрача кніжак вельмі захапляўся музыкай.

Аднойчы бацька купіў яму скрыпку. Дык Ясь іграў на ёй цэлымі вечарамі. Настаўнікам быў парабак Мартын. Пойдуць у гумно вартаваць збожжа, усю ноч іграюць там.

Пазней Ясю купілі дудачку ажно за два рублі. Па тым часе гэта былі вялікія грошы. Дык вось што засталося ў памяці сястры пра той інструмент:

«Ясь цэлы дзень іграў. Настаў вечар, а ён усё іграе. Пагасілі лямпу, усе ляглі спаць, ён хоць ціхенька, а ўсё ж іграе. Бацька прагнаў яго ў сенцы, а ён і там усё наігрывае на сваёй дудачцы. Праз пару дзён расклеілася Ясева дудачка. Як ён ні ладзіў яе, нічога не выходзіла. Насіў ён яе «на лекі» да паважанага музыканта Павэлка на суседскі хутар. Але і той не даў ніякай рады дудачцы…»

Дудачка — тая ж самая жалейка. Яе рабілі з дрэва, саломіны, гусінага пяра, чароту. Гэтым інструментам здаўна карысталіся нашы продкі. Любы пастушок умеў выдудзець свае найгрышы. А майстры ігрwelання на жалейцы выступалі з сольнымі нумарамі ў канцэртах.

У 1908 годзе Янка Купала стварыў сваю паэтычна-музычную жалейку. Гэта была яго першая ў жыцці кніга, якая так і называлася «Жалейка Янкі Купалы». Кнігу прыкмецілі і напісалі свае водгукі на яе Максім Багдановіч і Ядвігін Ш. Даўні сябар і настаўнік паэта Уладзімір Іванавіч Самойла пісаў у «Нашай ніве»:

«Песні Купалы — гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самай глыбіні народнай душы, гэта — «крык, што жыве Беларусь!»

Мы маем шчаслівую магчымасць узяць у рукі кнігу з сонечна-жоўтай вокладкай. На ёй усе літары слова «Жалейка» складзены з дудачак розных памераў. Напрыклад, каб утварыць «Ж» спатрэбілася тры дудачкі, для «Е» — чатыры, для «Л» — дзве. Усяго — дваццаць адна дудачка. А яшчэ на адной

дудачцы натхнёна іграе вясковы хлапчук. На ім — белая кашуля, падперазаная паяском з кутасамі. Вочы сумныя, задуменныя. Якую мелодыю стварае яго душа? Якія думкі пасылае ён у той краявід, які побач з ім, — хаткі, дрэўцы, зямля, хмаркі?

Давайце адвернем вокладку кнігі «Жалейка» і адчуем паэтычную музыку нашага мудрага Янкі Купалы. Ён з першых старонак вядзе чытача да свайго вялікага, збалелага сэрца, да сваіх незвычайных герояў, імя якім «саха, каса, лапці, хатка, жнеі, старцы, вольхі, ліпы, бяроза». Пра іх і вершы паэта, якія «выплакаў сэрцам, высніў душою». Для чаго? Каб «будзіць, хто спіць, хто цярпіць без віны».

Янка Купала зноў піша пра мужыка-селяніна, «пана сахі і касы». Пра гэтага адвечнага бедака яго новыя вершы — «Я мужык-беларус», «З песень беларускага мужыка», «Воля», «Вось тут і жыві», «Гоніш мяне, панічок…», «Эй, скажы, мужычок!..», «Ах, ці доўга…», «А ты, браце, спі!»

У цэнтры ўсяе кнігі «Жалейка» стаіць праграмны верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?»

Гэты верш у свой час дайшоў да Максіма Горкага. Ён убачыў у ім «Штосьці накшталт беларускага гімна» і пераклаў на рускую мову. Пазней Купалаў верш загучаў на 82 мовах свету. А польскі кампазітар Людамір Рагоўскі, аўтар балета «Купала», напісаў на гэты верш песню. Яна да рэвалюцыі выконвалася як беларускі гімн.

Трэба яшчэ ўлічыць, што «Жалейка» ўбачыла свет, была надрукавана ў Пецярбургу. А гэта ж зусім недалёка ад царскіх палацаў. Хіба маглі служкі гасударавы дараваць аўтару такія вольналюбівыя вершы?

Яны ўзбудзілі справу супраць «Жалейкі», забаранілі прадаваць кнігу.

Усяго было надрукавана 4300 экзепляраў «Жалейкі». Лічаныя асобнікі дайшлі да нашых дзён. Затое ўсе вершы з «Жалейкі» ўключаны ў Поўны збор твораў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы і сталі залатым фондам беларускай літаратуры.

## *Сонца над Пецярбургам*

Жыў-быў паляўнічы. Дзень і ноч ён праводзіў у лесе, у полі. Лавіў птушак і прадаваў іх на рынку. Ні ласкі, ні жалю не меў ён да птушыных сем'яў. Разлуку сеяў паміж бацькамі і дзецьмі.

І вось аднойчы, калі бушавала бура, паляўнічы ўбачыў галубку пад кустом. Яна выбівалася з сіл, была слабая. Таму і стала лёгкай здабычай лаўца.

Сціхла бура. А тым часам наступіла ноч. Дамоў ісці далёка. І паляўнічы вырашыў правесці ноч у лесе. Пад буйным дрэвам знайшоў сабе начлег.

А тое дрэва было якраз сялібай, хатай галубоў. На вершаліне сядзеў голуб, цярпліва чакаў сваю верную сяброўку. Унізе, у клетцы, пакутавала нявольніца-галубка.

Яны адчулі адно аднаго. І галубка падала голубу сігнал, маўляў, госць у нашай хаце, спытай, чаго ён хоча. Паляўнічы толькі і сказаў: «Я замёрз».

Голуб пачаў збіраць, колькі меў сілы, галлё, лісткі. Злётаў кудысьці па агонь. Грэецца паляўнічы і загадвае: «Дай, голуб, есці, галодны я». Што рабіць? Чым накарміць госця? Галубы ж запасаў яды не трымаюць.

І раптам голуб закружыўся над агнём і маланкай, жыўцом зваліўся ў агонь. На, госць, пачастунак!

Паляўнічы быў ашаломлены. Ён спаліў усе свае прылады, якімі лавіў птушак, і выпусціў з клеткі галубку. Але яна не абрадавалася волі. Склала крылы і кінулася ў агонь, дзе быў яе любы.

Праз нейкі час і паляўнічы самахоць увайшоў у палаючы лес. Там і згарэў. «Па смерці ўбачыў галубкоў. Паміж святых на небе ў славе».

Гэту павучальную індыйскую аповесць, якой болей за тры тысячы гадоў, Янка Купала апісаў у вершы-легендзе «Паляўнічы і пара галубкоў». Свой паэтычны твор ён прысвяціў прафесару Браніславу Ігнатавічу Эпімах-Шыпілу. Чаму паэт вырашыў падараваць гэты верш шаноўнаму вучонаму? І хто гэта такі чалавек з двайным загадкавым прозвішчам — Эпімах-Шыпіла?

Яны, вучоны і паэт, першы раз сустрэліся ў Вільні. Пазнаёміліся і зразумелі, што аднолькава моцна любяць сваю родную Беларусь. Янка Купала шчыраваў у газеце «Наша ніва». А Браніслаў Ігнатавіч, хаця і жыў у Пецярбургу, душой і сэрцам заставаўся на малой радзіме, якая была непадалёк ад старажытнага Полацка.

Бацька меў магчымасць вучыць сына. І Браніслава ўжо ў дзесяць гадоў адправілі ў Рыжскую гімназію. Пасля ён вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. Авалодаў больш чым дваццацю мовамі свету.

Дзе б ні працаваў Браніслаў Ігнатавіч, яго галоўным захапленнем жыцця былі гісторыя, фальклор, духоўная спадчына Беларусі. Ён дасканала ведаў беларускую мову. І калі цар дазволіў вольна карыстацца ёй, арганізаваў у Пецярбургу выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца».

Вось у гэтым «аконцы» і ўбачыла свет першая кніга Янкі Купалы «Жалейка». Рэдактарам, выдаўцом і хросным бацькам яе быў прафесар Эпімах-Шыпіла.

З лёгкай рукі гэтага шчырага беларуса пецярбургскае выдавецкае таварыства, а яго яшчэ называлі суполкай, за час сваёй дзейнасці выпусціла 39 кніг. Тут былі надрукаваны кнігі пачынальнікаў новай беларускай літаратуры: Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Цёткі, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Змітрака Бядулі. Свет убачыў і адчуў, што ёсць беларуская, прыгожая і мілагучная мова, ёсць народ беларускі і ёсць яго заступнікі, ахоўнікі і настаўнікі.

Вось да такога рупліўца беларушчыны, шчодрага і добрага Эпімах-Шыпілы прабіваўся наш пясняр Янку Купала. Ён напісаў ліст у Пецярбург:

«Даруйце, што асмельваюся так часта Вам дакучаць, але што я гаротны, зраблю, калі маё паганае палажэнне да гэтага змушае... Так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным мейсцы, каб сябе загартаваць, ашлідраваць на службу беларушчыны і беларускаму грамадзянству. Мне надта хацелася б убіцца ў Пецярбурзе ў якую-колечы бібліятэку; так гэта заняцце неяк страшна люблю!..»

Заўважце, Янка Купала напісаў пісьмо прафесару ў лістападзе 1909 года, а ўжо ў снежні, літаральна праз месяц, ён быў у Пецярбургу. Эпімах-Шыпіла прыняў яго ў сваёй кватэры, выдзеліў асобны пакой: даў грошай на кішэнныя расходы. Браніслаў Ігнатавіч уладкаваў Янку Купалу на вячэрнія агульнаадукацыйныя курсы А. Чарняева, на якіх чыталі лекцыі вядомыя выкладчыкі Пецярбурга. Больш таго, на кватэры Эпімах-Шыпілы працавала выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца». На яе справы прафесар аддаваў амаль усе свае заробкі. У яго кватэры збіраліся студэнты-беларусы, якіх турбавалі «сны аб Беларусі».

У Пецярбургу ў Янкі Кулалы выйшла з друку пяць новых кніг. Зборнік вершаў «Гусляр» і драматычная паэма «Адвечная песня» выдадзены ў іншай друкарні. А кнігі «Паўлінка», «Сон на кургане», «Шляхам жыцця» падаравала чытачам суполка Эпімах-Шыпілы.

Дык вось жа якім дабрадзеем, якім бескарыслівым дабрачыннікам стаў для Янкі Купалы прафесар Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла. Янка Купа-

ла з удзячнасцю і любоўю напісаў пазней пра свайго добрага апекуна Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілу: «Сумеснае жыццё маё з гэтым чалавекам назаўсёды пакінула ў мяне самыя лепшыя ўспаміны».

## «Дыханне душы»

Калі я чытаў кнігу Янкі Купалы «Шляхам жыцця», выдадзеную ў Пецярбургу, мне раптам падалося, што я адчуваю жывую душу паэта. Яна — у яго вершах! І сам аўтар прызнаецца: «Дабываю песні ад душы, ад сэрца!»

Слова «душа» нярэдка сустракаецца ў Купалавых паэтычных вобразах. Ужо ў першым раздзеле кнігі «Бацькаўшчына» ён некалькі разоў ужывае яго для ацэнкі самага важнага і самага складанага пачуцця.

Янка Купала тлумачыць, што мінуты шчасця «сплылі ў душу з высі высокай і зацвілі ў ёй яснавока». Ведаць, што песня спакою «душу ўкалыша», а песня радасці «разгоне ў душы цемнаты, непагоды». Да яго «думка за думкаю лезе ў душу». І ён хоча «узнімаць патоптаныя душы», «душой сваёй сагрэць і карону сплесці з сонца, зор залатых». За сваю Бацькаўшчыну паэт гатоў загінуць у барацьбе.

У вершы «Я люблю» Янка Купала спавядаецца, што любіць «усходы нашых палеткаў», «спавітыя ў зелень лугі», «шум бору, пануры, глухі», «шаптанне крынічнае ўлетку». Ён любіць вёску. Свой народ, цэлы край — «родны мне й дарагі». І раптам з душы паэта вырываецца запытанне: «Хто ж любіць, хто любіць мяне?»

Адказ знаходзім у новым раздзеле кнігі «Па межах родных». Тут сорак восем вершаў. У іх — душа паэта ды тая адвечная любоў да ўсяго-ўсяго, што з дзяцінства выхоўвала яго душу. Вось ён з цеплынёй піша пра явар і каліну, якія шэпчуцца, «скінуўшы зімнія чары». А мне падалося, што яны ціха гамоняць пра любоў да паэта Купалы. Ён жа, як ніхто дасюль, прыкмеціў іх лісцікі, якія «росамі мыюцца раніцай».

У вершы «Груша» як бы нічога асаблівага. Стаіць, шуміць ва ўсе бакі старая груша. На ёй шпакі чырыкаюць, ёй «сонца дарыць спёкі», «на ёй хмары дажджом плачуць». А яна, загартаваная гадамі, вядзе гутарку «то з небам, то з зямлёю». Вунь якія ў яе суразмоўцы. Дык мо калі-небудзь яны пагаварылі і пра сваю любоў да паэта Купалы?

Гэткія ж думкі выклікаюць і вершы «Дуб», «Вярба», «Лес», «Бор», «Лета», «Жніво», «Восень», «Зіма», «Снег». Яны адгукаюцца ў «чуткім сэрцы, душы» Янкі Купалы сваімі клопатамі, красой і любоўю да ўсіх, хто ўслаўляе іх.

Калі кніга «Шляхам жыцця» выйшла з друку, Янку Купалу споўніўся трыццаць адзін год. Ён быў яшчэ нежанаты. І, відаць, лагічна, што ў кнізе ёсць раздзел вершаў «Для яе». Пра якую дзяўчыну марыў паэт, якую хацеў сустрэць і любіць?

> Я хацеў бы душу адшукаці такую
> І такое хацеў бы я сэрца знайсці,
> Што са мной праз жыццёвую сцежку блудную
> Захацела б супольна і згодна ісці...

Паэт малюе вобраз сваёй каханай. Яе вочкі — гэта «дзве пралескі, два ў збожжы васількі». Яе губкі — «не калінкі — проста спелыя малінкі». Але паэт хоча галоўнага, каб у яго дзяўчыны было добрае сэрца, каб была душа і «што б мяне зразумела». Такая «дабудзе песню з душы». З такой бы з ветрам-сокалам паэт гатоў заручаць сваю душу. «Толькі прайдзі, — просіць ён, — можаш квет-

каю прайсці вясною, коласам — улетку, зімою — сонейкам, увосень — зоркаю. Ты прайдзі і думку разбудзі, абудзі, навядзі, саладзі...».

А пакуль што Янка Купала заручаны з вёскай, сельскімі нівамі і тымі роднымі мясцінамі, дзе жывуць яго мама і сёстры. Ім у кнізе — асобны раздзел «Наша вёска». Яго душа і сэрца там, дзе «горы ды каменне», «вузкія палоскі», «курныя аконцы», «лапці да сярмягі».

Дайце скрыпку мне маю.
Дайце мне мой смык!
Я зайграю, запяю,
Як жыве мужык...

Невясёлая песня, як і само жыццё вёскі, атрымліваецца ў песняра.

Чаго ж просіць-моліць мужык-селянін? Адказ знаходзім у вершы «Ці ж гэта многа?!». Яму трэба зямелькі, «з святлічкай хацінку», «за жонку дзяўчынку», «кусок салца к хлебу», «рубля на патрэбу», «здароўя чым болей», «крыху долі, волі».

І ўсё! больш нічога...
Ну, ці ж гэта многа?!

А як здабыць тое, нямногае, што патрэбна простаму люду? Пра гэта — у пятым раздзеле кнігі «Сваім і чужым». Паэт вучыць смялей працярэбліваць сабе след да свабоды і роўнасці:

Пара ў рукі браць паходні,
Уставаць, ісці, ноч рассвятляць!
Бо што не возьмеце сягоння,
Таго і заўтра вам не ўзяць.

Янка Купала вызначыў і свой шлях песняра-беларуса. Ён верыць, што трэба пра гэта запытаць сваё сэрца і дабыць «з сваёй душы ўсе праўды». Трэба, каб душа з душою заспявала, як на скрыпцы, тады выгаласіцца патрэбная, поклічная песня:

Шчаслівы ты ці нешчаслівы,
Будзі сыноў сваёй зямлі,
Над беларускай соннай нівай
Нязгасны светач распалі!

Вось тады, верыць паэт, наступіць «панаванне ўнукаў» там, «дзе плача дзед». І не згіне «край забраны», пакуль будуць жыць людзі, як не гаснуць зоркі на вечным небе.

У новы раздзел кнігі «Шляхам жыцця» Янка Купала сабраў свае байкі і аповесці. Сярод іх і паэма «Курган». Яны — сумныя і вясёлыя, трывожныя і слёзныя, балючыя і пацешныя. Але іх трэба чытаць вельмі ўдумліва, душой і сэрцам, тады надоўга заляжа ў памяці Купалава навука.

Урокамі жыцця сталі байкі і аповесці Янкі Купалы «Мікіта і валы», «Два мужыкі і глушэц», «Ігнат і п'яўкі», «Страх», «Забытая скрыпка», «Чараўнік». Над імі трэба разважаць, думаць, з іх рабіць вывады для свайго жыцця.

Кніга «Шляхам жыцця» заканчваецца перакладамі з польскай мовы твораў Адама Міцкевіча, Марыі Канапніцкай, Уладзіслава Сыракомлі.

Вось такі падарунак зрабіў усім нам Янка Купала яшчэ ў 1913 годзе. Купалазнаўцы называюць гэту кнігу паэта класічнай, этапнай, знакавай і ці не вяршыняй яго творчасці. Друкаванню кнігі садзейнічала выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца». І быў у кнігі яшчэ адзін дабрадзей, пра якога варта помніць. Гэта — Аляксандр Парфіравіч Ярэміч, урач, доктар медыцын-

скіх навук. Ён нарадзіўся на Случчыне, у сям'і беднага вясковага свяшчэнніка. Рана асірацеў. Яго гадавала цётка. Яна ўсё зрабіла, каб вывучыць сіротку, вывесці ў людзі. Гэткай жа ўдзячнай дабрынёй была напоўнена і яго душа. Калі ён пазнаёміўся з Янкам Купалам у Пецярбургу і адчуў, што ёсць праблемы ў выданні новай кнігі паэта, то аддаў на гэту добрую справу свае ўласныя зберажэнні. Узрушаны Янка Купала пажадаў, каб кніга адкрывалася словамі: «Шчыра паважанаму доктару А. П. Ярэмічу гэту кніжку пасвячаю. Аўтар». За дабро заўсёды трэба плаціць дабром.

## «Акопы — крыніцы натхнення»

На казачным, крылатым кані Пегасе ляцеў Янка Купала да маці ў Акопы. Той конь у свой час насіў самога Зеўса, вярхоўнага бога грэкаў. Ад удару капыта чарадзейнага каня ўтвараліся гаючыя крыніцы, адкуль чэрпалі натхненне паэты. Вось і казалі, калі асядлаеш Пегаса, то і станеш сапраўдным прызнаным паэтам.

Янка Купала ехаў да маці з новымі сваімі кнігамі «Гусляр», «Адвечная песня», з новымі вершамі, з новымі ўражаннямі ад Пецярбурга, з новымі творчымі задумамі. У Акопах ён хацеў сустрэць свежую крыніцу натхнення. І яна адкрылася яму ў поўнай красе.

Самі Акопы — гэта дзівосная мясціна беларускай прыроды. На лясной паляне стаяла адзінокая сядзіба-хутар. А вакол — маляўнічыя карціны: лясы, узлескі, узгоркі, на палетках — магутныя, векавыя дубы і камяні-валуны. Непадалёк ад хаты бруіўся лясны ручай. А ў зарасніках чаромхі давалі канцэрты галасістыя салаўі.

Сюды пераехала Багуміла Іванаўна з дочкамі Галінай, Марыяй, Леакадзіяй восенню 1909 года. Яна ўзяла ў арэнду і сядзібу, і зямлю памешчыцы Жалігоўскай. Сюды з лета 1911 года любіў прыязджаць Янка Купала. У яго быў свой пакой. Двума вокнамі ён пазіраў у сад, а перад садам раслі кусты шыпшыны, на клумбах цвілі кветкі. З акна паэта былі бачны дубы, елкі, сосны, ясені, клёны, рабіны, ліпы. Ён чуў песні самой прыроды, слухаў песні мясцовых людзей. І не было дня, каб у яго душы не нараджаліся свае песні. Адзін з яго першых акопскіх вершаў так і названы «Мая песня»:

> Пушча і ночка яе гадавалі,
> Няньчылі казкамі долі нямой;
> Дождж і расіца вясною купалі,
> Снежныя буры тулілі зімой...

Сястра паэта Марыя Дамінікаўна ўспамінала:

«Брат часта прыязжаў да нас, родных, у Акопы на адпачынак, асабліва летам. Кожны дзень ён прытрымліваўся пэўнага парадку. Устаўшы з усходам сонца, шпацыраваў вакол сялібы, цешачыся прыгажосцю прыроды, затым снедаў і накіроўваўся пад дуб ці да каменя, дзе, усеўшыся, пісаў, пісаў многа, ажно да абеду. Паабедаўшы, дзве гадзіны адпачываў, затым ішоў у вёску ці на хутар да сваіх знаёмых, сяброў...».

Янка Купала знаўся з сям'ёй Бычкоўскіх з вёскі Лысая Гара. Быў хрэсным бацькам іхняй дачкі Марыі. На хутары Ляўшова жыла яго сястра Марыя. Хадзіў у вёску Харужынцы, дзе адбываліся вялікія кірмашы. Туды прыязджалі людзі з Заслаўя, Радашковічаў, Вілейкі, Даўгінава, Мінска. Сярод іх паэт шукаў жывыя вобразы, а з іх гаворак вылушчваў дасціпныя слоўцы, фразы, дыялогі.

Найбольш пашанцавала Янку Купалу на хутарах Ляўшова і Рубеж. Тут ён напаткаў людзей, якія сталі прататыпамі герояў яго камедыі «Паўлінка».

Франусь Аўлачынскі быў крыху дзівакаватым і ганарыстым гаспадаром. Яго мову, звычкі, характар «пераняў» Пранцісь Пустарэвіч у «Паўлінцы». Гіляр Аўлачынскі стаў у камедыі прататыпам Сцяпана Крыніцнага, а яго дачка Ядвіга — купалаўскай Паўлінкай. Смешны і фанабэрысты Адольф Быкоўскі быў спісаны з Павэлака Ваяводскага з фальварка Калдуноўка.

Усе героі камедыі настолькі праўдзівыя і жывыя, што з першых дзён напісання «Паўлінка» стала з'явай у творчасці Янкі Купалы і ва ўсёй беларускай літаратуры.

Вядома, што Янка Купала закончыў пісаць п'есу ў Акопах 3 чэрвеня 1912 года. А ўжо праз два дні ён паведамляў у Пецярбург прафесару Эпімах-Шыпілу: «Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў пану Лявіцкаму (Ядвігіну Ш.), і ён казаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца «Паўлінка», напісана прозай, з шляхоцкага жыцця...»

Праз паўгода пасля напісання «Паўлінка» пастаўлена ў Вільні Беларускім музычна-драматычным гуртком. Удзячныя віленскія беларусы падарылі Янку Купалу залаты гадзіннік. А яшчэ праз месяц «Паўлінку» ўжо глядзелі ў Пецярбургу. Ролю Паўлінкі выканала выпускніца Віленская жаночай гімназіі Паўліна Мядзёлка. З утварэннем Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы, яго кожны тэатральны сезон распачынаецца паказам класічнай камедыі «Паўлінка». Вось які шэдэўр стварыў Янка Купала ў крынічных Акопах!

Летам наступнага, 1913 года, паэт (за адно лета!) напісаў паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», п'есу «Прымакі», драму «Раскіданае гняздо». А яшчэ ж былі і вершы. Усе яны сталі залатым набыткам нашай духоўнай спадчыны, увайшлі ў школьныя падручнікі. І гэта літаратурнае багацце ўзрошчана ў душы нашага генія Янкі Купалы ў лагойскіх Акопах.

Матчын куток, Купалава крыніца натхнення.

Цяпер у Акопах — музей. Кожнага наведвальніка сустракаюць утравелыя падмуркі былых пабудоў сядзібы, калодзежа, склепа. На камені-валун, які натхняў паэта, — металічная шыльда з Купалавымі радкамі:

Песню стварыцці ясну, як неба,
У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём.
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуццём...

Дакранаюся рукой да халоднага каменя-помніка, бяру на ўспамін кавалачак зялёнага моху з яго «спіны», і маё сэрца выстуквае малітву:

«Даруйце, Іван Дамінікавіч, што мы і нашы дзеці вельмі рэдка бываем у Акопах. Даруйце, што не ў кожнай нашай хаце ёсць Вашы прарочыя кнігі. Даруйце, што на сённяшні дзень не выканалі ўсе Вашы пажаданні, наказы, просьбы. Даруйце, калі можаце!..»

## *«Буралом»*

У Янкі Купалы ёсць верш «Буралом». Пачынаецца ён так. Усхадзіўся вецер з навальніцай. Зашумеў лес. Загаманілі між сабой векавыя дрэвы.

Пахіліўся дуб да дуба
Ды бурчыць, гамоне:
— Што-та вецер вельмі груба
Загуляў сягоння!..

Суседзі-дубы бачаць, як у пушчы «трашчаць галіны», як «старуха-хвойка саскочыла з карэння», а «з бярозы бойкай валіцца паленне». Усхадзілася бура-

ліхадзейка, пачала выпрабоўваць кожненькае дрэва. Вось «пакацілася ўздоўжкі і асіна-сваці», «не ўстаяла і ліпа — рухнула, бядачка». Шалёны вятрыска праз узгоркі дабраўся і да дубоў-мацакоў. І адзін з іх, «стары бацька», не вытрымаў, «рынуў» на зямлю.

Вось якую бураломную карціну засведчыў Янка Купала. Але ж давайце помніць, паэт — не фатограф, паэт — мастак. Сваім паэтычным словам, вырваным з самой душы, ён перадаў чытачам пэўны вобраз, свае глыбінныя пачуцці. Бачыце, апісаў буру, а верш назваў «Буралом». Для яго самае балючае — пушча пасля непагадзі. Дрэвы паламаны, вывернуты з карэннем. Калі на іх месцы вырастуць новыя дубы, сосны, ліпы, асіны? Хто іх пасадзіць? Ці стойкімі яны акажуцца перад будучымі бурамі?

Знаходзім дату, калі быў напісаны верш, і многае становіцца зразумелым. Пад вершам — паметка: «Смаленск, 14 лістапада 1918 года». Прыгадаем, што было дагэтуль, дзе бываў, што рабіў паэт, чаму доўга маўчала яго муза?

20 ліпеня 1914 года пачалася Першая сусветная вайна. Ваявалі паміж сабой трыццаць тры дзяржавы. Мільёны людзей былі ўцягнуты ў крывавую бойню.

Аж пакуль не падступілася вогненная калясніца да Вільні, мужны Янка Купала выпускаў беларускую газету. Ён ваяваў сваёй зброяй — пяром, талентам, словам. У гэты трывожны час напісаў «песні вайны», а ў іх вызначыў галоўны матыў: «Устань, хто жыў, устань, хто дуж!...»

Апошні нумар «Нашай нівы» Янка купала падпісаў 7 жніўня 1915 года. Назаўтра выехаў да маці ў Акопы. Можна толькі згадваццa, якія трывожныя дні пачаліся ў жыцці паэта. Што рабіць? Чым ратавацца? Як пераканаць ліхалецце?

Янка Купала пакіраваў у Маскву і здзейсніў там сваю запаветную мару. Паступіў вучыцца ў Народны універсітэт імя Шаняўскага. Гэтай падзеяй у жыцці тут жа падзяліўся з прафесарам Эпімах-Шыпілам. Паслаў яму ў Пецярбург ліст, але не зусім вясёлым ён атрымаўся:

«Настрой няважны, — найгорш тое, што чалавек не ведае, якое ліха цябе чакае заўтра... Цяжка надта з грашыма ды непакоіць прызыў ратнікаў II разраду. Я ратнік прызыву...»

Праз чатыры месяцы, у студзені 1916 года, Янку Купалу прызвалі ў армію. Пачаў служыць у Мінску старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Летам таго ж года разам з атрадам пераведзены ў Полацк. Крыху больш года служыў тут, пасля пераехаў у Смаленск.

Жывучы ў Смаленску, Янка Купала хацеў нейкім чынам дапамагаць новай уладзе. Ён паступіў на службу ў Аддзел забеспячэння Заходняй вобласці. Выязджаў па прадукты ў Курск і Курскую губерню, у Рослаўль і Клімавічы.

У Смаленску Янку Купалу наведаў Максім Гарэцкі, вядомы беларускі пісьменнік, які быў на фронце Першай сусветнай вайны. Пазней у рамане «Віленскія камунары» ён стварыў вобраз Купалы. З паэтам сустракаўся яго даўні сябар, пісьменнік Цішка Гартны, першы старшыня Часовага рэвалюцыйнага ўрада Беларусі. У Купалы ў Смаленску спыняўся на кватэры Аляксандр Чарвякоў. Крыху пазней ён стаў кіраўніком Беларусі.

Ці пісалася Янку Купалу ў тыя векапомныя-бураломныя гады? «Дум шмат я маю, ах, як шмат, як шмат!» — прызнаўся ён у вершы «Вечар». Напісаў яшчэ некалькі твораў. І змоўк на доўгія два гады. У 1916—1917 гадах ніводнага паэтычнага радка...

Лепшымі з напісанага перад гэтым, відаць, сталі прысвячэнні Уладцы Станкевічанцы. Янка Купала звяртаўся да яе:

Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея,
Вольная птушка сумнай зямліцы...

Шчырыя думкі свае паэт адрасаваў гэтай дзяўчыне ў вершах «Успомні!..», «... Мусіць, трэба было», «Я хацеў бы». А ў вершы «Мая жонка» прызнаўся:

Я вазьму такую,
К якой любасць чую,
Што мяне палюбіць,
Як сябе самую...

Такой жонкай для Янкі Купалы і стала Уладзіслава Францаўна, у дзявоцтве Станкевіч. Яе бацька Франц служыў леснікам на Валожыншчыне, знаўся з пісьменнікам і адным з пачынальнікаў беларускай літаратуры Францішкам Багушэвічам. А бацька і дзед Франца — удзельнічалі ў паўстаннях супраць цара. Маці Уладзіславы Эмілія нарадзілася ў Парыжы, паходзіла з роду славутага французскага мастака Клода Манэ. Выкладала французскую мову ў Варшаве і Вільні. Выйшла замуж за лесніка Франца Станкевіча. Брат Уладзіславы Вікенцій пазнаёміўся з Купалам яшчэ ў 1905 годзе ў Акопах. Разам служылі ў дарожна-будаўнічым атрадзе. Вось з такой сям'ёй парадніўся Янка Купала.

З Уладзіславай яны сябравалі доўгія восем гадоў. Пазнаёміліся ў Вільні, калі Купала працаваў у «Нашай ніве», а Уладка пасля педагагічных курсаў была выхавальніцай у дзіцячым прытулку. Пісала вершы ў «Нашу ніву» пад псеўданімам «Владычанка» і «В. Станкевічанка». Разам былі на літаратурных вечарах, беларускіх вечарынках. А калі разам вучыліся ў Маскоўскім народным універсітэце, вырашылі стварыць сям'ю. Павянчаліся ў Маскве, у Петрапаўлаўскім касцёле 23 студзеня 1916 года. У любасці і згодзе пражылі дваццаць шэсць шлюбных гадоў. А пасля Уладзіслава Францаўна стала ўдавой. Доўгіх васемнаццаць гадоў яна аплаквала свайго дарагога Янку, якому прысвяціла жыццё.

## *Мінская прапіска*

Было гэта ў Смаленску. І было так.

У ноч з 1 на 2 студзеня 1919 года Часовы рабоча-сялянскі ўрад абнародаваў Маніфест аб утварэнні Савецкай Беларусі. Дакумент падпісаў Цішка Гартны, вядомы пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Яго сапраўднае прозвішча — Жалуновіч Зміцер Хведаравіч.

Мне здаецца, Янка Купала даведаўся пра гэтыя падзеі адзін з першых. Ён жа тады жыў у Смаленску. А з Цішкам Гартным іх звязала не толькі знаёмства яшчэ з Пецярбурга. Яны сябравалі, падтрымлівалі адзін аднаго. Цішка Гартны прызнаваўся, што купалаўская паэзія «бунтавала» яго, «надавала бадзёрасці і маладога задзіру». А Янка Купала пісаў: «Цішка не «майструе вершаў», а пяе, пяе ўсёй сваёй набалелай душой, усім сваім сэрцам, гарачым, кіпучым».

Вядома, што 5 студзеня, праз чатыры дні пасля падпісання Маніфеста, Цішка Гартны і Язэп Дыла, пісьменнік, адзін з міністраў новага ўрада, наведалі Янку Купалу на смаленскай кватэры. Можна ўявіць, якімі ўсхваляванымі былі ўсе. Яны ж чакалі гэтага моманту, хацелі, каб Беларусь стала дзяржавай. Гэта мара збывалася! Урад узначальваў пісьменнік, выхавец з сялянскай, беззямельнай сям'і!

У тым жа месяцы, 21-га чысла, Янка Купала з жонкай Уладзіславай Луцэвіч пераехалі на сталае жыццё ў Мінск. Ім была выдзелена кватэра ў доме № 35 па Юр'еўскай вуліцы, у цэнтры сталіцы.

Радасць новага жыцця была хутка азмрочана. Пачаліся перамены ў кіраўніцтве Беларусі. Польскія войскі ўвайшлі на тэрыторыю беларускай рэспублікі. Янка Купала пакінуў Мінск, часова пасяліўся ў Акопах, на матчынай

сядзібе. А на пачатку новага года цяжка захварэў. У бальніцы яму было зроблена некалькі аперацый. І нават ўсё гэта не зламала дух паэта. Ён заставаўся верным сваёй музе, пакутнай Айчыне. Рэвалюцыю вітаў сваім новым вершам «Для Бацькаўшчыны».

У 1919 годзе ў Маскве выйшаў зборнік выбраных вершаў Янкі Купалы ў перакладах рускіх паэтаў. А неўзабаве ў Мінску ўбачыў свет яго зборнік «Спадчына». Вось з якімі падарункамі вярнуўся Янка Купала ў новую Беларусь.

У кнізе Янка Купала вучыць, каб усе мы бераглі спадчыну, якая дасталася нам «ад прадзедаў спакон вякоў». Яе трэба ўспрымаць, як ласку матчыну, насіць «у жывой душы, як вечны светач-полымя». І помніць, што гэта спадчына называецца «Старонкай Роднаю».

У цэнтры зборніка — паэма «Яна і Я». Шмат даследчыкаў пісалі пра гэты твор Янкі Купалы. Разгадвалі: хто «Я», а хто «Яна»? І сыходзіліся на тым, што гэта — закаханная пара, сям'я маладая, як Адам і Ева, якія любяць зямлю, прыроду, працу.

Мне ж уявілася, што «Я» — гэта сам Янка Купала, а «Яна» — гэта наша мілая Беларусь.

На крыжавых пуцінах з ёй сустрэўся —
Куды ісці, не ведала яна,
І я не ведаў — ў полі я ці ў лесе,
І мне ляжала сцежка не адна...

І мы пайшлі, як тыя цені-мары,
Няспынна ад расы і да расы...

## *«Магутнае слова, ты, роднае слова!»*

Літара да літары — слова.

Слова да слова — народная мова.

А яна, народная, родная мова, і ёсць той галоўны інструмент, тая жалейка, на якой Янка Купала праспяваў нам свае самыя лепшыя песні. Словы для яго, як зярняткі для мукі, з якой выпякаюць хлеб, як зоркі, якія ўпрыгожваюць неба, як нектар у кветак, з якога пчолкі робяць мёд. Слова ў яго — жывое, гаваркое, музычнае, …. і непаўторнае, як сама мова беларусаў. Вучоныя даказваюць, што беларуская мова найбліжэй стаіць да старажытнай славянскай гаворкі. Значыць, яна да таго ж і помнік даўніны. Як жа ўсе мы павінны берагчы гэты спадчынны скарб нашых продкаў!

Янка Купала засвоіў такую ісціну вельмі рана, з маленства. І будучы па сутнасці самавукам, прыўнёс у беларускую літаратуру свой слоўнік, сваю навуку па ўтварэнні новых слоў. Ён не толькі пісаў вершы, паэмы, п'есы, а клапаціўся, каб была створана граматыка беларускай мовы.

Яшчэ ў 1914 годзе, працуючы ў Вільні, Янка Купала пісаў Брасніславу Тарашкевічу, тады студэнту Петраградскага універсітэта, кіраўніку Беларускага навукова-літаратурнага гуртка:

«Дзядзька Тарас!

Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прысланць нам яго, калі не, то будзьце такімі добранькімі і спрытнымі ды як найхутчэй гэта зрабіце. Просіць Вас аб гэтым п. Іваноўскі, старшыня Беларускага выдавецкага Таварыства ў Вільні. Граматыку Вашу хоча Таварыства выдаць і пусціць у свет у «назіданіе» маладому беларускаму пакаленню. Дык варушыцеся, дзядзька, і ў шапку не спіце. Чакаем хуткага ад Вас адказу…».

Граматыка для беларускіх школ была выдадзена ў 1918 годзе. Пазней яе аўтар Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч стаў акадэмікам Акадэміі навук Беларусі. Высокае навуковае званне акадэміка нададзена і Янку Купалу ў 1928 годзе. А праз паўгода ён стаў акадэмікам Акадэміі навук Украіны. Перад гэтым паэт працаваў у Народным камісарыяце асветы. Займаў там розныя пасады: рэдактар беларускіх выданняў, намеснік загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела. Быў членам Камісіі, якая складала, апрацоўвала навуковую тэрміналогію. Янка Купала стаяў ля вытокаў стварэння Інстытута беларускай культуры, выбіраўся яго правадзейным членам. Прымаў удзел у Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Уваходзіў у склад камісіі, якая рыхтавала рэформу беларускага правапісу.

Пройдуць гады і дзесяцігоддзі, і ў новай незалежнай краіне, якая цяпер называецца Рэспубліка Беларусь, убачаць свет шэсць тамоў унікальных кніг — «Слоўнік мовы Янкі Купалы». Іх чытаць і перачытваць гэта ўсё роўна, што чуць жывы голас неўміручага Песняра, адчуваць яго дыханне, бачыць перад сабой генія Слова.

Давайце прачытаем некаторыя Купалавы словаўтварэнні і яшчэ раз пераканаемся, які ён самабытны творца у мове, як ён беражліва сагравáў у сваёй душы кожнае дасціпнае народнае слоўца.

**АГНІСТЫ** — падобны да агню. У Янкі Купалы агністыя і зоркі, і сонца, і рукі, і вочы, і песня агністая, і душа. А яшчэ ён карыстаецца словам АГНЯЦВЕТ: «Хай прамянее агняцветам Радзімы нашае прастол».

Мы часта ўжываем слова рахманы — добры, паслухмяны, спакойны. Калі размова ідзе пра ката, сабаку ці труса, то яны, рахманыя, уяўляюцца гэткімі мірнымі дабрадзеямі. Іх можна спакойна пагладзіць, узяць у рукі. А Янка Купала прыдумаў сваё слова — **АБРАХМАНІЦЬ**. У ім адметны сэнс — зрабіць некага паслухмяным, прыручыць, выдрэсіраваць.

**АДХУХАЦЬ** па Купалу, — адагрэць цяплом дыхання замёрзлыя рукі.

**АХАРАШЫЦЬ** — упрыгожыць.

**ВАЛАВОДЗІЦЦА** — няньчыцца, вазіцца, валтузіцца з кім-небудзь...

Прыдумаў паэт слова **СКУРГАНІЦЬ.** Дадаў да яго слова «душа». І ўжо можна доўга ламаць галаву, што ж гэта азначае «скурганіць душу»? Давайце і мы падумаем. У гэтым словазлучэнні гучыць яшчэ адно слова — «курган». А гэта ж тое месца, дзе нехта пахаваны. Божа, дык што атрымліваецца? Чалавек зажыва скурганіў сваю душу, амярцвіў яе, загубіў, развітаўся з ёй, а значыць, страціў сумленне. Як жа вобразна, адным словам даў яму ацэнку наш паэт-геній!

У «Слоўніку мовы Янкі Купалы» ёсць шмат вядомых нам слоў. Але не спяшайцеся іх прапускаць, удумайцеся, якую афарбоўку надаў ім паэт-чараўнік. Разгадайце, напрыклад, што меў на ўвазе Янка Купала, калі пісаў пра сэрца: «рві сэрца струну», «сэрца шчасцем б’ецца», «з сэрцам чыстым», «эх, і як тут жыць сэрцу чуткаму?», «сэрцайка плача», «сэрца-сірата», «браць да сэрца», «мець Бога ў сэрцы», «сэрца крывёю абліваецца», «сэрца ледзянее, млее, сушыць, сціскаецца», «узяць к сэрцу».

А цяпер «усім сэрцам» прачытаем верш Янкі Купалы «Роднае слова»:

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты наяве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень наўчыла мяне.
Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло!

Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты смялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.
Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымні ж над радзімай зямлёй;
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей найбагатшай чужой!

Гэты верш Янка Купала напісаў у далёкім 1908 годзе, амаль сто гадоў назад. Упершыню — апублікаваны не ў царскай, а ў Савецкай Беларусі. Верш перакладзены на рускую, украінскую, асецінскую, грузінскую, літоўскую, татарскую, балгарскую, чэшскую мовы.

## *«Падарункі для зорак зямных»*

У Янкі Купалы і Уладзіславы Луцэвіч сваіх дзяцей, на жаль, не было. А дзяцей любілі ўсёй душой, з Божай ласкай. У іх хаце, якая стаяла на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца Дзяржаўны музей Янкі Купалы, заўсёды звінелі вясёлыя галасы малых. У іх пастання жылі ці то пляменнікі, ці нейкія іншыя родзічы, ці проста дзеці-сіроты.

Любоў да дзяцей у сям'і Купалы была як бы прапісана духоўным законам. Яны, муж і жонка, жыццё сваё прысвяцілі дзецям. Нястомна вучылі іх шанаваць і берагчы сваю агульную хату — родную Беларусь.

Уладзіслава Францаўна прадаўжала заставацца педагогам і пры савецкай уладзе. Была інспектарам дашкольных устаноў народнага камісарыята асветы БССР, выхавальніцай у паказальным дзіцячым садку № 8 г. Мінска, педагогам-метадыстам дзіцячых устаноў. Ёсць нямала кніг з казкамі, песнямі, якія яна апрацавала, была ўкладальніцай. Калі сустрэнуцца вам даўнейшыя кнігі «Як жабы бараніліся ад бусла», «Пых», «Як пеўнік казу прагнаў», «Народныя дзіцячыя песенькі», зборнік вершаў «Для маленькіх», то ведайце, што іх падрыхтавала да друку вядомы педагог, жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Ну, а пра ўсё творчае багацце самога Янкі Купалы можна смела сказаць — гэта спадчынны скарб усіх нас, нашых дзяцей, унукаў і праўнукаў. Пра што б ні пісаў паэт, яго высокія думкі былі заўсёды скіраваны ў абарону сваёй Айчыны, а значыць, у будучыню нашых дзяцей. З асаблівай адказнасцю, з бацькоўскім пачуццём пісаў Янка Купала для тых чытачоў, якія вывучалі беларускую азбуку і шукалі чытво для сваёй душы.

Уявіце сабе той далёкі час, калі толькі стваралася БССР. Пачалі адкрывацца школы, дзіцячыя прытулкі. Сталі выпускаць часопіс для дзяцей «Зоркі». Рэдактарам быў Змітрок Бядуля. З Янкам Купалам яны працавалі ў віленскай «Нашай ніве». Аднойчы нават разам жылі на кватэры. І вось Янка Купала палічыў сваім найгалоўнейшым абавязкам пісаць для маленькіх чытачоў «Зоркі». У дзесяці нумарах часопіса надрукавана трынаццаць яго вершаў: і сваіх, і перакладзеных. Паэтычная актыўнасць, відаць, тлумачыцца перш за ўсё грамадзянскай, дзяржаўнай пазіцыяй паэта. Яго слова чакалі дзеці новай Беларусі, і ён загаварыў з імі як педагог, як бацька, як выхавальнік.

Выкарыстаўшы вобраз казачнага дзядка Бая, які бегае па сцяне «ў чырвоным кафтане», паэт склаў мудрую і павучальную байку пра пчолак. Пачынае яе апавядальна, заманліва:

Шла вясна па вясне,
Жылі пчолкі з году ў год…

Бралі ў соты з кветак мёд…
Баіць ці не?

Канечна, дзеці просяць баіць далей, бо ім цікава, што ж будуць рабіць пчолкі са сваёй здабычай — кветкавым мёдам. Ім прыемна, што пчолкі такія руплівыя, старанныя, як і ўсе паслухмяныя дзеці. Ды раптам сярод працаўніц з'яўляецца труцень. А «пчолкі добрымі былі, трутня ў госці прынялі».

За кожным разам аўтар перапытвае сваіх чытачоў: «Баіць ці не?». І чуе хор галасоў: «Баіць!». Але калі з далейшага апавядання яны даведаліся, што труцень-лежабока «есць ды есць той мёд», які пчолкі нясуць у соты, яны запатрабавалі не баіць далей. Хай лепш прыпыніцца цікавая казка, толькі б не даць трутням крыўдзіць пчолак.

Верш «Бай» напісаны Янкам Купалам у 1921 годзе, а яго з цікавасцю чытаюць і сучасныя дзеці, распешчаныя моднымі цацкамі, тэлевізарам, камп'ютэрам ды ведамі пра іншапланецян.

Песня і казка, лічыў Янка Купала, гэта тыя надзейныя нянькі, якія могуць выхаваць дзяцей, адкрыць ім таямніцы зямнога свету.

У вершы для дзяцей Янка Купала падбірае даходлівыя словы. Складае кароткія радкі, каб малы чытач змог сам прачытаць і ўсё зразумець. Гэта добры ўрок і для астатніх аўтараў, якія хочуць кранууць дзіцячую душу.

Самым сур'ёзным у зоркаўскім цыкле з'яўляецца верш «Сын і маці». Ён пабудаваны як дыялог, як шчырая размова паміж дзіцём і дарослым. Пытанні задае малы, адказы дае сталы чалавек. Тыя даўнія развагі сына і маці вельмі ж важныя і для сённяшніх дзяцей і бацькоў.

— Мама, мама, нам сягоння
Гаманілі ў школе
Аб якойсьці Беларусі,
Што жыве на волі.
Хоць я слухаў вельмі шчыра
(не люблю інакай),
Ды ніяк не мог уцяміць,
Што ўсё гэта знача…

Адказ маці няспешны, грунтоўны. За ёй жа стаіць сам Янка Купала. І яны расказваюць сыну аб прыгожай зямлі з зялёнымі палеткамі і гаманкімі пушчамі, крыніцамі і сенажацямі, бурлівымі рэкамі і сялібамі ў вёсках, мястэчках, гарадах. «Усё гэта, мае дзеткі, ад межаў да межаў Беларуссю завецца і да цябе належа».

Новае пытанне сына зноў жа вельмі простае, але яму не да канца зразумелае: хто такая Беларусь?

І маці даходліва тлумачыць, што на гэтай зямлі «ад пакон вякоў» жылі і жывуць беларусы.

Ды яшчэ, каб лепей ведаў,
Мушу табе ўспомніць:
Беларусы беларускай
Гутаркай гамоняць…

Дык вось жа на якую гаворку вывеў Янка Купала сваіх чытачоў у дзіцячым часопісе «Зоркі». Яго вершы сталі каштоўнымі падарункамі для дзяцей-зорак.

## «Румянка — эмблема паэта»

Што чалавеку трэба для шчасця? Калі ён бывае шчаслівы? Чаму шчаслівыя, як і багатыя, таксама гаруюць?

Міжволі думаецца пра гэта, калі ўзнаўляецца ў памяці, успамінах і дакументах жыццё Янкі Купалы пасля рэвалюцыі. Чытаць усё гэта цяпер, бывае, без пэўнай іроніі немагчыма. Але такі быў час, такая эпоха.

У ліпені 1921 года Народны камісарыят асветы, дзе працаваў Янка Купала, звярнуўся ў Камісарыят па сацыяльным забеспячэнні: «Просім выдаць адны новыя боты вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу (Івану Луцэвічу)». Пры гэтым Наркамсаветы дадае, што Купала ў ботах вельмі «нуждаецца».

Невядома, ці атрымаў той новы абутак паэт. Ці знасіў тыя боты, куды ў іх хадзіў, ездзіў, але нам цікава, што такая просьба існавала. Відаць, Купала меў патрэбу не толькі ў абутку. У спісе супрацоўнікаў Акадэмічнага цэнтра на атрыманне харчовых пайкоў знаходзілі і прозвішча паэта.

А ў гэты час Янка Купала піша верш «На смерць Сцяпана Булата». Ён быў знаёмы з гэтым маладым дзяржаўным дзеячам, журналістам, мужным партызанскім кіраўніком у перыяд белапольскай акупацыі. Ранняя, нечаканая смерць Сцяпана Герасімавіча Булата ўсхвалявала паэта. І ён шчыра выказаў свой смутак аб тым, хто «хапаў за косы сонца, думаў думку аб пяруне»:

> Сні, таварыш, аб Камуне!
> Свет узняўся, скамянуўся...
> Вер, свабодны вецер дуне
> Па ўсёй чыста Беларусі...

Той вольны вецер рэвалюцыі пачынаў таму-сяму замінаць у працы і кар'еры. Але пярэчыць Янку Купалу пакуль ніхто не адважваўся, наадварот, яму спрыялі, каб ён адчуваў сябе шчаслівым «камунарам».

З наступнага дакумента даведаемся, што старшыні Навукова-літаратурнай калегіі Акадэмічнага цэнтра і члену Інстытута беларускай культуры Луцэвічу Івану Дамінікавічу Мінская гарадская электрасетка дазволіла карыстацца па льготным тарыфе трыма электрычнымі лямпачкамі. А яму не прывыкаць было пісаць і пры лучыне, і пры газоўцы. Быў бы толькі душэўны спакой, спраўджваліся б толькі яго пажаданні аб той Беларусі, пра якую марыў яшчэ пры цары.

Сапраўднае прызнанне заслуг Янкі Купалы перад радзімай засведчана ў рашэнні Савета народных камісараў ад 10 чэрвеня 1925 года. Яму, прызнанаму народам Песняру, было афіцыйна нададзена ганаровае званне «Народнага паэта Беларусі». Яго вызвалілі ад займаемай пасады, «каб стварыць лепшыя ўмовы для творчай працы». Янку Купалу прызначылі пажыццёвую пенсію. Пазней беларускі ўрад узнагародзіў яго персанальнай машынай. У Ляўках, непадалёк ад Оршы, на Дняпры, яму пабудавалі дачу.

Нястомны Янка Купала рыхтуе да выдання Збор сваіх твораў у шасці тамах. Піша паэму «Безназоўнае», якая дала назву новаму яго паэтычнаму зборніку.

Якуб Колас назваў паэму «Безназоўнае» мастом, «па якім Купала пераходзіць ад старой эпохі да новай».

Янка Купала ахвотна ездзіць па гарадах, вёсках, сустракаецца з рознымі людзьмі, выступае перад імі. Такія вандроўкі і натхняюць, і лечаць ранімае сэрца.

І да яго ў Мінск прыязджала багата людзей. Аднойчы з Бабруйска да паэта завіталі школьнікі Коля Карковіч, Міша Астроўскі, Кузьма Стрыгун, Стэфа

Шчыгельская. Захацелі, каб іх школа насіла імя Янкі Купалы. Прыехалі да яго па дазвол. Паэт запрасіў школьнікаў у госці ў сваю хату. Былі пачастункі і падарункі. Кожнаму вучню Янка Купала падпісаў сваю кніжку. От бы адшукаць тых бабруйскіх шчасліўчыкаў ды спытаць, як жа яны пранеслі па жыцці Купалаву дабрыню.

Янка Купала ў дзяцей верыў заўсёды. Верыў, што яны ў будучым не дадуць у крыўду Беларусь, не здрадзяць ёй.

Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна...

Будучы ў Горы-Горках, Янка Купала сустракаўся са школьнікамі. Пабываў у сельскагаспадарчым інстытуце, агледзеў мясцовы батанічны сад. Гуляў па старым парку. Там жа яго віталі дзелегаты настаўніцкай раённай канферэнцыі і вучні мясцовых школ, беларускай і яўрэйскай.

Дзяўчынкі ў нацыянальных беларускіх уборах паднеслі Янку Купалу румянкі. Было аб'яўлена, што менавіта гэтыя кветкі і ёсць эмблема творчасці паэта. Што ж гэта за краскі?

Аказваецца, у свеце існуе звыш пяцідзесяці відаў румянак. У Беларусі назіраюцца толькі дзікарослыя. Яны — лекавыя, алейныя, фарбавальныя, меданосныя і крыху ядавітыя. Растуць каля дарог, на незасеяных палетках, на сухіх гарыстых схілах. На гэтых раслінах — лінейнае, як шаблі, лісце, а кветкі — яркасіне-фіялетавыя. Маюць няправільную форму, у густых завітках, падобных на шырокія гронкі.

Вось якую эмблему прыдумалі горацкія настаўнікі і вучні народнаму паэту Беларусі Янку Купалу. Народ любіў свайго Песняра. Але чаму ён рабіўся ўсё больш змрочным, чаму падоўгу маўчаў і аб нечым пастаянна думаў?..

## *Надлом*

Янка Купала прыдумаў такую загадку:

Я не розга і не пуга, не бізун, хоць не даўгая,
А такі ўсё ж паганяю.
Ну, згадай, хто я такая?

Пакуль вы думаеце, дам некаторыя падказкі. Яна кароткая, круглая, плеценая з вузкіх раменных палосак. Без спуска, у адну таўшчыню. Ёй любілі карыстацца казакі, татары, манголы, горскія народы. Яна — сімвал грубай сілы, прымусу. Яе можна «зарабіць» за нейкі ўчынак. Ёй можна «ўсыпаць» чалавеку за нешта.

Дык што гэта? Правільна, нагайка.

Купалазнаўцы так і не вызначылі час, калі паэт склаў гэтую адзіную сваю загадку. А мне здаецца, яна зарадзілася тады, калі над Янкам Купалам пачалі размахваць нагайкай, калі на яго пачалі звіваць бізун плётак.

Адбылося гэта, на жаль, пры савецкай уладзе, якую прызнаў, у якую напачатку паверыў Янка Купала. Усчалося ўсё тады, калі з ворагамі знешнімі было пакончана. Давай шукаць ворагаў вакол сябе.

У верасні 1922 года нейкі крытык Шукевіч-Трацякоў надрукаваў артыкул у «Савецкай Беларусі», у якім дрэнна адгукаўся аб творчасці Янкі Купалы. Пазней знайшліся іншыя крытыканы. Паэт балюча перажываў удары славеснай нагайкі.

Далей пачаліся разборкі з п'есай Янкі Купалы «Тутэйшыя». З-за яе забаранілі выпуск трэцяга тома Збору твораў паэта. П'есу знялі з рэпертуару Першага Беларускага драматычнага тэатра (цяпер тэатр імя Янкі Купалы). Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі рэкамендаваў беспартыйнаму Купалу перапрацаваць п'есу. Яна нібыта шкодзіла будаўніцтву сацыялізму ў Беларусі.

Наступны раз нагайка засвістала над Янкам Купалам, калі хуткімі тэмпамі пачалі паўсюдна ствараць калгасы. Узвіхурылася так званая калектывізацыя — аб'яднанне дробных сялянскіх уласнікаў, якім рэвалюцыя дала зямлю, у буйныя гаспадаркі. Хто не хацеў ісці ў калектыўную арцель, таго аб'яўлялі ворагам народа. Сілком разбуралі сялянскія сем'і, сядзібы. Нібыта напрарочыў Янка Купала, напісаўшы яшчэ ў 1913 годзе драму «Раскіданае гняздо». У ёй паніч выганяе сям'ю Зяблікаў са свайго поля, са свайго гнязда. Цяпер жа сама народная ўлада выганяла гаспадароў з хат, якія яны самі збудавалі, з зямелькі, якую яны арасілі сваім потам. У гэтай справе было дапушчана шмат памылак, паспешнасці. Гінулі бязвінныя людзі.

Замахнуліся нават раскулачваць дзвюх замужніх Купалавых сясцёр. І толькі ўмяшальніцтва вышэйшай улады рэспублікі прыпыніла гэту ганебную справу. Але душэўная рана ў Івана Дамінікавіча засталася.

Ішоў трывожны 1930 год.

Пачаліся арышты вядомых людзей. Іх таксама аб'яўлялі ворагамі народа. Сярод арыштаваных аказаліся сябры і таварышы Янкі Купалы, якія часта бывалі ў гасціннай паэтавай хаце.

Былі зняволены браты Гарэцкія, пісьменнік Максім і акадэмік Гаўрыла. Пасаджаны за краты Уладзімір Дубоўка, Уладзімір Жылка, акадэмік-фалькларыст Аляксандр Шлюбскі, артыст і рэжысёр, пастаноўшчык «Паўлінкі» Фларыян Ждановіч, сардэчны сябар Купалы, пісьменнік і вучоны Міхайла Грамыка…

Сышчыкі Наркамата ўнутраных спраў сфабрыкавалі справу, як бы ў нашай рэспубліцы дзейнічала контррэвалюцыйная арганізацыя «Саюз вызвалення Беларусі». Яе ўдзельнікі нібыта не згодны з той палітыкай, якую праводзілі камуністы, хацелі, каб Беларусь стала незалежнай, самастойнай рэспублікай.

Выклікалі на допыт і Янку Купалу. Сам факт допыту і абвінавачвання глыбока абурыў народнага паэта, акадэміка, члена Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта. І ён вырашыў пакончыць жыццё самагубствам. Цяпер ужо абнародавана яго перадсмяротнае пісьмо да старшыні ЦВК БССР Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова. Давайце і мы прачытаем некалькі радкоў з той споведзі, якую пісаў Янка Купала 20 лістапада 1930 года:

«Таварыш Старшыня!

Яшчэ раз перад смерцю заяўляю, што я ў ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не быў і не збіраўся быць… Быў толькі паэтам, які думаў аб шчасці Беларусі. Я ўміраю за Савецкую Беларусь, а не за якую іншую…

Яшчэ адна просьба да Вас. Заапякуйцеся маімі сем'ямі, што тут у Мінску і ў Барысаве… Папрасіце ГПУ, каб не цягалі маёй жонкі. Яна таксама, як і я, ні ў чым не павінна.

Бібліятэку сваю перадаю Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы.

Шчыра дзякую за ўсё тое добрае, што для мяне зрабілі…»

Янку Купалу выратавалі медыкі. У бальніцы ён прабыў амаль тры месяцы. Рана на целе загаілася.

Пра што думаў у тыя цяжкія дні Янка Купала?

Можа, перачытваў у думках, радок за радком, свой верш «Паўстань»? Ён напісаў яго яшчэ ў 1919 годзе. І менавіта гэты верш прад'явілі яму як абвінаваўчы дакумент.

Давайце ўважліва прачытаем «контррэвалюцыйны» верш. У першай страфе паэт звяртаецца да прарока:

> Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,
> Вазьмі з яе прысягу і зарок,
> Што не прадасць сябе, сваю зямлю…
> Зняць путы Бацькаўшчыне ўстань, прарок.

Дык што ж дрэннага просіць Янка Купала ў прарока? Дай Бог, каб так было. Гэта запаветная мара кожнага беларуса…

Наступны зварот паэта да песняра. Ён просіць былога і будучых вякоў баяна, каб ён «у сэрцах спячых распаліў пажар». Дык гэта ж адвечная малітва ўсіх лепшых сыноў зямлі беларускай.

Паэт знайшоў сардэчныя словы і да ваякаў. Яны павінны «волатам на вогненным кані» абараніць «аграблены народ». І гэта зразумела: «Свой край заваяваць паўстань, ваяк!».

Янка Купала заклінае, каб з народа нашага паўстаў Уладар, лідэр, кіраўнік, які б «адбудаваў свой збураны пасад!». Паэт просіць-моліць: «Пад беларускі сцяг прыйдзі, Уладар!»

Дык які ж пасля гэтага Янка Купала контррэвалюцыянер? Ён патрыёт, шчыры сын зямлі роднай. Яму нават сны сняцца аб Беларусі. Ён жыццё прысвяціў роднай Айчыне. І апошнія яго радкі ў пісьме да А. Чарвякова былі такія: «Няхай жа жыве гэта новае творчае жыццё для шчасця ўсяго чалавецтва!». Які ж ён нацдэм, калі ён дбаў пра ўсё чалавецтва. Вунь куды сягалі яго думкі. Вунь што ён меў на ўвазе, калі перакладаў з французскай мовы верш Эжэна Пацье «Інтэрнацыянал», які быў міжнародным гімнам усіх камуністаў свету.

Янка Купала, скрыўджаны і надламаны, вяртаўся з бальніцы дамоў. Яго чакала клапатлівая, любячая жонка і паплечніца, адчайная заступніца Уладзіслава Францаўна. Ён зноў у аўры дабрыні і спагады мамы Багумілы, якая жыла з ім. Ён зноў сярод сваіх верных сяброў — пісьменнікаў, вучоных, артыстаў, сейбістаў і рабочых, студэнтаў і вучняў. Яго чакалі адвечныя лекары — кнігі, якіх сабралася ў хатняй бібліятэцы звыш дваццаці тысяч.

Фізічная рана зажыла. Па ёй застаўся рубец. Душэўная рана, як пісаў яго даўні сябар Ядвігін Ш., ніколі не загойваецца. Яна заўсёды крывавіць. Яе залечвае толькі смерць.

## *Зусім новыя песні*

І заспяваў Янка Купала свае новыя песні. Іх можна назваць адным словам — савецкія.

Янка Купала разумеў, што напісанае ім абавязкова застанецца і ў яго творчай спадчыне, і ў духоўнай памяці нашчадкаў. А яны ўжо самі разбяруцца ў шчырасці паэта: дзе ён праўдзіва пісаў, а дзе пісаў так, каб спадабалася савецкай уладзе.

У тыя далёкія, трыццатыя гады нашай гісторыі, галоўным героем «барацьбы за сацыялізм» былі камуніст, камунар і ўсемагутныя правадыры. Іх усхвалялі, ім павінны былі спяваць славу. Янка Купала, хаця і стрымана, але таксама пісаў хвалебныя радкі мудраму таварышу Сталіну, які вёў нас «аж да камунізму».

Цяпер мы ацэньваем тое жыццё з пройдзеных гадоў. Цяпер мы ведаем большую праўду пра савецкі лад, пра культавую асобу Іосіфа Сталіна. І цяпер мы з поўным правам можам гаварыць пра мужнасць Янкі Купалы. Толькі смелы паэт мог напісаць у разгар рэпрэсій такія крыху іранічныя радкі:

Пячом караваі
З пшанічнага цеста
І спяваем песні
Сталінскага зместу.

Прыкметай творчай з'явай савецкага перыяду стала паэма Янкі Купалы «Над ракой Арэсай». Яна — вынік шматлікіх паездак паэта па калгасах, саўгасах, новабудоўлях Беларусі.

Адзін з герояў паэмы дырэктар саўгаса Эмануіл Людзін прыгадваў пра Янку Купалу:

«Пажыў ён у нас тыдні два. Я распарадзіўся даць Івану Дамінікавічу каня з калёсамі, каб ён змог ездзіць па гаспадарцы. З людзьмі паэт сыходзіўся вельмі хутка. Глядзіш — вакол яго мора камунараў, аб нечым гамоняць, смяюцца. Пры ад'ездзе Купала сказаў, што ўбачыў новае жыццё на Палессі. Калі я чытаў паэму, то дзівіўся, што Купала пра нас ведае больш, чым мы самі пра сябе...».

Паэт прызнаўся ў паэме, што «я сяўбу сам бачыў, палеткі абходзіў». Ён прыкмеціў, што ў камуне «праца шла сама сабою», «я там прыгнятых ніякіх не бачыў». Аўтар не знайшоў «людзей там смутных» і не чуў «скрытных уздыханняў, лаянак і сварак, горкіх нараканняў». Усё гэта дало падставу напісаць:

І камуна гэта,
І гэты саўгас
Будуць з лета ў лета
Расці ў добры час.

Каб пераканацца, ці спраўдзілася надзея Янкі Купалы, трэба пабываць на сённяшняй Любаншчыне, пагаварыць з сялянамі і рабочымі, паслухаць іх песні, пабачыць іх таленавітых дзяцей.

У 1939 годзе за выдатныя поспехі ў дасягненні і развіцці савецкай мастацкай літаратуры Янка Купала быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Ён з гонарам насіў яго на лацкане пінжака. А ў адным з вершаў нават пісаў:

Вочы мне з часа самкнуцца,
Жвір мяне ўхутае цвёрды,
Жыць між людзей застануцца
Песня і Леніна ордэн.

Ордэн Янкі Купалы — у музеі. А яго песня ў нашых сэрцах.

## *Пра Алесю і хлопчыка-лётчыка*

Аднойчы Янка Купала прызнаўся сябрам:

— Каб я не стаў паэтам, я быў бы, відаць, настаўнікам. Гэта самая цікавая работа ў свеце. Словы «інжынер чалавечых душ», якімі называюць пісьменніка, у большай меры, на маю думку, адносяцца да настаўніка...

А мне хочацца сказаць, што Іван Дамінікавіч Луцэвіч, Янка Купала, быў адначасова і Настаўнікам, і Паэтам. Гэтыя дзве вельмі высокія чалавечыя пасады шчасліва спалучаліся ў ім. Усё, што ён напісаў, — вершы, паэмы, п'есы, артыкулы, пісьмы — гэта і ёсць павучальныя ўрокі. Іх праходзяць па падручніках не толькі школьнікі. Імі, рана ці позна, карыстаюцца ўсе людзі на розных этапах свайго лёсу.

Хто ведаў Янку Купалу, пішуць, што ён быў маўклівы. І толькі з дзецьмі заўсёды пераўвасабляўся. Твар весялеў, на ім з'яўлялася мілая, добрая ўсмешка. Паэт рабіўся гаваркім. Яму хацелася гуляць, жартаваць.

Янка Купала любіў сябраваць з дзецьмі. Расказваюць, калі ён прыязджаў у Ляўкі, дзе была яго дача, дзеці ўжо сустракалі яго. А ён ім прывозіў цэлыя скрыні цукерак, пячэння, цацак. Для мясцовага садка, дзе часта бываў, купіў новыя лыжкі. Прасіў свайго вадзіцеля пакатаць дзяцей на машыне. Удзельнічаў у іх ранішніках. Цікава расказваў дзецям павучальную казку пра двух казлоў — Бябеку і Мямеку. Яны, сустрэўшыся на мосце, не хацелі саступіць адзін аднаму дарогу. І абодва ўпалі ў рэчку.

Паэт тонка разумеў дзіцячую душу, умеў слухаць дзяцей. Вось як ён прыгадваў пра тое, што акрыліла яго напісаць свой самы знакаміты верш для дзяцей.

«Справа была летам. Жыў я на дачы, у Ляўках. Праходзілі з таварышам праз вёску. Мы так захапіліся сваёй гутаркай, што забыліся аб навакольным. Раптам з брамы, якая была за некалькі крокаў ад нас, выбег хлопчык — загарэлы з белымі льнянымі валасамі. Ад нечаканасці мы спыніліся. Хлопчык імкліва бег і гудзеў: падрабляючыся пад гук самалёта. Хлопчык быў так захоплены сваёй гульнёй, што не звярнуў ніякай увагі на нас і, як страла, прамчаўся міма. Твар яго быў сур'ёзны, сабраны на адной думцы. Мяне гэта ўразіла. І неяк міжвольна я кінуў яму ўслед: «Кім быць хочаш?» Ён, не спыняючы бег, павярнуў да мяне галаву і звонкім дзіцячым голасам, але пераканаўча адказаў: «Лётчыкам!». Гэта сустрэча пакінула ў сэрцы маім цёплы, радасны след. Вобраз гэтага хлопчыка стаяў у маіх вачах, і я напісаў верш «Хлопчык і лётчык».

Дзяржаўны музей Янкі Купалы аднойчы арганізаваў спецыяльную экспазіцыю, прысвечаную вершу «Хлопчык і лётчык». Там быў выстаўлены на агляд рукапіс верша, зроблены рукой паэта. Можна было ўбачыць карціны вядомых беларускіх мастакоў, якія ілюстравалі верш. Дэманстраваліся дзесяткі кніг з гэтым вершам, бо ён перакладзены на шмат якія мовы свету.

А самымі цікавымі экспанатамі для хлопчыкаў і дзяўчынак былі розныя мадэлі самалётаў. Там можна было ўбачыць касцюм касманаўта і пасядзець у крэсле звышгукавога апарата. Можа, усё гэта і прадбачыў мудры Янка Купала, калі пісаў апошнюю страфу:

Вось гэтак у добрым здароўі
Мы будзем ляцець і ляцець.
Вазьмі ж мяне, лётчык, з сабою,
Не будзеш ты клопату мець!

Янка Купала ўзносіць нашых дзяцей увысь, у неба. Такую шчаслівую долю паэт прарочыць сваім нашчадкам. Ён верыў: дзецям трэба дапамагчы ўзляцець. А з вышыні яны ўбачаць усё, і ім абавязкова захочацца зрабіць нешта добрае для сваёй мілай Айчыны.

## *Трагедыя*

Пра першыя дні вайны Янка Купала прыгадваў так:

— Мы з Уладзяй ехалі ў Маскву. Ад агню і бамбёжак чорнай стала зямля, чорным стала неба. Я выходзіў з машыны, клаўся ў белыя рамонкі, на маіх вачах яны наліваліся крывёю... Я чуў трывожны гул зямлі, дзесьці грукаталі танкі. На грудзях у мяне ляжаў камень, цяжкі, як гора людское...

Мне здаецца, у тых белых прыдарожных рамонках, у якія падаў змучаны Янка Купала, якія чырванелі на яго вачах, ён не стрымліваў слёз. Са мною аднойчы так было. Прыехаў у родную хату, а яна — сіроцкая. Мама памерла. Я выбег за прыгуменне, кінуўся ў высокую траву і пачаў голасна рыдаць. Сведкамі той роспачы былі белыя рамонкі ды блакітнае, высокае неба.

Божа, Купалу ахутвала бяда яшчэ больш крывавая. У палаючым Мінску засталася яго старэнькая маці. Яна не рашылася ехаць з сынам у далёкую дарогу. А другую маці — родную Беларусь — ганьбіў, рабаваў, наносіў смяртэльныя раны вораг-вар'ят.

З першых крокаў ліхалецця Янка Купала быў паранены вайной, стаў яе ахвярай на трэці дзень вайны, у аўторак, ён вымушаны быў пакінуць Мінск. І ў той жа аўторак, 24 чэрвеня 1941 года, згарэла яго мінская хата. Варожы снарад трапіў у яе. Загінулі архіў паэта, яго вялізная бібліятэка, цудоўны кветнік руж. Ад усёй Купалавай сядзібы засталася толькі абгарэлая таполя.

І мужны Янка Купала ўзяўся за сваю магутную зброю — літаратурнае Слова. З-пад яго пяра, як трапныя кулі, пачалі вылятаць гнеўныя артыкулы «Паднялася Беларусь», «Народная вайна», «Зямля гарыць пад нагамі фашыстаў», «Партызанскі ўрад»... А ў іх вось такія заклікі: «Да зброі, Беларусь! Браты і сёстры, падымайцеся на смяртэльную бітву з заклятым ворагам... Вышэй будзем трымаць сваю нацыянальную гордасць, беларусы!.. Не выпусцім ні аднаго жывога немца з нашай зямлі! Смерць кожнаму з іх!..»

Як бомба самай разбуральнай сілы, стаўся верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам». Ён быў напісаны на трэцім месяцы вайны, пад Масквой, дзе часова жыў паэт. І вельмі хутка з дапамогай радыё, лістовак, газет быў данесены да ўсіх народных мсціўцаў. Ён стаў іх гімнам, сцягам, гучаў як кліч да бязлітаснай барацьбы з ворагам:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны...

Гэта страфа ў вершы паўтаралася чатыры разы. І вельмі запаміналася. Западала ў душу. Выклікала лютую нянавісць да ворага, жаданне змагацца з ім да поўнай перамогі.

А вораг на першых парах быў усё ж мацнейшым. Фашысты рваліся да Масквы. І было вырашана эвакуіраваць Янку Купалу з жонкай у небяспечнае месца. Так яны апынуліся ў пасёлку Пячышчы, у Татарыі, на Волзе. Там цяпер адкрыта кватэра-музей Янкі Купалы. А сярод экспанатаў самы дарагі — жменька зямлі з Беларусі, якую прывёз сюды паэт у суровым сорак першым годзе.

У Пячышчах Янка Купала напісаў працяг свайго знакамітага верша «Хлопчык і лётчык». У новым варыянце ён стаў называцца «Хлопчык і лётчык на вайне». З першага куплета пачыналася сур'ёзная размова дарослага ўжо хлопчыка з баявым лётчыкам:

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі мяне ўрэшце з сабой,
Цяпер не малы я ўжо хлопчык —
Сам-раз ляцець разам у бой.

І хлопчык даводзіць страшную споведзь. Яго мамку зарэзалі немцы. Сястрычку не пашкадавалі, спалілі жыўём. Пасля гэтага застаецца толькі помсціць фашысцім вылюдкам:

Змяцём з беларускіх загонаў
Паганыя банды прыблуд,
Край вызвалім родны з палону,
Нямецкіх пазбавімся пут...

У Пячышчах, на беразе Волгі, захавалася лаўка, на якой любіў сядзець Янка Купала. Яна зроблена проста. Два ўкапаныя ў зямлю слупкі, а на іх ляжыць дошка. Уяўляю, сядзіць на ёй маўклівы Янка Купала, задуменна пазірае на ціхія хвалі ракі, а думкі яго аб роднай Беларусі. Як жывеш, зраненая старонка? Дзе ты цяпер і што з табой, мая родная матуля? Сэрца сціскаецца ад болю і крыўды. З грудзей вырываюцца радкі веры і надзеі:

Загоім раны, адбудуем
Свае сялібы зруйнаваны,
Сваю краіну маладую
Святлом асвецім нечуваным.

Янка Купала ўдалечыні ад радзімы як мог набліжаў перамогу. Ён верыў, ні на секунду не сумняваўся, што вораг будзе знішчаны і выгнаны з роднай зямлі.

Паэт Янка Купала ваяваў сваімі вершамі на перадавой і ў тыле. Акадэмік Янка Купала прадаўжаў адшліфоўваць Слова і натхняў гэта рабіць сваіх сяброў, калег па Саюзе пісьменнікаў. А ў сакавіку 1942 года на сесіі Акадэміі навук БССР у Казані выступіў з дакладам: «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя». Сваю прамову закончыў палымяным заклікам: «Усе свае сілы аддадзім на разгром ворага!»

А сваіх жыццёвых сіл у Янкі Купалы заставалася ўсё меней і меней.

Ён прыехаў у Маскву па выкліку старшыні ўрада Беларусі 18 чэрвеня 1942 года. Пасяліўся ў гасцініцы «Масква». Былі радасныя сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, з маскоўскімі сябрамі. Рыхтавалася да выдання ў Маскве яго дзіцячая кніга. Вельмі балела левая рука. Збіраўся сур'ёзна падлячыцца. Саюз пісьменнікаў рыхтаваўся ўрачыста адзначыць шасцідзесяцігоддзе Янкі Купалы.

Да юбілею заставаліся лічаныя дні, а да смерці ... лічаныя гадзіны.

Вечарам 28 чэрвеня 1942 года Янка Купала трагічна загінуў у гасцініцы «Масква», дзе часова пражываў.

А праз два дні ў акупіраваным фашыстамі Мінску, на 85-м годзе жыцця, памерла маці паэта Багуміла Іванаўна Луцэвіч. Яе сэрца на адлегласці адчула бяду, якая здарылася з сынам у Маскве. І не вытрымала...

Іх, маці і сына, пахавалі ў адзін дзень — 1 ліпеня 1942 года: сына — у Маскве, на Ваганькаўскіх могілках; маці — у занятым ворагам Мінску, на Вайсковых могілках, на сцяжынцы да царквы Аляксандра Неўскага.

Цяпер на Вайсковых могілках у Мінску цэлы музей помнікаў Луцэвічам. Тут спачываюць маці паэта Багуміла Іванаўна, яго сёстры Ганна, Марыя, Леакадзія, жонка Уладзіслава. Тут велічны помнік вернаму сыну зямлі беларускай Івану Дамінікавічу, Янку Купалу. Бронзавы паэт сядзіць каля гранітнай стэлы на камені. На ім кашуля з раскінутым каўняром. На левае плячо накінута паліто. Паэт босы, што як бы злучае яго з роднай зямлёй, якую ён бязмежна любіў.

Пра нечаканую смерць Янкі Купалы існуюць тры версіі. Нібыта яна была выпадковай. Быццам гэта было самагубства. І апошняя версія — забойства...

Ніхто пакуль не ведае праўду. Веру: яе знойдуць нашчадкі Купалы, бо цікаўнасць да лёсу паэта-прарока, яго творчасці ніколі не згасне ва ўдзячных сэрцах беларусаў.



## Максім ТАНК
## (1912—1995)

# ЭТАПЫ ЛЁСУ



Максім Танк (сапр. Яўген Іванавіч Скурко) нарадзіўся **4 (17) верасня 1912** года ў вёсцы Пількаўшчына на Мядзельшчыне ў сям'і сялян-серадлякоў.

Пасля заканчэння пачатковай польскай школы вучыўся ў Віленскай рускай і Радашковіцкай беларускай гімназіях. Але з беларускай быў выключаны за ўдзел у школьных хваляваннях.

У **1928** годзе будучы паэт уступае ў камсамол і пачынае актыўна супрацоўнічаць з падпольшчыкамі.

У **1929—1930** гадах Максім Танк вучыцца ў Вільні на тэхнічных курсах міліяратараў.

З **1930** па **1932** год наведвае віленскую рускую гімназію імя А. С. Пушкіна. Аднак за сваю падпольную дзейнасць у красавіку **1932** года быў арыштаваны і толькі ў ліпені выпушчаны пад заклад.

У **1932—33** гадах, пасля вызвалення з турмы, Максім Танк зноў вяртаецца да падпольнай работы, працуе інструктарам ЦК камсамола Заходняй Беларусі. У гэты ж час пачынае актыўна друкавацца. Яго публікацыі з'яўляюцца ў часопісах «Пралом», «Часопіс для ўсіх», газетах «Беларускае жыццё», «На пераломе». Менавіта ў газеце «Беларускае жыццё» з'яўляецца першы верш, падпісаны псеўданімам Максім Танк. Дарэчы, падпольшчык Яўген Іванавіч Скурко ў той час меў некалькі псеўданімаў і партыйных мянушак: Віктар, А. Сівер, Жэнька і інш.

З **мая 1933** па **май 1934** і з **верасня** па **снежань** гэтага ж года Максім Танк сядзеў у віленскай турме «Лукішкі», дзе наладзіў выпуск рэвалюцыйнага рукапіснага часопіса «Краты». Усяго выйшла 6 нумароў.

З **1934** па **1939** год працаваў у легальным друку, але працягваў шырока супрацоўнічыць з падпольнымі выданнямі.

У **1936** годзе выходзіць першы зборнік паэта «На этапах». Але кніга не дайшла да чытача, тыраж быў канфіскаваны. Той жа лёс напаткаў і паэму «Нарач», якая выйшла ў **1937** годзе. Для маладога паэта рэвалюцыйная барацьба была акружана арэолам высокага рамантызму. Лірычны герой яго твораў — сапраўдны патрыёт, актыўны змагар, рамантык. Максім Танк вітаў уз'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі.

У **1939—1940** гадах Максім Танк працуе ў абласной газеце «Віленская праўда».

**1940** год — год уступлення Максіма Танка ў Саюз пісьменнікаў. Тады ж у Мінску выдаецца кніга яго выбраных твораў.

З **1941** па **1945** год Максім Танк працуе ў газеце «За Савецкую Беларусь», агітплакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», многа піша. Яго патрыятычныя вершы, прасякнутыя героікай і рамантызмам, карыстаюцца надзвычайнай папулярнасцю. Але ў пажарышчы вайны гіне рукапіс чарговага зборніка паэта разам са сцэнарыем «Бура над Нараччу».

З **1945** па **1948** год Максім Танк — літаратурны рэдактар часопіса «Вожык».

У **1948** годзе за паэтычны зборнік «Каб ведалі» паэт атрымлівае Дзяржаўную прэмію СССР.

З **1948** па **1966** год Максім Танк займае пасаду галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».

З **1958** года узначальвае аддзяленне савецка-польскай дружбы Савецкага камітэта абароны міру.

У **1959** годзе за кнігу «След бліскавіцы» Максім Танк уганараваны Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.

У **1966** годзе паэт атрымлівае Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы за зборнік «Мой хлеб надзённы».

З **1966** года Максім Танк займае пасаду першага сакратара, а з **1971** па **1990** — старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

З **1968** года Максім Танк — Народны паэт БССР.

У **1971** годзе ў Польшчы паэт атрымаў прэмію аўтарскага аб'яднання «ЗАІКС» за пераклады твораў польскай літаратуры на беларускую мову, сярод якіх — спадчына А. Міцкевіча і іншых класічных польскіх паэтаў.

У **1974** годзе Максім Танк уганараваны званнем Героя Сацыялістычнай Працы.

У **1978** годзе атрымлівае Ленінскую прэмію за зборнік «Нарочанские сосны», якi выйшаў на рускай мове ў Маскве ў **1977** годзе.

У **1980** годзе Максім Танк атрымлівае прэмію імя А. Фадзеева за кнігу «Прайсці праз вернасць», якая выйшла ў **1979** годзе.

Паэт увесь час займаўся грамадскай, грамадска-палітычнай дзейнасцю. З **1969** па **1989** год Максім Танк — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, з **1947** па **1971** год — Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Вярхоўнага Савета БССР VI—VII скліканняў.

У **1984** годзе Максім Танк стаў ганаровым грамадзянінам горада Мінска.

Паэт меў шэраг дзяржаўных узнагарод, сярод якіх чатыры ордэны Леніна, ордэны Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені, Дружбы народаў. Уганараваны афіцэрскім крыжам Адраджэння Польшчы.

Максім Танк пайшоў з жыцця 7 жніўня **1995** года.

# З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

Архіўныя матэрыялы, якія друкуюцца ў дадзеным нумары «Полымя», ілюструюць грамадскае і творчае жыццё Максіма Танка перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Дакументы № 1, 2, 3, 4 тычацца ўступлення Максіма Танка ў Камуністычную партыю.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны Максім Танк, як вядома, працаваў у газеце «За Савецкую Беларусь», агітплакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», шмат пісаў і друкаваўся. Але не ўсе свае вершы гэтага перыяду Танк уключаў у пазнейшыя зборнікі. Таму дадзеныя пра першыя публікацыі асобных вершаў не трапілі ў біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», няма іх і ў 2-м томе Збору твораў у 13 тамах.

Знаёмства з франтавой газетай «За Савецкую Беларусь» дазволіла выявіць амаль 40 публікацый Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, К. Крапівы, П. Панчанкі, М. Танка, К. Чорнага і іншых пісьменнікаў, звесткі пра якія адсутнічаюць у даведніках.

У прыватнасці, верш — «Асенняй поўначчу» ўпершыню быў надрукаваны не ў 1945 годзе ў зборніку «Вастрыце зброю», а 3 лістапада 1941 года ў газеце

«За Савецкую Беларусь». Верш «Радзіме» («Хмары з захаду...») у Зборы твораў пазначаны таксама 1945 годам. Але на самай справе ён быў надрукаваны яшчэ ў 1941-м таксама ў газеце «За Савецкую Беларусь» ад 21 лістапада.

Першапачатковая публікацыя верша «Не шкадуйце, хлопцы, пораху» датуецца 1943 годам, лічыцца, што ён з'явіўся ў друку ў зборніку «Моладзь Беларусі ў баях за Радзіму». Але ён друкаваўся ў газеце «За Савецкую Беларусь» яшчэ 28 лістапада 1941 года.

Асаблівую ўвагу звяртае на сябе верш «Мы вернемся», які з'явіўся ў друку 12 верасня 1941 года таксама на старонках франтавой газеты «За Савецкую Беларусь». Ва ўсе зборы твораў верш уключаўся ў перапрацаваным варыянце, аднак варыянт першапачатковы не саступае яму ў змястоўнасці і эмацыянальным уздзеянні на чытача, а ў плане вартасцей тэхнічных нават пераўзыходзіць.

Для параўнання мы прывядзём абодва варыянты верша. Верхні тэкст — варыянт, які ўваходзіць у Збор твораў пісьменніка ў 13 тамах. Параўнаем яго з першапачатковым варыянтам, надрукаваным у верасні 41-га (ніжні тэкст):

Клубамі чорнымі дым віўся,
Ўгрызаўся ў вочы і ў раллю.
Мы адступалі, падпаліўшы
Свае сядзібы і зямлю.

Каб там, дзе завітае вораг,
Або праскача яго конь, —
Бурлілі рэкі і азёры
І помсты палымнеў агонь.

Каб на шляхах, палях, ў акопах
Спакою вораг не зазнаў,
Каб жвір сыры, гарачы попел
Яго магілы засыпаў.

Настане дзень баёў апошніх!
Мы адступілі, каб было
Дзе легчы ворагу на пожнях,
Парослых сіняй гавылой.

А мы шляхі вярнуцца знойдзем,
Як вырай іх знаходзіць век,
Па сонцу, што над намі ўзойдзе,
Па звону беларускіх рэк.

---

Пажары грозныя дымілі
Па ўсёй разгневанай зямлі.
Мы, адыходзячы, палілі
Свае сядзібы і палі.

Каб там, дза ступіць люты вораг,
Дзе праімчыць бандыцкі конь, —
Ўскіпалі рэкі і азёры
І буйны палымнеў агонь.
Каб нават попел помстай падаў,
Сляпіў звярыны прагны зрок;
Каб здаганяў усюды гадаў
Магільнай хмараю пясок.

Хай бачаць наш агонь Карпаты
І гордыя хрыбты Балкан,

Дзе выйшлі ў бой на супастата
Сыны адважныя славян.

Мы адыходзілі, каб вораг
Тут смерцю чорнаю сканаў
На нашых сонечных прасторах
Пад шум асок і шорах траў.

Але мы знойдзем шлях зваротны,
Як і знаходзілі вавек —
Па сонцы, што над полем родным,
Па звону беларускіх рэк.

Лейтматыў першапачатковага варыянта верша — абурэнне і жах перад неабходнасцю паліць ураджай на землях, якія пакідала Чырвоная Армія. У шырокавядомым тэксце, змешчаным у Зборы твораў Максіма Танка, азначаны матыў гучыць прыглушана, менш выразна. Такім чынам, позняя апрацоўка твора выглядае не прыцягненай да канкрэтнай падзеі, да вядомых абставін. Яна больш абстрактная, пазбаўленая прамых паралеляў з рэаліямі тагачаснага жыцця захопленых ворагам земляў.

У газеце «Звязда» за 6 жніўня 1941 года змешчаны кароткі артыкул «Аб хлебе і ўраджаі». Мы прыводзім яго тут.

«Таварышы калгаснікі, калгасніцы, рабочыя, работніцы, партызаны, школьнікі і піянеры, часова захвачаных ворагам раёнаў Савецкай Беларусі!

Згаладаўшыяся гітлераўскія бандыты працягваюць свае акрываўленыя лапы да нашага хлеба, да багатага ўраджаю.

Хлеба і бульбы ў фашыстаў няма.

Хлеб і бульба ім патрэбны для вайны супроць вашых бацькоў, мужэй, братоў, сыноў.

**Шкода, вядома, таварышы, знішчаць здабыты чэснай працай, багаты ўраджай, але дапускаць, каб ураджай папаў фашыстам, значыць здрадзіць радзіме, дапамагчы ворагу працягваць расстрэльваць нашых бацькоў, мужэй, братоў, сыноў, жонак і дзяцей.**

Фашысцкая сволач хлеб не пакіне, яна аграбіць усё да зярнятка.

Дык не давайце хлеба і ўраджаю ў рукі ворагу. Хавайце ў лясах, у ямах хлеб і бульбу, неабходныя для сябе.

**Спальвайце і знішчайце ўсе пасевы.**

Без хлеба фашысцкія сабакі падохнуць з голаду, яны смярцельна баяцца знішчэння ўраджаю.

Блізак час расплаты.

Дзейнічайце смела. Не бойцеся фашыстаў.

Чырвоная Армія громіць ворага і хутка вызваліць вас.

Будзе савецкая ўлада — будзе і хлеб!»

Першапачатковы варыянт верша ўтрымлівае згадку і пра другую характэрную для тых дзён падзею — заклік да арганізаванай барацьбы славянскіх народаў супраць фашызму: «Хай бачаць наш агонь Карпаты// І гордыя хрыбты Балкан,// Дзе выйшлі ў бой на супастата// Сыны адважныя славян».

Справа ў тым, што якраз напярэдадні выхаду верша ў друк (магчыма, падчас яго напісання) адбыўся ўсеславянскі мітынг у Маскве. БССР прадстаўляў на ім Янка Купала. Вынікі работы мітынгу былі надрукаваныя ў газеце «Советская Белоруссия» за 16 жніўня 1941 года. У паведамленні, у прыватнасці, гаварылася: «Мы объединяемся как равные с равными. У нас одна задача и одна цель — разгром гитлеровских армий и уничтожение гитлеризма. У нас одно горячее всеобъемлющее стремление — чтобы славянские, так же как и все другие, народы мирно и свободно развивались в рамках своей государственности».

Азначаныя абставіны паўплывалі на змест першапачатковага варыянта верша. Гэтым тлумачыцца яго вялікая сэнсавая і эмацыянальная насычанасць. Верагодна, Максім Танк прапаноўваў верш «Мы вернемся» для друку ў больш позняй рэдакцыі, бо рэаліі, што існавалі падчас напісання твора, адышлі ў мінулае, перасталі быць пазнавальнымі.

Тое самае тычыцца і яшчэ трох вершаў, якія, пасля першай публікацыі ў 1941 годзе на старонках газеты «За Савецкую Беларусь», больш ніколі не перадрукоўваліся. Такім чынам, яны не трапілі ў даведнік «Беларускія пісьменнікі» і ў 2-гі том Збору твораў Максіма Танка ў 13 тамах. Гэта вершы: «Іх подлы прах развее вецер», што выйшаў 26 верасня 1941 года, «Прыйдзе расплата», які з'явіўся на старонках газеты 3 кастрычніка, «Кастрычнік» — надрукаваны 7 лістапада.

Названыя вершы фактычна засталіся невядомымі даследчыкам і аматарам творчасці Максіма Танка.

Тэкстолагаў, складальнікаў бібліяграфій, навукоўцаў чакае вялікая праца. Не ўсе адкрыцці зроблены, у архівах і сховішчах музеяў яшчэ знаходзіцца нямала цікавых, надзвычай каштоўных матэрыялаў, не вядомых шырокаму чытачу, не даследаваных, не асэнсаваных літаратуразнаўцамі.

*Падрыхтавалі*
*В. Скалабан і М. Шамякіна.*

## № 1

Сакратару ЦК КП(б)Б 2-78
Таварышу Панамарэнку

У сувязі з пастановай ЦК ВКП(б) аб быўшых членах КПП КПЗБ і КПЗУ прашу восстанавіць мяне ў правах члена ВКП(б) з залічэннем партыйнага стажа ад 1936 г.

*Яўгеній Іван.Скурко — Максім Танк*

Беласток 12.V.1941 г.
Фонд 4п, вопіс 23, справа 4276, аркуш 3. Аўтограф Максіма Танка.

## № 2

### Аўтабіяграфія

Радзіўся я ў 1912 г. у вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна Вілейскай вобл., гадаваўся ў сям'і дзеда, у якога было 15 га ворнай зямлі. Сям'я была 12 чалавек. Падчас першай сусветнай вайны бацька служыў у царскай арміі простым салдатам. Пасля як масцеравы быў адпраўлен у Маскву, дзе працаваў у шавецкай майстэрні, куды і я пераехаў з сваёй маткай. У 1922 г., вярнуўшыся дамоў з бежанства, летам я ганяў чатыры годы на паству, зімой хадзіў вучыўся ў польскай пачатковай школе. У 1926 г. паступіў у Вілейскую сярэдняю школу, дзе правучыўся два гады. Школа была зачынена, і я паступіў у Радашкаўскую беларускую гімназію, дзе ў 1928 г. уступіў у камсамол.

Правучыўся паўгода ў Радашкаўскай гімназіі, за ўдзел у школьнай забастоўцы я быў выдаляны. Пераехаў у Віленскую беларускую гімназію. У лютым 1928 г. зноў успыхнулі школьныя забастоўкі, як пратэст супроць закрыцця польскімі ўладамі беларускіх школ, і я зноў быў змушаны пакінуць беларускую гімназію. Па-

сля вучыўся на аднагадовых меліярацыйных курсах і толькі ў 1930 годзе мне зноў удалося паступіць у сярэдняю школу, у Віленскую рускую гімназію ім. А. С. Пушкіна. Адначасна працаваў я ў падпольнай камуністычнай друкарні, з якой выйшлі ў 1930—32 г., апрача адозваў, два нумары часапісу «Пралом». У «Праломе» я надрукаваў свае першыя вершы, некаторыя з маіх вершаў былі перадрукованы пасля ў 1932 г. у Мінскай хрэстаматыі заходняй беларускай літаратуры.

У апрэлі 1932 г. пачаў я працаваць у легальных камуністычных часопісах: у львоўскай беларускай газеце пад рэдакцыяй Івана Гаўрылічанка і ў журнале «Часапіс для ўсіх», якія пасля першых нумароў былі зачынены і я разам з іншымі быў арыштаваны. Пасля следства я быў выпушчаны пад залог 200 злотых і ў верасні гг. пайшоў у Сов. Саюз. У Мінску мяне не затрымалі, а вярнулі назад. Калі я прыехаў у Вільню, сакратарыят камсамола мяне направіў інструктарам у раёны Навагрудка, Глыбокага. Сакратаром ЦК камсамола Зах.Беларусі быў т. Левін Юдэль. Цяпер ён працуе ў г. Вільні.

У маі 1933 г. я быў у Глыбокім арыштаваны. Акружны віленскі суд даў 6 год турмы. Суд апеляцыйны кару зменшыў да двух год умоўных (з «zamienieniem» на 5 год) і лішэннем усіх правоў на 8 год. Седзючы ў турме на Лукішках, я пачаў літаратурны журнал «Краты», які ад 1933 г. выходзіў да 1938. У «Кратах» я «друкаваў» пяром свае вершы, якія пісаў на Лукішках. Прасядзеўшы год, я быў выпушчаны, але праз два месяцы зноў быў арыштаваны за напісаныя ў астрозе адозвы і вершы, якія былі знойдзены стражнікамі ў аднаго з таварышаў. Прасядзеўшы з паўгода, суд апраўдаў. У турме сядзеў я з т. Пятром Радзюком (цяпер жыве ў Лідзе), з Олькіным (працуе ў Куранецкім райана Вілейскай вобл.), і тав. Гарэлікам-Фрыдляндам (член ВКП(б)), працуе у гор. Мінску.

На выхадзе з астрога працаваў на вёсцы з Макарам Хацяновічам (вёска Каранішачы Крывіцкі раён Вілейскай вобл., інструктарка Аляксандра Шчасная Смургонскі раён), арганізуючы падчас нарачанскага бунту рыбакоў падпольную работу і тэхніку ў раёнах Мядзела і Крывічэй.

У кастрычніку 1935 г. па вызаву ЦК КПЗБ я пераехаў у гор. Вільна на легальную работу па арганізацыі літаратурных сіл і рэвалюцыоннай легальнай прэсы. Працаваў у рэдакцыі «Наша Воля» і ў польскай камуністычнай газеце «Poprostu». Быў я членам тройкі, у кіраўнічым актыве рэвалюцыоннага нацыянальнага вызваленчага руху, кіраўніком быў т. Самуіл Малько. Пазнейшы член секратарыяту ЦК КПЗБ. Цяпер ён працуе ў гор. Высоцку Ровенскай вобл. зам прэдседацелем райіспалкома. Працаваў таксама і з другім членам ЦК КПЗБ т. Гіршам Смолярам, цяпер адказным сакратаром беластоцкай газеты «Беластокер Штэрн» і Беластоцкага аддзялення Саюза Сов. пісьменнікаў, і з т. Хрыстафовічам, які ў 1937 г. да роспуска партыі быў кіраўніком рэв. нац. вызваленчага руху (цяпер працуе недзе ў Пружанах Брэсцкай вобл.).

У члены КПЗБ прынят быў у 1936 г. у маі т. Самуілам Мальком. Аж да роспуску партыі працаваў у гор. Вільні, дзе ў 1936 г. выйшаў мой першы зборнік вершаў «На этапах», які быў польскай цэнзурай канфіскаваны. Суд даў за гэты зборнік 6 месяцаў турмы. У 1937 годзе выйшлі мае два зборнікі «Журавінавы цвет» і паэма «Нарач», якая таксама была зрэзана цэнзурай. У 1938 г. выйшаў чацвёрты зборнік вершаў «Пад мачтай». Кнігі гэтыя выдаваліся за грошы КПЗБ і за складкі, якія прысылаліся сялянамі і работнікамі.

Пасля роспуска партыі працаваў я ў Вільні ў якасці чорнарабочага весаўшчыка на складах насення «Віленскай Ізбы Рольнічай». Перад самай вайной жыў на вёсцы ў Мядзельскім раёне Вілейскай вобл., дзе после прыхода Чырвонай Арміі быў членам Мядзельскага сялянскага камітэта. Ад кастрычніка 1930 г. да кастрычніка 1940 працаваў у якасці літкансультанта ў Вілейскай абл. газеце «Сялянская газета». У 1940 г. ажаніўся. Жонка Любоў Андрэеўна Асаевіч у той самай рэдакцыі працавала машыністкай аж да выезду ў гор. Беласток, дзе паступіла вучыцца ў педінстытут. Я цяпер займаюся выключна літаратурнай працай. У 1940 годзе ў Мінску выйшаў зборнік маіх выбраных твораў і таксама ў Маскве ў перакладзе на

рускую мову. Падчас выбараў у месныя саветы выбраны дэпутатам Беластоцкага горсавета.

*Яўгеній Іванавіч Скурко — Максім Танк.*

Беласток 12.V.41 г.

Фонд 4п, вопіс 23, справа 4276, аркушы 4, 4[об]. Тэкст-аўтограф М. Танка.

## № 3

### Протокол № 6
### закрытого партийного собрания парторганизации редакции газеты «Совецкая Беларусь» от 3/VIII-42 года

ПРИСУТСТВОВАЛО: 11 членов ВКП(б), 4 кандидата ВКП(б)

Повестка дня:

1. Прием в партию.
2. Постановление МГК и райкома ВКП(б) об обеспечении города топливом.

СЛУШАЛИ: 1. Заявление тов. СКУРКО Евгения Ивановича (Максима Танка) о приеме его кандидатом в члены ВКП(б).
(Докладывает и зачитывает документы о тов. Скурко тов. ШЛЯФЕР)

Тов. Скурко Евгений Иванович (литературный псевдоним Максим Танк) 1912 года рождения, белорус, происходит из крестьян, уроженец деревни Пильковщина Мядельского района Вилейской области БССР, образование среднее, поэт.

Рекомендуют тов. СКУРКО

т. Кравченко И. С. п/б № 2821653, член ВКП(б) с 1920 года.
т. Борисенко В. В. п/б № 0885443, член ВКП(б) с 1928 года.
т. Лыньков М. Т. п/б № 0887390, член ВКП(б) с 1926 года.

Высказались

Ковалев: тов. Скурко я знаю с 1939 года, как члена Союза советских писателей Белоруссии. За это время он написал значительное количество произведений. Он в белорусской литературе является значительной величиной и сейчас серьезно работает над произведениями, призывающими к борьбе с немецкими оккупантами. Тов. Скурко скромный человек, и я считаю, что мы правильно сделаем, приняв его кандидатом в члены ВКП(б). Вступление в кандидаты партии возлагает на тов. Скурко еще больше ответственности. Он еще больше должен работать для своего советского народа.

Мацова: Знаю тов. Скурко (Танк) по работе в военной газете «За Советскую Белоруссию». Он дисциплинированный, достойный товарищ, политически грамотный, вполне заслуживает быть достойным в кандидаты партии.

Майхрович: Кто читал произведения Танка, тот знает, что его творчество всегда было революционным, партийным. И за время работы в военной газете он показал себя, как беспартийный большевик. Он достоин быть кандидатом в члены партии.

Минов: Я мало знаю тов. Танка и думаю, что так и многие присутствующие на собрании знают его не глубоко. Я хотел бы, чтобы его общественную и политическую деятельность более осветили здесь. Все здесь говорят о положительных сторонах тов. Скурко, а у него может и есть недостатки. (Конкретных недостатков указать не могу.)

Чаусский: Мы не можем говорить, что тов. Скурко не видел жизни. Он вел подпольную работу в Польше, сидел в польской тюрьме и уже это характеризует его общественно-политическую деятельность. Тов. Скурко (Танк) один из лучших белорусских поэтов, активно участвует в агитационной работе по разоблачению кровавых замыслов фашистов. Его произведения по своему содержанию всегда партийные. Я живу и работаю вместе с тов. Танком и знаю его как выдержанного, политически грамотного товарища. Мое мнение: принять тов. Скурко кандидатом в члены партии.

Фещенко: Тов. Скурко (Танк) на протяжении всей своей жизни и будучи на подпольной работе в Польше, и в работе при советской власти, и в своей литературной деятельности всегда был с нашей партией, с нашим народом. Я поддерживаю предложение предыдущих товарищей о принятии его кандидатом в члены партии.

ПОСТАНОВИЛИ: принять тов. Скурко Евгения Ивановича (Максим Танк) кандидатом в члены ВКП(б).

(Постановление принято единогласно) [...]

Председатель собрания *А. Василевский*
Секретарь *Старовойтенко*

## № 4

### Протокол № 20
### закрытого партийного собрания парторганизации редакции газеты «Совецкая Беларусь» от 16 ноября 1943 года

ПРИСУТСТВОВАЛИ: члены и канд. ВКП(б) — тт. Фещенко, Пинхасик, Минов, Шляфер, Шаврова, Савицкая, Лифшиц, Вишневский, Пыжков, Шер, Мацова, Пигузова, Грубе, Волкинд, Риклис, Ногина, Шляпина, Скурко, Азгур.

Председатель собрания — Шер.
Секретарь собрания — Минов.

Повестка дня:

1. Прием в члены ВКП(б)

СЛУШАЛИ: 1. Заявление тов. Азгура Заира Исаковича о приеме его в члены ВКП(б). (Информ. тов. Шляфер.)

Азгур Заир Исакович, 1908 года рождения, по национальности еврей, образование н/высшее, канд. в члены ВКП(б) с июля 1939 года, происходит из рабочих, по професии скульптор. Работает скульптором в комитете по делам искусства. Заслуженный деятель искусства БССР.

Рекомендуют:

1. Чаусский М. М., член партии с 1927 года, п/б 0887480.
2. Гавриленко П. Н. — с 1927 года, п/б 2827793.
3. Майхрович С. К. — с 1928 года, п/б 2827251.

Высказались

Грубе — знаю тов. Азгура с детства. Хороший художник. Один из самых активных и плодотворных скульпторов. В своих работах показал свою партийность, преданность родине.

За короткое время в Москве Азгур создал много художественных произведений — монументальных портретов Героев Советского Союза и героев белорусского народа. Тов. Азгур достоен быть членом партии.

Фещенко — знаю тов. Азгура с 1941 года, знаю как хорошего мастера скульптуры. Рекомендую принять его в члены ВКП(б). Обращаю внимание на одну неточность в рекомендации тов. Чаусского. Агитплакат «Раздавим фашистскую гадину» стал выходить не в июне, а июле 1941 года.

Минов — тов. Азгура знает народ по его произведениям. Он создал много произведений — портретов героев нашего народа. Совсем недавно он второй раз отмечен правительственной наградой — награжден орденом Красной Звезды. Мое предложение: принять тов. Азгура в члены ВКП(б).

ПОСТАНОВИЛИ: принять тов. Азгура Заира Исаковича в члены ВКП(б).
(Решение принято единогласно.)

СЛУШАЛИ: 2. Заявление тов. Скурко (Максим Танк) Евгения Ивановича о приеме его в члены ВКП(б).
(Информ. тов.Шляфер.)

Тов. Скурко (Максим Танк) Евгений Иванович, 1912 года рождения, по национальности белорус, происходит из крестьян-середняков, образование среднее, кандидат в члены ВКП(б) с августа 1942 года, по профессии писатель. Работает в агитплакате «Раздавим фашистскую гадину».

Рекомендуют:

1. Шляфер И. Б., член партии с 1926 года, п/б № 0851779.
2. Мацова Л. З. — с 1930 года, п/б № 2821756.
3. Пинхасик Г. Л. — с 1921 года, п/б № 0877804.

Высказались:

Азгур — поэта Скурко (Максима Танка) я знаю с дня освобождения Западной Белоруссии, с 1939 года. Он является борцом за освобождение своего народа, борцом за советскую власть в Западной Белоруссии. Как писатель он человек партийный, за время войны он написал много волнующих поэм, стихов, мобилизующих белорусский народ на борьбу с немецкими оккупантами. Предлагаю принять его в члены ВКП(б).

Мацова — я читала много стихов Максима Танка (Скурко). Это истинный советский патриот, большевик. Особенно сильно написал стих «Мы вернемся». В последнее время много уделяет внимания прозе, вопросам контрпропаганды, разоблачающей «новый порядок» немецких оккупантов. Тов. Скурко достоин быть членом партии.

ПОСТАНОВИЛИ: принять тов. Скурко (Максима Танка) Евгения Ивановича в члены ВКП(б). (Решение принято единогласно) [...]

Председатель собрания — *Шер*
Секретарь собрания — *Минов*

Фонд 239, вопіс 6, справа 2, аркуш 39.
Арыгінал машынапіс. Подпісы Шэра і Мінава — аўтографы.

***Публікацыя В. Селяменева, В. Скалабана.***

Вячаслаў РАГОЙША

# КАБ ВЕДАЛІ…

Пачатак паэтычнага XX стагоддзя для беларусаў азораны сонцадайнасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Другая палова і канец стагоддзя асветлены паэтычным выпраменьваннем яшчэ аднаго генія — Максіма Танка (1912—1995). Пры гэтым не будзем прымяншаць значэння і іншых беларускіх паэтычных «свяціл» — ад Максіма Багдановіча і Алеся Гаруна да Аркадзя Куляшова і Пімена Панчанкі. Аднак па ідэйна-мастацкай глыбіні і ўсеахопнасці выяўлення паэтычнага таленту ў беларускай паэзіі мінулага стагоддзя паставіць з імі побач мала каго можна. Скажам, з паэтычнага даробку Максіма Танка можна лёгка вылучыць і пры жаданні выдаць асобныя вялікія тамы выдатных, Нобелеўскай прэміі вартых, вершаў грамадзянскіх, патрыятычных, пейзажных, філасофска-медытатыўных, інтымных, сатырычных, дзіцячых… Ніхто, відаць, з такой паўнатой не выявіў духоўны космас беларуса паслякупалаўскага перыяду нашай гісторыі, як аўтар «Нарачанскіх соснаў». Прычым багаццю і непаўторнасці гэтага космасу арганічна адпавядае непараўнанае багацце вершаванай формы ў галіне паэтычнай вобразнасці (вобраз канкрэтна-пачуццёвы і ўмоўна-асацыятыўны), метрыкі і рытмікі (самыя розныя віды верша сілаба-танічнага, танічнага, верлібр), строфікі (верш страфічны і астрафічны, секстына, санет, хайку…), сінтаксісу (рэтардацыя, паралелізм, анжамбеман…), кампазіцыі (кальцавая, амебейная, пуант…)… Паэт, які таксама як і Янка Купала, у выніку цяжкіх жыццёвых абставін не меў магчымасці закончыць нават звычайную гімназію, здабыў шляхам самаадукацыі такія глыбокія веды ў галіне культуралогіі, гісторыі і тэорыі літаратуры, што стаў паўнавартасным акадэмікам, літаратурным першапраходцам, заканадаўцам паэтычнага стылю.


*Пад нарачанскаю сасною.*

Максім Танк — сапраўды народны паэт, годны вучань і прадаўжальнік дум і дзей Янкі Купалы і Якуба Коласа, у тым ліку і па нацыянальным самасцвярджэнні беларусаў у сучасным свеце. Купалаўскі кліч «Жыве Беларусь!», які сёння гучыць з вуснаў тысяч маладых беларускіх хлопцаў і дзяўчат як крылатае выслоўе «За незалежную Беларусь!», на працягу ўсяго жыцця быў той ніткай Арыядны, якая прывяла песняра Нарачы да песняра ўсёй Беларусі, усяго беларускага народа. Народнае, нацыянальна-беларускае самасцвярджэнне, канечне, найперш ішло ў яго праз мастацкую творчасць, яе тэматыку, праблематыку, высокую эстэтычную вартасць. Але не толькі. Пры неабходнасці ён мог рашыцца і на грамадзянскі ўчынак. Не забудзем, што Максім Танк — апошні беларускі (ва ўсякім разе, у XX стагоддзі) паэт-рэвалюцыянер…

Лёс распарадзіўся так, што Максім Танк пражыў усё роўна як дзве эпохі. Першую — у міжваеннай капіталістычнай унітарнай Польшчы, дзе

звыш трох мільёнаў беларусаў не мелі нават сваёй культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Другую — у сацыялістычнай Савецкай Беларусі, што на правах асобнай «свабоднай» рэспублікі ўваходзіла ў склад СССР. Мяжа — 17 верасня 1939 года — не толькі аддзяліла адну ад другой дзве дзяржавы, дзве сацыяльна-палітычныя сістэмы, але прадвызначыла іншую, у параўнанні з ранейшай, культурную арыентацыю, некалькі іншыя ўмовы і свайго ўласна-творчага, і агульнанароднага, нацыянальна-беларускага самасцвярджэння. Што да апошняга, то і ў першую, і ў другую эпохі мэта была адна і тая ж: праз нацыянальнае самапазнанне і самаўсведамленне — да дзяржаўнага самасцвярджэння, умовы — прыблізна аднолькавыя: нацыянальна свядомым беларускім мастакам, па словах самога Максіма Танка, «заўсёды нешта пагражала», ды і сродкі для дасягнення мэты ў пісьменнікаў заставаліся падобныя: роднае мастацкае слова…

Да ролі «нацыянальнага заступніка» Яўген Скурко (сапраўднае імя і прозвішча паэта) рыхтаваўся ззамаладу. Ва ўмовах Заходняй Беларусі ён не толькі актыўна займаўся палітыкай, удзельнічаў у камуністычным падполлі, выяўляў сябе як грамадзянін, але і актыўна пашыраў запас літаратурных ведаў, удасканальваў сваё паэтычнае майстэрства. Гэта вучоба, у прыватнасці, зафіксавана ў дзённіку паэта заходнебеларускага перыяду — «Лістках календара». На яго старонках — назвы дзесяткаў твораў, у тым ліку фальклорных, сотні прозвішчаў беларускіх, рускіх, польскіх, украінскіх і іншых пісьменнікаў, з творчасцю якіх літаральна штодзённа знаёміўся малады пісьменнік. Прычым яму быў даступны не толькі польскі і заходнееўрапейскі друк, але і савецкі (дзякуючы атрыманаму дазволу працаваць у славянскім аддзеле універсітэцкай бібліятэкі ў Вільні). Ён мог супастаўляць творы, напісаныя рознымі метадамі, у рэчышчы розных літаратурных і стылёвых напрамкаў, арыентавацца на лепшае, нягледзячы на тое, дзе і на якой мове яно было напісана. Пад канец жыцця Максім Танк падкрэсліваў, што «вершы пачаў быў пісаць са злосці, бо ў тагачаснай заходнебеларускай літаратуры было столькі муры, якая і мяне справакавала ўзяцца за пяро». Як бы там ні было, але ўжо тое, што малады паэт мог адрозніць сапраўднае мастацтва ад падробкі, сведчыць пра яго тонкі эстэтычны густ. У станаўленні ж гэтага густу яму садзейнічала беларуская народна-паэтычная творчасць, якую ён увабраў, як і родную беларускую мову, з малаком маці. Фальклор, які, па словах паэта, «ўратаваў ад забыцця і нашу мову, і мінуўшчыну, а яна — нашу будучыню», ён ведаў настолькі глыбока, што вольна спрачаўся нават з самімі знаўцамі фальклорнай паэтыкі. Вучоба ў народнай творчасці (як і ў многіх прафесійных літаратараў) адбілася літаральна на ўсёй арыгінальнай творчасці Максіма Танка.

Пры ўсім тым, варта зазначыць, у творчасці Максіма Танка ніколі не было фармалістычнага штукарства, пошукаў «формы дзеля формы», чым грашылі (і грашаць) некаторыя вершатворцы, прадстаўнікі т. зв. «чыстага мастацтва», «панэстэтызму», мадэрнізму і постмадэрнізму. Яшчэ ў маладыя гады, калі паэтаў звычайна разбірае фармалістычны сверб, Яўген Скурко, пазнаёміўшыся з асобнымі вершаванымі практыкаваннямі рускага паэта В. Хлебнікава, зусім па-сталаму мудра запісаў у сваім дзённіку (7. 04. 1935 г.): «Мне здаецца, што падобнымі эксперыментамі могуць займацца паэты, перад якімі ніколі не стаяла пытанне: быць ці не быць іх мове? Аж зайздросна, што ёсць на свеце пісьменнікі, якіх ніколі не трывожыла гэта праблема». Перад Максімам Танкам заўсёды, з падлеткавага ўзросту і да апошніх дзён жыцця, стаяла пытанне: быць ці не быць беларускай мове, а значыць — і беларусам як нацыі, а ўрэшце — і Беларусі як дзяржаве…

Безумоўна, для нацыянальнага самасцвярджэння выдатныя мастацкія творы маюць не меншае значэнне, чым выдатныя дасягненні ў навуцы і эканоміцы. Але ці могуць існаваць выдатныя творы мастацтва без глыбокіх думак, надзённых ідэй, актуальных праблем?!

У розных заходнебеларускіх выданнях Максім Танк друкаваў вершы, паэмы, апавяданні, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, у якіх адстойваў ідэі народнасці мастацтва, сацыяльнага вызвалення працоўнага беларуса з-пад уціску капіталу, актыўнага супраціўлення фашызму, дэбеларусізацыі, што тады вялася

ў форме паланізацыі. Яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны Максім Танк звязаў свой лёс з сацыялістычнымі ідэаламі. З тымі, якія найбольш блізкія да ідэй хрысціянскай усеагульнай справядлівасці. Але менавіта з ідэаламі, а не з той партыйнай наменклатурай, для якой і гэтыя ідэалы, і сама камуністычная партыя былі толькі сродкам самарэалізацыі, спатолення славалюбства або ўзыходжання на жаданую вяршыню ўлады. Максім Танк ніколі не рваўся да ўлады, а ў той час, калі яе меў (стршынства ў Вярхоўным Савеце БССР, рэдактарства ў «Полымі», старшынства ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі), сцвердзіў сябе як адзін з найбольш талерантных, дэмакратычных кіраўнікоў. Пра тое, як падчас няёмка адчуваў сябе паэт на сваёй службовай пасадзе, іншасказальна выказаўся ён у вершы «Роздум караля», у якім паказаў трагедыю звычайнага цыгана, што змяніў волю на «непатрэбны чын» — згадзіўся «стаць над цыганскімі табарамі каралём». Творчую свабоду, волю даводзілася мяняць на «непатрэбны чын» не аднаму Максіму Танку. Успомнім хаця б Якуба Коласа і Кандрата Крапіву, якія некалькі дзесяцігоддзяў былі віцэ-прэзідэнтамі Акадэміі навук БССР, або Міхася Лынькова і Петруся Броўку, якія доўгі час узначальвалі рэспубліканскую пісьменніцкую арганізацыю… «Чын», зразумела, забіраў дарагі для творчай працы час, але разам з тым дазваляў глыбей пазнаць жыццё, актыўней і больш непасрэдна служыць простым людзям, роднай зямлі, культуры, мове…

Бадай, у кожнага сапраўднага паэта пры неабходнасці можна вылучыць лейтматыў — галоўны, пастаянны матыў яго творчасці. Такім лейтматывам у творчасці Максіма Танка з'яўляецца вобраз шляху, дарогі. Глыбока сімвалічна, што першая кніга паэта называлася «На этапах». Два зборнікі 1970-х гг. маюць таксама «дарожныя» назвы — «Дарога, закалыханая жытам» і «Прайсці праз вернасць». А яшчэ ж былі зборнік «У дарозе», вершаваны цыкл «З далёкіх дарог»… Ды і апошняя прыжыццёвая кніга паэзіі «Мой каўчэг» таксама выклікае асацыяцыі руху, перамяшчэння, шляхоў-дарог (на гэты раз — легендарна-біблейскіх). Праўда, не заўсёды гэтыя шляхі адразу кідаюцца ў вочы. Як, напрыклад, этапы былой Заходняй Беларусі. Як «закалыханая жытам» палявая дарога. Але калі лірычны герой Максіма Танка праходзіў пад вартай па турэмным этапе або з асфальтаванай шашы ступаў на палявую дарогу ці жытнёвую сцежку, то і тады мы бачым, чым жыў, што думаў увесь беларускі народ.

Аднак ёсць усё ж самая галоўная дарога, па якой Максім Танк нястомна крочыў усё жыццё.

> Я спытаў чалавека,
> Які прайшоў праз агонь,
> І воды,
> І медныя трубы:
> — Што самае цяжкае
> На гэтым свеце?
> І ён адказаў:
> — Прайсці праз вернасць.

Вернасць Бацькаўшчыне. Вернасць свайму народу, роднай маці, каханай. Вернасць роднай мове. Гэтай дарогай вернасці непахісна і ўпэўнена ішоў Максім Танк, ніколі і нідзе не збочваючы, не пятляючы, ведучы за сабой па краіне паэзіі мільёны беларускіх і замежных чытачоў. А яна, краіна танкаўскай паэзіі, надзвычай вялікая і цікавая. Яна не абмяжоўваецца толькі Беларуссю. Яе перасякаюць амаль усе мерыдыяны і паралелі зямнога шара, на скрыжаванні яе дарог узвышаюцца сотні гарадоў і вёсак, яна населена людзьмі самых розных нацый і народнасцей. І ўсё ж, несумненна, у цэнтры яе — родная Беларусь. У паэзіі Максіма Танка знайшла адлюстраванне беларуская шматпакутная гісторыя, яе рэальныя факты і моманты легендарныя. Паэт стварыў паэмы пра Кастуся Каліноўскага (паэма «Каліноўскі») і паўстанне на возеры Нарач (паэма «Нарач»), уславіў Нябабу і Гаркушу — правадыроў народных выступленняў супраць сярэдневяковых магнатаў («Антон Нябаба», «Балада пра Гаркушу»), склаў песні і балады пра многіх воінаў і партызанаў Вялікай Айчыннай вайны («Каб ведалі», «Жэтон», «Балада пра партызана Дубягу», «Балада» і інш). Нібы той рупны і аб'ектыўны гісторык, «на камні, жалезе і зола-

це» (кожнай падзеі — адпаведны матэрыял!) пакінуў Максім Танк вартыя ўвагі нашчадкаў «адбіткі жыцця».

У Максіма Танка ёсць верш «Перапіска з Зямлёй» **(1964),** дзе паэт у некалькіх радках, з дапамогай надзвычай скандэнсаванай умоўна-асацыятыўнай вобразнасці не толькі выявіў асноўныя моманты сваёй біяграфіі, але і ўвасобіў сваю філасофію, сваё разуменне жыццёвых каштоўнасцей.

Я пісаў Зямлі многа лістоў
Пяром, якім пішуць лірычныя песні,
Гімны розныя, маніфесты;
Пісаў я смыкамі ўсіх скрыпак,
Якія смяюцца і плачуць;
Пісаў спіцамі дрогкіх калёс,
Якарамі і мачтамі караблёў,
Штыком і сапёрнай лапатай;
Пісаў кубкамі, з якіх п'юць
За здароўе і вечную памяць, —
Але пакуль што
Адказ атрымаў я
Толькі на ліст мой,
Напісаны плугам.
Вось ён.
Парэжце на скібы яго.
Частуйцеся.
Ежце.

Сапраўды, паэт пісаў у сваім жыцці і пранікнёныя лірычныя песні, і баявітыя гімны, і партыйныя маніфесты. Аддаў ён даніну не толькі паэзіі, мастацтву ў шырокім сэнсе, але і шматлікім вандроўкам, сяброўскім застоллям. Яго муза ў салдацкім шынялі змагалася на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Але жыццё пераканала паэта: самае галоўнае, самая патрэбнае — праца хлебароба. Па сваім светаадчуванні, светаразуменні, мастацка-вобразнай палітры, манеры думаць і гаварыць Максім Танк найперш (але не толькі!) вясковы, сялянскі паэт. Калі шляхціц Янка Купала выступаў у свой час «ад імя» селяніна, мужыка («Што я мужык, усе тут знаюць…»), то Максіму Танку не трэба было перапранацца ў сялянскую вопратку — ён ад дзядоў-прадзедаў быў селянінам. Відаць, трывала аселі ў ягонай свядомасці і сэрцы запаветы дзядоў, бацькоў, а таксама сялян Пількаўшчыны і ўсёй Нарачаншчыны, каб нават у сталым узросце сказаць: «Усе вартасці, ісціны меру // Я мужыцкім аршынам — працай» («Бібліятэка»). Паэт, моцна стоячы на этычных і эстэтычных пазіцыях селяніна-працаўніка, мог бескампрамісна заявіць:

Не давайце таму хлеба,
Хто не любіць роднай глебы,
Не арэ, не засявае
І век мазалёў не знае.

Сялянства, якое да апошняга часу нават па сваёй колькасці пераўзыходзіла ўсе іншыя сацыяльныя слаі Беларусі, з'яўляецца і сёння асноўным (хоць ужо, на шчасце, і не адзіным) захавальнікам беларускага менталітэту, культуры і мовы. І таму яскравае выяўленне Максімам Танкам сялянскасці яго светапогляду — гэта адначасова і выяўленне беларускасці: беларускага ладу жыцця, нацыянальных ідэалаў беларусаў, своеасаблівасці іх культуры, велізарнейшых камунікатыўных і выяўленчых магчымасцей беларускай мовы.

Як вядома, у некаторых народаў пэўныя прадметы, з'явы прыроды, расліны сталі своеасаблівымі нацыянальнымі эмблемамі, сімваламі. Так, у рускіх ім стала «кудрявая береза», апетая ў шматлікіх фалькорных творах, услаўленая многімі паэтамі. «Тополя» — абавязковая рэалія ў творчасці пісьменнікаў паўднёвай нашай суседкі, Украіны. Такім нацыянальна беларускім дрэвам-сімвалам у паэзіі Максіма

Танка стала сасна. Вобраз сасны, і не толькі як найбольш тыповай прадстаўніцы беларускай флоры, але і як сімвал Беларусі, яе сапраўднай, хоць і сціплай, някідкай прыгажосці, сустракаецца ў творчасці паэта вельмі часта. Сасна разам з тым сімвалізуе жыццяўстойлівасць роднай зямлі, неадольнасць яе ніякімі «бурамі», ніякай «зімой». Не дзіва, што менавіта сасна вырасла «на высокім кургане», пад якім спяць «дзеці-сокалы» — героі Вялікай Айчыннай вайны («Каб ведалі»). Менавіта сосны заўважыў Максім Танк падчас сваёй паездкі ў Амерыку ў 1961 годзе («Сосны на беразе акіяна»). Заўважыў іх, хоць, вядома, на далёкім кантыненце можна было ўбачыць і іншыя, найперш экзатычныя, дрэвы. Менавіта сасновая галінка нагадала паэту родны край у яго фантастычным падарожжы з Хрыстафорам Калумбам. Нагадала тады, калі ўсе падарожнікі ў пагоні за багатай здабычай забыліся нават на само існаванне Радзімы («Сон над Нёманам»). Урэшце, невыпадкова Максім Танк свой зборнік вершаў, за які ў 1978 годзе заслужана атрымаў самую высокую ў СССР прэмію — Ленінскую, назваў «Нарачанскія сосны».

Гэта — нічога,<br>
Што плашч мой і шапку<br>
На вешалцы бачыш.<br>
Я часта начую і днюю<br>
Ля сосен сваіх<br>
Нарачанскіх,<br>
Дзе ўсе беды мае,<br>
Дзе ўсе радасці мае,<br>
Дзе ўсе думы мае, —

гаворыць паэт у вершы «...Калі завеш мяне», а за гэтымі нарачанскімі соснамі мы бачым увесь нарачанскі край, усю Беларусь. Нават увесь свет.

Разам з тым Радзіма ў паэзіі Максіма Танка асацыіруецца яшчэ з адным паняццем — роднай песняй. Песня, бадай, — самае частае па ўжыванні паэтычна-вобразнае разуменне, якое выступае як у сваім прамым значэнні («...Пяюць дзяўчаты «Рэчаньку», «...Калі гора сагне»), так і ў пераносным, нават сімвалічным («Калі трэба была песня», «...Хтось падстаўляе драбіну»). Песня ў паэта ўвасабляе духоўны пачатак у жыцці чалавека, а менавіта — прыгажосць, красу, у тым ліку прыгажосць,



*Каля Дома творчасці «Іслач». В. Рагойша, М. Танк, Т. Кабржыцкая, Ф. Няўважны (Польшча), Р. Іванычук (Украіна), В. Жыдліцкі (Чэхаславакія), І. Шамякін. 1987 г.*

красу Бацькаўшчыны. Максім Танк заўсёды на першае месца ставіў матэрыяльныя вытокі чалавечага жыцця (яны ў яго найчасцей акрэсліваюцца паняццем «хлеб»), але ніколі не забываўся і пра песню. Наогул, у яго творчасці, як правіла, «хлеб» і «песня», карыснае і прыгожае стаяць побач. Гэтым ён працягваў і развіваў эстэтычныя традыцыі сваіх вялікіх папярэднікаў, у прыватнасці — Максіма Багдановіча, які ў «Апокрыфе» разважаў: «Штодзённымі клопатамі поўніцца жыццё людское. Але калі зварухнецца душа чалавека, — толькі песня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песні свае». У адным з вершаў Максім Танк заклікаў пакінуць для нашчадкаў «з першабытным прысмакам» чатыры рэчы: «хлеб, песню, віно і каханне» («Пасланне вучонаму»). Ён ставіў гэтыя атрыбуты чалавечага шчасця побач, раячы сваім сучаснікам узвесці хлебу і песні помнікі на зямлі («...Кропля дажджу»).



*Максім Танк і Гагарына Ганна Цімафееўна — маці Юрыя Аляксеевіча Гагарына.*

Родавае паняцце «родная песня» ў паэтычным лексіконе Максіма Танка звычайна ўключае і відавое разуменне «родная мова». Тым не менш у творчасці паэта ёсць нямала радкоў і непасрэдна пра беларускую мову — ад цэлых вершаў і да згадак у кантэксце асобных твораў. Пра беларускую мову ён пісаў, беларускую мову абараняў ад паланізацыі, высмейвання, знішчэння яшчэ да верасня 1939 года. У ваенным 1943 годзе, калі «акрываўлены вораг з пятлёй» стаяў «над родным загонам, Над будучыняй і над песняй», Максім Танк стварыў велічны гімн беларускай мове — «святыні народа, бяссмерцю яго». У напісаным арыгінальнымі нонамі (дзевяціраднымі строфамі) вершы «Родная мова» ў вобразнай форме дадзена класічнае вызначэнне мове не толькі як сродку камунікацыі, але і як эстэтычнай сістэме, у якой увасоблены гісторыя, народна-паэтычная творчасць, псіхалогія, побыт, сацыяльныя і нават прыродныя ўмовы існавання народа. Не адно ў паэтычнай творчасці, але і ў мовазнаўстве цяжка знайсці такое лаканічнае і ў той жа час ёмістае, усеабдымнае вызначэнне сутнасці і радаводных крыніц мовы (любой, а не толькі беларускай), якое можа параўнацца з наступным інтуітыўна-вобразным выказваннем Максіма Танка:

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, —
Ты выткана, дзіўная родная мова.

У пасляваенны час Максім Танк таксама не раз звяртаўся да праблемы роднай мовы, праблемы, якая для беларусаў, на жаль, была і дагэтуль застаецца не толькі культуралагічнай, але і палітычнай. Вось некалькі запісаў з яго «Дзённіка»: «Памыляецца нямецкі мовазнаўца Аўгуст Шляйхер, што мова нават адарванай ад штодзённага жыцця можа жыць. Гэтаму пярэчаць факты. Зараз наша беларуская мова, жывыя крыніцы якой перакрыты іншамоўнай школай, прэсай, радыё, прапагандай

і агітацыяй, — усё больш і больш адступае перад экспансіямі суседніх дзяржаўных моў, губляе свае пазіцыі і знікае. І гэта — у той час, калі вызваляюцца народы ад імперыялістычнага прыгнёту і адраджаюць сваю мову і культуру» (2. 11. 1954); «Не ведаю, як будзе з нашай мовай. Трэба, каб на ёй загаварылі ўсе, а не толькі пісьменнікі. Каб яна чуваць была ў штодзённым жыцці, бо асіміляцыя, як ракавыя метастазы. Пранікла, закранула самыя глыбінныя яе словатворчыя слаі» (1. 1. 1988); «Вярнуўшыся з Масквы, пайшоў на сустрэчу з гарадскім актывам. Пачуўшы, што я выступаю на беларускай мове, зал пачаў мяне спыняць апладысментамі. Чаго можна чакаць ад такога партактыву? Прыкрае ўражанне засталося ў мяне ад такой сустрэчы. Самі забылі і народ адвучылі гаварыць на сваёй мове» (5. 7. 1988); «Неабходна, каб наша мова стала дзяржаўнай і гэта было ўзаконена ва ўсіх установах, у штодзённым жыцці»(30. 7. 1988).

Будучы камуністам па сваім светапоглядзе, Максім Танк у той жа час не пагаджаўся з палітыкай КПСС, асабліва ў часы М. Хрушчова і Л. Брэжнева, накіраванай на паскоранае «зліццё» нацый і нацыянальных моў, дакладней — на асіміляцыю, русіфікацыю нярускіх моў і культур. Так, у вершы «Мне здаецца» паэт спрачаўся з апалагетамі камунізму, якія будучы грамадскі лад бачылі аднастайным і аднамерным і, у прыватнасці, хутчэй стараліся «пазбыцца «перажыткаў» — Сваёй культуры і мовы». Ён, паэт, быў упэўнены, што «ля ўваходу ў камунізм спытаюць»:

А спяваеце песні
На мове якой?
Кажаце, што на многіх,
Толькі не на сваёй?..

Само пытанне ўжо змяшчала недвухсэнсоўны адказ. А каб не было сумнення ў пазіцыі паэта, ён у канцы свайго верша адпраўляў «не аднаго дзівака такога» павучыцца ў некаторых выдатных людзей («у Пушкіна, Міцкевіча, Шаўчэнкі...»), у тым ліку — у Францішка Багушэвіча і ў паэтавага «друга Расула Гамзатава». Алюзіі тут вельмі празрыстыя. У прыватнасці маецца на ўвазе выказванне Багушэвіча з прадмовы да «Дудкі беларускай»: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Што да Гамзатава, то знакаміты аварскі паэт, лаўрэат Ленінскай прэміі, якраз незадоўга да публікацыі танкаўскага твора надрукаваў на рускай мове (у перакладзе Н. Грэбнева) свой верш «Родная мова» з вельмі красамоўнымі словамі (за іх тады на паэта акрысіліся некаторыя вялікадзяржаўныя шавіністы):

И если завтра мой язык исчезнет,
То я готов сегодня умереть.

Вось так умела і мудра ў легальным савецкім друку выступаў Максім Танк у абарону роднай беларускай мовы, а тым самым — і беларусаў як нацыі. Яго пазіцыя, і не толькі як паэта, але і як члена ЦК КПБ, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР і БССР, якую ён не раз выказваў не толькі вершаваным словам, але і непасрэдна, уплывала, несумненна, на нацыянальна-культурны працэс і ў Беларусі, і ва ўсім тагачасным Савецкім Саюзе...

Звыш дзесяці гадоў прайшло з таго часу, як не стала Максіма Танка. Дзякуючы Указу Прэзідэнта Беларусі аб ушанаванні памяці народнага паэта імя Максіма Танка сёння носяць Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт, вуліца і педагагічны каледж у Мінску, пачалося выданне трынаццацітомнага Збору твораў паэта... А хочацца памарыць і пра захады да святкавання недалёкага ўжо стогадовага юбілею творцы: ягоны музей у роднай Пількаўшчыне, велічны помнік яму ў сталіцы Беларусі, навуковую Танкаўскую лабараторыю ў Дзяржаўным педуніверсітэце яго імя... І пра новыя выданні ягоных твораў, новыя глыбокія даследаванні «сакрэтаў» яго творчасці.

Каб ведалі, «якімі ўсе мы скарбамі багатыя і што нельга пра іх забываць» («Мне здаецца...»).



**Пятро САБІНА**

# НА ВЫШЫНІ ЎЗЛЁТУ

Дарога ад Мінска да Жодзіна не доўгая і не сумная. Раз-пораз звяртаюць на сябе ўвагу прыгожыя, памаладзелыя за апошні час за кошт новых сучасных пабудоў вёскі, дачныя пасёлкі, дзе кантрастуюць звычайныя, без архітэктурнага палёту думкі дамы з шыкоўнымі, у розных стылях, з адмысловым густам пабудаваныя і гарманічна далучаныя да прыроды катэджы — сведчанне, што іх уладальнікі людзі далёка не роўнага дастатку і занятку.

Амаль штодня праязджае па гэтай аўтамагістралі Мікалай Андрэевіч Папкоў, і ўсё, што наўсцяж сустракаецца, успрымаецца з прыхільнасцю і цеплынёй. З таго самага часу, як узначаліў Навукова-практычны цэнтр НАН Беларусі па жывёлагадоўлі, які прыпісаўся ў Жодзіна на базе Навукова-даследчага аднапрофільнага інстытута.

Адзін ландшафт змяняецца другім. Маляўнічая ўзгоркавая мяцовасць, поўная хараства, лагодна пераконвае, што лета ў сярэдзіне ліпеня яшчэ не страціла красак. Іх дастаткова навокал. Паднялася на пядзі дзве пасля другога ўкосу атава. Кусцісты гарох пераплёўся сцяблінамі, на якіх багата недаспелых аксамітных стручкоў. У актыўным росце лапушыстая кукуруза. А вось заласціста-светлыя жытнёвыя і як бы падсмажаныя сонцам ячменныя гонькі ўжо падрыхтаваліся да жніва і нагадваюць пра хуткае набліжэнне восені.

Дзе-нідзе збажына вялікімі лапінамі палегла.

— От ужо бяда з гэтым надвор’ем, — уздыхае Мікалай Андрэевіч. — Спачатку засуха, потым дажджы са шквалістым ветрам... Зноў будзем мець недабор ураджаю збожжавых ды і іншых культур.

— Ад нас мала што залежыць, — адазваўся начальнік капітальнага будаўніцтва НПЦ Леанід Нерадзюк.

— Як гэта не залежыць? — рашуча запярэчыў Мікалай Андрэевіч. — У нас жа ёсць свая тэхніка, а колькі людзей працуе ў НПЦ... Няўжо ты думаеш, што нікога з іх нельга будзе далучыць да жніва? Памыляешся, калі так думаеш. Знойдзем.

— Эх, быў бы я маладым!

— І менш «дэфіцытным» на будоўлі... — ва унісон Нерадзюку ўсклікнуў са смяшынкай у голасе Папкоў і сур’ёзна дадаў: — Будоўля з сённяшняга дня павінна зрушыцца з мёртвай кропкі. Абавязкова. Для таго і едзем на аб’ект.

У Жодзіне не затрымаліся. Аўтамабіль з горада выскачыў на шасейку, якая вяла ў пасёлак Будагова, і праз некалькі кіламетраў за невялікім ляском збочыў на добра ўкатаную палявую каляіну. Па левы бок адкрывалася панарама будоўлі. Угрызаліся ў грунт нажамі бульдозеры, стаялі непадалёк адзін ад аднаго, задраўшы стрэлы ўверх, два аўтамабільныя краны. Каля іх ляжалі штабялямі жалезабетонныя блокі і няспешна завіхаліся чалавек пяць будаўнікоў. Нават зусім недасведчаны чалавек, убачыўшы такое, мог беспамылкова вызначыць, што будаўніцтва аб’екта толькі-толькі распачынаецца.

Легкавік праехаў каля двух кіламетраў і спыніўся на ўзлеску, паблізу бытавых вагончыкаў, заняўшы крайняе месца на аўтастаянцы. На невялікім пляцы дружна сабраўся і ажыўлена гаманіў вялікі гурт людзей па-летняму, але інтэлігентна апранутых. Папкоў падышоў да іх, і, як толькі прывітаўся, яго адразу ж абступілі і засыпалі пытаннямі. Генеральны дырэктар хвілін пяць адказваў, а потым запрасіў усіх у вагончык, спецыяльна прызначаны для правядзення калектыўных сустрэч.

Папкоў абвёў усіх уважлівым поглядам і даў зразумець, што не спяшаецца адкрываць нараду. У кожнага ў запасе ёсць некалькі хвілін, каб сабрацца з думкамі, падрыхтаваць сябе да вельмі сур'ёзнай і прынцыповай размовы.

Колькі падобных нарад ён правёў у сваім жыцці і заўжды дамагаўся ад людзей самага важнага, вызначальнага — не хлусіць, не быць круцялём і пярэваратнем, якой бы жорсткай праўда ні была. І сам стараўся выкладваць усё як ёсць. Сумленне, прыстойнасць не губляў ні ў якіх абставінах, нават у самых экстрэмальных. І калі працаваў пасля заканчэння Беларускай сельгасакадэміі ў Шклоўскім раёне галоўным заатэхнікам, і пазней — пры адпаведнай пасадзе ў Магілёўскім абласным упраўленні сельскай гаспадаркі. У 30 год быў прызначаны намеснікам начальніка гэтага ж упраўлення — узначальваў жывёлагадоўлю вобласці. Клопатаў, адказнасці меў — на дваіх хапіла б, але ж спраўляўся. Тады перад жывёлагадоўляй ставіліся звышзадачы, паскаралася яе развіццё, ажыццяўлялася будаўніцтва буйных вытворчых комплексаў. Гэта быў час вялікіх пераўтварэнняў, калі патрабавалася шмат адданасці рабоце, вялікай самаахвярнасці. Здаралася, што за прынцыповасць і праўду наросхрыст, у якую не хацелі верыць высокія чыноўнікі, хацеў аднаму з іх партыйны білет пакласці на стол. Але ўсё ж не зламаўся, выстаяў, даказаўшы звышчалавечай настойлівасцю і ўпартасцю, на чыім баку сумленне. За яго, сумленне, кагосьці каралі, камусьці даравалі, а ён як быў, так і застаўся пры ім.

З 1998 года — у Міністэрстве сельскай гаспадаркі, спачатку — намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення па жывёлагадоўлі, затым — намеснік міністра. Абараняе без адрыву ад вытворчасці кандыдацкую дысертацыю. Са жніўня 2006 года — генеральны дырэктар Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па жывёлагадоўлі. Перыяд гэты характарызуецца станаўленнем эканомікі краіны. Неверагодных намаганняў каштавала, каб дасягнуць страчанага ўзроўню і паступальна, крок за крокам, развівацца апераджальнымі тэмпамі далей. Толькі дзякуючы разумнай, узважанай палітыцы кіраўніцтва рэспублікі і асабістай — Прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі мы сёння можам з годнасцю заявіць: Беларусь наша ў росквіце, у яе шпаркі эканамічны рост і вялікая будучыня.

Жывёлагадоўля таксама разам з іншымі галінамі сельскай гаспадаркі і народнай у цэлым інтэнсіўна развіваецца.

Будаўніцтва свінаводчага комплексу каля пасёлка Будагова — стратэгічная задача для НПЦ па жывёлагадоўлі. Тут будзе ўтрымлівацца 500 племянных свінаматак, 15 тысяч высокаэлітных парасят, планамерна ажыццяўляцца селекцыйная работа.

Складаней пабудоў, чым жвёлаводчыя комплексы тыпу гэтага, няма. Племянныя парасяты вельмі патрабавальныя жывыя істоты. Для іх павінны быць створаны самыя дасканалыя і бездакорныя мікраклімат, санітарныя нормы, кармленне, утылізацыя гною. Пры будаўніцтве ўсё гэта абавязкова ўлічваецца — ніякія тэхналагічныя адхіленні не дапускаюцца.

... Кожнага з запрошаных на нараду Мікалай Андрэевіч добра ведаў і без асаблівых цяжкасцей вызначыў для сябе: сабраліся ўсе, без выключэння. І падрыхтаваліся таксама быццам бы — усе. Ну, а калі так, самы раз і пачынаць нараду. Лішніх слоў не траціў, ушчуванняў не выказваў. Адразу пачаў з галоўнага:

— Сітуацыя на аб'екце, аб чым вы і без мяне добра ведаеце, склалася крытычная, я сказаў бы, нават — парадаксальная. Фінансаванне будаўніцтва свінаводчага комплексу ў Будагова ў поўным аб'ёме адкрыта, а работы на ім не вядуцца. Чаму так адбываецца? Хто мне можа растлумачыць?

У вагончыку на нейкую хвіліну ўсталявалася цішыня, потым, нібы згаварыўшыся, перабіваючы адно аднаго, людзі спрабавалі штосьці растлумачыць, даказаць, давесці. Разабраць, што да чаго, каб і вельмі хацеў, немагчыма.

— Ну, вось што, — павысіў голас ледзь не да крыку, каб усе пачулі, Папкоў, — вы мне тут не распачынайце гармідар, не для гэтага сабраліся... Хаця, яшчэ як на гэта паглядзець... Хвалюе, значыцца, вас пытанне, моцна хвалюе... Набалела... Калі шчыра сказаць, то не чакаў ад вас такой рэакцыі. Дзякую! А цяпер давайце прытрымлівацца парадку. Пачнём з вас, Валянцін Уладзіміравіч. Што скажаце?

Начальнік аб'яднанай дырэкцыі будаўнічых аб'ектаў НПЦ па механізацыі Бяляеў нібы толькі і чакаў, калі яму дадуць слова. Выпаліў, як завучанае:

— Калі мы пачалі будоўлю з нуля, праектна-каштарысная дакументацыя не была гатова. Таму вымушана пайшлі на паэтапнае праектаванне. Каб паскорыць работы, адначасова распрацоўвалі архітэктурны праект. Ён фактычна ўжо закончаны. Прайшоў экспертызу. Для таго, каб сёння падрадная арганізацыя магла працаваць у поўную сілу, шырокім фронтам, патрэбна рабочая дакументацыя. Яе няма, і толькі гэта стрымлівае. У арганізацыйным плане ўсё зроблена. Шэсць мільярдаў бяромся асвоіць на працягу чатырох месяцаў.

Галоўны выканаўца праекта, прадстаўнік праектнага інстытута «Магілёўаграпраект» Барыс Іванавіч Бельскі не чакаў, пакуль яму дадуць слова, адрэагаваў імгненна:

— Мы падрыхтавалі праектна-каштарысную дакументацыю своечасова. Але пасля таго, як адбыліся змены ў тэхналогіі, у выніку чаго памяняліся габарытныя памеры пляцоўкі і пабудоў пад яе, нам давялося распрацоўваць новы праект. І зноў жа ў мяне няма гарантыі, што ён будзе канчатковым. 16 ліпеня адбудзецца тэндэр. Можа здарыцца, што пасля яго з'явіцца новая фірма, пастаўшчык абсталявання, і зноў памяняюцца габарытныя памеры ўсіх пабудоў. Такую інфармацыю мы маем. Тады ад нашага праекта зноў нічога не застанецца. Для таго, каб паскорыць распрацоўку праектнай дакументацыі, нам патрэбны гарантыі.

Прычыны затрымкі праекта Мікалаю Андрэевічу падаліся непераканаўчымі:

— Вы пачынаеце не з таго: карыстаецеся чуткамі — хтосьці штосьці сказаў. Ніхто сёння не адмяняў раней прынятага рашэння. Якая б фірма тэхнічнае абсталяванне ні пастаўляла — польская, нямецкая або галандская, яно ў прынцыпе уніфікавана. За выключэннем дробязей, якія зусім не ўплываюць на агульную кампаноўку. Я ўжо з экспертызай дамовіўся, здавалася б, па ўсіх напрамках — зялёны калідор. Не, усё роўна ўзнікаюць праблемы. Вы ж не для таго праектная арганізацыя, каб толькі вымалёўваць лініі, адну — тлусцей, другую — больш сціпла...

— Мікалай Андрэевіч, мы можам вам зрабіць праектную дакументацыю на працягу двух тыдняў, а калі раптам у тэхнічным заданні памяняецца сістэма вентыляцыі, кармлення?..

— Зноў за сваё: баба бабе нашаптала. Ёсць у вас маё пісьмо, што будзе пераглядацца праект?

— Няма.

— Тады ўсе размовы ўбок, бо яны не маюць ніякага юрыдычнага абгрунтавання. І за справу.

У вырашэнні галоўнага пытання ўсе яўныя і няяўныя перашкоды былі зняты. Аднак прадстаўнікі арганізацый не супакойваліся. Аказваецца, іх не толькі праект хваляваў. Узніклі іншыя праблемы. А генеральны пра іх нічога не ведае. А ведаць трэба, бо з ім разам гэтыя праблемы будуць вырашацца намнога хутчэй і прасцей. Няяснасці ўзнікаюць пры будаўніцтве лініі электраперадач, дарогі да комплексу, узвядзенні вежы, выкарыстанні матэрыялаў у памяшканнях — выклікае сумненне, што яны дастаткова пажарастойкія.

Мікалай Андрэевіч вельмі ўнікліва ставіўся да ўсяго, што адбывалася на будоўлі. Дэталёва, у падрабязнасцях высвятляў фінансавыя, арганізацыйныя і вытворчыя абставіны з мэтай па мінімуме выкарыстаць да халадоў і маразоў самы спрыяльны

час. Калі Валянцін Бяляеў пачаў тлумачыць, якія цяжкасці існуюць на аб'екце, Папкоў паслухаў яго хвіліну-другую і зухавата перапыніў:

— У тваёй гаспадарцы курорт, а ты ўсё ходзіш... Бегаць табе трэба і тармасіць усіх — Капітанава і астатніх...

Гэта прагучала накшталт каманды для штаба будоўлі: арганізуйце сябе належным чынам, больш ініцыятывы, пошуку і гарэння на рабоце.

Пасля нарады завіталі ў пасёлак Будагова. Цэнтральная вуліца заасфальтавана, паабапал яе прыгожыя, утульныя домікі, сярод якіх шмат вабных цагляных, адзін на адзін не падобных, удала архітэктурна спланаваных. Сюды пастаўляецца ўжо доўгачаканы прыродны газ, і жыхары сумежных вуліц, якія пакуль што скрозь у траншэях, хутка яго атрымаюць.

У пасёлку ўсе ўжо звыкліся, што маюць сучасныя амбулаторыю, аптэку, магазін. Дарэчы, яму неўзабаве складзе канкурэнцыю — прыватны, адзін з мясцовых загарэўся пабудаваць. Ён упэўнены, што будзе для гандлёвай сеткі сур'ёзным канкурэнтам. І гэта добра. Для пакупнікоў з'явіцца большы выбар тавару, а гандлярам — стымул у павышэнні яго якасці.

На першы погляд Будагова — звычайны пасёлак, якіх нямала ў рэспубліцы. Мікалай Андрэевіч Папкоў з гэтым згодзен. І як бы ў процівагу расказвае:

— А вось прыедзеце праз год і не пазнаеце — аграгарадком стане Будагова. Ужо пачалі будаўніцтва адзінаццаці домікаў з усімі выгодамі, і яшчэ столькі ж з'явіцца па праекце, які ў стадыі дапрацоўкі. Я не хачу рассакрэчваць раней часу, якімі будуць гэтыя домікі. Адно мушу сказаць — навасёлам яны спадабаюцца. Вас, пэўна, цікавіць хто яны будуць. Працаўнікі комплексу, на будаўніцтве якога толькі што пабывалі. І ў самім пасёлку ідзе рэканструкцыя яшчэ аднаго, які не будзе саступаць па магутнасці. На двух гэтых комплексах будзем вырошчваць 24 тысячы парасят і атрымліваць да 2 тысяч тон свініны. Патроім вытворчасць мяса ў параўнанні з тым, што атрымліваем у «Зарэччы». У прынцыпе я не адхіліўся, бо вытворчы патэнцыял напрамую звязаны з сацкультбытам. Перш чым яго ствараць, пераўвасабляць пасёлак, трэба мець надзейную матэрыяльную базу. Якія яшчэ чакаюцца змены ў Будагове? Будуць добраўпарадкаваны вуліцы, пабудаваны Дом культуры, пральна-лазневы камбінат, стадыён і коннаспартыўная школа. Так-так, не здзіўляйцеся. А чаму б і не, калі Навукова-практычны цэнтр па жывёлагадоўлі самым непасрэдным чынам займаеццаканяводствам. Акрамя вывядзення рабочых коней, а гэта вельмі важна, бо, каб вы ведалі, праца аднаго каня на працягу года забяспечвае эканомію 3 тон гаруча-змазачных матэрыялаў, мы ў спецыялізаваных племянных гаспадарках атрымліваем і гадуем высокапародзістых скакуноў для коннага спорту і турызму. Як самі разумееце, усё супадае. І грэх было б нам не адкрыць у нашым базавым Будагове коннаспартыўную школу. Яна, спадзяюся, будзе ўзорнай і падорыць нямала шчаслівых хвілін і спартсменам, і балельшчыкам, усім, хто любіць гэтых высакародных, грацыёзных жывёл.

Пасёлак падабаўся такім, які ён ёсць. Сваім месцазнаходжаннем — у ім многа святла і раскаванай прасторы, багаццем разнастайных зялёных прысад, чысцінёй, утульнасцю, дагледжанасцю. А пасля таго, як Мікалай Андрэевіч маляўніча абрысаваў яго будучыню, дык і наогул ён уяўляўся гэтакім цуда-гарадком. Хацелася затрымацца ў Будагове, паблукаць па ягоных не запарушаных цывілізацыяй вулках, пагутарыць са старажыламі пра мінулае краю і сённяшняе жыццё-быццё. Аднак яно вымяраецца бязлітасным часам. На жаль, не стае яго на ўсе нашы прыхамаці.

Мікалай Андрэевіч заспяшаўся, і неўзабаве мы былі ў Жодзіна. І недалёка, здавалася б, ад'ехалі ад Будагова, а кантраст, хоць і не параўнаць з Мінскам, а ўсё ж адчувальны. Машыны і тут не такія ўжо і рэдкія, шмат з'явілася апошнім часам высотак — пабудаваны адметна і, што важна, мясцовым «почыркам» і вельмі ўдала ўпісваюцца ў малапавярховы і аднапавярховы Жодзінскі пейзаж — трэба ж гораду захаваць свой твар. Парк у цэнтры шыкоўны, аднак адна палова яго дагледжана — завадчане стараюцца, а па другі бок вуліцы занядбаны, бясхозны, выходзіць. А там жа расце столькі найпрыгажэйшых, рэдкіх, унікальных дрэў. Шкада. Няўжо перавяліся на ўвесь горад сапраўдныя аматары прыроды і сярод іх завадзіла-ініцы-

ятар, здольны арганізаваць неафіцыйны суботнік? Пра мясцовыя ўлады маўчу — у іх, пэўна, мясцовы бюджэт не дазваляе. За гэтым невялікім выключэннем Жодзіна ўжо не назавеш заштатным горадам. Добра развіты і прамысловая (адзін БелАЗ чаго варты), і сацыяльная, і культурная, і спартыўная сферы. Чыстыя вуліцы, тратуары, ветлівыя, памяркоўныя жыхары, тлуму няшмат. Чаго яшчэ трэба для прыстойнага жыцця?

Навукова-практычны цэнтр па жывёлагадоўлі размяшчаецца ў прыгожым дабротным будынку, у двары. Пахадзіць па яго доўгіх калідорах, якія на пяці паверхах, ды яшчэ зазірнуць у кабінеты — розуму набрацца. Шмат вучоных-аграрыяў працуе тут. Ёсць сярод іх і прызнаныя, шырокавядомыя як у рэспубліцы, так і далёка за яе межамі. Да гэтай кагорты можна смела аднесці першага намесніка генеральнага дырэктара, доктара сельскагаспадарчых навук, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Беларускай аграрнай і Расійскай сельгасакадэмій Івана Шайко. Ён з'яўляецца аўтарам і кіраўніком шэрага праектаў па вывядзенні беларускай мясной пароды свіней, занесенай у Дзяржаўны рэестр навуковых аб'ектаў, што з'яўляецца нацыянальным набыткам Рэспублікі Беларусь. Іван Паўлавіч таксама актыўны ўдзельнік у вывядзенні чорна-пярэстых відаў буйнарагатай жывёлы.

Цікавы штрых у навуковай дзейнасці Шайко. У 1978 годзе 30-гадовага вучонага як перспектыўнага селекцыянера заўважаюць і пераводзяць з Беларускага навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі, дзе ён скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую і працаваў навуковым супрацоўнікам, у Ліпецкае аддзяленне Усерасійскага НДІ племянной жывёлагадоўлі. Там былі створаны ўсе ўмовы для таго, каб малады вучоны працаваў з поўнай аддачай. І сапраўды так сталася, і дасягненні апраўдалі намаганні. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам удалося распрацаваць і шырока ўкараніць у вытворчасць для Цэнтральначарназёмнай зоны РСФСР праграму племянной работы і гібрыдызацыі ў свінагадоўлі. Па яе выніках, а яны былі выдатнымі, Шайко ў 1986 годзе ў Маскве абароніць доктарскую дысертацыю.

Праз чатыры гады з Ліпецка вярнуўся ў Жодзіна, каб працягваць працу ў родным інстытуце, дзе яго чакалі, дзе яму былі рады і які ён з цягам часу ўзначаліць. Але не думалася тады пра высокую пасаду кіраўніка. На першым плане быў навуковы пошук. Тое, што было тэарэтычна толькі пазначана, акрэслена, патрабавала сур'ёзных эксперыментаў, доследаў. У кабінеце седзячы, не далёка сягнеш, якім бы дока-вучоным ні быў. І таму часта бывае на фермах, комплексах, племзаводах. З практыкамі кожны свой навуковы пасыл узгадняе, сам пераўвасабляецца ў практыка.

Як кіраўнік Іван Паўлавіч валодае незвычайнымі арганізатарскімі здольнасцямі. З ім лёгка знаходзіць узаемаразуменне, згоду.

Вялікае задавальненне атрымаў ад сустрэчы з доктарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам, вядучым навуковым супрацоўнікам у галіне кормавытворчасці Іванам Гарачавым. Іван Іванавіч вельмі абаяльны, інтэлігентны чалавек, які ўсё жыццё прысвяціў любімай рабоце і нават у свой шаноўны ўзрост ніколькі не страціў да яе цікавасці, жыве ёй. Аб гэтым і расказвае:

— Асновай высокай прадукцыйнасці кароў з'яўляецца, безумоўна, паўнацэннае кармленне. Рацыён павінен быць стабілізаваны па пратэіне, тлушчы, цукры, клятчатцы ў адпаведнасці з існуючымі нормамі. У нашым цэнтры распрацаваны больш аптымальныя патрэбы кароў у вітамінах і мінеральных рэчывах. Каб малако было рэнтабельным, трэба атрымліваць яго ад кароў у максімальнай колькасці. Але з павышэннем удояў павышаюцца і патрабаванні да кармлення. Кармы павінны быць высокай якасці, разнастайныя, камбікармы ўтрымліваць 18—20 працэнтаў пратэіну ў стойлавы перыяд і 16—18 — у пашавы. Возьмем па кармавых адзінках два рацыёны для кароў з удоем 30 кілаграмаў. У першым — мы выкарыстоўваем сена шматгадовых злакавых траў і сілас з іх. У такім рацыёне дэфіцыт бялку складае 20 працэнтаў. А ў другім выпадку з утрыманнем такой жа колькасці кармавых адзінак выкарыстоўваецца канюшына, сена цімафеечнае, сянаж бабова-злакавы, сілас кукурузны з пачаткамі васкавой спеласці. Такі рацыён збалансаваны поўнасцю і па пратэіне, і па цукры. Поспех, напрыклад, «Эксперыментальнай базы

«Жодзіна» залежыць яшчэ і ад таго, што яна выкарыстоўвае ў рацыёне кармавыя або паўцукровыя буракі. Гэта вельмі важна, бо яны ўтрымліваюць акрамя цукру і пектыўныя рэчывы, якія спрыяюць засваенню іншых кармоў — сенажу, сіласу і таго ж сена. Наконт рэнтабельнасці. На першы погляд здаецца, калі даб'ёмся вялікай прадукцыйнасці, то і харчы будуць канкурэнтаздольныя. Але гэта не так. Асабліва звяртаю ўвагу вось на што: каб кармы былі дабраякасныя, для гэтага трэба нарыхтоўваць сянаж і сілас з двух-трох укосаў — максімальна скарыстоўваць маладую траву. Гэта вельмі важны фактар.

Вялікую каштоўнасць у кормавытворчасці ўяўляе рапс. У яго насенні ўтрымліваецца 40—50 працэнтаў бялку. Макуха і шрот, атрыманыя з насення рапсу пасля экстракцыі масла, — багаты бялком корм для жывёлы. Прычым бялок рапса характарызуецца высокімі кармавымі вартасцямі. Так, у 1 кг рапсавай макухі ўтрымліваецца асноўных незаменных амінакіслот лізіну і мецыяніну ў 4 разы больш, чым у зерні злакавых культур.

З прыемнасцю сустрэўся з начальнікам селекцыйнага цэнтра па малочнай і мясной жывёлагадоўлі, кандыдатам сельскагаспадарчых навук Іванам Каранцом. Ён разам з калектывам ажыццяўляе метадычнае кіраўніцтва селекцыяй жывёлы ў Рэспубліцы Беларусь. Напрамак гэты адзін з галоўных, шматабяцаючы і перспектыўны. Іван Мікалаевіч з ахвотай дзеліцца, што ён сабой уяўляе:

— Лепшыя племянныя заводы «Чырвоная зорка», «Мухавец», «Карэлічы», «Рось», «Насовічы». Асноўную колькасць рамонтных быкоў мы атрымліваем там. Эліверы (месца, дзе яны правяраюцца па генатыпе) іх вырошчваюць. Дзякуючы ім мы ведаем, хто ў іх тата, мама, адпавядаюць нашым генетычным параметрам альбо не. Далей вызначаем іх прырост, узнаўленчыя якасці. Пэўны этап жывёла развіваецца. Затым рамонтных бычкоў купляюць дзяржпрадпрыемствы і пачынаюць займацца паглыбленай селекцыяй. Калі там атрымаем бычкоў па якасці патомства з індэксам племяннай каштоўнасці па нашай сістэме сто працэнтаў і вышэй, то дзякуючы гэтым бычкам іх дочкі — каровы — будуць даваць малако з істотнай прыбаўкай. Вось бачыце, які жорсткі адбор і як шмат ступеняў, каб бык выйшаў у лідэры. У выніку такога адбору мы можам захаваць папуляцыю без масавага завозу цялушак з-за мяжы. На племянных заводах у першую чаргу штогод праводзіцца падбор і адбор бычкоў для выкарыстання ў актыўнай частцы папуляцыі, так бы мовіць, мы самую лепшую генетыку замацоўваем за каровамі быкавытворцамі. Гэта група кароў самая лепшая па прадукцыйнасці і комплексе элітарных прыкмет.

Кандыдат сельскагаспадарчых навук Міхаіл Гузянок прызнаны і дасведчаны спецыяліст у галіне ветэрынарыі Доўгі час яго непакоіла вельмі небяспечнае захворванне жывёлы — стронгілаідоз. Ён дасканала вывучыў паразітаў, яго носьбітаў, у трох стадыях іх агрэсіўнага размнажэння і прапанаваў самы эфектыўны шлях барацьбы з імі. Да яго ў сусветнай практыцы гэтым ніхто не займаўся.

Мноства гаспадарак наведаў Міхаіл Аляксандравіч за сваё доўгае жыццё і, аналізуючы, параўноўваючы ветэрынарныя службы, распрацаваў слушныя рэкамендацыі па ўтрыманні і доглядзе жывёлы, захаванні яе здаровай і высокай прадукцыйнасці. Ён сутыкнуўся на працягу сур'ёзных назіранняў і вывучэння з такой праблемай, як перадазіроўка вітамінаў А і В, што прыводзіла да ўзнікнення цяжкай хваробы ў жывёл, а як лячыць яе ніхто не ведаў. Прапанаваная ім аптымальная сістэма вітамінізацыі вырашыла гэтую праблему. Міхал Аляксандравіч асаблівую ўвагу звярнуў на вітамін С, які ўзмацняе імунную сістэму і з'яўляецца ў яе дзейнасці стабілізуючым, вызначальным. Ён, валодаючы магутнай узнаўляючай сілай, у той жа час сам амаль безабаронны, вельмі адчувальны да тэмпературы, святла і іншых негатыўных уздзеянняў. У Міхаіла Аляксандравіча існуе цэлая навука яго захавання і ўжывання. І што нямалаважна — гэту навуку чалавек з поспехам можа выкарыстоўваць і на вялікую карысць свайму асабістаму здароўю.

Згадваючы паездку ў Галандыю, Гузянок упэўнены, што яе сусветна ўхвалены вопыт развіцця жывёлагадоўлі мы маглі б з поспехам прымяніць і ў сябе пры ўмове, калі на строгай навуковай аснове моцна ўзаемазвяжам селекцыю, кармленне і догляд

жывёлы. Няважна, што там фермерскія гаспадаркі, а ў нас у пераважнай большасці — дзяржаўныя. Сутнасць не ў гэтым, а ў самім падыходзе, адносінах. Там яны гранічна выверанья, скрупулёзныя, узважаныя, а ў нас нярэдка — павярхоўныя. Зусім просценькі прыклад. Пасля жніва і нават зімоўкі шмат дзе застаюцца на полі некранутымі сціргы саломы, яна гіне, прападае. І, бадай, адзін толькі «Сноў» даўмеўся скарыстоўваць яе ў якасці падсцілкі для цялят. Яны «купаюцца» ў саломе і ў выніку да іх не чапляецца ніякая хвароба. Расце здаровае, паўнацэннае патомства. Вядома, салому трэба прывезці, патраціць на гэта вельмі дэфіцытнае паліва. Але калі добра падлічыць: што будзе выгадней — эканомія паліва або здароўе тых жа цялят? Складаная для некаторых гаспадарнікаў арыфметыка. А ў прынцыпе можна ж абысціся і без яе, калі запрэгчы каня і прывезці салому на звычайнай падводзе. Але ж для гэтага трэба мець хоць і невялікае, але стратэгічнае мысленне. А ў галандцаў усё да дробязяў пралічваецца, а калі інакш сказаць — іх там проста не існуе, дробязяў. Пад увагу бярэцца ўсё цалкам, як ёсць, і вырашаецца цалкам, комплексна, без спасылак на часовыя цяжкасці, якімі ў нас некаторыя навучыліся лёгка прыкрывацца.

Наконт гэтага, дарэчы, выказвае абурэнне і другі намеснік генеральнага дырэктара НПЦ па жвёлагадоўлі, доктар сельскагаспадарчых навук Мікалай Пілюк. Ужо хто-хто, а ён як практык, які 18 гадоў аддаў вытворчай сферы, — працаваў галоўным заатэхнікам у Астравецкім раёне, у «Зарэччы» — начальнікам цэха жывёлагадоўлі, дырэктарам Жодзінскага Дзяржплемпрадпрыемства з рэспубліканскім цэнтрам трансплантацыі эмбрыёнаў, дасведчаны ў гэтым чалавек. Доктарскую абараняў без адрыву ад вытворчасці. Менавіта яна, вытворчасць, з'явілася надзейным падмуркам для будучага вучонага. Ды і цяпер, калі НПЦ у стадыі станаўлення, ён і ў ролі адміністратара не ведае палёгкі. Праблем узнікае мноства. Але яны пастулова і няўхільна вырашаюцца, і гэта асабліва радуе. Цяпер ужо аграрная навука не займаецца толькі навукай. Для яе вельмі важным стала яшчэ і своечасова ўкараніць свае распрацоўкі.

— Дзве фірмы — адна ў Мінску, другая ў Гомелі, — дзеліцца апошнімі навінамі Мікалай Уладзіміравіч, — наладзілі выпуск установак па вытворчасці замены́ка цэльнага малака для цялят. Выкарыстоўваецца тэорыя кавітацыі гідрадынамічных сіл на субтрат энергетычнага, мінеральнага паходжання. Атрымліваецца аднародная маса. Каб заменнік цэльнага малака скарміць, яго трэба развесці ў цёплай вадзе і астудзіць. Пакуль ён астуджваецца на працягу 15—20 хвілін, дробна памолатыя пшаніца і авёс выпадаюць у асадак і атрымліваецца неаднародная эмульсія — вадкая фракцыя наверсе, гушча — на дне. А вось калі яе прапусціць праз гідрадынамічную ўстаноўку, яна ператвараецца ў аднародную вадкасць і на працягу доўгага часу ў асадак выпадаць не будзе. Такое пойла добра засвойваецца цялятамі, і на іх страўнік уплывае толькі станоўча. Каля дзесяці такіх гідраўстановак ужо працуе ў гаспадарках. Справа для нас — новая, і таму ажыццяўляецца пад нашым непасрэдным кантролем.

Мікалай Андрэевіч Папкоў у гэты дзень забыўся нават пра абед. Задаволіўся кофе з бутэрбродам, якія прапанавала клапатлівая сакратарка. Заходзілі людзі — або па ягоным выкліку, або самастойна. Пытанні ўзнікаюць самыя розныя — і складаныя, і не зусім, бываюць сярод іх і простыя. І нярэдка без яго не могуць вырашыцца. А бываюць дні, калі кабінет ператвараецца ў арэну, дзе сутыкаюцца, здавалася б, самыя палярныя пазіцыі, меркаванні, падыходы, кіпяць, бушуюць страсці. І ў канчатковым выніку — не дарма. Знаходзяцца ўсё ж пагадненні, узаемаразуменні і акрэсліваецца сутнасць галоўнага. Самае складанавырашальнае — буйныя будоўлі. І гэта зразумела, бо яны патрабуюць выключных арганізатарскіх намаганняў, вялікіх матэрыяльных і працоўных затрат.

Для ўстойлівага развіцця птушкагадоўлі і памяншэння залежнасці ад імпарту і кан'юнктуры рынку намечана будаўніцтва ў рэспубліцы магутнага племяптушкарэпрадуктара. Ён будзе задавальняць попыт у птушыным мясе не толькі жыхароў нашай рэспублікі, а і пастаўляць вялікую колькасць сваёй прадукцыі за яе межы. Штогодняя эканомія ад спынення імпарту племяннога маладняка бацькоўскіх форм і сутачных куранят для адкорму складзе 4,7 млн. еўра.

Для эфектыўнага развіцця яйкавай птушкагадоўлі запланавана будаўніцтва племінкубаторыя. Дзякуючы яму будуць дасягнуты сусветныя паказчыкі па яйканоскасці.

Сёння ў рэспубліцы патэнцыял прадукцыйнасці селекцыйных статкаў розных парод свіней знаходзіцца на высокім узроўні. Тым не менш племянную работу трэба пастаянна ўдасканальваць і паляпшаць, мець свае элітныя фермы, галоўны селекцыйны цэнтр. Інакш і азірнуцца не паспееш, як апынешся на задворках.

— Гэта набывае асаблівую актуальнасць, — падкрэслівае Мікалай Папкоў, — калі ўлічыць, што Рэспубліка Беларусь у адрозненне ад іншых еўрапейскіх краін мае зусім іншую структуру вытворчасці свініны. Мы 90 працэнтаў яе атрымліваем на прамысловых комплексах магутнасцю ад 12 да 108 тысяч галоў. Гэтыя комплексы эксплуатуюцца на працягу 25—30 гадоў і там склаліся свае спецыфічныя ўмовы. Пры высокай канцэнтрацыі пагалоўя немагчыма пазбегнуць адмоўных момантаў. І таму мы павінны вывесці пароду, якая спалучыць у сабе вартасці шведскай з беларускай, прыстасаванай да прамысловай вытворчасці. Над гэтым вельмі сур'ёзна працуюць нашы селекцыянеры. На слыху круцяцца шведскі ландрас або — дацкі. А мы хутка будзем мець свой — беларускі, і станем канкурэнтаздольныя як на ўнутраным, так і знешнім рынку. Такіх буйных свінаводчых комплексаў, як у нас, няма ў краінах Еўропы, СНД. Ніхто не мае такога станоўчага вопыту. І нам не трэба ехаць за дзесяць мораў і шукаць што-небудзь лепшае. Мы павінны даражыць сваім і пастаянна ўдасканальваць яго.

У выніку дзейнасці галоўнага селекцыйнага цэнтра ўдасца ўпарадкаваць селекцыйную работу, істотна павысіць генетычны патэнцыял свіней па ўзнаўленчых, адкормачных і мясных якасцях, арганізаваць рэспубліканскія занальныя сістэмы гібрыдызацыі ў свінаводстве.

Новую ступень развіцця атрымае рыбаводства. У складзе Навукова-практычнага цэнтра па жывёлагадоўлі будзе дзейнічаць рэспубліканскі племянны рэпрадуктар па развядзенні і тыражыраванні чыстых ліній карпа для далейшага яго распаўсюджання ў вытворчых рыбаводных гаспадарках і племрасадніках.

Пакупніцкі попыт дыктуе неабходнасць атрымання рыбы палепшаных таварных якасцей (павышаны выхад тушкі, малалускавітасць, адсутнасць знешніх і ўнутраных прызнакаў захворванняў). Інстытутам рыбнай гаспадаркі завершаны работы па вывядзенні двух беларускіх парод карпа — «Лахвінскі лускавы» і «Ізабелінскі», створаны калекцыйны статак імпартаваных парод, распрацавана і перададзена прамысловасці схема скрыжоўванняў бацькоўскіх груп карпа з тэхналогіяй яго вырошчвання ў адпаведных глеба-кліматычных умовах.

Збяднеласць натуральных прыродных рэсурсаў і рост спажывецкага попыту насельніцтва патрабуюць пашырэння рынку прэснаводнай рыбапрадукцыі Беларусі, найперш у выніку вырошчвання далікатэснай прадукцыі вугра, вясёлкавай стронгі і асятровых рыб. Намаганнямі вучоных і вытворцаў упершыню ў краіне асвоена штучнае ўзнаўленне сцерлядзі, занесенай у Чырвоную кнігу Беларусі, праведзена яе ўсяленне ў рэкі з мэтай падтрымання прыроднай колькасці і фарміравання самавытворчых папуляцый. Акрамя сцерлядзі, упершыню распачата эфектыўнае ўзнаўленне бесцера, што ў перспектыве дазволіць адмовіцца ад імпарту пасадачнага матэрыялу. Прырост агульнай рыбапрадукцыйнасці павінен дасягнуць 20 працэнтаў без павелічэння затрат на вырошчванне рыбы.

Разам з тым Навукова-практычны цэнтр па жывёлагадоўлі будзе надаваць належную ўвагу навуковаму забеспячэнню развіцця такіх галін, як конегадоўства, авечкагадоўля, казаводства, трусагадоўля, звераводства і інш.

У апошнія гады на базе развіцця трансгеннай біятэхналогіі фарміруецца новы навуковы напрамак па стварэнні высокаэфектыўных лекавых прэпаратаў. Гэта з'явілася арыенцірам для Расіі і Беларусі ў распрацоўцы сумеснай праграмы БелРасТрансген, мэтай якой з'яўляецца стварэнне навукова-тэхнічнай асновы і тэхналагічнай базы для арганізацыі ў Саюзнай дзяржаве сучаснай канкурэнтаздольнай фармакалагічнай вытворчасці лекавых прэпаратаў новага пакалення на аснове

бялкоў чалавека з выкарыстаннем у якасці біярэактараў трансгенных коз, прадуцыруючых з малаком біялагічна актыўныя бялкі чалавека.

Рэалізацыя праграмы дазволіць атрымаць у малацэ трансгенных коз лактаферын — бялок жаночага груднога малака, які валодае шырокім спектрам антымікробнай, антызапаляльнай, антыаксідантнай і супрацьракавай актыўнасці. Гэты бялок ахоўвае нованароджанага ў час цяжкага пераходу з мацярынскага арганізма ў знешні свет, напоўнены патагеннымі мікробамі. Пасля на працягу ўсяго жыцця, прысутнічаючы ў крыві і разнастайных сакрэтах арганізма, ахоўвае чалавека ад небяспечных уздзеянняў навакольнага асяроддзя і з'яўляецца антаганістам розных узбуджальнікаў хвароб чалавека. Выкарыстанне лактаферыну ў выглядзе харчовай дабаўкі ў прадуктах харчавання дазволіць прафілактаваць інфекцыйныя, паразітарныя, анкалагічныя, прастудныя і іншыя захворванні, што будзе садзейнічаць аздараўленню насельніцтва Расіі і Беларусі ўсіх узростаў.

Выканаўцамі праграмы з'яўляюцца вучоныя Навукова-практычнага цэнтра Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па жывёлагадоўлі (з беларускага боку) і вучоныя Інстытута біялогіі гена Расійскай акадэміі навук (з расійскага боку).

Згодна зацверджанай пастановай Савета міністраў Саюзнай дзяржавы ад 15 кастрычніка 2002 года праграмы выкананы наступныя этапы: створаны не маючы аналагаў на постсавецкай прасторы Біятэхналагічны цэнтр; сфарміраваны статак эксперыментальных жывёл; праведзена аснашчэнне Біятэхналагічнага цэнтра сучасным навуковым і тэхналагічным абсталяваннем; атрыманы трансгенныя па гене лактаферыну лабараторныя жывёлы; адпрацавана тэхналогія атрымання казлянят-трансплантантаў.

Сёння ніяк не абысціся НПЦ па жывёлагадоўлі без кадраў здольных працаваць з дасведчанасцю і адпаведнай прафесійнай падрыхтоўкай у новым тэхналагічным рэжыме, рытме.

— На жаль, — канстатуе Мікалай Папкоў, — цяперашнія выпускнікі аграрных ВНУ не зусім адаптаваны да ўмоў сучаснай вытворчасці. У многіх выпадках яны працаўладкоўваюцца з багажом ведаў, які існаваў 10—15 год назад. Зусім іншымі сталі сёння патрабаванні. Але яны нярэдка ігнаруюцца. І ў выніку вучэбная практыка адстае ад вытворчай. Яна проста не паспявае за ёй угнацца — настолькі імклівымі сталі тэмпы. Пры сустрэчах, гутарках з выпускнікамі, у якасці кансультанта па дыпломным праекце, высвятляецца, што яны не гатовы працаваць на сучасным узроўні, не спасціглі яго. І таму ў мэтах адаптацыі для пачынаючых спецыялістаў мы стварылі спецыяльную школу-ферму, дзе яны будуць праходзіць на працягу пэўнага часу перадвытворчую падрыхтоўку. Толькі авалодаўшы як след тонкасцямі тэхналогій, практычна сябе зарэкамендаваўшы, глыбока засвоіўшы працу жывёлавода, недавукі атрымліваюць поўнае права працаваць па заяўках гаспадарак або размеркаванні. Па сутнасці гэта будзе школа, максімальна набліжаная да вытворчасці.

Падрыхтоўка кваліфікаваных спецыялістаў для жывёлагадоўлі і перападрыхтоўка кіруючага персаналу сельскай гаспадаркі павінна праводзіцца з улікам дасягненняў сусветнай навукі і практыкі. Асаблівая роль у гэтым адводзіцца біятэхналагічнаму селекцыйнаму цэнтру па свінаводстве, навуковаму селекцыйна-племяннному цэнтру па мясной жывёлагадоўлі і профільным інстытутам.

Няпростае сёння пытанне — умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы НПЦ. З бюджэта яму выдзяляецца толькі 50 працэнтаў, астатнія — трэба зарабіць самім. Але якім чынам? Пасля сур'ёзнага абмеркавання гэтага пытання на вучоным савеце было прынята рашэнне наладзіць у цэнтры выпуск біялагічных кансервантаў, а таксама экалагічна актыўных дабавак, ці так званых прабіётыкаў для жывёлагадоўлі. Усе даччыныя інстытуты НПЦ — жывёлагадоўлі (базавы), экперыментальнай ветэрынарыі, рыбнай гаспадаркі — па сваёй спецыфіцы будуць займацца стварэннем падобных вытворчасцей. І гэта правільна — падтрымліваецца як Прэзідыумам НАН Беларусі, так і ўрадам. Грошы, жыццё дыктуе, трэба зарабляць у першую чаргу за навуковыя паслугі. Ды пакуль што далёка не кожная гаспадарка

можа за іх адпаведна і своечасова расплаціцца. Але жыццё не стаіць на месцы. Як кажуць: кінеш наперад — знойдзеш ззаду.

Дзе сучасныя тэхналогіі, там і высокаэфектыўная вытворчасць. Кіруючыся гэтай аксіёмай, у апошнія гады рэспубліка пайшла на стварэнне малочнатаварных ферм з даільнымі заламі і беспрывязным утрыманнем жывёлы. Існуе ўжо каля 300 такіх сучасных ферм.

Што атрымалася ў выніку? Паменшылі на гэтых фермах патрэбу ў даярках, скарацілі ў разліку на 1 ц малака затраты працы з 6,5 да 1,2 чал. гадз. І расход энергарэсурсаў (у пераразліку на ўмоўнае паліва) з 85,4 да 55 кг. У канчатковым выніку сабекошт прадукцыі знізіцца на 30 працэнтаў.

Выніковасць усёй дзейнасці НПЦ па земляробстве ацэньваецца і залежыць ад таго, што і як з прапанаванага навукай укараняецца ў вытворчасць. Асаблівы клопат — створаныя на базе вядучых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў навукова-вытворчыя лабараторыі цэнтра: СПК «Астрамечава», племзавод «Мухавец», птушкафабрыка «Дружба», эксперыментальная база «Жодзіна», саўгасы-камбінаты «Барысаўскі», «Зара», «Усход», СПК «Ніва» і шэраг іншых. Галоўнае ў супрацоўніцтве з імі — удасканальваць сувязь з вытворчасцю і як мага актыўней і хутчэй укараняць найноўшыя навуковыя распрацоўкі і тэхналогіі. Ужо ёсць дакладныя праграмы сумесных дзеянняў. Гэта тым больш важна, што кіраўнікамі такіх гаспадарак нярэдка працуюць і кандыдаты, і дактары навук, не выкарыстаць навуковы патэнцыял якіх было б проста неразумна.

Сваё развіццё Навукова-практычны цэнтр па жывёлагадоўлі цесна звязвае з эксперыментальнай базай «Зарэчча» — аснашчае яе па лізінгу перадавой тэхнікай, распачынае будаўніцтва малочна-таварнай фермы на 470 галоў з даільнай залай. Намечаны і іншыя не менш важныя мерапрыемствы.

Укладанне інвестыцый у эксперыментальную базу ажыццяўляецца з мэтай зрабіць яе паказальнай, якая будзе забяспечваць высокакаштоўным племянным матэрыялам сельгаспрадпрыемствы рэспублікі, дасягнуць ураджайнасці 50 цэнтнераў збожжа з гектара, удоя на карову — 8000 кілаграмаў малака ў год, а таксама штогод рэалізоўваць 3,5 тыс. галоў племяннога маладняка свіней. Грашовая выручка прадпрыемства ад рэалізацыі прадукцыі павялічыцца ў 2 разы і складзе каля 10 млрд. рублёў у год.

Ніводная з абласцей не застаецца па-за ўвагай цэнтра. І кожная патрабуе свайго падыходу, адрозніваецца якімісьці толькі ёй уласцівымі асаблівасцямі, якія трэба ўлічваць і прапаноўваць неадэкватныя рашэнні праблем. У НПЦ ёсць рэгіянальныя плацдармы, з якіх ён упэўнена стартуе, каб паказаць прыклад астатнім. Адным з найбольш характэрных з'яўляецца РУП «Эксперыментальная база «Жодзіна» Смалявіцкага раёна — сёння ўваходзіць у лік навукова-вытворчых лабараторый. Сувязі з ёй узніклі даўно, да стварэння цэнтра, калі цяперашні базавы інстытут жывёлагадоўлі праводзіў там навуковыя эксперыменты і ажыццяўляў іх укараненне. Дзеля гэтага ягоны супрацоўнік, кандыдат сельскагаспадарчых навук Аляксандр Міхайлавіч Лапатко, пайшоў працаваць туды галоўным заатэхнікам і зрабіў рэвалюцыйны пераварот унутры навукова абгрунтаваных тэхналогій малочнага жывёлаводства. Цяпер ён працуе намеснікам старшыні Камітэта па сельскай гаспадарцы Мінскай вобласці.

Вучоныя НПЦ зрабілі немалы ўклад ў селекцыйную работу, кормавытворчасць і кормапрыгатаванне эксперыментальнай базы. Асаблівыя зрухі пачалі адбывацца ў гэтай гаспадарцы пасля яе ўваходжання ў «шасцідзесятку» прэтэндэнтаў на паскоранае дасягненне ўзроўню развіцця адной са знакамітых у рэспубліцы гаспадарак — нясвіжскага СВК «Агракамбінат «Сноў». Жодзінцам спатрэбілася ўсяго два гады, каб не толькі дагнаць, але і абысці сноўцаў па надоях і акупнасці малака.

У 2006 годзе тут было атрымана ад кожнай з 1156 кароў дойнага статку па 8443 кг малака, а на жывёлагадоўчым комплексе «Жажэлка», дзе ўтрымліваецца 440 галоў, сягнулі яшчэ далей — ад кожнай каровы надаілі па 9382 кг. У эксперыментальнай базе ёсць і свае рэкардсменкі-даяркі. Пэўна, не знойдзеш у рэспубліцы

роўных ім: Наталля Піталенка ад сваёй групы кароў надаіла па 9853 кг, Любоў Ярмоленка — 9672 кг, Галіна Сабалеўская — 9532 кг. Вось такія тут ашаламляльныя вынікі ад узаемадзеяння навукі і вытворчасці.

Утрыманне кароў на комплексе «Жажэлка» беспрывязнае, з даільнай залай. Кармленне ажыццяўляецца пры дапамозе мабільнага здрабляльніка-сумяшчальніка-раздатчыка маркі «Гаспадар». Кармасумесі нарміраваны ў адпаведнасці з выверанымі прадукцыйнымі магчымасцямі кожнай групы кароў.

Дзейнічае ў «Жажэлцы» і спецыялізаванае аддзяленне па вырошчванні племянных цёлак з высокімі прадукцыйнымі якасцямі. Утрыманне і кармленне іх арганізавана на навуковай аснове з камп'ютэрным забеспячэннем усіх цыклаў вырошчвання. Не дзіўна, што перадавая цялятніца Валянціна Лашук атрымлівае прывагі цялят па 947 і болей грамаў у суткі. Малочная вытворчасць гаспадаркі не адчувае недахопу паўнацэнных племянных цёлак для планамернага рамонту і абнаўлення дойнага статку. Селекцыйная работа, за якую адказвае заатэхнік-селекцыянер Зінаіда Смарговіч, на належным узроўні. Лепшае таму сведчанне выхад прыплоду: на 100 кароў у год — 110—115 цялят.

Захацелася пабываць на славутым комплексе «Жажэлка», на свае вочы пераканацца, што ён сабой уяўляе, пагутарыць з жывёлаводамі.

Пад'езд да вытворчых карпусоў, якія адзін за адным выстраіліся з захаду на ўсход, заасфальтаваны. Пры ўваходах, ды і наогул вакол — чысціня, нават акурак не кінеш, яго абавязкова заўважаць, і тады сораму не абярэшся.

З памяшкання, здаецца, трэцяга па чарзе, выходзіць маладжавая жанчына сам-насам з думкамі, жмурыцца ад яркага сонца і ўсміхаецца яму. Заўважае легкавушку непадалёк, незнаёмых людзей, увішна падыходзіць, не хаваючы ўсмешкі, першая вітаецца. Пытае:

— Вы да каго?

— Пэўна, да вас, шаноўная. Хацелася б бачыць у вашай асобе загадчыцу комплексу.

— Ну, калі так, то вы не памыліліся. Яна і ёсць — Ніна Мікалаеўна Фурсевіч. Што вас цікавіць?

Сказала голасам чыстым, звонкім і трымаецца нязмушана, проста, па-вясковаму. Атрымаўшы тлумачэнне нашага візіту, прапанавала:

— Так і быць — пайшлі. Я буду вашай праваднічай.

Не мінулі ніводнага памяшкання на комплексе. Нічога не хавала ад нас Ніна Мікалаеўна. Паказвала ўсё, што цікавіла, — балазе, не сорамна ёй было за гаспадарскія «харомы» і начынне ў іх. Як ні кажы, яно ж сучаснае і выглядае нібы толькі што яго завезлі сюды. За каровак, цёлачак не перажывала. Яны ж, як на падбор — усе спраўненькія, чысценькія, сыценькія, і амаль кожная ад добрага настрою пысай хоча да цябе дацягнуцца і лізнуць дабрадушна, ну як ні ў твар.

Уражанні ад знаёмства з комплексам самыя прыемныя. Выказваю іх Ніне Мікалаеўне. Яна не здзіўляецца. Звыклася. Спакойна тлумачыць:

— Пераняць наш перадавы вопыт цэлымі дэлегацыямі прыязджаюць. І кожны раз атрымліваецца, што хвалімся не мы, а нас хваляць. Аж іншы раз да няёмкасці даходзіць.

— Але ж вам сапраўды ёсць чым ганарыцца.

— Што ёсць, зразумела, але ж, на мой погляд, лепш недахваліць, чым перахваліць. Дэлегацыі прыехалі і паехалі, а нам — працаваць.

Ніна Мікалаеўна адвяла погляд, памаўчала, а потым раптам ажывілася, павесялела:

— Не, нічога кепскага не магу сказаць пра дзяўчат. І Наташа Лагузова, і Надзея Багданава, і Іра Бузо, і Таццяна Міхалёнак, ды і астатнія — малайцы, стараюцца. У нас у асноўным моладзь працуе. Калектыў дружны, згуртаваны.

— Што праўда, то праўда! — пачуўся мужны мужчынскі голас збоку.

Мы і не заўважылі, як да нас падышоў ветурач Віктар Ждановіч. Працуе ён на комплексе разам з жонкай Нінай. Яна ў малочным цэху — фасоўшчыца малака.

У размове з Віктарам Валянцінавічам я пацікавіўся, як ён пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. І вось што мы ад яго пачулі:

— Я вучыўся ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце, а Ніна, яна віцябчанка, працавала на заводзе электравымяральных прыбораў. Пазнаёміліся банальна — на танцах, але жаніліся, аднак, па каханні. Размеркаванне атрымаў на Клецкі племзавод «Чырвоная зорка». Ну, куды іголка, туды і нітка. Дваццаць пяць год я шчыраваў з Нінай на гэтым прадпрыемстве, а потым мяне запрасілі сюды. Даў згоду, хоць і нялёгка было адрывацца ад роднага калектыву. Калі мы пакідалі племзаводскі пасёлак, ён стаў аграгарадком. Ніну гэта вельмі ўсцешыла, і яна да гэтага часу жартам згадвае: «Атрымліваецца, што ты два разы забраў мяне з горада і цяпер я двойчы гарадская».

— Дзе цікавей працаваць, — удакладняю, — тут альбо на племзаводзе?

— Ды як вам сказаць. І тамака з навукай звязана, і тутака. З той толькі розніцай, што ў «Жажэлцы» вучоныя адчуваюць сябе больш гаспадарамі, чым гасцямі. Іх жа «рэзідэнцыя» зусім побач. Амаль штодзень іх бачу. Многа ў іх тут сяброў, і да мяне вельмі прыхільна ставяцца. Як толькі я сюды ўладкаваўся, электракіпяцільнік, тэлевізар падаравалі. Да гэтага часу не магу зразумець, чым я ім так спадабаўся.

— А я магу сказаць «чым», — уставіла слова Ніна Мікалаеўна. — Вельмі цесна сышліся вашы сцежкі-дарожкі. Прафілактыка, вакцынацыя, прывіўка... Чым бы твае рукі ні займаліся, іх выдае твой язык. А для вучоных гэта — клад. Як толькі цялятка народзіцца, пачынаючы з пятага дня, ты няньчышся, выстрэнчваеш над ім аж пакуль яно не стане дарослым, але ж і тады яно працягвае заставацца пад тваім неаслабным наглядам... Ты ж ведаеш пра жывёліну не толькі з ветэрынарнага пункту гледжання, а і яшчэ шмат чаго.

— Ну ты і сказанула! — нібыта пакрыўдзіўся Віктар Валянцінавіч і ў той жа час хітравата ўсміхаўся.

Неўзабаве да нас далучыўся заатэхнік Раман Лапатко, як высветлілася, сын ужо згаданага намі Аляксандра Міхайлавіча. І амаль адначасова падкаціла на машыне (за рулём выглядае фацэтна) ягоная маці — галоўны заатэхнік Марыя Іванаўна Лапатко. Для паўнаты дынастыі не хапала толькі галавы сямейства.

Размова набыла новы імпульс, стала цікавейшай. Вельмі цёпла адазвалася Марыя Іванаўна пра вучоных — Васіля Радчанку, Аляксандру Кваткоўскую, Міхаіла Бараноўскага і іншых, супрацоўніцтва з якімі даўняе і плённае. Расказала з захапленнем, як правялі рэканструкцыю фермы ў вёсцы Барсукі. За канторай кругласутачна трымалі кароў на выпасе, абсталявалі для іх перасоўную даільную ўстаноўку, а ў гэты час у іх доме завіхаліся будаўнікі. Паднялі вышэй дах, накрылі празрыстым шыферам. Цяпер у памяшканні светла, як на вуліцы, цудоўны мікраклімат... Не горш сябе адчувае там жывёла, чым у «Жажэлцы».

Кормавытворчасць у гаспадарцы аднесена да разраду стратэгічных. Ёй тут сур'ёзна займаюцца з самага пачатку цвёрдага вызначэння курсу спецыялізацыі на вырошчванні элітнага насення збожжавых і ярка акрэслены малочны напрамак. Стаўка на гэтыя «два кіты» абумоўлена эканамічнай іх узаемазалежнасцю. У цяперашніх рынначных умовах яна вызначае фінансавую стабільнасць. Эксперыментальная база «Жодзіна» рэалізуе штогод да трох тысяч тон насення эліты і суперэліты збожжавых культур. Узамен атрымлівае ад гаспадарак-спажыўцоў або грошы, або ў каафіцыентных адносінах фуражнае зерне. Яго хапае для напаўнення рацыёна кароў і маладняку неабходнымі дозамі канцэнтратаў, што вельмі важна.

Такім чынам, жывёлагадоўля эксперыментальнай базы надзейна забяспечана фуражным зернем. Існуе і падстрахоўка на выпадак непрадбачаных абставін: канцэнтратны фонд можа папаўняцца за лік часткі вытворчых унутрыгаспадарчых пасеваў, а таксама пераходнага рэзерву. У сваю чаргу, малочная галіна ў любы момант прызвана падтрымліваць элітную вытворчасць насення матэрыяльна, бо грошы ад рэалізацыі малака паступаюць у «жывым выглядзе» аператыўна круглы год. Межсезонне тут выключаецца, тым больш, што ўзровень прадукцыйнасці дойных статкаў амаль аднолькавы што летам, што зімой. Малако пры яго рэнтабельнасці стала беспраблемна пакрываць бягучыя расходы, у тым ліку і па зарплаце.

— Што датычыць іншых відаў кармоў, — выказвае задаволенасць Марыя Лапатко, — то з імі ў нас усё «ўзгоднена» найлепшым чынам. У склад кармавых культур уваходзяць тыя, што здольны забяспечыць не толькі аб'ёмную патрэбу ў фуражы, але і дастатковую ў бялку, караціне, цукры, іншых неабходных жывёле спажыўных рэчывах. Таму галоўны аграном Уладзімір Юркевіч, адказны за кармавытворчасць, кампетэнтна размеркаваў пасевы кармавых па памерах плошчаў, ступені ўраджайнасці з тым, каб 1300 гектараў, адведзеных пад іх, бязбедна кармілі ўсё пагалоўе жывёлы. Аддача кожнага гектара гаворыць сама за сябе — складае 75 цэнтнераў кармавых адзінак.

— Вядучымі кармавымі культурамі ў гаспадарцы, — працягвае Марыя Іванаўна, — з'яўляюцца канюшына, люцэрна, гарох, віка і некаторыя іншыя. Незаменная сіласная культура — кукуруза. Цукровы баланс рацыёнаў забяспечваецца вырошчваннем паўцукровых буракоў і выкарыстаннем адыходаў цукровых заводаў. Нарыхтоўка ўсіх відаў кармоў, як правіла, адпавядае высокім тэхналагічным патрабаванням як па тэрмінах уборкі, так і па часе закладкі на захоўванне. Вялікае значэнне прыдаём шырокаму выкарыстанню кансерванта на аснове малочнакіслых бактэрый пры сіласаванні кукурузы з пачаткамі. Прымяняем яго і на прыгатаванні сенажа. Падкрэслю: нашы кармы спрэс першакласныя. Таму і аддача высокая. Нельга не сказаць пра камбікармы. Вось ужо некалькі год, як перайшлі на ўласную іх вытворчасць. Нас не задавальнялі ні завадскія цэны на іх, ні якасць па асартыменце. З пускам сваёй устаноўкі гэтыя пытанні адпалі, выгоды не вымусілі сябе чакаць. Нядаўна вытворчасць пашырылі — пабудавалі новы капітальны цэх з камп'ютэрным кіраваннем. Яго магутнасць — 20 тон камбікармоў у суткі. Гэта больш за сённяшнія патрэбы нашых ферм. Але мы наважыліся стварыць яшчэ салідную свінаферму, адрэгуляваць убок павышэння пагалоўе статку. Так што больш магутны камбікормавы цэх яшчэ вунь як нам спатрэбіцца.

Ёсць у Эксперыментальнай базе «Жодзіна» і свой мясаперапрацоўчы камбінат. Не прамінулі наведаць яго. Тэхнолаг Галіна Вегіна сустракае ветліва і прыязна. Расказала, як працуе тут калектыў з дванаццаці чалавек. Паказала вырабы — вараныя і вэнджаныя каўбасы, сасіскі. З Барысава вайскоўцы два разы на тыдзень робяць на іх заказы. Існуюць фірменныя мяса-малочныя магазіны — два ў Жодзіна і адзін у Барсуках. Жывыя грошы паступаюць у касу базы ад продажу сваёй прадукцыі. Ахвотна купляюць не толькі мяса, а і малако. Яго рэалізуецца штодзённа ў пакетах з маркай «Жажэлка» да 25 тон.

У Эксперыментальнай базе «Жодзіна» на чале з талковым дырэктарам Мікалаем Хілько, перш чым укласці ў справу рубель, добра падумаюць, як атрымаць з яго найбольшую карысць. Гаспадарка здолела правільна распарадзіцца такім рублём, бо за апошнія гады значна павысіла рэнтабельнасць сваёй вытворчасці. Забяспечаны рост дзякуючы тэхнічнаму пераўзбраенню вядучых галін. Прыкметна памаладзеў машынна-трактарны парк, галоўным чынам за кошт лізінгу. На палетках з'явіліся навейшыя гатункі збожжавых і зернебабовых мэтавага прызначэння, працягваецца пераабсталяванне ферм, дзейнічае аўтаматызаваны цэх па перапрацоўцы малака на тым жа комплексе «Жажэлка», што дае прыбытку на 15—17 працэнтаў.

Цяпер, калі пачала ажыццяўляцца Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця вёскі, перспектывы для любой гаспадаркі нашмат узрастаюць. Магутнейшае мерапрыемства! І ўражвае тое, што поруч з тэхналагічнымі паспяхова вырашаюцца і сацыяльныя праблемы сяльчан. Вось і ў Эксперыментальнай базе «Жодзіна» чакаюцца карэнныя перамены. У цэнтры — вёсцы Барсукі — ствараецца аграгарадок. Людзі цэняць клопат аб іх і гатовы нарошчваць вытворчасць сельгаспрадукцыі — якаснай, канкурэнтаздольнай. Наперадзе шмат спраў. І ясна адно — Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця вёскі можа быць забяспечана толькі сумеснымі намаганнямі вучоных і аграрыяў. Вяскоўцы чакаюць ад беларускай навукі распрацовак самага высокага ўзроўню, здольных ажыццявіць рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы.

Уладзімір СІТУХА

# ХВАТКІ

Мой спадарожнік, камлюкаваты капітан міліцыі, які падсеў у легкавушку ў Федзькавічах, аказаўся чалавекам гаваркім і разважлівым.

— Мо па дарозе? Мне ў Драгічын трэба, — абнадзеена запытаўся ён.

— Калі ў Драгічын, дык сядайце, — усміхнуўся я. — Акурат туды еду.

— Капітан Сяргей Ляшко... Чаму так цёпла пра Драгічын?..

— Радзіма, братка. Дарога туды заўжды карацей. Едзеш і думаеш... Думаеш і едзеш... Маці ў Гутаве жыве. Пупавіна там прыкапана. Узрос і школу закончыў у Гутаве.

Знакаміты люд адсюль пайшоў. Паэты Ала Кабаковіч, Мікола Федзюковіч праславілі вёску. Мяне Мікола першым прыкмеціў і ацаніў яшчэ ў школьныя гады. Заахвоціў да творчасці. Мы сябравалі моцна, хаця ён і старэйшы быў. Бывала, гармонік за плячо і — на выган. Раздолля там — і для рыфмаў, і для песень хапала. Ён і верш прысвяціў мне пра гэтыя незабыўныя сусрэчы. Слухайце — во!

Гэй, Валодзя, бяры гармонік,
Ды — за вёску, акрай аўсоў.
Бор з аблокамі загамоніць,
Узляцяць ураганы-коні
З-пад грывастых, крутых басоў.
Асядланыя навальніцы
Бліскавіцамі празвіняць,
А дзяўчатам, дальбог, прысніцца
Ў гэту ноч зарапад сунічны,
Жураўліная сенажаць.
Ну а нам з табой — да світання
Песні салаўіныя пець.
Пра нязбытае каханне,
Пра трывожнае расчараванне
Будуць доўга басы гудзець...

— Моцны верш, — пахваліў мой спадарожнік. — На ўсё жыццё памяць...

— Памяць ёсць. Міколы няма ўжо. Шкада. Я таксама прысвяціў яму верш. Праўда, крыху пазней. Настальгія па тым часе. Звінела раней песнямі сяло. Цяпер нібы вымірае. Балота асушылі, а аддачы няма. Ці знойдзецца хто, каб павярнуўся тварам да вёскі, каб зноў задыхала яна, паднялася з каленяў. Заспець бы гэты час. Увекавечыць... Бо я так і пішу ўсё жыццё з лёгкай рукі славутага земляка і сябра.

— Пра каго? Пра што? — зірнуў у мой бок капітан.

— Аб людзях у асноўным. Чалавек — вечная загадка. Жывеш, сябруеш з кім-небудзь. Здаецца, добра ведаеш. А прыйдзе час, ён табе такі кандыбобель выкіне — знерухомееш ад нечаканасці. Або наадварот, малавядомы нехта, а так сагрэе, такой узвышанасцю спатоліць сэрца... І няма гэтаму разгадкі. Адзін народжаны дабро рабіць, ствараць. Другі — нішчыць гэтае дабро. Адзін сілкуе людзей энергіяй дабрыні, другі высмоктвае гэтую энергію, сілкуецца ёю. І такі ненажэрны, усё яму мала, мала... Адным словам, знішчэнец! І не толькі яго віна ў тым, мабыць, так звышсілы спраграмавалі.

— Што ж, у кожнага свой крыж...

— Можа, і так. Бо людзі, як і дрэвы ў лесе, роўнымі не бываюць. Аднаму прастору давай, размах. Ён сваю ідэю шукае ў жыцці. І на ўсё яму часу не стае, як Хвацiку вашаму. А другі не ведае, як змарнаваць гэты час. І ён, гэты другі, падпільноўвае момант, каб спатыкнуўся неўгамонны Хвацік, упаў, каб клюнуць драпежна і беспакараным застацца.

— Слоў няма, наш Хвацік на сваім месцы. Раён бы падштурхнуў нехта. У гору ўсё пайшло, — падцвердзіў мае меркаванні, зрабіўшы націск на слова «наш», капітан міліцыі.

Нейкі час мы ехалі моўчкі. І я ўспамінаў, ад каго першага пачуў падобную характарыстыку на Васіля Хвацiка, старшыню Драгічынскага райвыканкама, з кім якраз і ехаў пагаварыць.

Згадалася Таццяна Рыгораўна Дзям'яненка, цяперашні дырэктар Гутаўскай школы, — чалавек з багатай жыццёвай біяграфіяй, хто штодзень навідавоку, карыстаецца асаблівай пашанай ў драгічынцаў. Яна не раз захаплялася Васілём Міхайлавічам.

— Ён — сама дабрыня. Кемлівасцю, дасціпнасцю і развагай не саступіць нашаму Антону Стэльмаху...

Антон Сцяпанавіч многа пастараўся для паляпшэння жыцця жыхароў Драгічыншчыны, за што яны яму вельмі ўдзячныя. Не пакідае ён іх без увагі і цяпер пры высокай пасадзе ў абласным цэнтры. Ды і ўвогуле, не знайсці раёна ў вобласці, дзе б ён ні пабываў. І перш за ўсё яго цікавіць, як жывуць людзі, чым зможа ім дапамагчы.

Дабрыні нямерана, нязлічана
Так дае, відаць, нямногім Бог.
Тут — у Брэсце. Ды і там — ў Драгічыне
Многім людзям Стэльмах дапамог.

Хоць падчас наўкола людзі строгія,
Шмат яшчэ наперадзе дарог,
Ды рабіць дабро ўсё ж нямногія
Змогуць так, як гэты хлопец змог.

Да пагляда з светлай насцярогаю
Бы магнітам, цягне незнарок.
І з надзеяй людзі, і з трывогаю
Да Антона цягнуцца здалёк.

Хто бліжэй, дык тыя радыя,
Што жыццё звяло з ім назаўжды.
Бы, ад стронцыю, ад цэзію і радыю,
Ён людзей бароніць ад бяды.

Праўдай, верай шчырай намагнічаны,
А наперадзе — падзей яшчэ, падзей...
Тут — у Брэсце. Ды і там — ў Драгічыне
Заслужыў павагу у людзей.

Гэты верш аўтар прысвяціў Антону Стэльмаху за яго чалавечнасць і дабрыню, узняцца да якой не кожны з нас здольны.

Асабліва ўзрадавала мяне тое, што ўжо сёння Васіля Хвацiка параўноўваюць з Антонам Стэльмахам, які дзесятка паўтара гадоў да яго старшынстваваў у Драгічыне.

Згадалася нядаўняя сустрэча са старшынёй аблсавета Сяргеем Дзмітрыевічам Ашмянцавым:

— Хвацік ад слова «хваткі». Само прозвішча яго мабілізуе, — загадкава ўсміхнуўся старшыня. — Спраўджваецца яно ў жыцці. Хапаецца ўчэпіста за любую



*Васіль Міхайлавіч Хвацік.*

справу. Ставіць мэту і рашуча вырашае яе са сваімі аднадумцамі, якіх з кожным годам становіцца ўсё больш. Выдатны арганізатар.

Падымаюся на другі паверх райвыканкама. Мілавідная, шчырая і, па ўсім відаць, добрая гаспадыня прыёмнай старшыні, калі я спытаў, ці ёсць ён на месцы, здзіўлена залыпала вачыма:

— Вы што, Васіля Міхайлаві ча хацелі ў такі час заспець у кабінеце? Ён цяпер на палетках, там, дзе ў разгары жніво, — у яе мілагучным голасе адчувалася павага і гонар за свайго няўрымслівага шэфа.

Каб не марнаваць час, накіраваўся праз дарогу, у раёнку. Вуліцы чыстыя, дагледжаныя. І ў гэтым таксама была заслуга гаспадара. Драгічын з кожным днём да лепшага мяняецца, набывае рысы сучаснага добраўпарадкаванага горада. З'явілася шмат клумбаў і кветнікаў. Памаладзелі свежапафарбаваныя дамы дзяржустаноў і прыватнікаў. Пашырана плошча. Цяпер у дні ўрачыстасцей на ёй не цесна — усім месца хапае.

Алексей Сяргей, рэдактар раённай газеты, сустрэчы ўзрадаваўся, паклікаў Сцяпана Супруна. Сфатаграфаваліся. Землякі ж...

— Хвацік?! Пашанцавала нам. Чацвёрты год кіруе, а колькі змен адбылося пры ім... Ён сам не выслужваецца і не дае рабіць гэтага падначаленым. Крытэрый ацэнкі адзін — справа. Прыжылося ўжо. Спраўляешся — хвала і гонар, не спраўляешся — адказвай па поўнай праграме.

З Васілём Міхайлавічам сустрэліся на наступны дзень, у суботу.

— Заўчора Зянон Ломаць з нашымі людзьмі «сакрэтнічаў». Я толькі за гэта, нам хаваць няма чаго. Добра, што выхадны — крыху вальней. Пагамонім. Кніжку пра нашых хачу прапанаваць вам напісаць. Пра тых, хто стварае сучасную гісторыю. Згадзіцеся, гістарычных даведнікаў многа, а чалавек згубіўся. Няма чалавека. А ён жа — аснова ўсяго...

Па твары Васіля Хвацікa было бачна, што гэтую ідэю ён выношвае даўно, як і даўно перакананы, што на першы план трэба ставіць чалавека-стваральніка, чыімі рукамі і розумам дасягаецца поспех, чый ў працы гартуецца характар. Тады будзеш і з хлебам, і з песняй.

Ягоная клапатлівая апантанасць збліжала з людзьмі. Гаварыць з ім было цікава, бо ён звяртаўся да набалелага, надзённага, спрабаваў знайсці адказы на самыя хвалюючыя пытанні, якія ставіла жыццё.

Я сачыў за разважаннямі Васіля Хвацікa і ў той жа час маляваў для сябе вобраз гэтага незвычайнага чалавека.

Шмат значыла, што ён вельмі рана далучыўся да нялёгкай сялянскай працы, на сабе спазнаў, як яна шмат значыць.

— Прызнацца, дык я ні разу і не быў у піянерскім лагеры, — бы ганарыцца такой лёсавай акалічнасцю мой субяседнік. — Хіба да адпачынку, калі касавіца. Радасць поўніла грудзі, што бацька з сабою браў. Сена з балота выносілі. Маці ў адну торбу клала па кавалачку мяса і бацьку, і мне, што ўзвышала нейк і дарослым лічыцца вымушала. І зараз, бывае, прымроіцца той звон кос, задушэўныя песні. Касілі на траццяк — дзве капіцы ў калгас, адна сабе — за работу. Стамляліся, але стараліся навыперадкі. Вечарам «тапілі» стому ў рэчцы Свінаводцы (прыток Прыпяці), дзе купаліся разам і дарослыя, і дзеці. Адкуль толькі задор і энергія

браліся! Здавалася, не існавала на зямлі большага шчасця — працаваць нараўне з дарослымммі, паспяваць шмат і — быць патрэбным.

Землі ў Лельчыцкім раёне, асабліва вакол Сімавічаў, дзе прайшло басаногае дзяцінства, былі беднымі — пяскі. Карміліся з лесу, рэчкі і балота. Не да піянерскага лагера было, калі вырасталі лісічкі, баравікі, паспявалі журавіны на Убрацкіх балотах...

У хуткім часе сям'я Хвацікаў пераязджае ў Баранавіцкі раён — да сястры маці, муж якой, ды і яна сама, працавалі ветэрынарнымі ўрачамі.

Уплыў гэтых адмысловых спецыялістаў несумненны. Дзякуючы ім пасля васьмігодкі Васіль Хвацік стаў навучэнцам Ляхавіцкага саўгастэхнікума.

— Тады гэтая ўстанова славілася, — успамінае Васіль Міхайлавіч. — Прэстыжнай была. Хутка 50-годдзе тэхнікума будзем адзначаць. Выкладчыкі нашы, можна сказаць, азалацілі нас сваімі ведамі. І чуласці да нас у іх хапала. Асабліва Кацярына Кузьмінічна Унтарынава вызначалася. Ёй дзяўчаты адкрывалі душу, а мы, хлопцы, давяралі свае самыя дзёрзкія планы. З дапамогай выкладчыкаў я і адчуў сябе ўпершыню лідэрам, стаў старастам групы, навучыўся належным чынам ставіцца да людзей.

Пры размеркаванні Васіль Хвацік меў выбар, мог трапіць у вядомыя гаспадаркі. Вырашыў інакш — паехаў туды, дзе цяжэй. Каб саматугам усё спасцігнуць.

Праз месяц з саўгаса «Перамога», што ў Івацэвіцкім раёне, прызвалі ў армію, дзе перад самай дэмабілізацыяй нечакана для сябе атрымаў званне старшыны: скеміў выкарыстаць трубы ацяплення казармы для падагрэву цяпліцы. На жаночае свята 8-га Сакавіка радавалі не толькі кветкі, але і свае гурочкі. Камдзіў, генерал Бабылёў, настолькі быў уражаны вынаходніцтвам байца, што прапанаваў пры добрай пасадзе застацца назаўжды ў арміі. Прысвоіў званне. Васіль шчыра падзякаваў і адхіліў прапанову. Вайсковец — далёка не яго прызванне.

Дэмабілізаваўшыся, вярнуўся назад у Вульку Аброўскую на пасаду галоўнага заатэхніка гаспадаркі. Мудрасці і падыходу да людзей вучыўся ў старшыні Васіля Іванавіча Валанцэвіча, які не раз зазначаў: «З табой, Васіль, у разведку можна ісці... Падавайся на вучобу, завочна. У Гродзенскі сельгасінстытут. Я парэкамендую...»

Апошнія словы Васіль Хвацік вымавіў з асаблівай цеплынёй і прыхільнасцю. Ён паважаў Валанцэвіча. Адчуваў нейкую віну перад гэтым чалавекам, — пасля свайго вяселля пераехаў працаваць у абласны цэнтр. Валанцэвіч не папракаў. Пабацькоўску шчыра сказаў: «Не гарадскі ты. Не зможаш без зямлі».

Бы ў ваду глядзеў вопытны Васіль Іванавіч. Неўзабаве Васіль Хвацік папрасіўся ў калгас «Прыбужжа» ля Брэста. Шмат пасад памяняў у сваім жыцці. І на кожнай стараўся заявіць пра сябе, вучыўся быць сапраўдным гаспадаром, прыкладным кіраўніком.

Мне падалося, што Васіль Хвацік чымсьці нагадвае Канстанціна Сумара, цяперашняга губернатара Брэстчыны. Успомнілася ёмкае губернатарскае пра сябе: «...адначасова вучыўся і хадзіць, і плаваць; карыстаюся ў рабоце прынцыпам — «не падвядзі», праўду адстаяць цяжка, але трэба...»

Тыя ж стаўленне да жыцця і падыходы і ў Васіля Хваціка.

Слухаючы яго, я зразумеў, не, бадай, хутчэй — адчуў, што гэта — менавіта той чалавек, які павярнуўся тварам да сяла і ведае, як узняць яго, каб там заможна і шчасліва жылося людзям.

— Перш-наперш трэба шмат клапаціцца, каб утрымаць моладзь у гаспадарках.

Але хлопцы і дзяўчаты, як паказала практыка, застаюцца толькі ў тым выпадку, калі бачаць перспектыву ў вясковым жыцці. Вось чаму нашы лепшыя гаспадарнікі Уладзімір Сухарэвіч, Мікалай Якоўчык на першы план ставяць развіццё сацыяльна-культурных устаноў на сяле. Толькі школамі і бальніцамі цяпер не абыдзешся. Сёння ў вёсцы патрэбны гарадскога тыпу Дамы культуры і бібліятэкі, басейны і спартыўныя пляцоўкі. Без гарманічнага развіцця асобы руху наперад не будзе.



*У цэнтры Драгічына*

Малады чалавек сёння хоча, каб быў і камп'ютэр у кабінеце, і гарачая вада ў кватэры. На ўсё гэта — тэхнічнае перааснашчэнне, будаўніцтва жылля — мне трэба два гады. Але тут раптам паўстае яшчэ адна, бадай што, самая важная праблема — духоўная. Якія мы песні спяваем?!. Чаму па тэлевізары — спрэс нізкапробныя, жахлівыя баевікі: кроў, насілле, смерць?..

Не трэба гэта гаспадарам палеткаў. Чаму б не стварыць фільм пра таго ж Аляксея Скакуна? Хай вучацца быць падобнымі на яго. Ці, напрыклад, пра нашу Малінаўку, дзе не нахваляцца людзі Мікалаем Крывецкім, ягонымі чуласцю, спагадай і дабрынёй, або пра Вульку Антопальскую — радзіму знакамітага сучаснага мастака-эмальера Мікалая Кузьміча, які нанова стварыў беларускую святыню — крыж Прападобнай Еўфрасінні Полацкай, або...

...Я пакідаў Драгічын у добрым настроі. З верай, што ўсё ў Хваціка атрымаецца. На душы было слодычна, лёгка думалася. Нейк сам сабою напісаліся гэтыя радкі:

Столькі наўкола парадку,
Столькі сустрэч і падзей.
Хвацікa моцная хватка
Блізіць, яднае людзей.

Праўда, надзея, ды мэта —
З імі цяпер назаўжды.
Вераю светлай сагрэты,
Люд прыбаўляе хады...



# АНАТОЛЬ СУЛЬЯНАЎ: «ДУХОЎНАСЦЬ, МАРАЛЬНЫ СТРЫЖАНЬ УМАЦОЎВАЮЦЬ ПРАФЕСІЯНАЛІЗМ»

*З Анатолем Сульянавым мы пазнаёміліся ў ЦК КПБ, дзе я ў той час працаваў памочнікам сакратара Цэнтральнага Камітэта.*

*Ваенныя ў нашу прыёмную заходзілі не часта (што ім рабіць у ідэалагічным ведамстве?), а калі і заходзілі, то затрымліваліся ненадоўга. І, па праўдзе кажучы, усе яны для мяне былі на адзін твар: мажныя, упэўненыя ў сабе, нешматслоўныя. На пытанні адказвалі коратка: «так точно», «никак нет»... Размаўляць з імі было не вельмі цікава.*

*Але вось аднойчы ў прыёмнай з'явіўся малады, усмешлівы генерал. І паводзіў ён сябе не зусім стандартна. Напачатку шчыра пахваліў прыгожую сукенку сакратаркі Алёны Фёдараўны, ад чаго яна прыемна збянтэжылася. Пасля зайшоў да мяне, здзівіўся вялікай колькасці кніг, што ляжалі на маім стале, і калі даведаўся, што гэта ўсё сігнальныя экземпляры беларускіх выдавецтваў, ветліва папрасіў дазволу паглядзець.*

*Я быў прыемна ўражаны гэтай непадробна-шчырай, не характэрнай для вайскоўцаў цікаўнасцю да мастацкай літаратуры. «Сульянаў... Ці не той гэта Сульянаў, аповесць якога нядаўна выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»?*

*Запытаў пра гэта ў генерала прама.*

*— Так, быў такі грэх, — пацвердзіў Анатоль Канстанцінавіч.*

*Я па-новаму паглядзеў на свайго суразмоўцу. Баявы лётчык, генерал, да таго ж яшчэ і няблага валодае пяром! Мне прыгадалася, як цёпла гаварылі пра яго як пра аднаго з перспектыўных літаратараў нашы вядомыя пісьменнікі Васіль Быкаў, Іван Шамякін.*

*Размова зайшла аб літаратурных навінках. Анатоль Канстанцінавіч выявіў добрую начытанасць і эрудыцыю. Мне асабліва было прыемна, што па многіх сучасных творах нашы ацэнкі супадалі, а там, дзе погляды разыходзіліся, Анатоль Канстанцінавіч сваю думку адстойваў вельмі аргументавана і пераканаўча.*

*Развіталіся мы амаль па-сяброўску. І з таго часу, вось ужо на працягу амаль трыццаці гадоў, пачуццё глыбокай сімпатыі, шчырай павагі да гэтага незвычайнага чалавека, таленавітага пісьменніка жыве ў маёй душы. Хаця сустракаемся мы рэдка. Я б нават сказаў: вельмі рэдка. Затое з вялікім задавальненнем чытаю яго кожную новую кнігу. Анатоль Сульянаў надзвычай шчыры і ў многім аўтабіяграфічны ў сваіх творах. Чытаючы іх, беспамылкова даведваешся, што хвалюе і трывожыць, што радуе і засмучае пісьменніка.*

*У апошнія гады, пайшоўшы ў адстаўку, генерал цалкам аддаўся літаратуры. Прычым паглыбіўся ў зусім новыя для сябе тэмы — напісаў дакументальна-публіцыстычную кнігу пра Пушкіна, гістарычны раман пра Берыю... І стала відавочным: пісьменнік набірае новую вышыню.*

*Таму, калі галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі прапанаваў мне сустрэцца з Анатолем Сульянавым і правесці з ім гутарку, я з задавальннем пагадзіўся.*

*І вось я ў невялікім утульным кабінеце, які з усіх трох бакоў заստаўлены кнігамі. Насупроць мяне — Анатоль Канстанцінавіч у лёгкім спартыўным касцюме. Усё такі ж усмешлівы, маладжавы. І, гледзячы на яго, рухавага, энергічнага, цяжка паверыць, што яму ўжо восем дзесяткаў.*

## *«Я пішу пра тое, што добра ведаю»*

**— Анатоль Канстанцінавіч, распачнём нашу гутарку традыцыйна. З чаго і як пачаўся Ваш літаратурны шлях? Наколькі мне вядома, ваеннаму чалавеку не так проста знайсці вольны час для творчасці. Да таго ж ні навакольнае асяроддзе, ні бытавыя ўмовы не садзейнічаюць гэтаму.**



— Так, час вайскоўца распісаны па хвілінах. Асабліва ў лётчыкаў, якія для падтрымання належнай формы ўвесь дзень альбо займаюцца на трэнажорах, альбо адпрацоўваюць навыкі пілатавання ў вучэбна-трэніровачных палётах з інструктарам. Акрамя таго, у мой час вялікая ўвага надавалася палітзаняткам, да якіх таксама трэба было сур'ёзна рыхтавацца. Словам, не да пісання.

Але ж я, калі гаварыць шчыра, у пісьменнікі і не збіраўся. З дзяцінства марыў стаць лётчыкам. Побач з маёй роднай вёскай знаходзіўся ваенны аэрадром. І мы, хлапчукі, пасеўшы дзе-небудзь на ўзгорку, маглі гадзінамі з захапленнем назіраць за палётам крылатых машын.

І вось аднойчы мой дзядзька, ваенны прадстаўнік, прыехаў да нас у госці і кажа мне: «Я чуў, ты марыш стаць лётчыкам. А хочаш — мы заўтра паедзем з табой у Кубінку, на аэрадром?»

«Вядома ж, хачу!» — заскакаў я ад радасці. Дзіва што — пабачыць сапраўдных лётчыкаў, паназіраць зблізку за самалётамі!

І вось мы на аэрадроме. Дзядзька падвёў мяне да машыны, якая якраз рыхтавалася да палёту. І раптам усе застылі па стойцы «смірна». Аказалася, падышоў камбрыг, які і збіраўся ляцець на гэтым самалёце. Убачыўшы мяне, камбрыг з усмешкай пацікавіўся: «А што тут робіць юны баец?» Дзядзька растлумачыў, што вось, маўляў, хлапчук улюбёны ў авіяцыю, марыць быць лётчыкам. «Ну што ж, мара — справа добрая, — ухвальна ўскудлаціў мой чуб камбрыг і раптам здымае з галавы пілотку і падае мне: — Трымай, баец. На памяць, каб хутчэй збылася твая мара».

Гэты каштоўны падарунак і стаў паваротным момантам у маім жыцці. Дзіцячая рамантычная мара перарасла ў цвёрдую і самую запаветную мэту.

У 1943 годзе, калі я скончыў 7 класаў і мне споўнілася 17, рашыў паступаць у Маскоўскую спецшколу Ваенна-паветраных сіл. Напісаў пісьмо на імя начальніка школы і неўзабаве атрымаў адказ аб маім залічэнні. Так пачаўся мой шлях у ваенныя лётчыкі.

**— А ў літаратуру?**

— У літаратуру я прыйшоў праз журналістыку. Дапамог выпадак. Калі я быў курсантам Армавірскага вучылішча лётчыкаў-знішчальнікаў, у адзін з дзён наша аддзяленне здавала экзамен па радыёсувязі. З 25 курсантаў 22 атрымалі пяцёркі. Начальнік вучылішча палкоўнік Шубін не паверыў і прыйшоў экзаменаваць курсантаў сам. Вынікі пацвердзіліся!

Пасля гэтага камандзір батальёна падпалкоўнік Кукарын выклікаў мяне і як рэдактару баявога лістка даручыў напісаць пра нашы пяцёркі ў акруговую газету. Я настрачыў цэлых тры старонкі і адаслаў у Растоў, у газету «Красное Знамя». А тыдні праз тры днявальны раптам крычыць на ўсю казарму: «Сульянаў, твой артыкул у газеце на першай старонцы!» І праўда — пад загалоўкам «22 пяцёркі» стаіць сціпла ў кутку паласы заметка радкоў на сто і маё прозвішча пад ёю.

А неўзабаве прыйшло і пісьмо з рэдакцыі, у якім мяне запрашалі да супрацоўніцтва. Вядома ж, я з радасцю прыняў яго. Хаця, прызнацца, пісаць у тыя гады

зусім не ўмеў. Дзякуй супрацоўнікам рэдакцыі — яны цярпліва вучылі мяне журналісцкаму майстэрству.

**— А калі ўпершыню прыйшла думка напісаць літаратурны твор?**

— Гэта думка прыйшла не мне, а майму настаўніку, таленавітаму журналісту Усеваладу Карамышаву. Ён у тыя гады, калі я вучыўся ў Маскоўскай ваенна-палітычнай акадэміі, быў рэдактарам нашай акадэмічнай шматтыражкі і ўсяляк заахвочваў мае журналісцкія спробы.

Ну а калі я пачаў ужо ўзнімацца ў сваёй творчасці, публікавацца ў сур'ёзных газетах і часопісах, Усевалад Аляксандравіч гэта заўважыў і ацаніў. Ён жа з адабрэннем адгукнуўся і на маё першае апавяданне, якое я даслаў яму. «Кідай страчыць заметкі, — быў яго прысуд. — Пішы апавяданні».

Лёгка сказаць — пішы. Але калі? Першыя два гады службы пасля заканчэння акадэміі я наогул працаваў без выхадных. Бярэшся сур'ёзна за палітзаняткі — зрываюцца палёты, пачынаеш займацца палётамі — зрываюцца палітзаняткі. Але потым, дзякуй Богу, справа патроху стала наладжвацца, і я ўзяўся за пяро зноўку. Некалькі маіх апавяданняў апублікаваў часопіс « Советский воин». Але часцей за ўсё я друкаваўся ў нашай армейскай газеце «Часовой Севера».

І вось калі я ўжо, здавалася, набыў у сваіх колах пэўную вядомасць і прызнанне, раптам нечаканая непрыемнасць. Камандуючы нашай паветранай арміяй, выступаючы на ваенным савеце, даволі рэзка прайшоўся па маёй персоне. «Падпалкоўнік Сульянаў актыўна выступае ў друку, — з раздражненнем сказаў ён. — Але галоўная ваша задача, таварыш Сульянаў, не заметкамі займацца, а вучыць, выхоўваць лётны састаў».

Гэтым справа не абмежавалася. Калі таму ж камандуючаму прынеслі спіс, каго трэба заахвоціць да Дня друку, мяне ён са спіса выкрасліў. І тады я зразумеў, што ў арміі займацца літаратурай нельга. Я стаў пісаць у стол.

Так што творчасць давалася мне нялёгка.

Але калі я ўжо праслужыў у палку некалькі гадоў, як нампаліт акрэп, аўтарытэт мой вырас (наш полк стаў лепшым з дзевяці палкоў арміі), вось тады я зноў дазволіў сабе друкавацца. І неўзабаве, у 1967 годзе, нават выдаў першую кнігу апавяданняў «На земле и в воздухе».

**— І нарэшце адчулі сябе пісьменнікам?**

— Ну што Вы! Да гэтага было яшчэ далёка. Толькі праз пятнаццаць гадоў, працуючы ўжо ў Мінску, я выдаў раман «Расколотое небо», прадмову да якога напісаў Васіль Быкаў. І тут, у гэтым кароткім уступным слове, вядомы пісьменнік даў майму сціпламу твору такую характарыстыку: «Я не ведаю ў сучаснай савецкай літаратуры іншага аўтара, які б з такім грунтоўным веданнем і зайздросным пранікненнем у самае запаветнае пісаў аб Узброеных сілах краіны».

Гэтыя натхняючыя словы выдатнага майстра нашай літаратуры, канечне ж, надалі мне сілы, і я паверыў, што магу напісаць нешта вартае.

**— Анатоль Канстанцінавіч, а ў якой меры ў Вашых творах спалучаюцца вымысел і рэальнасць?**

— Павінен сказаць, што практычна ўсё, што я напісаў, заснавана на рэальных падзеях, на дакументальных фактах. Толькі ў нязначнай ступені, неабходнай для большай вастрыні сюжэта, лепшай тыпізацыі вобразаў, прысутнічае вымысел. Нічога прыдумляць мне не даводзілася. Я пісаў пра тое, што добра ведаю, што асабіста перажыў.

Вось, скажам, ёсць у мяне аповесць «Только одна ночь». Апавядаецца ў ёй аб надзвычай драматычнай падзеі. Апоўначы аператар выявіў на экране лакатара дзіўную цэль. Нібыта ляціць рэйсавы пасажырскі самалёт, але сілуэт яго чамусьці ўдвая аб'ёмнейшы. Далажылі начальству. На камандным пункце сабралася ўсё кіраўніцтва арміі ПВА. Агульны вывад: справа нячыстая. А тым часам дзіўны

аб'ект набліжаўся да дзяржаўнай граніцы. На сігнал-запытанне не адказваў. Напружанне нарастае. Неабходна прымаць рашучыя меры. Усе глядзяць на камандуючага, у руцэ якога тэлефонная трубка. Застаецца толькі даць каманду на пуск. Але камандуючы генерал-лейтэнант Кузьменка не спяшаецца, разумеючы, якая вялізная адказнасць ляжыць зараз на ім, і не толькі за свой асабісты лёс, але і за лёс многіх людзей.

І раптам чуецца ўсхваляваны голас дзяжурнага: «Таварыш камандуючы, цэль раздзялілася! Адзін аб'ект павярнуў назад, а другі працягвае палёт у наш бок». І тут жа на пасажырскім самалёце ўключылася сістэма адказу. Усе з палёгкаю ўздыхнулі.

Пазней сталі вядомыя падрабязнасці гэтага драматычнага інцыдэнту. Ляцеў «Боінг» рэйсам Капенгаген—Масква. А пад «жыватом» у яго прыладзіўся другі самалёт — амерыканскі разведчык. Яго задачаю, відаць, было сфатаграфаваць сакрэтны аб'ект — наш суперсучасны лакатар, які будаваўся і з дапамогаю якога мы маглі сачыць за паветранай прасторай многіх скандынаўскіх і еўрапейскіх краін. І калі б не вытрымка і спакой камандуючага, усё магло б скончыцца трагедыяй.

Усё гэта здарылася на самым пачатку маёй службы ў Беларусі, на пасадзе члена ваеннага савета арміі. Мужнасць і высокі прафесіяналізм паветраных абаронцаў мяне моцна ўзрушылі. Многія з іх і сталі рэальнымі прататыпамі герояў аповесці.

Або другі прыклад.

Шмат гадоў назад у гарах Закаўказзя будаваўся сакрэтны ваенны аб'ект. Амерыканцы ўсяляк стараліся здабыць пра яго неабходныя звесткі. Разведвальныя самалёты бясконца парушалі паветранную прастору Савецкага Саюза. Камандуючы арміяй у чарговы раз прыехаў да лётчыкаў і гадзіны дзве распякаў іх за тое, што яны не могуць надзейна прыкрыць граніцу. Намеснік камандзіра эскадрыллі Генадзь Елісееў прыняў гэты камандзірскі гнеў блізка да сэрца і, калі праз тры дні парушальнік граніцы аб'явіўся зноўку, асабіста вылецеў на яго знішчэнне. Аднак ракеты чамусьці прайшлі міма цэлі. І тады Елісееў прымае адчайнае рашэнне — ісці на таран. Цаной жыцця мужны лётчык адстаяў гонар палка, гонар авіяцыі.

Я быў у камісіі па расследаванні надзвычайнага здарэння. Лазіў па гарах, дзе ўпаў самалёт. Гутарыў з лётчыкамі. Мне важна было зразумець, што адчуваў Генадзь Елісееў у той момант, чаму рашыўся на такое? Ведаў жа, што ідзе на немінучую смерць, і ўсё ж пайшоў. Значыць, пачуццё абавязку аказалася мацнейшым за інстынкт самазахавання.

## *З любоўю і нянавісцю зямною*

**— Анатоль Канстанцінавіч, ёсць тры кнігі, якія ў вашай творчасці стаяць нібыта асобна. Гэта — «Маршал Жуков. Слава. Забвение. Бессмертие», «Пушкин, Элиз Кутузова и Долли Фикельмон», «Арестовать в Кремле». Яны выраслі не з асабістага вопыту. І нават не з асабістых назіранняў. Што ж стала прычынаю іх з'яўлення?**

— У кожнай з гэтых кніг свая гісторыя. Пра маршала Жукава, напрыклад, упершыню з'явілася думка напісаць недзе на пачатку перабудовы. Менавіта тады на выдатнага палкаводца сталі выліваць цэбры бруду. Невыносна было слухаць, як з экранаў тэлевізараў так званыя дэмакраты, якія не нюхалі пораху і блізка не ведалі, што такое вайна, глуміліся над героямі Вялікай Айчыннай, абвінавачвалі ва ўсіх смяротных грахах таленавітых савецкіх военачальнікаў, і ў першую чаргу Георгія Канстанцінавіча Жукава.

Я зразумеў: больш маўчаць не змагу. Паклёпнікаў трэба выкрываць. Пра Жукава я ўжо многае ведаў. І не па чутках, а што называецца з першых рук — ад тых, хто побач з ім ваяваў, працаваў. Яшчэ ў канцы 60-х я блізка пазнаёміўся з генерал-лейтэнантам Цялегіным. Ён звёў мяне з маршалам Ракасоўскім, з якім мы аднойчы правялі на рыбалцы цэлых паўдня. Гэта ўсё людзі, якія блізка ведалі Жукава. І яны



*А. К. Сульянаў з міністрам абароны РБ Л. С. Мальцавым на пасяджэнні Рэспубліканскай камісіі па культурным шэфстве над Узброенымі сіламі.*

мне расказалі вельмі многа цікавых эпізодаў з жыцця легендарнага палкаводца. Самі вядомыя, таленавітыя военачальнікі, яны тым не менш гаварылі пра Жукава з захапленнем, з нязменным піетэтам.

Тое ж самае я чуў з вуснаў маршалаў Баграмяна, Рудэнкі, Чуйкова, з якімі мне давялося мець цесныя зносіны падчас іх прыезду ў Мінск з нагоды 35-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прычым у Чуйкова з Жукавым былі даволі складаныя адносіны. І ў час вайны, і пасля. Ён, напрыклад, яшчэ пры жыцці Жукава ў часопісе «Вопросы истории» апублікаваў артыкул, у якім зрабіў вывад, што вайну можна было скончыць не ў маі 45-га, а на пачатку года. Наша камандаванне, маўляў, занадта доўга рыхтавала аперацыю. Берлін трэба было браць з ходу, таму што к маю яго ўжо акружылі дадатковымі ўмацаваннямі, што прывяло да шматлікіх ахвяр. Гэта быў прамы выпад супраць Жукава. Яго, праўда, абаранілі іншыя военачальнікі, перакаўча паказаўшы няслушнасць такой думкі. У пачатку 45-га франты імкліва наступалі, тылы адсталі. Людзі былі смяртэльна стомленыя ў папярэдніх баях. Берлінская ж цытадэль — не жартачкі. Патрэбна была сур'ёзная падрыхтоўка.

І вось у адзін з вечароў, калі маршалы адпачывалі ў заслаўскай рэзідэнцыі, размова зайшла і пра гэта. Да гонару Васіля Іванавіча, ён прызнаў памылковасць сваёй думкі. Больш таго, расказаў пра Жукава шмат цікавых фактаў, якія сведчылі пра мудрасць і празорлівасць яго палкаводчага генію. Словам, у тыя дні я падкаваўся грунтоўна. Дзякуй Богу, што ўсё пачутае я пасля старанна занатаваў, яшчэ, праўда, нічога не маючы на ўвазе. Проста так, на ўсякі выпадак.

І выпадак, як бачыце, надарыўся.

Калі нарэшце я цвёрда вырашыў, што буду пісаць пра Жукава, стаў паглыбляцца ў тэму — перачытаў процьму спецыяльнай літаратуры, не адзін дзень праседзеў у розных архівах, сустрэўся з дзесяткамі франтавікоў. Асабліва каштоўнай для мяне была сустрэча і грунтоўная размова з асабістым шафёрам Георгія Канстанцінавіча Аляксандрам Бучыным.

Я спытаў у яго прама:

— Кажуць, што Жукаў быў жорсткім чалавекам. Гэта праўда?

І ён мне адказаў:

— Я не скажу, што гэта праўда, і не скажу, што няпраўда. Ён быў жорсткі, калі былі жорсткімі абставіны. Напрыклад, пад Масквой у снежні 41-га. Абараняць сталіцу практычна не было каму: чатыры арміі ў акружэнні. І калі б не сіла волі, талент палкаводца Жукава, яшчэ невядома, чым бы ўсё скончылася.

Гэтыя словы з'явіліся ключом для разумення характару вялікага палкаводца, сталі па сутнасці галоўным контраргументам у спрэчцы з яго крытыканамі. Думка Бучына памагла мне і адпаведным чынам арганізаваць вялікі фактычны матэрыял, вызначыць асноўныя крытэрыі яго падачы.

**— Анатоль Канстанцінавіч, я ўважліва і з вялікай цікавасцю чытаў вашу кнігу. У ёй вы сапраўды многія рэчы расставілі па сваіх месцах. І ўсё ж на адно пытанне я адказу не знайшоў, а яно цяпер узмоцнена мусіруецца ў пэўных колах.**

— Вы, мабыць, маеце на ўвазе пачатак вайны?

**— Так. Чаму мы ўсё ж пацярпелі ў першыя дні вайны такое сакрушальнае паражэнне? І чаму вінаватым аказаўся адзін камандуючы Заходнім фронтам Паўлаў? Ці няма тут пэўнай віны і Жукава як начальніка Генеральнага штаба Чырвонай Арміі?**

— Віна Паўлава ў той катастрофе, якую мы перажылі на пачатку вайны, відавочная і несумненная. Чуйкоў расказваў, што ў сакавіку 41-га ён, будучы камандуючым 4-й арміяй, штаб якой у той час базіраваўся ў Кобрыне, на ваенным савеце акругі ўзняў пытанне аб тым, каб з улікам складаных і напружаных абставін на германа-савецкай граніцы вывесці з Брэсцкай крэпасці дзве дывізіі ў летнія лагеры.

— Ты што, ах..? — з матам накінуўся на яго Паўлаў. — Немцы ж адразу ўсё засякуць. Раз мы выводзім войскі, значыць, рыхтуемся да вайны. Ты што, правакацыю хочаш учыніць? Ды за такія рэчы...

Словам, Чуйкову дарма гэта не абышлося: неўзабаве яго адхілілі ад камандавання арміяй і накіравалі ў Кітай саветнікам.

Альбо другі факт, сведкам якога быў генерал Капец, у той час камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі Беларускай ваеннай акругі. Паветраная разведка сведчыла, што да нашых граніц сцягваюцца вялікія танкавыя групоўкі. Пра гэта далажылі Паўлаву. Той раздражнёна выслухаў і з'едліва папракнуў:

— Панікёры! А вы ад страху не абпісаліся?

Больш таго, калі літаральна за чатыры дні да пачатку вайны Паўлаву пазваніў Сталін і запытаўся, як сітуацыя, паколькі ёсць даныя, што немцы сцягваюць свае войскі да нашых граніц, той запэўніў, што ніякіх груповак няма. Гэта ўсё правакацыйныя плёткі.

Не дзіўна, што савецкія войскі на Заходнім фронце сустрэлі нападзенне фашыстаў кепска падрыхтаванымі. Ды і сам камандуючы для вядзення такіх маштабных аперацый неабходнага вопыту не меў. Ён не камандаваў ні дывізіяй, ні корпусам, ні арміяй. І раптам атрымоўвае (дарэчы, па сваёй асабістай просьбе) акругу, прычым самую вялікую і складаную — 24 дывізіі! І, канечне ж, справіцца з такою махінаю не здолеў, а ў першыя гадзіны баявых дзеянняў і наогул не змог кіраваць.

Што датычыцца Жукава, то неабходна ўлічыць, што да пачатку вайны начальнікам Генеральнага штаба ён адпрацаваў усяго чатыры з паловай месяцы. А ў арміі ж была не адна Беларуская акруга, пад ружжом стаяла звыш трох мільёнаў чалавек. Колькі праблем! Фізічна немагчыма ўнікнуць ва ўсё за такі кароткі час. Да таго ж без узгаднення і разгляду ў Палітбюро ніводнае сур'ёзнае пытанне не вырашалася.

Не, я не скажу, што Жукаў бязгрэшны. Памылкі былі. Але памылка памылцы — розніца. Пралікаў, якія б ракавым чынам паўплывалі на ход баявых дзеянняў, я, напрыклад, не ведаю. А вось паспяховых, пераможных аперацый на яго рахунку мноства. Ды што гаварыць, нават у Амерыцы гэта прызналі. Да 100-годдзя з дня нараджэння Жукава былі выдадзены дзве цудоўныя кнігі, у якіх ён названы вялікім палкаводцам XX стагоддзя.

**— Цікава, а якая была рэакцыя на Вашу кнігу?**

— Збоку паклёпнікаў — ніякай. Зрабілі выгляд, што нічога не адбылося. А вось радавыя чытачы, асабліва франтавікі, прысылалі пісьмы, цэлыя пасланні, у якіх нешта ўдакладнялі, нешта дапаўнялі, але ў цэлым шчыра дзякавалі за праўду аб народным героі.

**— Пра Жукава зразумела. Тэма нібыта і асобная, але ляжыць недзе ў рэчышчы Вашых інтарэсаў. А вось кніга пра Пушкіна... зусім ужо незвычайная для вайскоўца.**

— Нічога незвычайнага. Я ж нарадзіўся ў Падмаскоўі, за некалькі вёрст ад маёнтка Ганібалаў. Маленькі Саша пражыў тут з пяці да адзінаццаці гадоў. Так

што пушкінскім паветрам, навакольнай паэзіяй я прасякнуты з дзяцінства. А калі пайшоў у школу, наша цудоўная настаўніца Вера Васільеўна Разумоўская, прапраўнучка графа Разумоўскага, выхаванка Інстытута шляхетных дзяўчат, выдатны пушкініст, вадзіла нас у Захарава, і мы на ганку (адзінае, што ацалела ад былога дома) чыталі на памяць вершы Пушкіна. Пазней, ужо курсантам вучылішча, я мог на памяць чытаць цэлыя раздзелы з паэмы «Палтава» . Ды і сёння, пад настрой, люблю што-небудзь прадэкламаваць з Пушкіна, асабліва з «Яўгена Анегіна».

Не, кніга пра Пушкіна не была для мяне выпадковай. Нейкая творчая стрэмка жыла ўва мне шмат гадоў. Патрабаваўся толькі знешні штуршок. Такім штуршком здарылася для мяне экскурсія ў музей-кватэру паэта на Мойцы, 12. Гэта была не зусім звычайная экскурсія. Я быў у Ленінградзе ў камандзіроўцы і прачытаў у газетах аб тым, што дырэктар Пушкінскага музея Марыя Мікалаеўна Петай узнагароджана ордэнам. Я ўзяў букет ружаў, пляшку шампанскага, каробку цукерак і заявіўся на Мойку, каб павіншаваць гэту цудоўную жанчыну з высокай узнагародай і заадно паглядзець экспазіцыю музея.

Расчуленая Марыя Мікалаеўна ў сваю чаргу зрабіла мне шыкоўнейшы падарунак — дапусціла ў святая святых, у падвальныя памяшканні музея, дзе захоўваюцца аўтэнтычныя рэчы паэта. І вось там, стоячы сярод унікальных экспанатаў, я адчуў, як нешта зрушылася ў маёй душы і нарадзілася выразнае жаданне напісаць пра «майго» Пушкіна. Гэтае жаданне вылілася ў цвёрдае рашэнне, калі праз нейкі час мне пашчасціла шмат гадзін правесці ў Міхайлаўскім музеі-запаведніку разам з яго фенаменальным дырэктарам Сямёнам Сцяпанавічам Гейчанкам.

**— А чаму ў кнігі такая незвычайная назва, якая складаецца адразу з трох імёнаў?**

— Вось у гэтым якраз і ўся інтрыга. У аснову сюжэта я паклаў ашаламляльны любоўны трохкутнік — Пушкін, Эліз Кутузава і Доллі Фікельмон. Эліз — родная дачка вядомага рускага палкаводца Кутузава, была на дванаццаць гадоў старэйшая за паэта, аднак кахала яго моцна і нястрымна. Праўда, без узаемнасці. Пушкін гэтак жа моцна захапіўся Доллі, унучкай Кутузава, якая аднеслася да яго пачуццяў даволі стрымана. Такая вось неардынарная сітуацыя, праз якую, як мне здаецца, удалося паказаць не толькі інтымны, але і духоўны свет паэта.

**— А што ж Вас падштурхнула да напісання кнігі пра Берыю?**

— Мая кніга не столькі пра Берыю, колькі пра берыеўшчыну. Пра тыя складаныя, супярэчлівыя, часам трагічныя працэсы, якія працякалі ў грамадска-палітычным жыцці Савецкага Саюза ў трыццатыя гады. Мне хацелася зразумець вытокі, прычыны такой страшнай з'явы, як рэпрэсіі. Што гэта: зло, навязанае нам знешнімі ворагамі, альбо балячкі ўласныя, унутраныя? Якая была неабходнасць знішчаць тысячы і тысячы людзей? Лепшых людзей! Нярэдка ні ў чым не вінаватых.

Так, час быў цяжкі, напружаны. Ворагі маладой Савецкай рэспублікі не маглі змірыцца з яе трыумфальнымі поспехамі і спрабавалі дзе толькі можна шкодзіць. З імі, безумоўна, і трэба было змагацца. Аднак пэўная частка кадраў, тыпу Берыі, у сваіх кар'ерысцкіх мэтах і каб дагадзіць Сталіну, хваравітая падазронасць якога была добра вядома, пачалі барацьбу супроць свайго народа.

Разам з тым было б несправядліва, гістарычна няправільна ўсіх сабак вешаць на Сталіна. Возьмем толькі адзін прыклад — калектывізацыю. Калі б яе ў самыя кароткія тэрміны не правялі, мы не здолелі б у час завяршыць індустрыялізацыю краіны і аказаліся б абсалютна не падрыхтаваныя да вайны. Стратэгічная лінія была правільная. Уся бяда заключалася ў заганных метадах.

**— Але ж у выніку гэтых метадаў цярпелі жывыя людзі.**

— Так, цярпелі... І я пра гэта пішу ў сваёй кнізе. І многіх спрабую абараніць, рэабілітаваць.

Што тычыцца Берыі, то ўсе падрабязнасці, важныя дэталі яго арышту і расстрэлу мне ў свой час расказалі непасрэдныя ўдзельнікі гэтага працэсу маршал Маскаленка, генералы Баціцкі і Баскаў. Справа мяне зацікавіла. Я спакваля стаў збіраць матэрыялы. І вось калі чалавек нечага вельмі моцна хоча, яму шанцуе. Праз знаёмых у ваеннай пракуратуры мне ўдалося атрымаць пратаколы допытаў Берыі. Гэта была істотная падмога.

Аднойчы ў майстэрні Міхася Савіцкага, дзе прысутнічаў і Васіль Быкаў, я пра ўсё гэта ім расказаў, і яны абодва пачалі мяне ўшчуваць:

— Што ж вы марудзіце? Кідайце ўсе свае справы і пішыце дакументальную аповесць.

Так нарадзілася кніга «Арестовать в Кремле».

Усе тры кнігі, пра якія я расказаў, вельмі розныя. Але іх аб'ядноўвае адно — маё пачуццё. Пачуццё любові да вялікіх асоб, народных герояў і нянавісці да іх паклёпнікаў, здрайцаў і катаў, ганьбавальнікаў нашай гісторыі.

## *Урокі Васіля Быкава*

**— Анатоль Канстанцінавіч, Вы толькі што ўпамянулі імя Васіля Быкава. Знаю, што вас звязвала цесная шматгадовая дружба. Раскажыце, калі ласка, як і калі адбылося ваша знаёмства.**

— Калі я атрымаў накіраванне ў Мінск, на пасаду члена ваеннага савета Асобнай арміі ПВА, пры гутарцы ў ЦК КПСС мне сказалі: «У Беларусі жыве вядомы пісьменнік Быкаў. Нядаўна ён апублікаваў сваю новую аповесць «Мёртвым не баліць». Вы чыталі яе?» — «Чытаў». — «Ну і якое Ваша ўражанне?» Я сказаў, што гэта вельмі моцная і смелая рэч. Кніга многае перавярнула ў маёй свядомасці. Я па-новаму паглядзеў на падзеі мінулай вайны. Там былі не толькі героі, але і такія нягоднікі, як Сахно. «Цікава, цікава... — пахітаў галавою мой суразмоўца. —



*Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў і Анатоль Сульянаў у майстэрні мастакоў Міколы Селешчука і Уладзіміра Тоўсціка.*

Палітработнік і такое гаворыць. А вы чыталі нашу інфармацыю?» Аказваецца, па партыйных каналах была спушчана арыенціроўка адносна «Мёртвым не баліць», дзе гаварылася, што Быкаў скажае падзеі вайны, зыходзячы з акопнай праўды, дапускае дэгераізацыю і гэтак далей. Аднак гэтая арыенціроўка нейкім чынам не трапіла да мяне. Нічога не ведаючы, я зрабіў рызыкоўную заяву. Мяне маглі і не зацвердзіць у новай пасадзе. Выратавалі, мабыць, выдатныя характарыстыкі і ўнушальны паслужны спіс: нампаліт палка, начальнік палітаддзела дывізіі, інспектар Глаўпура... Словам, мяне адпусцілі па-добраму. Аднак параілі: «Пры выпадку пазнаёмцеся з Быкавым бліжэй, магчыма, ваша думка зменіцца».

Зручны выпадак хутка надарыўся. Пазваніў Мікола Матукоўскі, уласны карэспандэнт «Известий», з якім мы ўжо сябравалі, і запытаў:

— Васіля Быкава ведаеш? Дык вось, ён атрымаў новую кватэру. Купляе мэблю. Але няма каму пагрузіць і разгрузіць. Ці нельга прыслаць колькі салдатаў?

— Арганізуем. Але ў мяне да Вас будзе сустрэчная просьба: пазнаёмце мяне, калі ласка, з Васілём Уладзіміравічам.

У той жа вечар мы былі на кватэры ў Быкава. Сустрэў ён нас нешматслоўна, але прыветліва. Па традыцыі за знаёмства ўзялі па чарцы. Але паколькі кватэра была пакуль пустая, толькі адна табурэтка, затрымлівацца не сталі. Адклалі больш дэталёвае знаёмства на потым. А калі праз некалькі дзён ужо прывезлі і расставілі мэблю, Васіль Уладзіміравіч пазваніў мне і сказаў, што чакае ў госці.

На гэты раз мы заседзеліся да поўначы. Размова атрымалася грунтоўная, душэўная. Васіль Уладзіміравіч неяк адразу даверыўся мне. Можа, гэтаму спрыяла рэкамендацыя Матукоўскага. А можа, памог той факт, што напярэдадні я выступаў па маскоўскім радыё і прызнаўся, што для мяне быкаўскія творы — сапраўднае адкрыццё вайны, а ён гэту перадачу дзесьці чуў.

Так ці інакш, але адносіны ў нас адразу ж складіся шчырыя і даверлівыя. Васіль Уладзіміравіч адкрыта расказаў пра свой асабісты лёс, паскардзіўся на непрыемнасці ў творчым жыцці, якія звальваюцца апошнім часам.

— Я нічога не выдумляю, не скажаю, — з сумам і болем гаварыў ён. — Я пішу толькі пра тое, што бачыў і чуў. Так, гэта не заўсёды бывае прыгожа, як у кіно. Але інакш я не магу...

Гэты боль перадаваўся і мне , і я чым мог стараўся памагчы яму.

Маленькі прыклад. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтаваўся першы Збор твораў пісьменніка. І раптам дырэктар выдавецтва Міхась Дубянецкі звоніць мне і, задыхаючыся ад абурэння, паведамляе:

— «Мёртвым не баліць» выкінулі з ужо гатовага тома.

Я кінуўся да сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі Кузьміна, з якім у мяне склаліся даволі сяброўскія адносіны. Але той адно развёў рукамі:

— Не магу нічым памагчы, — і паказаў пальцам угору. — Паспрабуйце гэта зрабіць па сваіх каналах.

Вырашыў пазваніць свайму даўняму знаёмаму, загадчыку сектара ў ваенным аддзеле ЦК КПСС генерал-лейтэнанту Волкаву. Ён быў сваім чалавекам у канцылярыі Суслава, а пытанне магло вырашыцца толькі там. І сапраўды, неўзабаве ўсё паспяхова ўтрэслася. Што тут аказалася галоўным — мой званок альбо адчайная тэлеграма Дубянецкага на імя Суслава — не ведаю, але факт застаецца фактам: «Мёртвым не баліць» вярнулі на сваё законнае месца.

Калі кніга выйшла, Васіль Уладзіміравіч зайшоў да мяне і ўручыў яе з такім надпісам: «А гэты том мне падарыць асабліва радасна, дарагі Анатоль Канстанцінавіч! Дзякуй Вам. Васіль».

**— У Вас, напэўна, захавалася нямала іншых аўтографаў Быкава?**

— Вядома. Практычна кожную новую кнігу я атрымоўваў ад яго з цёплым, змястоўным надпісам. Вось адзін з першых. «Анатолю Канстанцінавічу Сульянаву — чалавеку мужнага сэрца і добрай душы ў знак вернай дружбы. Аўтар. 6 ліпеня 1979 года».

На кнізе «Дажыць да світання» Васіль Уладзіміравіч напісаў: «А. К. Сульянаву — майму самаму дарагому генералу. Сардэчна». Хачу сказаць, што галоўны герой гэтай аповесці лейтэнант Іваноўскі — адзін з самых маіх любімых літаратурных герояў. Ён сапраўдны ўзор воінскага абавязку, высокай чалавечай мужнасці. Звярніце ўвагу на стан кнігі — яна літаральна зачытана да дзірак. Гэта не толькі таму, што я сам яе чытаў і перачытваў многа разоў. Яе прачыталі ўсе мае вадзіцелі, а таксама дзесяткі падначаленых афіцэраў.

Дарагі і помны для мяне вось гэты аўтограф: «А. К. Сульянаву сардэчна і ў знак памяці пра майскі пленум СП БССР». Справа была ў маі 1988 года. Перабудова ўжо захліснула ўсе сферы нашага жыцця. Але асабліва ярасна бушавалі страсці ў творчых саюзах, і найперш у Саюзе пісьменнікаў. На пленуме, пра які ідзе размова, цалкам верхаводзілі прабэнээфаўскія сілы. Яны грамілі Савецкі Саюз як турму народаў і ўсяляк хвалілі краіны Захаду, блок НАТА.

Я не вытрымаў гэтай бессаромнай хлусні, выйшаў на трыбуну і паспрабаваў яе абвергнуць. Але мяне заглушылі воплескамі, і пад улюлюканне залы я вымушаны быў сысці. Ніколі мне не было так горка і крыўдна, як у тыя хвіліны. Называецца, інжынеры чалавечых душ, сумленне народа! А якое хамства, якая дзікасць!

Першы, хто мяне падтрымаў, быў ВасільУладзіміравіч. Ён далікатна патлумачыў, што падобныя аргументы ў нашым асяроддзі ўжо не праходзяць. І супакоіў: наша галоўная справа не мітынгаваць, а пісаць добрыя кнігі.

А вось адзін з апошніх аўтографаў: «Міламу А.К.Сульянаву — запознены дар у знак яго цывільнага жыцця. Шчасця Вам, дарагі сябра. В. Быкаў». Гэта калі я ўжо выйшаў у адстаўку і знаходзіўся ў некаторай разгубленасці ад таго, што не трэба было больш нікуды спяшацца, што звалілася процьма вольнага часу, Васіль Уладзіміравіч і тут мяне падбадзёрыў, параіў не раскачвацца, а неадкладна садзіцца за стол і рэалізоўваць усё, што задумана.

**— Мяркуючы па Вашым аповедзе, Васіль Быкаў шмат значыў у Вашым творчым, ды і не толькі творчым жыцці.**

— Чаму значыў? Ён для мяне галоўны аўтарытэт і сёння. Урокі Быкава — гэта ўжо да канца маіх дзён.

**— Урокі Быкава... Добра сказана! Давайце паспрабуем сфармуляваць у чым яны для Вас заключаюцца?**

— Ну, па-першае, гэта — вернасць праўдзе. Чаго б яна ні каштавала! Пра гэта Васіль Уладзіміравіч неаднаразова напамінаў і вусна, і пісьмова. «Кроў, пакуты і пот народа ў мінулай вайне, — пісаў ён, — накладваюць на тых, хто піша аб вайне, найпершы абавязак — безумоўную вернасць праўдзе».

Далей. Васіль Быкаў вялікае значэнне надаваў форме літаратурнага твора, дынаміцы і логіцы сюжэта, глыбіні раскрыцця характараў сваіх герояў. Гэтаму вучыў і мяне. Не па-школьнаму, вядома, а рэальным, канкрэтным прыкладам. Помню, я даў яму на прачытанне рукапіс сваёй аповесці «Последний полет». У цэлым ён ацаніў аповесць станоўча, але параіў памяняць месцамі некаторыя раздзелы. Я гэта зрабіў і пераканаўся, што майстар меў рацыю: сюжэт стаў больш дынамічны, больш інтрыгуючы.

Яшчэ адзін з быкаўскіх запаветаў: ніколі і нічога не вымучвай праз сілу. Пішы толькі тады, калі не можаш не пісаць.

Гэтае правіла не адносіцца да нашай прыроднай ляноты. У свой час мяне моцна здзівіла прызнанне Васіля Уладзіміравіча аб тым, што яму іншы раз даводзіцца ледзь не за валасы цягнуць сябе за пісьмовы стол. Стомлены арганізм знаходзіць тысячу адгаворак, каб толькі пазбавіцца цяжкой працы. А пісанне — вельмі нялёгкая праца. Нехта з класікаў трапна заўважыў: пішаш рукою, а стамляецца ўвесь арганізм.

І, бадай, апошняе. У Быкава трэба вучыцца і вучыцца ўменню падтрымліваць талент, радавацца поспеху калегі. Я ўжо цытаваў ацэнку, якую ён даў майму рама-

ну «Расколотое небо». А колькі рукапісаў іншых аўтараў ён чытаў, даваў водгукі, рэкамендацыі, пісаў уступныя артыкулы. Усё гэта адымала ў яго нямала часу, але Васіль Уладзіміравіч не лічыў яго марна патрачаным. Таму што, гаварыў ён, літаратура ў адзіночку не робіцца.

## *Мне ў жыцці шанцавала на добрых людзей*

**— Анатоль Канстанцінавіч, Вам можна шчыра пазайздросціць — Вы сустракаліся з многімі вялікімі людзьмі, з некаторымі з іх сябравалі. Пра мемуары не думалі?**

— Не, пакуль не думаў. Хаця, канечне, расказаць ёсць аб чым.

Мне ў жыцці шанцавала на добрых людзей. Ужо на самым пачатку сваёй ваеннай кар'еры я трапіў нампалітам да цудоўнага чалавека, выдатнага камандзіра, палкоўніка Сакалова. Полк, у які мы былі прызначаны амаль адначасова, трапіў у няміласць да вышэйшага камандавання: у ім здарыліся дзве авіякатастрофы. Дык вось, першае, што заявіў Сакалоў, прыняўшы камандаванне палком, што больш тут катастроф не будзе.

І праўда — за пяць гадоў службы ніводнага надзвычайнага здарэння. За кошт чаго ён гэтага дабіўся? Перш за ўсё за кошт строгай дысцыпліны. Парадак, як вядома, усюды патрэбен, а ў авіяцыі — асабліва. Тут любая нядбайнасць, самае дробнае ўпушчэнне (нешта не праверыў, нешта не дакруціў) не даруецца, і цана гэтаму часам — чалавечае жыццё.

Вось чаму за станам самалётаў, рознай наземнай тэхнікі Сакалоў сачыў прыдзірліва і строга. Але яшчэ больш прыдзірліва ён адносіўся да падрыхтоўкі лётнага саставу. Ніводзін пілот не мог быць дапушчаны да палётаў, калі выяўлялася хоць бы самая дробная загана.

— У авіяцыі дробязей няма! — любіў паўтараць Сакалоў.

І ён даказваў нам гэта на справе штодзённа. Просты прыклад. Наша часць дыслацыравалася на Поўначы. Умовы надвор'я тут няпростыя. Моцныя маразы і завірухі — зімою, частыя воблакі і дажджы — вясною і восенню. Асаблівую небяспеку ўяўляла так званая крышталізацыя. Справа ў тым, што тамашнія шматлікія азёры, пакуль яны не замёрзнуць, ствараюць у паветры высокую вільготнасць. І гэтыя кропелькі вільгаці на вышыні, асабліва ўначы, пры мінусавой тэмпературы пачынаюць ператварацца ў мікракрышталікі. У такой паветранай прасторы мяняецца ўяўленне аб адлегласці, і лётчык можа прыняць няправільнае рашэнне.

Дык вось Сакалоў, маючы вялікі вопыт палётаў ва ўмовах Крайняй Поўначы (ён служыў на Новай Зямлі), ніколі слепа не давяраў прагнозам метэаслужбаў. Асабіста выходзіў на аэрадром і вызначаў — не ведаю чым: носам, скурай, інтуіцыяй — можна сёння лятаць альбо не. І вызначаў заўсёды беспамылкова.

Ён і мяне вучыў лятаць ноччу, у воблаках. Хаця гэта маглі зрабіць і іншыя, але ён узяўся сам. У яго быў не толькі вялікі вопыт, але і лёгкая рука. А справа гэта няпростая — начныя палёты ў воблаках. Вобразна кажучы, гэта як бы вам завязалі вочы і сказалі ісці дадому. Канечне, дапамагаюць арыентавацца прыборы. Але гэтага мала — патрэбны спецыяльныя веды, пэўныя навыкі. Набываюцца ж яны толькі ў вучэбна-трэніровачных палётах.

І вось наш першы сумесны палёт. Трасу праляцелі нібыта нармальна. Час вяртацца. А заходзіць на пасадку ў воблаках — самае складанае. Трэба спачатку зрабіць правы разварот, а пасля пераладжыць машыну ў левы крэн. І вось тут самалёт сам пачынае павялічваць крэн. А я гэтага не ведаў. Праўда, быў папярэджаны: як толькі на прыборы вугал крэну перавысіць лічбу 40, трэба неадкладна яго прыпыніць, інакш самалёт можа зваліцца ў штопар. І ён пачаў ужо звальвацца. Яшчэ імгненне — і бяды было б не мінуць. Выратаваў Сакалоў. Крыкнуўшы мне па перагаворным устройстве: «Камісар, ляснемся зараз!», ён узяў ручку кіравання і спыніў крэн.

На зямлі, пры разборцы палёту, Аляксей Інакенцьевіч падрабязна растлумачыў, у чым была мая памылка і што трэба рабіць, каб у далейшым пазбегнуць падобнага. Пры наступных палётах тэарэтычныя веды мы пастараліся замацаваць практычнымі навыкамі.

Вучыўся я ў Сакалова не толькі лётнаму майстэрству, але і ўменню працаваць з людзьмі, быць сабраным і валявым у экстрэмальных сітуацыях. Гэта быў мой сапраўдны Настаўнік.

І другая яркая асоба, з якой мне пашчаслівілася судакрануцца і якая пакінула свой след у маім жыцці, гэта Аляксандр Іванавіч Пакрышкін. Праслаўлены паветраны ас, тройчы Герой Савецкага Саюза. У нашу дывізію, дзе я быў начальнікам палітаддзела, ён як намеснік камандуючага войскамі ПВА прыехаў з праверкай. Станам спраў застаўся задаволены.

— Таварышы афіцэры, — сказаў ён пры падвядзенні вынікаў. — Я вельмі высока цаню вашу нялёгкую працу. Жывяце вы амаль у балотах, без дарог, забеспячэнне кепскае. І пры гэтым надзейна абараняеце межы нашай Радзімы. Вам ордэны кожны год даваць трэба!

Падбадзёраны такой пахвалою, я рашыў звярнуцца да Пакрышкіна з просьбай:

— Аляксандр Іванавіч, зайдзіце на хвілінку ў нашу школу.

— Ніякіх школ! — запратэставаў камандуючы арміяй, двойчы Герой Савецкага Саюза Гулаеў. — Мы і так спазняемся.

— Пачакай, Коля, — мякка звярнуўся да яго Пакрышкін. — Давай усё ж на хвілінку завітаем.

Зайшлі. Уваходныя дзверы вісяць на адным завесе. У класах холадна, хлопцы і дзяўчаты сядзяць у куртках. Пакрышкін запытальна паглядзеў на мяне. Давялося патлумачыць, што на рамонт няма грошай. Мясцовыя ўлады ківаюць на ваенных, а ваенныя — на мясцовыя.

Аляксандр Іванавіч неадабральна пахітаў галавою, а пасля сказаў:

— Вось што, камісар. Скажы дырэктару школы, каб напісаў пісьмо на імя глаўкома, а я пісьмо перахаплю і далажу яму асабіста.

Усё так і зрабілі. І школу праз год пабудавалі новую.

А мне ў той дзень яшчэ адзін раз пашанцавала. Перад ад'ездам Пакрышкін выкраіў паўгадзінкі для нефармальнай гутаркі. Вось тады я і запытаўся ў яго:

— Аляксандр Іванавіч, а як Вы пісалі кнігу?

— Ну як? Прыйшоў карэспандэнт газеты, я яму надыктоўваў. Ён пасля пісаў, я правіў. Вось так нарадзілася кніга.

І раптам пытаецца ў мяне:

— А ты, камісар, кажуць, таксама пупісваеш? Не бянтэжся, справа неблагая. Працягвай, абы не перашкаджала службе.

Размову завялі пра літаратуру. Я быў здзіўлены, наколькі мой суразмоўца начытаны.

— Аляксандр Іванавіч, калі Вы паспяваеце чытаць?

— А водпуск навошта? — усміхнуўся Пакрышкін, а пасля растлумачыў, што ён рэгулярна выпісвае «Раман-газету» і стараецца прачытваць усё, што там друкуецца. Тое ж, што не паспявае прачытаць, бярэ з сабою ў водпуск.

Гэту няхітрую, але эфектыўную методыку пераняў у наступным і я. А яшчэ мне ўрокам на ўсё жыццё сталі выключная сціпласць і прастата легендарнага Пакрышкіна, яго ўвага і добразычлівасць.

**— Анатоль Канстанцінавіч, а з вядомых дзеячаў мастацтва Вам даводзілася з кім-небудзь сустракацца?**

— Канечне. Вось, напрыклад, народны артыст СССР Яўген Мацвееў. Я з ім сустракаўся два дні запар. У нас у Мінску, на Заслаўскім вадасховішчы, здымаўся фільм «Емяльян Пугачоў». У галоўнай ролі — Мацвееў. Здымалі эпізод, калі рускія войскі акружылі Пугачова і ён выходзіць з чаратоў з узнятымі рукамі. А дзень выдаўся халодны. Сонца няма. Запатрабаваўся дубль. Лезці немаладому ўжо чалавеку

ў ледзяную ваду яшчэ раз і стаяць там па пояс — значыць рызыкаваць здароўем. Трэба было нешта прыдумаць. Выручылі мы, ваенныя. Прывезлі спецыяльны касцюм супрацьхімічнай абароны. Ён лёгкі і ваду не прапускае. Мацвееў апрануў яго, наверх кажушок — і ў возера. Аднак холадна ўсё роўна. Калі эпізод знялі, мы бачым, што ў артыста зуб на зуб не трапляе. Вырашылі сагрэць яго народным, правераным спосабам. Налілі паўшклянкі гарэлкі, ён залпам выпіў, прыкусіў і задаволена крактануў: «Ну, цяпер поўны парадак!»

А назаўтра я запрасіў Яўгена Сямёнавіча дадому. З ім прыйшлі яшчэ рэжысёр фільма Аляксей Салтыкоў і кінаартыст Пётр Глебаў, той самы, які ў «Ціхім Доне» сыграў Грыгорыя Мелехава. Таісія Іванаўна накрыла стол. Селі мы ў дзевяць гадзін вечара, а разышліся ў пяць раніцы. Нагаварыліся ўволю! Якім жа цікавым апавядальнікам аказаўся Яўген Сямёнавіч. Колькі ён ведаў усялякіх дасціпных баек, займальных гісторый. Ды і пра сваё жыццё апавядаў, як пра захапляльны раман. Ён жа таксама хацеў быць лётчыкам у свой час. Але яго накіравалі на курсы пяхотных камандзіраў. А пасля і наогул лёс павярнуўся ў іншы бок. І дзякаваць Богу. Яшчэ невядома, які з яго выйшаў бы камандзір, а вось артыст атрымаўся выдатны.

З народнай артысткай СССР Віяй Артманэ я пазнаёміўся ў Ленінградзе. Дарэчы, на здымках усё таго ж «Емяльяна Пугачова». Я прыйшоў на здымачную пляцоўку, спадзеючыся, што там будзе Яўген Мацвееў. Але яго не аказалася. Салтыкоў пазнаёміў мяне з Артманэ, якая выконвала ролю Кацярыны II. У гэты дзень ёй давялося сыграць шэсць дубляў. На сёмым яна папрасіла кароткую перадышку.

— Ну і нагрузкі ў вас, артыстаў...— паспачуваў я ёй. — Амаль, як у лётчыкаў.

Яна ўважліва паглядзела на мяне, на маю генеральскую форму і ўсміхнулася:

— Нічога. На тое мы і прафесіяналы.

Мы перакінуліся яшчэ нейкімі малазначнымі фразамі, і я нечакана запытаўся:

— У Вас як сёння вечар?

На твары Артманэ прамільгнуў цень расчаравання:

— Не спадзявайцеся. Я тут з дачкою.

— Я не пра гэта. Паколькі мы з Вамі жывём у адной гасцініцы, прапаную разам павячэраць.

— З задавальненнем.

Вечарам пайшлі ў рэстаран — Аляксей Салтыкоў, Пётр Глебаў, Вія Артманэ і я. Але здарылася непрадбачанае: да нас, у кампанію, прываліла яшчэ чалавек пяць, незапрошаных. Артманэ гэта абурыла: «Якое хамства!» І пакінула нас.

Пасля рэстарана я ўзяў пляшку каньяку, закуску і пайшоў да яе ў нумар. Аднак дачка катэгарычна заявіла, што яна хоча глядзець тэлевізар і мы сваімі размовамі будзем ёй перашкаджаць. Нам нічога не заставалася, як пайсці ў нумар да мяне. І мы праседзелі да дзвюх гадзін ночы. Артманэ ўразіла мяне сваёй эрудыцыяй. Я гэтулькі ад яе даведаўся пра італьянскую культуру, пра французскую. А назаўтра, калі мы пайшлі ў Эрмітаж, яна праявіла незвычайныя веды ў гісторыі, ювелірных упрыгожаннях і ў іншых рэчах.

Адчувалася ў ёй гэткая закваска сапраўднага інтэлігента.

На жаль, у гэтага знаёмства працягу не адбылося. Я яшчэ, калі ў яе быў юбілей, паслаў вялікую эмацыянальную тэлеграму. Аднак Артманэ не адказала. Хаця пасля відавочцы мне расказвалі, што тэлеграму маю яна чытала са сцэны і ледзь не расплакалася, а ўсе ў зале падняліся і горача апладзіравалі.

**— Анатоль Канстанцінавіч, а ці праўда, што Вы бралі інтэрв'ю ў Юрыя Гагарына?**

— Была такая справа. Я тады вучыўся ў Ваенна-палітычнай акадэміі. І вось у адзін з дзён рэдактар нашай шматтыражкі Усевалад Карамышаў дае мне заданне ўзяць інтэрв'ю ў Гагарына. Ён вечарам будзе выступаць у Цэнтральным доме Савецкай арміі. І ўручае мне запрашэнне.

— Усевалад Аляксандравіч! — узмаліўся я. — Але хто ж мяне да Гагарына падпусціць?

— А гэта ўжо твае праблемы, Анатоль.

Прыйшоў я ў ЦДСА за дзве гадзіны да пачатку сустрэчы, хаджу па розных кабінетах, спрабую дамовіцца, каб памаглі сустрэцца з Гагарыным, ніхто нічога не абяцае. І тут ідзе мне насустрач знаёмы маёр, з якім мы разам здавалі ўступныя экзамены ў акадэмію. Толькі я на дзённае аддзяленне, а ён — на завочнае. І я ўспомніў, што ён якраз працуе ў ЦДСА. Расказваю яму пра сваю праблему.

— Ладна, — гаворыць, — ідзі за мною.

Прыйшлі ў рэстаран.

— Вунь столік накрыты, — паказвае налева ў кут. — Гэта для Гагарына. Садзіся па суседстве і чакай. Калі цябе кадэбісты не вытураць — усё будзе ў парадку.

Сядзеў хвілін сорак. Двое ў цывільным некалькі разоў падазрона паглядвалі на мяне, але не чапалі. І раптам з'уляецца Гагарын. Я імкліва падняўся яму насустрач.

— Таварыш маёр, дазвольце прадставіцца: маёр Сульянаў!

Гагарын нават крыху сумеўся:

— А ты чаго тут?

— Атрымаў заданне ўзяць у Вас інтэрв'ю.

— Дык мне ж трэба перакусіць.

— Вы ешце, а я па ходу буду задаваць пытанні. Іх у мяне не шмат.

— Ладна. Валяй!

Такім ён мне і запомніўся, Юрый Аляксеевіч Гагарын — просты, абаяльны хлопец, без усялякай позы і арэола велічнасці. Хаця яго ўжо ведаў увесь свет.

## *І жыццё, і праца, і захапленне...*

**— Вы аднойчы сказалі, што кніга для Вас — гэта і жыццё, і праца, і захапленне...**

— Я дадаў бы яшчэ: і мая пастаянная, нязменная любоў. Гэту любоў мне яшчэ ў раннім дзяцінстве прывіў бацька. Спачатку розныя казкі, прыгодніцкія аповесці чытаў мне ён, а пасля, калі я ўжо стаў школьнікам, чытаў самастойна. Бібліятэка ў нашай школе была невялікая, але памог выпадак. Школьны юнацкі гурток за свае дасягненні трапіў на ўсесаюзную выставу і быў удастоены прэміі — бібліятэкі ў тры тысячы тамоў.

Вось ужо дзе быў прастор для маёй душы! Я тырчэў каля гэтых кніг дзень і ноч. Нават калі даводзілася пасвіць кароў, я што-небудзь пачытаць браў з сабою.

Без перабольшання магу сказаць, што з кнігаю я не расставаўся нідзе і ніколі. Нават у самы цяжкі перыяд майго жыцця, калі нашу спецшколу эвакуіравалі ў Сібір і мы да знямогі працавалі на лесанарыхтоўках, і тады я любую вольную хвіліну аддаваў чытанню. А ўжо ў курсанцкія гады — і пагатоў.

Так атрымалася, што па жыцці побач са мною заўсёды аказваліся сапраўдныя кніжнікі. У першым маім палку, куды я маладым лейтэнантам прыбыў на службу, нампаліт Ганчарэнка нас, афіцэраў, ледзь не прымусова вадзіў у бібліятэку, накіроўваў і кантраляваў наша чытанне.

Начытаным, эрудыраваным чалавекам аказаўся камандзір палка Сакалоў, у якога я быў нампалітам. У Ваенна-палітычнай акадэміі нашым эстэтычным выхаваннем займалася цэлая служба высокападрыхтаваных людзей. Яны далучалі нас не толькі да мастацкай літаратуры, але і да тэатральнага мастацтва, да музыкі. У Вялікі тэатр, напрыклад, мы хадзілі рэгулярна. Знаёміліся, дарэчы, і з лепшымі ўзорамі замежнага мастацтва.

Словам, кніга прайшла праз усё маё жыццё. Без яе я не склаўся б як асоба, як пісьменнік.

**— А любімыя кнігі, любімыя літаратурныя героі ў Вас ёсць?**

— Мая першая любоў — Паўка Карчагін. Пад яго ўздзеяннем фарміраваўся мой юнацкі свет, выпрацоўваліся першыя навыкі сілы волі, мужнасці. Ды хіба толькі мой? Усё наша пакаленне можна назваць карчагінцамі.

У пасляваенныя гады такім жа ўсеагульным кумірам быў Аляксей Мярэсьеў з «Аповесці пра сапраўднага чалавека». Кім ён быў для нас, лётчыкаў, я нават сказаць не магу. Мяне, у прыватнасці, яго прыклад заўсёды натхняў у самых складаных сітуацыях, дапамагаў трымаць удары лёсу.

Грыгорый Мелехаў з шолахаўскага «Ціхага Дона» вучыў мяне іншым, але не менш важным рэчам — цаніць шчырасць і вернасць у каханні, быць патрыётам бацькоўскай зямлі, не дзяліць свет на чорнае і белае, таму што ў ім ёсць мноства іншых фарбаў.

Крыху пазней увайшлі ў маё жыццё героі кніг Дастаеўскага, Талстога, Тургенева. Глыбокія філасофскія праблемы, складанейшыя агульначалавечыя праблемы, над якімі яны біліся, пакутавалі, станавіліся часткаю і маіх напружаных разважанняў.

Да любімых кніжак я вяртаюся пастаянна. Перачытваю для падзарадкі хаця б старонак пяць-шэсць. Адна з такіх кніг, што заўсёды ў мяне пад рукой, — «Капітанская дачка» А. С. Пушкіна. Да яе я ўжо звяртаюся як пісьменнік, памятаючы высокую ацэнку Л. М. Талстога: «Вось як трэба пісаць!»

**— Ну, а калі выйсці за межы асаблівых прыхільнасцей...**

— О, тут можна пералічваць да бясконцасці! Як і ўсе, я зачытваўся апавяданнямі Васіля Шукшына, гістарычнымі раманамі Валянціна Пікуля, сакавітай, каларытнай прозай так званых «вяскоўцаў» — Валянціна Распуціна, Фёдара Абрамава, Васіля Бялова і, вядома ж, кнігамі Канстанціна Сіманава, Юрыя Бондарава, Рыгора Бакланава, Васіля Быкава... Паверце на слова, ніводная літаратурная навінка не прайшла міма маёй увагі.

Сведчанне таму — мая асабістая бібліятэка. Самі бачыце, у ёй не менш за тры тысячы кніг. Безумоўна, не ўсе з іх я прачытаў. Некаторыя толькі пагартаў і паставіў на паліцу.

**— Ці ёсць тут кнігі сучасных аўтараў?**

— Мала, вельмі мала. І не таму, што я меней стаў чытаць, меней сачу за літаратурным працэсам. Проста няма чаго чытаць. Альбо суцэльная эротыка, альбо прымітыўныя, якія ўжо набілі аскоміну, дэтэктывы. Жывым жыццём, рэальнымі чалавечымі праблемамі там і не пахне. Зрэшты, у іх не пахне і сапраўднай літаратурай.

**— Анатоль Канстанцінавіч, я разумею: Вы — рускі і цікавіцеся перш за ўсё рускай літаратурай. Але разам з тым ужо не адзін год жывяце ў Беларусі і, напэўна, добра ведаеце і беларускую літаратуру.**

— Несумненна. А інакш і быць не можа. Многіх аўтараў не толькі ведаю, але і люблю. Пра Васіля Быкава я ўжо гаварыў. Люблю чытаць і перачытваць Івана Шамякіна, з якім у мяне таксама былі блізкія, сяброўскія адносіны. Паланёны цудоўнымі раманамі Івана Мележа. Мне здаецца, ніхто з нашых пісьменнікаў так ярка і так поўна не раскрыў душу беларуса-палешука, як ён. А што тычыцца гістарычнай прозы, то тут няма роўных Уладзіміру Караткевічу.

**— Вы чыталі іх творы ў арыгінале?**

— Некаторыя — так, а астатнія — у перакладах. Да майго сораму, беларускую мову я ведаю не дасканала.

**— Вось мы ўсё аб прозе ды аб прозе. А ці ёсць у Вашай душы месца паэзіі?**

— Ёсць, і немалое. Сам я, праўда, вершаў не пісаў, але паэзію вельмі люблю. Калісьці, паўтаруся, я мог на памяць чытаць некаторыя паэмы А. С. Пушкіна.

І сёння помню цэлыя раздзелы з паэмы Твардоўскага «Васіль Цёркін». З беларускіх аўтараў вельмі люблю Максіма Танка. Яго зямная, па-народнаму вобразная і мудрая паэзія не можа не хваляваць, не саграваць чалавечую душу. Падабаецца глыбокая, філасофская лірыка Пімена Панчанкі. З ім мы, дарэчы, жылі ў адным пад'ездзе і не раз бавілі вечары за сяброўскім сталом.

Многа ў свой час сустракаўся з Генадзем Бураўкіным. Калі ён узначальваў Дзяржтэлерадыё, я па яго запрашэнні нават вёў на тэлебачанні перадачу пра армейскія будні. Генадзь Мікалаевіч — паэт Божай міласцю. І хаця я не падзяляю некаторых яго палітычных поглядаў, гэта не перашкаджае мне мець асалоду ад яго цудоўнай паэзіі.

**— На жаль, цяперашняе пакаленне ўжо цяжка назваць чытаючым. Гэта — дзеці камп'ютэра, Інтэрнета.**

— Згодзен. На сустрэчах у маладзёжных аўдыторыях мне даводзілася сутыкацца з фактамі поўнай літаратурнай дрымучасці. Не ведаюць не толькі паэзіі, але і класічнай прозы, той, якую нібыта павінны былі праходзіць па школьнай праграме. На жаль, прайшлі міма. Хаця, вядома, пра ўсіх так гаварыць нельга.

А камп'ютэр... Камп'ютэр — рэч сама па сабе выдатная. Ён становіцца «разбойнікам», калі карыстацца ім неразумна: забіваць час за рознымі гульнямі, суткамі сядзець у Інтэрнеце.

Ды што там гаварыць пра моладзь — дарослыя перасталі чытаць! Я часта бываю ў войсках, абавязкова заходжу ў бібліятэку і прашу картатэку, каб паглядзець, што ж чытаюць афіцэры. Амаль не чытаюць!

Альбо возьмем прыклад з цывільнага жыцця. Ёсць у нас у Бабруйску буйное прамысловае прадпрыемства «Белшына». У мінулыя часы на гэтым прадпрыемстве мы праводзілі многія рэспубліканскія спаборніцтвы па плаванні, і мне як прэзідэнту федэрацыі, натуральна, даводзілася там прысутнічаць. Дык вось, раней на «Белшыне» было тры вялікія бібліятэкі. Цяпер — адна, і тую скарачаюць. Кажуць: цяжка ўтрымліваць.

На вёсцы становішча яшчэ горшае. Аднойчы, едучы на машыне па Гомельшчыне, я спыніўся ў невялічкай вёсачцы. Зайшоў у першы выпадковы дом. Яго гаспадар, ветлівы, дагледжаны дзядок, ахвотна са мною разгаварыўся. Пытаюся:

— Чым займаецеся ў вольны час? Чытаеце кніжкі, тэлевізар глядзіце?

— Ды не, не гляджу. Там адны гулі-танцулі. Мне гэта нецікава. А чытаць... Раней, калі была бібліятэка, хадзіў туды чытаць свежыя газеты, часопісы. Кніжкі іншы раз браў. А цяпер там зрабілі нейкую кантору. Кніжкі пакралі...

Калі б гэта быў адзінкавы выпадак! Некалькі гадоў назад я прачытаў у газеце, што ў Беларусі за дзевяностыя гады зачынілася 585 бібліятэк. Гэта ж вялікая бяда. Людзі і так мала чытаюць, а тут іх пазбаўляюць апошняй магчымасці.

А ў школах? Пытаюся ў бібліятэкараў, колькі кніг атрымалі за апошні год? Ніводнай! Няма грошай. Іх выдзяляюць у асноўным на падручнікі. Як жа мы збіраемся выхоўваць моладзь, калі самі, уласнымі рукамі, адлучаем яе ад чытання?

Між тым добра вядома: няма больш магутнага, больш эфектыўнага сродку ўздзейнічання на розум і сэрца людзей, чым кніга. У гады вайны наш народ, выхаваны на станоўчых вобразах рускай і савецкай літаратуры, паказаў узоры мужнасці і гераізму. Сярод доблесных абаронцаў Айчыны мне бачацца і ўнук Андрэя Балконскага, і сын Грыгорыя Меліхава, і брат Паўкі Карчагіна...

**— Як Вам здаецца, ці не пацесняць камп'ютэрныя тэхналогіі кнігу нагул з нашага паўсядзённага жыцця?**

— Вельмі хацелася б спадзявацца, што не. Як не выцесніла яе ў свой час кіно, тэлебачанне. Таму што кніга з яе прыгожымі шрыфтамі, багатымі ілюстрацыямі, шыкоўнай паперай і пераплётам — не толькі крыніца інфармацыі, але і прадмет мастацтва. А мастацтва будзе жыць заўсёды.

## *Аптымізм — уласцівасць душэўнага здароўя*

**— Анатоль Канстанцінавіч, мы сустракаемся з Вамі напярэдадні Вашага юбілею. Азіраючыся на пройдзены шлях, як бы Вы маглі яго ахарактарызаваць? Ці быў ён для Вас прамым, лёгкім, бясхмарным?**

— Прамым, бадай, быў. Вызначыўшы яшчэ ў юнацтве сваю запаветную мэту — стаць лётчыкам, я ішоў да яе прама і чэсна. Нікуды не збочваючы. Не робячы ніякіх зігзагаў. У гэтым сэнсе можна сказаць, што я авіяцыі прысвяціў усё сваё жыццё.

А вось сцвярджаць, што шлях гэты быў лёгкі, не магу. Прафесія лётчыка — складаная, ваеннага лётчыка — складаная ўдвая. Гэта звязана з палётамі на складанейшых, суперхуткасных самалётах, з вялікімі перагрузкамі, моцным нервовым напружаннем. Каб пазбегнуць непатрэбнай рызыкі ( а яна ў авіяцыі падпільноўвае цябе на кожным кроку), неабходна ўвесь час вучыцца — дасканала асвойваць новую тэхніку, павышаць лётнае майстэрства. Плюс да ўсяго гэтага строгая воінская дысцыпліна, бытавая неўладкаванасць, частыя пераезды з гарнізона ў гарнізон.

Не магу таксама сказаць, што мой жыццёвы шлях быў бясхмарны. Мне не было яшчэ і чатырнаццаці, калі пачалася вайна. Бацьку мабілізавалі на фронт, і ўся мужчынская работа па гаспадарцы легла на мае плечы. Добра, што я ўжо ўмеў і касіць, і араць, і з канём абыходзіцца. Ад недаядання толькі не хапала сілы.

Рана стаў сіратою. У 1942 годзе пасля ранення ў адным з маскоўскіх шпіталяў памёр мой бацька. Я вельмі любіў бацьку, і яго страта стала для мяне вялікай душэўнай траўмаю. Памятаю, як мы з мамай, скамянелыя ад гора, везлі яго на нейкім грузавічку пустымі вуліцамі на могілкі. Слёз ужо не было, у вачах — чарната. І раптам аднекуль даносяцца гукі духавога аркестра. Гляджу — наперадзе ідзе калона чырвонаармейцаў, а ў галаве яе невялікі аркестрык іграе пранізлівую музыку. Мы спыніліся і ў жалобным маўчанні доўга яшчэ глядзелі ўслед аркестру. А музыка ўсё гучала і гучала ў маёй душы, разрываючы сэрца.

Эпізод гэты меў працяг. Калі я ўжо быў курсантам ваеннага вучылішча, да нас прыехаў правяраючы з Масквы. Скамандавалі пастраенне на развод. І тут прыезджы палкоўнік нечакана ўзяў у дырыжора нашага аркестра палачку, сказаў нешта музыкантам, узмахнуў рукою — і над пляцам паплыла тая самая мелодыя, якая калісьці так усхвалявала мяне і якая ўвесь гэты час жыла ўва мне.

Папрасіўшы у ротнага дазволу, я падышоў да палкоўніка і запытаў:

— Скажыце, калі ласка, што гэта была за музыка?

— Марш «Развітанне славянкі».

— А хто яго напісаў?

— Аўтар перад Вамі, — злёгку нахіліў галаву палкоўнік і назваў сябе: — Васіль Іванавіч Агапкін.

Я расказаў яму пра эпізод з пахаваннем бацькі і прызнаўся, што гэта музыка тады надзвычай моцна ўзрушыла мяне.

— Разумею, разумею... — з нейкай журбою ў голасе сказаў Васіль Іванавіч. І паведаміў гісторыю стварэння марша. У свой час, капельмайстрам палка, ён без памяці закахаўся ў медсястру. Яна, аднак, неўзабаве запісалася добраахвотніцай у Балгарыю абараняць братні славянскі народ ад іншаземных захопнікаў і паехала з першым жа эшалонам. Несуцешны музыкант праплакаў усю ноч, а раніцою сеў і напісаў «Развітанне славянкі». Вось чаму гэта мелодыя, якая ўвабрала ў сябе пранізлівы боль па страце блізкага, любімага чалавека, аказалася такой сугучнай майму душэўнаму стану.

Аднак прашу прабачэння за гэтае міжвольнае адступленне. Вернемся да Вашага пытання. Дык вось, хмар у маім жыцці хапала. І ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Вельмі цяжкімі былі першыя гады вучобы ў спецшколе, калі мы размяшчаліся ў глыбінцы Сібіры. Жылі ў былым зэкаўскім інтэрнаце, абаграваць які ў лютыя сібірскія маразы адзіная грубка не спраўлялася. Кармілі галаднавата. А што зробіш — вайна. Слабелі, канечне.

Але не гэта самае страшнае. Нечакана аб'яўляюць, што нас камандзіруюць на лесанарыхтоўкі. На 70 кіламетраў ў тайгу, грузіць бярвенні. А механізмаў ніякіх, усё — уручную. Праўда, камандзіры нас берaглі: выбіралі для пагрузкі бярвенні танчэйшыя, лягчэйшыя. Тым не менш было цяжка, вельмі цяжка. Аднак усведамленне таго, што мы працуем на перамогу, надавала сілы. Мы навучыліся адольваць цяжкасці без ныцця і нараканняў.

Канечне, калі я ўжо скончыў спешколу, а пасля і ваеннае вучылішча, выйшаў на службу — стала лэгчэй. Намнога лягчэй. Хаця ў мяне такі характар, што я не магу працаваць напаўсілы. На любым участку я стараўся дабівацца ўзорнага парадку, таму выкладваўся да канца. Нярэдка прыхопліваў вячэрні, а то і начны час.

На першы погляд, весці ідэйна-палітычную работу ў арміі нібыта працей, павінна спрацоўваць воінская дысцыпліна. На самой жа справе, тут ёсць свае, і немалыя, складанасці. Начныя трывогі, вучэнні, звязаныя з доўгатэрміновым адрывам ад сям'і, бытавая неўладкаванасць — усё гэта накладвае свой адбітак на маральна-псіхалагічную атмасферу ў калектыве.

Нампаліт (а я доўгія гады працаваў менавіта ў гэтай якасці) адказвае ў часці за ўсё: і за бяспеку палётаў, і за выхаванне лётнага саставу, і за справы ў школе. Таму заседжвацца ў кабінеце не даводзілася. Любіў бываць у сем'ях, гутарыць з людзьмі за кубкам чаю. Стараўся прымаць удзел у розных вечарах, канцэртах, танцавальных балях.

**— А Вас не папракалі ў папулізме, у легкадумнасці?**

— Здаралася і такое. Але ж я на гэтыя мерапрыемствы хадзіў не для забавы. Я вырашаў там свае задачы. Памятаю, на адным з такіх вечароў запрашае мяне на белы танец жонка нашага тэхніка і, памяўшыся, пытаецца, ці ведаю я, што начамі ў іх на кватэры некаторыя лётчыкі ледзь не да раніцы рэжуцца ў карты. Мяне гэтае паведамленне моцна ўстрывожыла: хлопцам жа заўтра ў палёт, а яны ноч не спяць. Канечне ж, з кожным з іх я неадкладна сустрэўся і пастараўся пераканаць, каб надалей падобнага не здаралася.

Складанасць маёй працы была яшчэ і ў тым, што можна ўсё рабіць правільна, добра, але калі ты кепскі лётчык — належнага аўтарытэту сярод асабовага саставу не будзе. Таму пры малейшай магчымасці я імкнуўся лятаць, нароўні з усімі дзяліць цяжар воінскай службы.

Здаралася, трапляў у цяжкія пераплёты.



*На віншаванні П. М. Машэрава з 60-годдзем.*

Аднойчы быў падняты ноччу па баявой трывозе. Неабходна было выявіць паветранага парушальніка. Намацаўшы цэль, я захапіўся пагоняй і забыўся на паказанні прыбораў. Спахапіўся, калі паліва было ўжо на зыходзе. А я над вялікай акваторыяй. Паведаміў на камандны пункт аб тэрміновым вяртанні. Цудам дацягнуў да аэрадрома, і ледзь колы дакрануліся пасадачнай паласы — рухавік заціх. Калі тэхнікі падбеглі да самалёта, я ўсё яшчэ сядзеў у кабіне, выціраючы халодны пот.

**— На Вашых вачах катастрофы здараліся?**

— Дзякуй Богу, толькі аднойчы. Было гэта ўсё на той жа

Поўначы. Узляцелі мы двума экіпажамі. Наперадзе — лётчык з інструктарам на баявым самалёце, а я з інструктарам — ззаду, на трэніровачным. Ляцім. Чую перагаворы каманднага пункта з першым экіпажам. Усё ідзе нармальна. І раптам размова абрываецца.

— Нешта здарылася... — кажа мой інструктар.

Ідзём з надзвычайнай асцярожнасцю. Хваляванне нарастае. Выходзім з воблакаў, гляджу — у раёне возера вялізны слуп агню. Гарыць самалёт...

Калі прызямліліся, разам з усімі пабеглі да месца катастрофы. Самалёт дагараў. Лётчыкі, не паспеўшы катапульціравацца, згарэлі жывымі.

**— Што ж здарылася?**

— А здарылася вось што. З-за праклятай крышталізацыі лётчык няправільна вызначыў адлегласць да пасадачнай паласы і раней часу збавіў газ, самалёт пайшоў на зніжэнне, а калі лётчык убачыў памылку — рэзка дабавіў абароты. Адбыўся, як мы кажам, пампаж, і рухавік загарэўся. Імгненна выйшла са строю ўся электрасістэма, усё кіраванне. І самалёт упаў.

Разумееце, у авіяцыі заўсёды была і будзе праблема бяспекі палётаў. Яна, гэтая праблема, залежыць ад мноства фактараў — ад умоў надвор'я, ад стану тэхнікі і, вядома ж, ад чалавечага фактара. Поўнасцю пазбегнуць катастроф немагчыма. Ва ўсім свеце пра́цэнт гібелі лётчыкаў прыкладна аднолькавы.

І тым не менш прывыкнуць да гэтага нельга. Калі такое здараецца, лётная часць у значнай ступені аказваецца дэмаралізаванай. І камандзірам такой часці даводзіцца прыкладаць нямала намаганняў, каб вярнуць лётны састаў у ранейшы, рабочы стан.

**— Так, мужны вы народ, лётчыкі... А якая якасць лічыцца галоўнай у лётным асяроддзі?**

— Цяжка адказаць адным словам. Напэўна, усё ж прыстойнасць. Авіяцыя выпальвае ўсё дробнае, мітуслівае. З палёту вяртаешся абноўленым.

**— А ўвогуле, у чалавеку што Вы цэніце больш за ўсё?**

— Усё тую ж прыстойнасць. І яшчэ — абавязковасць. Складана мець справу з чалавекам, які не трымае свайго слова.

**— Вы былі суровыя са сваімі падначаленымі?**

— Суровы? Не. Але строгі. Зрэшты, давайце паслухаем думку майго былога падначаленага Паўла Цеплюка, які нядаўна выдаў «Запіскі афіцэра». Вось што ён піша: «Па стылі работы Сульянаў строгі... Смелы, пунктуальны, дакладны, працаздольны, арыгінальна думаючы, таленавіты.

Пачатую справу любіў даводзіць да канца і патрабаваў гэтага ж ад падначаленых. Пастаянна клапаціўся аб людзях... З усімі аднолькава ветлівы, нікога не выдзяляючы, нікога не падганяў, але і нікому не патураў. Перад камандуючым, іншымі начальнікамі падначаленых адстойваў, ні на каго не азіраўся, не баяўся, хто і што скажа пра той ці іншы яго ўчынак...»

Прабачце за доўгую цытату, але тут асноўныя рысы майго характару схоплены ўвогуле дакладна.

**— У адным з інтэрв'ю я прачытаў, што Вы лічыце сябе аптымістам. Гэта Ваша прыродная якасць альбо яна выпрацавана з цягам часу?**

— Канечне, тут галоўную ролю сыграла прырода. Я ж усё-такі сялянскі сын, а ў вёсцы песімісту рабіць няма чаго. Словам і справай бацька вучыў мяне не баяцца цяжкасцей, не апускаць рукі, дамагаецца сваёй мэты. Гэтыя якасці я выхоўваў у сабе ўсё жыццё.

**— Што ж, трэба прызнаць, дабіліся Вы многага. Атрымалі высокае званне генерала. Займалі ў армейскай іерархіі салідныя пасады. Сталі пісьменнікам, кнігі якога выдаюцца вялікімі тыражамі і чытаюцца на ўсёй постсавец-**



*Разам з сям'ёю — жонкай Таісіяй Іванаўнай, дачкой Геляй і сынам Юрам.*

**кай прасторы. Ушанаваны многімі літаратурнымі прэміямі і дзяржаўнымі ўзнагародамі. Прызнайцеся, Вы лічыце сябе шчаслівым чалавекам?**

— Безумоўна.

**— А таго, што я пералічыў — кар'ера, слава, — дастаткова для шчасця?**

— Не, недастаткова. Любімая праца, прызнанне — рэчы, безумоўна, важныя. Але для поўнага шчасця патрэбны і другі бок жыцця — асабісты. Я маю на ўвазе добрую, моцную сям'ю. У мяне ў гэтым плане поўны парадак. З жонкай пашанцавала. Таісія Іванаўна — інтэлігентны, вельмі прыстойны чалавек, цудоўная маці. Ажаніліся мы па каханні і вось паўвека ўжо жывём разам. Выхавалі дваіх дзяцей, трое ўнукаў. Сын Юра жыве ў Маскве, працуе ў адной з турыстычных фірмаў. Дачка Геля жыве з намі, займаецца бізнесам. Дзеці, як бачыце, не пайшлі па слядах бацькоў. Іх выбар вызначыў наш суровы, прагматычны час.

**— Вы ацэньваеце яго, наш час, негатыўна?**

— Не, чаму ж? У сённяшнім жыцці ёсць і нямала станоўчага. Мы сталі больш самастойныя, раскаваныя, ініцыятыўныя. Аднак у цэлым развал Савецкага Саюза лічу вялікай, непапраўнай бядой. Мы згубілі вялікую, магутную краіну. І гэта быў менавіта развал, а не распад, як спрабуюць сцвярджаць некаторыя гора-палітыкі. Развал свядомы і мэтанакіраваны. Удары па патрыятычнай сэрцавіне, па ўсім інтэлектуальным, духоўным наносіліся не ад выпадку да выпадку, а метадычна, арганізавана і скаардыянавана.

**— Па сваіх перакананнях Вы хто: камуніст, дэмакрат?**

— Я многія гады быў камуністам і ніколькі гэтага не саромеюся, наадварот — ганаруся. Што б там ні гаварылі перабудоўшчыкі, а ў партыю ў большасці сваёй

ішлі лепшыя людзі. І будавалі мы самае справядлівае, самае гуманнае грамадства ў свеце. Гэта — не мае словы. Гэта — вывад выдатнага рускага філосафа Аляксандра Зіноўева.

**— Вы лічыце, што ўсё згублена незваротна?**

— Так, згублена вельмі многае. На шчасце, Беларусь не пайшла, як іншыя рэспублікі, па шляху дзікага капіталізму. У нас захоўваецца парадак. Людзі сацыяльна абаронены. Але мы не абаронены ад знешняга ўплыву. Дзень і ноч дзсяткі тэлевізійных каналаў, розных радыёстанцый негатыўна ўздзейнічаюць на свядомасць нашых людзей. Што прапагандуюць гэтыя сродкі масавай інфармацыі? Разбэшчанасць, насілле, жорсткасць. Культывуюць чужыя для нас каштоўнасці — эгаізм і індывідуалізм, імкненне да нажывы, узбагачэння любой цаной, не думаючы пра багацце духоўнае.

Асабліва ад гэтага цярпіць наша моладзь. Апошнім часам я часта выступаю ў школах, каледжах, ліцэях, у прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах, таму аб настроях маладых ведаю, што называецца, з першых вуснаў. Так, розныя ёсць хлопцы і дзяўчаты, не ўсё я ў іх прымаю. Аднак радуе тое, што яны імкнуцца да ведаў, умеюць слухаць, задаюць цікавыя пытанні.

Не хапае, на мой погляд, галоўнага — сапраўднага, асвечанага патрыятызму. Таго, чым мы былі моцныя раней. Сёння намаганнямі замежных і сваёй гадоўлі «выхавальнікаў» у значнай частцы моладзі сфарміраваны дастаткова негатыўныя адносіны да сваёй уласнай краіны і пакланенне перад Захадам, абыякавасць да працы, да сваіх абавязкаў.

Я быў моцна здзіўлены, калі дазнаўся, што нават студэнты Белдзяржуніверсітэта мяркуюць пра мінулую вайну па кніжках Рэзуна — Суворава.

**— А Вам даводзілася чытаць яго сачыненні?**

— Даводзілася. Каб канкрэтна адказваць на пытанні, неабходна ведаць прадмет спрэчкі. Дык вось, перш за ўсё я кажу студэнтам, што кніжкі гэтыя пісаў не Сувораў. Для гэтага ён абсалютна непадрыхтаваны чалавек, не мае дастатковай ваеннай адукацыі. Пад яго прозвішчам пісалі (і гэта ўжо навукова ўстаноўлена камісіяй міжнародных экспертаў) заходнія спецыялісты. Пісалі па газетных і часопісных публікацыях. Таму тут на кожным кроку мана і фальсіфікацыя, мэта якіх адна — спаскудзіць нашу гісторыю, абліць гразёю нашых нацыянальных герояў, зрабіць Савецкі Саюз агрэсарам і вінаватым ва ўсіх грахах.

**— На Вашу думку, неабходна ўзмацняць патрыятычнае выхаванне моладзі?**

— Абавязкова. І не проста ўзмацняць, а будаваць гэты працэс у многім па-новаму, робячы яго больш тонкім, больш гнуткім, рознабаковым і, вядома ж, больш эфектыўным. Я недзе вычытаў, што чалавечую душу напаўняюць чатыры фактары: слова, музыка, прырода і чалавечыя зносіны. Вось па гэтых чатырох кірунках і неабходна працаваць.

**— Анатоль Канстанцінавіч, а над чым зараз працуеце Вы?**

— Як і кожны творчы чалавек, я прымхлівы, таму не люблю гаварыць пра свае планы. Скажу толькі, што гэта будзе дакументальная рэч. Я ўсё больш і больш схіляюся да такога роду літаратуры. У свой час яшчэ Л. М. Талстой гаварыў, што пісьменнікі, калі яны будуць, перастануць выдумляць і стануць апавядаць пра тое, што ім сустрэлася цікавага ў жыцці.

**— Натхнення Вам і творчых поспехаў!**

*Гутарку вёў*
*Зіновій Прыгодзіч.*

Таццяна ЛАЎРЫК (ЛАПЦЁНАК)

# ДЗІНА ПАЎЛАВЕЦ: ПАКЛІКАННЕ — НАСТАЎНІК

*Чым вызначаецца паспяховасць школьнага настаўніка?.. Ягоная адпаведнасць абранай прафесіі, часцей называная універсальным словам «сапраўднасць»?*

*Прафесійным узроўнем, высокімі адзнакамі вучняў, перамогамі на алімпіядах розных рангаў альбо водгукамі патрабавальных бацькоў, якія ў блізкай будучыні жадаюць бачыць сваё дзіця студэнтам прэстыжнай ВНУ? А можа, удзелам у настаўніцкім з'ездзе ці ганаровым званнем заслужанага? Безумоўна, так. Але не ў апошнюю чаргу (а можа, і найперш?) добры настаўнік пачынаецца з будзённага дня. Са звычайнага ўрока. З зацікаўленага пытання вучня, якое зададзенае не «па праграме». З павагі і — дасць Бог! — з любові не толькі да прадмета, які выкладаеш, але і да цябе, свайго настаўніка. Так, педагог, якога не любяць вучні, наўрад ці зможа выхаваць чалавека неабыякавага, сумленнага, здольнага на ўчынкі. Хоць часцей за ўсё гэткі прадметнік дамагаецца высокіх адзнак (хутчэй дзеля ўласнага заспакаення), павага да такіх выкладчыкаў больш нагадвае страх. І сапраўды, як часта і цяпер маладога настаўніка сустракаюць у школе нязменнай парадай: «Толькі не трэба ўсміхацца дзецям. А то баяцца не будуць».*

*Лена Нікіціна, маці дзесяцёх дзяцей, якая разам з мужам паставіла сабе мэту стварыць шматдзетную сям'ю, каб даказаць усім, што шаблоны ў выхаванні дзяцей самыя небяспечныя, выказала цікавую думку, разважаючы над сучаснай непапулярнасцю педагагічных ВНУ ў адрозненне ад заўсёднай недаступнасці мастацкіх. Хай чытач даруе аўтарцы гэтых радкоў доўгую цытату, але не сумняваюся, што, прачытаўшы, ён зразумее яе неабходнасць, адчуе арыгінальнасць і глыбіню гэтых словаў. «...Ёсць галіна творчасці, значэнне якой нязменнае, — мастацтва выхавання, стварэння чалавека, але жаданне служыць гэтай найцудоўнейшай з музаў відавочна ідзе на спад <...> У выхавальнікаў (усіх без выключэння: ад «дылетантаў» — бацькоў да прафесіяналаў) навідавоку, як правіла, уся «кухня» з памылкамі, промахамі, пастаянным «сааўтарствам» асяродку і велічным «супрацівам металу». А вынік? Мала таго, што чакаць яго можна ўсё жыццё, дык і атрымацца ён можа зусім не гэткі, пра які марылася, да таго ж ніколі не разбярэшся, што тут ад цябе, што ад «прыроды», што ад «навакольнага асяродку». Усе радасці, хвіліны перамог і гадзіны выхавання схаваныя ад усіх, нікому не бачныя альбо ўспрымаюцца як належнае. Прызнайцеся: калі сустракаеш добрага чалавека, зрэдку ўспамінаеш ягоных настаўнікаў жыцця. Быццам бы ён такім сам сабой атрымаўся. Але ж у кожнага ёсць свой пачатак, створаны некім».*

*Настаўніцтва ва ўсе часы вымагала ад чалавека, які абіраў для сябе гэтую прафесію, рыцарства. Быць настаўнікам паводле паклікання — значыць жыць дзеля іншых. Гэта сааўтарства з Богам і сям'ёй у стварэнні чалавека — з адказнасцю за лёс іншага, яшчэ не сфармаванага дзіцяці, са штодзённымі абавязкамі дасканалення сябе, даравання і чуйнасці. Праца гэтая наўрад ці аплачваецца. Словы ўдзячнасці, сказаныя наспех і не заўсёды шчыра, безумоўна, ці не адзіная плата за ахвяраванае камусьці асабістае жыццё. Сапраўдных на-*

*стаўнікаў не рыхтуюць у педагагічных вузах. І нават, шмат адпрацаваўшы ў школе, можна заставацца абыякавым да дзіцячых лёсаў...*

*Таму хочацца напісаць пра тых, хто заслугоўвае не толькі добрых словаў, а ў каго варта пераняць неацэнныя ўменні, з якіх пачынаецца найцяжэйшая навука чалавеказнаўства. Жыцці такіх людзей цікавыя, як кнігі, да якіх неаднойчы вяртаешся: «складаныя сюжэтныя лініі» разгортваюцца тут з непрыдуманай павучальнасцю, аблічча галоўнага героя прыцягальнае яшчэ і тым, што гэты чалавек жыве ці жыў побач з табой, ён адзін з тых, хто ствараў цябе, без чыйго ўдзелу ты не стаў бы такім, які ёсць сёння. Лепшым у сабе ты абавязаны яму, свайму настаўніку.*

# БЕЗ ДАБРЫНІ НЕ МОЖА БЫЦЬ НАСТАЎНІКА

...І сёння згадваецца той урок у восьмым класе дваццаць гадоў таму, калі настаўніца беларускай мовы і літаратуры (літаратуру яна любіла больш) Дзіяна Аляксандраўна Паўлавец задала нам, скептычным падлёткам, тое нестандартнае пытанне, што прымусіла наноў, як упершыню, убачыць гэтую немаладую жанчыну, якая стаяла перад намі. Мы вывучалі біяграфію класіка-песняра Янкі Купалы. Настаўнік мусіў прыгадаць вывучанае раней (памятаеце гэтыя, як здаецца цяпер, абсурдныя штампы пра басаногае сялянскае дзяцінства і яблыкі ў панскім садзе, пра каровін статак, пра любоў да прыроды, — абітурыенты з году ў год завучана паўтараюць адно і тое). А мы пачулі: «Паглядзіце на твар гэтага юнака. Старанна закручаныя на канцах вусы, задуменны позірк глыбокіх вачэй, вытанчаныя рысы твару. Прыгожая вопратка, зусім не сялянскае адзенне. Ці так, на вашую думку, павінен быў выглядаць сын селяніна?» Нават тыя, што ў гэтую хвіліну размалёўвалі ў падручніку аблічча класіка, схамянуліся: «А сапраўды, ці так?...» Безумоўна, памяць (на вялікі жаль!) не захавала большасць шыкоўных імправізацый нашае настаўніцы, усіх заданняў і пытанняў, у якіх разам з ёй мы насамрэч адкрывалі сябе для сябе — не дзеля добрых адзнак. Цікава было знаходзіць у сваёй галаве яркія думкі, імі важна было падзяліцца яшчэ і таму, што на іншых уроках кожны з нас выдатна ведаў, *які* адказ настаўнік хоча пачуць («першы параграф», «другі пункт»). А немаладая настаўніца беларускай мовы патрабавала ад нас нестандартнасці, абуджаючы жаданне са-тварыць, са-ўдзельнічаць. Быў у яе такі дзіўны ход-хітрык: калі нехта паўтараў агульнапрынятаы адказ, Дзіяна Аляксандраўна прасіла: «Давай дамовімся, што я гэтага не чула, а ты не казаў, так?» І нават на ўроках больш «сумнай» мовы яе заданні здзіўлялі — мы разгадвалі этымалогію словаў, цешылі сябе сачыненнямі... Хоць і не было славутых літаратурных гурткоў, часопісаў для вершаў — знікала звычайнасць урока, панавала жаданне адкрыцця, задуменнасці, такія спрыяльныя для творчасці. Не было і «ўлюбёнцаў» — усім дазвалялася (нават заахвочвалася) заставацца сабой, настаўніца прыкмячала нешта самабытнае ў кожным. (А ў дужках варта згадаць, што ў нашай школе, што месцілася ў вайсковым гарадку ва Уруччы, родная мова была сваёй толькі для адзінак, беларус-



кай нацыянальнасцю не тое што не ганарыліся, не ўсведамлялі яе — мову лёгка можна было адмовіцца вывучаць. Да таго ж сярод нас пераважалі не выдатнікі, а «нядобранадзейныя, крымінальна небяспечныя» двоечнікі...) На наступны год, як часта гэта практыкавалася ў нашай школе, беларускую мову і літаратуру выкладала зусім *іншая* настаўніца. А ў памяці, як найлепшы, у нечым вызначальны, трывала захаваўся адзін дзень. У 1989-м, калі вучылася ўжо ў дзесятым, у халодным ранішнім паўзмроку, на вялікім перапынку Дзіяна Аляксандраўна паклікала ў бязлюдную настаўніцкую. Яна спыталася, ці ведаю верш Максіма Багдановіча «Пагоня», і паказала невялікую выцінку — гэта быў вершнік Язэпа Драздовіча. Слухаючы наноў праграмны Багдановічаў твор, падумала, што сярод побач з Марынай Цвятаевай ды Ганнай Ахматавай усё-ткі Багдановіч яркі паэт. Як і раней, Дзіяна Аляксандраўна не пераконвала, не павучала, не раіла (пазней падаравала пажаўцелы здымак Максіма Багдановіча — дзе толькі ўзяла! А праз нейкі час павяла ў нядаўна адкрыты музей Максіма, дзе пазнаёміла з супрацоўніцамі музея, з незабыўнай Верай Мікутай). Тым кастрычніцкім днём праводзіла Дзіяну Аляксандраўну да аўтобуснага прыпынку, каб пабольш паслухаць найцікавейшыя расповеды — яе інтуітыўнае, медытатыўнае і разам з тым наўздзіў рэалістычнае бачанне свету так прываблівала і захапляла. Толькі пра сябе чамусь распавядала мала, хоць і помнілася, што па нацыянальнасці яна руская, і таму вельмі цешыцца павольным правільным маўленнем роднае мовы, ведала, што мае тонкі літаратурны густ, шмат чытае. Вельмі любіць *свайго* Пушкіна (мае прыжыццёвыя выданні паэта, вандруе з мужам па пушкінскіх мясцінах — Мойцы, Болдзіне, Міхайлаўскім), перачытвае аповесці сучасных пісьменніц Таццяны Талстой ды Людмілы Уліцкай, заслухоўваецца Шапэнам і Вярцінскім... З захапленнем хацелася назіраць за членамі ейнай сям'і, дзе шчыра паважаюць адно аднаго і асабліва ганарацца малодшым сынам Славам, вядомым мастаком, майстрам акварэлі, членам мастацкага Саюза...

Дзіна (гэта потым у пашпарце чамусь яе імя зменяць на рымскае Дзіяна) Седакова нарадзілася напрыканцы студзеня 1931 года ў сяле Чычкаве непадалёк ад Бранска. Сям'я яе бацькоў (бацька — настаўнік матэматыкі, маці вучыла малых дзяцей), дзе было трое дзяцей, жыла ў школьным будынку, былой сялібе памешчыка Калошына. Маці Антаніна Нілаўна Ерафеева паходзіла са смаленскага настаўніцкага роду: бабуліны сёстры Наталля і Елізавета Ціхаміравы закончылі Смаленскую гімназію з педагагічным ухілам паводле Найвялікшага дазволу — як дочкі чыгуначніка, які прадухіліў крушэнне царскага цягніка. Наталля Лукінічна — ганаровая грамадзянка Смаленска, падчас вайны кіравала дзіцячым домам. Малодшая ж сястра пакінула працу — псіхічна захварэла, адправіўшы на фронт блізарукага сына, і людзі асудзілі яе... Маці Дзіны вучылася ў адным класе і сябравала з Сашам Твардоўскім, таксама пісала вершы. Яна сама, дзве яе сястры і брат таксама выбралі нялёгкую настаўніцкую прафесію. Маму вучні вельмі любілі, называлі Антанінай Мілай (падчас вайны — і гэта найлепшая адзнака настаўніцкай працы! — яе ўратаваў адзін з вучняў).

У вялікім панскім доме размяшчаліся казённыя кватэры настаўнікаў (кухня, пакой для заняткаў і спальня), актавая зала, класы малодшай школы. Жыццё Дзіны ў перадваенныя гады было падпарадкавана шумнаму рытму школьнай завірухі, якая віравала за сценамі кватэры. Вакол маленькай дзяўчынкі, у якой была няня, улюбёніцы строгай бабулі, «бурапеніла» савецкая рэчаіснасць: шырока адзначаліся новыя грамадскія святы, бацькі вучылі грамаце малапісьменных сялян, грымелі лозунгі накшталт песеннага «чужой земли мы не хотим ни пяди». А яе маленства раскашавала салодка-гаркавымі пахамі герані і бальзаміну, вабіла доўгачаканымі днямі народзінаў з пірагамі, са смаконікамі (французкімі булачкамі з хрусткай скарынкай) і сяброўкамі, клікала ў калошынскі сад у засень прысадаў на арэлі... Чытаць Дзінка навучылася ў чатыры гады па

вялізным фаліянце. Гэта была кніга Пушкіна. Дома — культ кніг і літаратуры, іх дзяўчынка любіла больш за лялькукрасуню Мальвіну. Маці вяла літаратурны гурток, зачытвалася Пушкіным, Дзікенсам, апавяданнямі далікатнага псіхолага Лідзіі Чарскай. Настаўнікі Чычкаўскай школы, калегі і госці бацькоў, вясёлыя маладыя людзі, якія на ўрокі апраналіся вельмі строга (дзяўчаты і жанчыны аддавалі перавагу сукенкам з вялікімі белымі карункавымі каўнярамі, хлопцы і мужчыны — гарнітурам з гальштукамі), па-за заняткамі шумнай кампаніяй гулялі ў валейбол, удзельнічалі ў лёгкаатлетычных спаборніцтвах. Усе яны мелі выдатную прафесійную падрыхтоўку, да таго ж на выпускным курсе кожны здаваў іспыт, дзе правяралася ўменне іграць на адным з музычных інструментаў.

Улетку маці з дзецьмі наведвала сястру Лідзію, якая разам з сям'ёй жыла ў Беларусі, у Астрашыцкім гарадку пад Менскам (напрыканцы трыццатых сталіцу інакш і не называлі). Лідзія Нілаўна Ерафеева і Кірыла Іванавіч Шастакоў прыехалі на Беларусь па камсамольскім пакліканні, іх прыём быў першым у недабудаваным яшчэ Белдзяржуніверсітэце. Абое закончылі геолага-біялагічны факультэт і былі накіраваныя ў астрашыцкагарадоцкую дзесяцігодку, за кіраванне якой перад самай вайной Кірыла Іванавіч быў нават узнагароджаны медалём «За працоўную доблесць». Сваю хімію ён выкладаў толькі на беларускай мове, ад яго нельга было пачуць ніводнага рускага слова. Лідзія Нілаўна вучыла біялогіі таксама па-беларуску, пазней яе ўганаравалі званнем заслужанай настаўніцы Беларусі. Маленькай Дзінцы запомнілася, што ўсе настаўнікі ў Астрашыцкім гарадку размаўлялі на вельмі ветлівай песеннай мове, у якой асабліва мілагучнымі былі два словы — «калі ласка». У даваенным Мінску, дзе па вуліцах маршыравалі вайскоўцы, людзі гаварылі па-беларуску; ад вакзала сям'я ехала на рамізніку (новае дзіўнае слова адразу запомнілася). Гэта была іншая краіна, дзе мясцовыя і ў горадзе, і ў мястэчку не хадзілі ў лапцях, як на роднай Браншчыне.

Перад вайной дзесяцігадовай Дзінцы хацелася быць артысткай. Ёй уяўлялася светлая будучыня, шчаслівае жыццё... Але фашысты, якія прыйшлі ў іх сяло праз некалькі дзён, як пачалася вайна, усё раптоўна перакрэслілі. І калі побач з маці і братамі яна стаяла ў хаце, якая вось-вось павінна была запалаць, то ўжо нічога не баялася, страх раптоўна знік — людзі чакалі толькі, каб усё хутчэй скончылася... Але смерць і на гэты раз абмінула яе, як і падчас страшнага тыфу, калі трэсла ліхаманка і вандроўная згаладалая манашка па настаянні бабулі хрысціла ўчарашнюю піянерку — дзяўчынка тройчы памірала ... і выжыла. У сорак трэцім, пасля блакады, іх сям'ю разам з іншымі сяльчанамі пагналі ў Нямеччыну: яны, Дзіна, маці і малы брацік, ішлі тысячы кіламетраў, капаючы акопы. Выжылі дзякуючы дапамозе аднаго з канваіраў-наглядчыкаў, аднарукага настаўніка, які ўжо на нямецкай зямлі дапамог ім збегчы, папярэдзіўшы, што рабочых у хуткім часе зганяць на баржы, якія патопяць.

Страшнай была тая бясконцая дарога, якая ператварыла бесклапотную дзяўчынку-летуценніцу ў прыніжанага малога звярка, апранутага ў рыззё, у рваных атопках, што прасіў міласціну для сябе і брацікa і ўжо не адчуваў смаку жыцця, хаваючыся ад выбухаў бомбаў. У Сувалках, у Польшчы, Дзінка сустрэла дзвюх дзяўчынак у акуратных палітончыках, і ёй упершыню за вайну захацелася расправіць плечы — каб жыць!

Пасля рэпатрыяцыі яны з мамай вярнуліся да родных на Беларусь, дзе ў Плісе, непадалёк ад Смалявіч, іх чакаў па вяртанні з фронту бацька. Тут, у Пліскай школе, у верасні 45-га і пачалося новае жыццё чатырнаццацігадовай Дзіны. Пачалося з беларускай мовы, якая ўвасобіла ў сабе вяртанне да жыцця — цікавага, яркага, насычанага. Настаўніцы беларускай мовы доўга не было (не было і беларускіх падручнікаў, і беларуская мова калі і гучала на вуліцах, то як кепская руская, педагогі таксама былі рускамоўныя. Толькі дзеці, што хадзілі ў школу з засценку, мелі запамінальныя беларускія імёны і размаўлялі на роднай мове). І вось увесну сорак шостага ў клас увайшла маленькая, згорбленая, надта ху-

дая, даўгарукая, з глыбока ўпалымі вачыма маладая яшчэ жанчына. «Страшыдла», — падумаў кожны са старшакласнікаў. Яе звалі Вера Ануфрыеўна Зязюля. На першым уроку клас пісаў дыктоўку. Дзіна, выдатніца, дачка настаўнікаў, ведала, што для яе не было немагчымага, вельмі проста — як чуеш, так і пішаш. І калі на наступны дзень яна не пачула сваёй адзнакі, здзівілася: новая настаўніца пахваліла толькі почырк, сказала, што дыктант напісала акуратней за ўсіх. Калі ж разгарнула сшытак, то ўбачыла — у кажнюткім слове па некалькі памылак! А «страшыдла» і ў журнал тую адзнаку не паставіла, і пры ўсім класе не назвала, з таго дня не было ў Дзіны лепшай за Веру Ануфрыеўну настаўніцы. І добрая яна, і тактоўная. На ўсё жыццё засвоіла Дзіна той урок: «Без дабрыні не можа быць адукацыі, асабліва калі вучням па пятнаццаць-шаснаццаць гадоў». Здаецца, праз год іх Зязюлька з'ехала да сваякоў на Віцебшчыну, дзе й хутка памерла — былая змагарка, ахвяра фашысцкіх катаванняў.

Пасля заканчэння школы Дзіна не збіралася паступаць у педагагічны, яе цікавіла параўнальнае моваведства (з рабочым лагерам яны прайшлі паў-Еўропы, і яна навучылася разумець і па-польску, і па-нямецку); адно не выклікала сумненняў — у памяць пра незабыўную Зязюльку яна будзе паступаць на беларускае аддзяленне філфака і старанна вывучаць беларускую мову. У пяцьдзесят першым годзе разам з Дзінай Седаковай на філфаку вучыліся Генадзь Кляўко, Уладзімір Бойка, Уладзімір Нядзведскі, наўздзіў таленавіты Сяргей Гусак, Іван Чыгрын, на рускім аддзяленні — Міхась Мушынскі. Старажытную літаратуру выкладаў на іх курсе Міхась Іванавіч Ларчанка, як называлі яго студэнты — Трышчан на рандэву. Ён вельмі любіў паказаць сябе, штодня апранаў новы гальштук. Грунтоўнае веданне мовы прывіваў сваім навучэнцам Міхась Іванавіч Жыркевіч. І несумненна — самай выбітнай выкладчыцай дыялектнай мовы была Марыя Андрэеўна Жыдовіч. Пра свае родныя Дукоры яна ўмела распавесці, як пра Парыж, — захапляльна, смакуючы кожную драбностку. Марыя Андрэеўна паказала ім, што ёсць Беларусь, ёсць вялікая самабытная краіна. Гісторыю выкладаў крытыкаваны сёння за свае пагляды ў навуцы Лаўрэнцій Абэцэдарскі, які, аднак, быў вельмі адукаваным чалавекам, выкладаў і гаварыў па-беларуску. Студэнты распавядалі, як на ўступных іспытах ён пахваліў толькі трох дзяўчат з глыбінкі, якія адны адказвалі на роднай мове.

На жаль, не было ў іх беларускага асяродку, ва універсітэцкіх калідорах рэдка гучала беларуская мова. І таму дзяўчаты, сяброўкі са спеўнага шостага пакоя (цвіком іх праграмы была нязменная «Зорка Венера», якую тады выконвалі як народную песню, прыходзіў паслухаць і Іван Якаўлевіч Навуменка), бегалі ў Купалаўскі тэатр, дзе са сцэны гучала прыгожая беларуская мова. Знакамітая Купалаўка з яе «Хто смяецца апошнім», «Паўлінкай», «Брэсцкай крэпасцю» і «Простай дзяўчынай», дзе тады бліскуча ігралі Глеб Глебаў, Лідзія Ржэцкая і Барыс Платонаў... А ў Оперным тэатры можна было прысутнічаць на рэпетыцыях і абмеркаваннях, і тут чулася беларуская мова: галоўную партыю ў «Дзяўчыне з Палесся» Яўгена Цікоцкага выконвала спявачка-легенда Ларыса Александроўская… У парку Горкага мілагучны голас спяваў папулярную песню «Дзе ж ты, чарнавокая…»

З Дзінінымі адзнакамі можна было б паступаць у завочную аспірантуру, але нехта з выкладчыкаў параіў паехаць па размеркаванні пад Лагойск, у выпаленае пасля вайны мястэчка Бяларучы, у невялічкую школу, былое народнае вучылішча, якое апекавала сама Уладзіслава Францаўна, жонка Янкі Купалы. Калісь у Бяларучах стаяў помнік Аляксандру Вызваліцелю і чакала вернікаў царква…

А ў акно класа, дзе Дзіна праводзіла заняткі, грукаліся сасновыя галінкі, на якіх сядзелі вавёркі… Выпускніцай філфака заапекавалася Марыя Фабіянаўна Ржэвуская, настаўніца рускай мовы, якая ўвесь час размаўляла па-беларуску. Яна пазнаёміла Дзіну са старым местачкоўцам Вардомскім, што вучыўся разам з Купалам. Той распавядаў: «Луцэўчык не хадзіў кожны дзень на заняткі. Прыязджаў на кані, сустракаўся з настаўнікам, ручкаўся з ім. Займаўся са старэйшы-

мі вучнямі. Фацэтны такі, у нашмальцаваных ботах». А дзеці сустрэлі маладую настаўніцу з цікавасцю. Пачала яна свой урок так: «Кожны дзень вы ходзіце ў школу і, напэўна, ужо не заўважаеце...» І далей працягвала чытаць на памяць: «Паміж пустак, балот беларускай зямлі...» Вучняў прасіла запісваць песні, расповеды бацькоў і дзядоў ды захоўваць тыя запісы. Разам з вучнямі ездзіла і да Уладзіславы Францаўны, якая, апроч кніг для школьнай бібліятэкі, дала кожнаму са старшакласнікаў па рублю... А на наступны год ні школа, ні аспірантура не дачакаліся Дзіну: яна закахалася і паехала з мужам-вайскоўцам «служыць спачатку ў Красным (дзе паспела папрацаваць у школе два гады і пасябраваць з драматургам Іванам Козелам, што працаваў з ёй у адной школе), а потым у Чэлябінску, побач з атамным рэактарам, у Нямеччыне, куды лёс зноў закінуў яе...

Па вяртанні на Беларусь, на пачатку семідзесятых, Дзіна Паўлавец настаўнічала ва Уручанскай школе (дзе нейкі час працаваў і вядомы паэт Сяргей Панізнік), выкладала літаратуру па-беларуску, а вучні напісалі на настаўніцу скаргу дырэктару — бо гаварыць належала па-руску! Запомніўся ёй і ўрок, калі адзін са школьнікаў падчас чытання верша Пімена Панчанкі «Герой» нявесела адгукнуўся з апошняй парты: «А што ж яму заставалася рабіць? Проста выконваў загад...» Гэта быў сын былога штрафніка, што жыў непадалёк у вёсцы Уручча. З гумарам згадваецца цяпер і той выпадак, калі некалькі гадоў таму зламала нагу і пасля непрытомнасці ўбачыла твар хірурга і пачула ягоны голас: «Дзіяна Аляксандраўна, як Вы сябе адчуваеце?» Аказалася, што гэта быў не голас з неба, а пытанне былога вучня, які з радасцю пазнаў у пацыентцы сваю настаўніцу.

На вялікі жаль, не ведаю імёнаў многіх ейных вучняў, якія і сёння часта тэлефануюць сваёй улюбёнай настаўніцы (а яны самі ўжо гадуюць унукаў). Згадаю хіба цікавую самабытную паэтку Анжаліну Дабравольскую, кандыдата мовазнаўства Святлану Фацееву, чые артыкулы ўжо даўно з поспехам публікуюцца ў рэспубліканскім друку, і маладога паэта Віталя Гарбузава, суседа па лесвічнай пляцоўцы, звычайнага хлопца, які пасля знаёмства з Дзіянай Аляксандраўнай не толькі пачаў размаўляць па-беларуску, але і пісаць вершы. Цяпер ён працуе ў адным з лепшых беларускіх выданняў. Для яе ж заўсёды самым галоўным была павага да вучняў, разуменне таго, што хтосьці з іх не можа быць інакшым. Дапамагчы трэба незаўважна, пакіраваць так, каб ён думаў, быццам сам зразумеў, адкрыў, здолеў палюбіць. І таму Дзіяна Аляксандраўна спяшаецца — да праўнукаў Адася ды Манечкі, што сустракаюць яе нецярплівым «дабрыдзень, бабуля», на чарговую прэм'еру ва ўлюбёным Оперным, у кнігарню за цікавай навінкай, і ў думках да мужа, які быў яе другой паловай і якога ўжо няма на гэтым свеце.

Менавіта ў няпростым уменні дапамагчы, здаецца, і заключаецца майстэрства настаўніка. Настаўніка па пакліканні.







Таццяна ШАМЯКІНА

# ПАРАДОКСЫ НАШАГА ЖЫЦЦЯ

***Чытачам, магчыма, цікава ведаць, што я ўжо вельмі даўно вывучаю міфалагічнае мысленне. Пры гэтым высветлілася, што сучасная міфалогія яшчэ цікавейшая за старажытную. Задача «Парадоксаў...» — імкненне разбурыць некаторыя стэрэатыпы, якія інакш і можна назваць праяўленнем міфалагічнага мыслення. Прычым рэакцыя людзей на дадзеную публіцыстыку — таксама прадмет для вывучэння таго самага мыслення...***

Я пішу пра тое, што тычыцца, уласна кажучы, кожнага, ляжыць навідавоку, але мы не заўважаем парадаксальнасці многіх будзённых праяў нашага жыцця. Скажам, такі, зусім дробязны, факт: наяўнасць жалюзі на вокнах амаль ва ўсіх кабінетах арганізацый і ўстаноў, школьных класаў, аўдыторый ВНУ, а часам і ў кватэрах. Далёка не так гігіенічна, як здаецца, і зусім непрыгожа, тым не менш укаранілася. Бегучы за модай, мала хто з кіраўнікоў арганізацый, гаспадарнікаў і проста жыхароў кватэр задумваецца: а навошта? Жалюзі з'явіліся ў краінах Паўднёвай Еўропы — з мяккім кліматам, гарачым сонцам і жаданнем цнатлівых каталікоў зберагчы сваё асабістае жыццё ад чужых вачэй. А хіба ў Беларусі святла і сонца столькі ж, колькі ў Іспаніі і Італіі? Так, стала цяплей, сонца гарачэйшае. Але летам. Большую частку года насельнікам нашай рэспублікі катастрафічна не хапае святла і сонца. Нават калі жалюзі адкрытыя — павернутыя перпендыкулярна да акна — яны забіраюць палову святла. Вядома, што ад недахопу святла ў людзей развіваецца стомленасць, апатыя, санлівасць. Напалову цёмныя пакоі прымушаюць пастаянна паліць электрычнае святло. Мы прызвычаіліся з ім жыць і ўжо раздражняемся ад залішне яркага дзённага святла. Там жа, дзе электрычнасць эканомяць (а сёння ўсім варта гэта рабіць), пануе паўзмрок. Даўно заўважаю: нават калі сонца няма і можна адкрыць вокны, іх не адкрываюць. Так чамусьці зручней — жыць, як у пячоры. Што гэта? Чаму мы так баімся святла — вытоку жыцця? Чаму так бяздумна кіруемся модай? Гардзіны і шторы на вокнах — і намнога прыгажэй, бо ва ўсіх розныя, і намнога зручней, і неяк больш душэўна, нетэхніцызавана. Тым больш, што і ад сонца шторы з нашага роднага ільну абараняюць намнога лепш, чым гэтыя сінтэтычныя палоскі.

У вельмі многіх выпадках мы адмовіліся ад таго, што напрацавана традыцыяй і прайшло праверку часам. Памятаю, гадоў сорак таму наша сям'я, вітаючы

---

***Шамякіна Таццяна Іванаўна*** *нарадзілася ў 1948 годзе ў Мінску. Доктар філалагічных навук, прафесар. Цяпер працуе загадчыкам кафедры беларускай літаратуры і культуры на філалагічным факультэце БДУ. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар шматлікіх артыкулаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях, манаграфій, вучэбных дапаможнікаў.*

шырокае будаўніцтва жылля, распачатае па ініцыятыве М. С. Хрушчова, асуджала плоскія дахі дамоў — не для нашага яны клімату з вялікай колькасцю ападкаў. Гэта быў здаровы сэнс, заўсёды ўласцівы нашаму народу, але Івана Шамякіна тады ніхто з чыноўнікаў, пасміхаючыся з наіўнага пісьменніка, не паслухаў; пераважыла, як заўсёды, эканомія, якая вылілася потым у пастаянны рамонт і пакуты жыхароў. Сёння над тымі хрушчоўскімі дамамі надбудоўваюць мансарды. І прыгожа, і лагічна. Ніхто не аспрэчвае. Дык няўжо каб прызнаць відавочную ісціну, што ў нашым клімаце неабходна кіравацца іншымі крытэрыямі, спатрэбіцца яшчэ сорак гадоў?

З другога боку, жыць у паўзмроку, відаць, закладзена ў нас генетычна — ваконцы ў беларускіх хатах былі маленькія. Ды толькі ж нашы продкі-сяляне большую частку дня знаходзіліся па-за хатай: у лесе, на полі, у лузе, на рэчцы, на агародзе, у двары. Арганізму хапала святла. Нам — катастрафічна не хапае. Калі знойдзем залатую сярэдзіну?

* * *

Яшчэ пра клімат. Так склалася ружа вятроў, што ў Беларусі сярод усіх краін Еўропы найменшая колькасць сонечных дзён на працягу года. На маю думку, гэтая прыродная акалічнасць дэтэрмінавала шмат якія сацыяльныя і палітычныя працэсы. Скажам, беларусам не хапіла энергіі на дзяржаўнае будаўніцтва. Праўда, у эпоху Сярэднявечча здарыўся пасіянарны выбух, абумоўлены, як лічыў выдатнейшы рускі даследчык Леў Гумілёў, касмічнымі працэсамі (нейкай успышкай, што паласой прайшлася ад нашай тэрыторыі да Турцыі): выбух прывёў да ўзнікнення Вялікага княства Літоўскага. Але ён жа даў энергію і суседзям: ім яе хапіла на ўтварэнне імперый. Безумоўна, гісторыя кожнага народа, як і лёс кожнага чалавека, залежыць ад безлічы розных фактараў, якія, дарэчы, далёка не заўсёды ўлічваюцца навукай — што тычыцца гісторыі народа і тым больш не з'яўляецца прадметам уласнага разумовага аналізу — што тычыцца гісторыі жыцця чалавека. Шкада.

Недахоп энергіі, а таксама выключна раўнінны, нізінны характар нашай тэрыторыі, абумовілі псіхалогію, менталітэт беларускага этнасу. Беларус рахманы, спакойны, ураўнаважаны. Прывык таіцца, хітрыць? А гэта ад нашых лясоў з іх таямнічым жыццём… Жарт, безумоўна, але каб завастрыць праблему: далёка не заўсёды навукоўцы ўлічваюць прыродны фактар у ацэнцы сацыяльных працэсаў.

Аднак сёння становішча Беларусі іншае, чым у эпоху Сярэднявечча. Па-першае, ёсць вопыт дзяржавабудаўніцтва ў эпоху БССР, па-другое, зямны клімат змяніўся — ці тое з-за дзейнасці чалавека, ці ад касмічных працэсаў (скажам, сонца ўсё больш актыўнае), па-трэцяе, менавіта ў нас дзейнічае іншы магутны фактар — Чарнобыль. Праз дваццаць гадоў пасля атамнай бамбардзіроўкі ў Японіі адбыўся так званы «японскі цуд» — фенаменальна хуткі пад'ём эканомікі, шырокае прымяненне інавацыйных тэхналогій. Магчыма, радыяцыя неяк стымулявала энергетычныя працэсы ў чалавечай масе. Безумоўна, магутнасць узрыву Чарнобыльскай АЭС настолькі большая, чым бомбаў у Хірасіме і Нагасакі, што яна на ўсіх узроўнях дзейнічае выключна разбуральна, даючы вытокі негатыўным працэсам: анкалагічным захворванням, генетычным адхіленням, забруджванню агромністай тэрыторыі. І ўсё ж у дадатковую энергію, якая паскарае хуткасць разумовых працэсаў, я таксама веру. Іншая справа, як гэта ў рэшце рэшт адаб'ецца на нашай этнапсіхалогіі? Ва ўсялякім разе, у поўнай меры мы наступствы Чарнобыля яшчэ не ўсведамляем.

* * *

Вядома, што ЧАЭС пабудавана на разломе зямной кары — літаральна над безданню, якая ідзе ўніз на 40 км. Спецыялісты-сейсмолагі ўстанавілі, што ката-

строфе 26 красавіка 1986 года папярэднічала дзвесце мікраземлятрусаў на працягу трох месяцаў, у выніку якіх зрушылася пліта пад чацвёртым блокам станцыі. Дырэктар станцыі В. Бруханаў у снежні 1985 года пісаў пра гэта ва Усесаюзны інстытут фізікі Зямлі, але праверачную камісію прызначылі толькі на 10 мая, калі выбух ужо адбыўся. Яго справакаваў, як лічаць сёння, чарговы землятрус.

Уплыў прыродных фактараў на культуру, на характар кожнага этнасу і нават асобнага чалавека намнога большы, чым звычайна лічыцца. У сувязі з гэтым варта звярнуць увагу не толькі на ландшафты Радзімы, але і на тое, што знаходзіцца, так бы мовіць, пад Беларуссю.

Геолагі гавораць пра платформы зямной кары. Беларусь якраз месціцца на такой, адной з самых стабільных (так лічылася), — Рускай платформе. Але з чаго яна сама складаецца? У самы апошні час вучоныя ўдакладнілі геафізіку нашага «падсцілу» і высветлілі ашаламляльныя рэчы. Беларусь — месца унікальнае, магчыма, адзінае ў свеце, калі ўлічваць узнікненне яе тэрыторыі. Аказваецца, краіна размешчана на глыбокіх разломах зямной кары, адным з якіх з'яўляецца Прыпяцкі прагіб. Наша айчына знаходзіцца на стыку трох тэктанічных пліт. Два мільярды год таму Фенаскандыя, Сарматыя і Волга-Уралія сутыкнуліся разам, утварыўшы Беларусь. Месца іх сутыкнення — Цэнтральна-Беларуская «шоўная» зона. Праўда, «швы» за мільярды год утварыліся даволі трывалыя. Але ўсё ж гэта рубцы, як бываюць рубцы на целе чалавека пасля цяжкіх аперацый. «Рубцамі» наша краіна быццам спецыяльна агароджана на межах з суседнімі дзяржавамі: сапраўдны правал, як адзначана вышэй, знаходзіцца паміж намі і Украінай, ёсць прыродная граніца з Польшчай, Літвой і Расіяй. Самы буйны вузел разломаў знаходзіцца пад Полацкам. Я думала над тым, што разломы не заўсёды шкодныя, як гэта сцвярджаюць геафізікі. З іх жа могуць ісці і дабратворныя выпраменьванні! Вось чаму на Полаччыне нараджаліся геніі беларускага народа.

З другога боку, на Палессі, як высветлілі гадоў дваццаць пяць таму два студэнты з майго семінара, ажыццявіўшы спецыяльнае падарожжа, колькасць бабуль-шаптух, ведзьмакоў, чараўнікоў была намнога большая, чым у Віцебскай вобласці. Ужо тады мы вырашылі, што гэта невыпадкова. Звярнула я ўвагу і на адзін цікавы эпізод з «Аповесцяў пра жыццё» вядомага рускага пісьменніка К. Паустоўскага: ён пісаў пра тое, як у пачатку мінулага стагоддзя ў ваколіцах горада Чарнобыля збіраліся так званыя «магілёўскія дзяды». Яны камуфляваліся пад жабракоў, а я не сумняваюся, што гэта былі захавальнікі старажытнай язычніцкай традыцыі, і яны, жрацы XX стагоддзя, чамусьці выбралі для свайго «з'езда» менавіта Чарнобыль...

Непакоіць вось што. Паколькі даследчыкі фіксавалі вялікую колькасць землятрусаў у ваколіцах ЧАЭС, значыць, выключна стабільная Руская платформа (а Беларусь — на самым яе краі) пайшла шматлікімі трэшчынамі. Магчыма, гэта адбылося таму, што сама планета Зямля раптам, невядома па якой прычыне, у 1984 годзе расцягнулася ўздоўж сваёй восі на 15 м (на думку расійскага геафізіка Яўгена Баркоўскага). Вось сапраўдная прычына Чарнобыльскай катастрофы! А Зямля змяняе форму, відаць, таму, што Сонечная сістэма ў сваім руху па Галактыцы ўвайшла ў нейкую асаблівую касмічную зону. Мы — «дзеці Галактыкі», а не толькі Зямлі. Чамусьці забываемся пра гэта.

* * *

Пра Чарнобыль на бытавым узроўні. У пачатку 90-х гадоў, калі людзі звар'ялі і разбурылі сваю краіну, у кватэрах і ва ўстановах бурна размножыліся тараканы. Ніякія метады барацьбы з імі не дапамагалі. І раптам некалькі гадоў таму яны зніклі, можна сказаць, амаль імгненна. Знікла і моль у кватэрах. Закончыўся чарговы 11-гадовы цыкл сонечнай актыўнасці? Правільна. Ды толькі, насуперак агульнапрызнанай сёння тэорыі Аляксандра Чыжэўскага (дарэчы, беларуса па паходжанні), сонца не сцішылася пасля апошняй па часе заканамернай успыш-

кі, а павялічыла сваю актыўнасць. А значыць, і актыўнасць насякомых павінна была ўзрасці. Яны ж у значнай ступені вымерлі. Перавышаны парог? А можа, Чарнобыль? Спачатку даў успышку папуляцыі, а потым радыяцыя знішчыла прымітыўныя стварэнні? Але ж вучоныя сцвярджаюць, што пасля гіпатэтычнай атамнай вайны маюць шанц выжыць менавіта тараканы — такая ў іх сіла жыцця. З другога боку, усё ж іншыя насякомыя засталіся (хоць матылькоў стала намнога менш), а колькасць кляшчоў у лясах дык яшчэ намнога і павялічылася. Я думала над тым, што, магчыма, у кватэрах дзейнічае залішне моцны электрамагнітны фон — вялікая колькасць розных прыбораў, выпраменьванні якіх не вельмі спрыяльныя для хатніх насякомых: мікрахвалёвыя печкі, камп'ютэры, мабільныя тэлефоны…

Дзейнічае, відаць, і больш глабальны фактар. Але які?

* * *

Адносна шмат якіх праблем прыходзіцца выбудоўваць уласныя дылетанцкія, «кухонныя» версіі. А гэта таму, што нашы даследчыкі ў прыродазнаўчых навуках не вельмі клапоцяцца пра інфармаванасць насельніцтва. Ды і многія праблемы застаюцца проста па-за іх увагай. Ведаю я, як выбіраюць для доследаў тыя ці іншыя навуковыя праекты, — колькі тут суб'ектывізму, кан'юнктуры… А СМІ запоўнены скандаламі з эстраднымі зоркамі, кулінарыяй, дыетамі і іншым глупствам. Мозг жа прагне больш паўнацэннай інфармацыі. Дзе яе атрымаць простаму чалавеку? А з другога боку, людзі ўжо і адвучыліся ад роздуму над праблемамі, што тычацца прыроды і жыцця грамадства. Між тым адна з іх — экалагічная — патрабуе пастаяннага клопату і разваг — нават прымітыўным мозгам тыповага гуманітарыя…

* * *

Адносна спецыфічных тэм масавай прэсы, пра якія згадвала ў папярэдняй мініяцюры. Сам прынцып запаўнення яе бытавымі праблемамі запазычаны, безумоўна, у капіталістычных краінах, якія прайшлі вялікі шлях гістарычнага развіцця. Такога кшталту тэматыка — здароўе, інтым, кулінарыя — павінна дэманстраваць увагу да асобнага чалавека, клопат пра яго, сапраўдную дэмакратыю, што пануе ў грамадстве. З аднаго боку, гэта так, і гэта правільна. Праўда, і ў савецкай прэсе існавалі такія ж рубрыкі. Але было і шмат чаго іншага! Дастаткова паглядзець на выданне, якое — можа, адзінае, — абсалютна не змяніла свой фармат і кампазіцыю з савецкіх часоў, — навукова-папулярны часопіс «Наука и жизнь». Інакш кажучы, існавала нейкая большая разнастайнасць, хоць саміх выданняў было намнога менш. Акрамя таго, рэкламнасць шмат якіх публікацый не біла ў вочы, а, магчыма, яе і ўвогуле не было, а быў сапраўдны клопат пра здароўе людзей. Пра сённяшнія СМІ так не скажаш. Вось парадокс: шмат пра чалавека, для чалавека, а той чалавек адчувае сябе ўсё больш адзінокім і закінутым...

* * *

У нашай літаратуразнаўчай навуцы існуе адна заканамернасць, даўно заўважаная мною, бо даводзіцца чытаць вялікую колькасць курсавых, дыпломных работ, дысертацый і іншых рукапісаў. Калі беларусісты шырока выкарыстоўваюць у сваіх працах еўрапейскі, сусветны кантэкст, прычым арганічна, то аўтары, якія пішуць па рускай ці па замежнай літаратуры, добра арыентуючыся ў сваёй вузкай праблеме, дэманструюць фенаменальную неадукаванасць у галіне беларускай літаратуры. У апошні час усе яны ў дысертацыях робяць дадатковы параграф, дзе чыста механічна прывязваюць сваіх аўтараў да беларускага матэрыялу. Непрыемна чытаць і бачыць, ясна ўсведамляць гэтую няўвагу, нават грэблівасць

да роднага і ў той жа час захапленне якім-небудзь трэцеразрадным мадэрнісцкім амерыканскім паэтам. Такога кшталту работы крыўдзяць нас, беларусаў. Колькі можна не зважаць на свой нацыянальны гонар!

* * *

Не магу не сказаць і пра імкненне да пазнання нашых студэнтаў. Дзіўлюся з іх няведання самых элементарных рэчаў, якія, здавалася, павінен трымаць у памяці кожны чалавек. Міжволі ўзнікае пытанне: а што робіць школа, чым там займаюцца, як можна не ўкласці ў галаву школьніка тое, што складае аснову адукацыі? Напрыклад, не ведаюць табліцу множання. Я, скажам, ніколі не карыстаюся калькулятарам. Спачатку з мяне пасміхаліся калегі і лабаранты. А я тлумачу, што, лічачы вусна, я такім чынам развіваю мозг: пакуль яны націснуць на кнопкі, я ўжо даўно ў галаве перамножу. Мозг, як і мышцы, павінен працаваць пастаянна. Чаму тым жа не заклапочана сістэма адукацыі? Пра няведанне студэнтамі элементарных фактаў з астраноміі, геаграфіі, гісторыі я ўжо пісала. Калі я дзіўлюся ўслых і, скажу шчыра, абураюся, то чую ад студэнтаў нязменнае: а навошта, навошта нам тое, што не тычыцца нашай асноўнай спецыяльнасці? Вось тут ужо ўвогуле разводжу рукамі. Па-першае, выкладанне літаратуры — гэта выкладанне, па сутнасці, жыцця. Кожны філолаг павінен ведаць як мага больш і жыццёвых, і навуковых фактаў. Па-другое, ніхто сёння і не ўяўляе, што спатрэбіцца ў працы, але справядлівай застаецца народная мудрасць: «Веды за плячыма не насіць». Па-трэцяе, як жа можна не мець звычайнай дапытлівасці — у свеце так многа цікавага і нават таямнічага? Памятаю, як мы вучыліся. Рыхтуючыся да ўрокаў, я заўсёды карысталася дадатковым матэрыялам. Я прывучылася чытаць «Детскую энциклопедию»: бацька прывёз мне з Масквы дзесяць аранжавых тамоў. Некаторыя і сёння ў мяне захаваліся. Тады, у 50—60-я гады, іх пісалі нераўнадушныя людзі — з любоўю да дзяцей і да сваёй навукі, простай і даходлівай мовай, і тым не менш з захаваннем каласальнага аб'ёму інфармацыі. Колькі сябе памятаю, столькі чытаю перыёдыку. Заўсёды ў нас дома выпісвалі вялікую колькасць часопісаў. У дзяцінстве чытала «Пионер», «Бярозку», «Юный натуралист», «Вокруг света», падлеткам — «Маладосць», «Юность», «Молодую гвардию», «Технику — молодежи», у сталыя гады — ужо дзесяткі выданняў, — нават цяперашнім часам, адмаўляючы сабе ў самым неабходным. У мяне і сёння на лецішчы захоўваюцца падшыўкі «Вокруг света» з 1972 года. Шкадую, што не захавала ранейшыя. Дарэчы сказаць, сённяшні часопіс з той жа назвай — намнога больш прыгожы, глянцавы, а я яго чытаю ўсё менш. Знікла з яго душа, на кожнай старонцы з'явілася рэклама, размяшчэнне матэрыялу такое ж, як і ў шмат якіх бульварных выданнях, — разарванае, пададзенае кавалкамі, як у кліпах, як у коміксах. Вось такая ж сённяшняя і адукацыя. Такое ж і мысленне ў школьнікаў і студэнтаў — разарванае, мазаічнае, нетрывалае. Праўда, на старэйшых курсах універсітэтаў шмат хто ўваходзіць у смак працэсу пазнання, і гэта радуе.

* * *

Даўно ўжо цікаўлюся і тымі прыёмамі, з дапамогай якіх СМІ наркатызуюць нашых наіўных людзей, асабліва моладзь. У шматлікіх выданнях, асабліва расійскіх, працуюць даволі спакушаныя супрацоўнікі, якія ціха, незаўважна робяць сваю малую, а на самай справе — вялікую, справу: змяняюць успрынянне мінулых эпох, як бы пераводзяць уласна сам вектар гісторыі ў іншы бок. Прывяду адзін з ардынарных прыкладаў пра чалавека, імя якога вядома ўсім маладым. Навукова-папулярны штотыднёвік «Тайны ХХ века», які прэтэндуе нават на пэўную рэспектабельнасць, змяшчае матэрыял пра Джэкі Чана — сусветна вядомую кіназорку. Публікацыя пачынаецца з такіх слоў: «Джэкі Чан з'явіўся на свет 7 красавіка 1954 года ў Кітаі. На месца яго нараджэння ўказвае яго імя — хлоп-

чыка назвалі Конг Сунг Чан — што азначае «народжаны ў Ганконгу» («Тайны ХХ века». 2007, № 7 — С.8). Далей — розныя жахі: як хлопчыка па прычыне сваёй беднасці ледзь не прадалі бацькі, як у шэсць год яго аддалі ў закрытую Кітайскую драматычную акадэмію з літаральна канцлагернымі метадамі выхавання, як яго там катавалі, як ён вымушаны быў у маладосці нават здымацца ў парнаграфічных стужках, бо галадаў, і г. д. Паколькі ў вочы пастаянна лезе, літаральна з кожнага радка, слова «Кітай», у чытачоў і думкі не ўзнікае, што дзеянне адбываецца не ў Кітаі. Кітай — сацыялістычная краіна (пра гэта ўсё ж усе ведаюць), і вось якія там, аказваецца, парадкі: прадаюць дзяцей, здзекуюцца з іх, усюды суцэльны крымінал! Між тым у маленстве, маладосці і нават у сталыя гады Джэкі Чан жыў у Ганконгу, а гэта тады — зусім не Кітай! Тэрыторыя, сапраўды, належыць Кітаю, ды ў XIX стагоддзі прададзена Брытаніі і толькі ў 1999 годзе вызвалена з-пад яе ўлады. Такім чынам, будучы знакаміты артыст жыў у англійскай калоніі ва ўмовах капіталізму, а зусім не ў сацыялістычным Кітаі. Навошта ж дурыць чытачоў? А я правярала на шмат кім: усе ўпэўнены, што гаворка ідзе пра Кітай. І так ва ўсім. Далёка, вельмі далёка савецкім агітатарам і прапагандыстам да цяперашніх умельцаў агітпропа!

* * *

Тое, што згаданы пра Джэкі Чана матэрыял, — свядомая дэзінфармацыя, сведчыць артыкул у той жа газеце — «Сакрэт савецкіх бестселераў». Тут што ні абзац — тое хлусня. Аўтары выдання згаджаюцца: так, савецкая краіна лічылася самай чытаючай у свеце, але многае, што звязана з чытаннем, было засакрэчана, нешта забаранялася. А далей — уласна факты. Але факты высмактаныя з пальца. Напрыклад, Н. Крупская, жонка У. Леніна, як быццам была супраць кнігі пра Пінокіо. Я далёка не прыхільніца Крупскай і Леніна, але, ведаючы сённяшнюю сітуацыю з выпускам мастацкай літаратуры, задумваюся: а навошта прапаноўваць савецкім дзецям сюжэтна замаруджаную, наскрозь ханжаска-дыдактычную кнігу Калодзі, калі ўжо з'явіўся «Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна» А. Талстога — дынамічная, выключна займальная, вясёлая, дасціпная кніжка, якая чытаецца на адным дыханні? Тое ж тычыцца «Чараўніка з краіны Оз», з-за якой б'юцца ў істэрыцы аўтары артыкула: зноў-такі, навошта яна, калі цудоўную кнігу як пераказ, але фактычна самастойную — «Чараўнік смарагдавага горада», стварыў А. Волкаў? Вельмі правільная палітыка была ў савецкай улады: прапагандаваць, выдаваць сваю літаратуру, а не замежнае занудства!

Далей гаворыцца пра тое, як у блакадным Ленінградзе палілі кнігі, і ў першую чаргу — «сачыненні знакамітага нарвежскага пісьменніка Кнута Гамсуна і польскага сімваліста Станіслава Пшыбышэўскага». Безумоўна, паліць кнігі дрэнна, але чаму не сказаць, што калі гаворка ідзе літаральна пра выжыванне, кнігу спаліць — усё ж не грэх. І невыпадкова, што найперш ішлі ў печку кнігі Гамсуна, які супрацоўнічаў з фашыстамі, і яго суайчыннікі кідалі тысячамі кнігі Нобелеўскага лаўрэата за агароджу яго сядзібы. А ленінградцы не шкадавалі Пшыбышэўскага з-за яго эратычных фантазій: не да эротыкі, калі ў кватэры 30 градусаў марозу!

І так ва ўсім: як быццам правільны, абсалютна праўдзівы факт, але факт, пазбаўлены кантэксту. І атрымоўваецца гісторыя, вельмі далёкая ад рэальнасці.

Так жа, дарэчы, чытаюць і лекцыі студэнтам. Прыкладам: на «круглым стале» ў рэдакцыі адной з беларускіх цэнтральных газет наша студэнтка — і яна ж маладая паэтка — сказала літаральна наступнае: «Нам ва універсітэце гаварылі, што, акрамя У. Дубоўкі, усе пісьменнікі пісалі даносы». Далей — ніякіх удакладненняў, ніякага кантэксту, указання часу. Праўда, В. Скалабан, з якім і адбывалася сустрэча, паспрабаваў неяк выкруціцца з няёмкага становішча. Але чытачы газеты, не вельмі дасведчаныя ў літаратуры, так і засталіся ў перакананні, што ўсе — літаральна ўсе (!) — пісьменнікі Беларусі і на працягу ўсяго ХХ стагод-

дзя — стукачы і даносчыкі. І ніхто з пісьменнікаў — у пераважнай большасці сумленных людзей — не абурыўся, што яго выкачалі ў брудзе, не выказаўся на старонках прэсы. Відаць, рахманыя, мяккія, памяркоўныя беларусы, як заўсёды, махнулі рукой, падумаўшы: «Бог з ёю, з наіўным дзяўчо!» Гэта праўда, Бог з ёю! Але паўстае іншае пытанне: чаму на сустрэчу з такім паважаным, аўтарытэтным даследчыкам, як В. Скалабан, запрошаны студэнты, у якіх за душою — ні ведаў, ні такту, ні жыццёвага вопыту? І ўвогуле, колькі можна карміць нас, чытачоў і гледачоў, памыямі з вуснаў маладых паэтаў, журналістаў, тэлекаментатараў, папсовых спявачак, якія часта проста ўражваюць сваёй фантастычнай неадукаванасцю і нахабствам?! Якія жыццязначныя ісціны яны могуць паведаміць, скажам, мне, маім калегам, ды сотням тысяч людзей старэйшых пакаленняў? Я і сама люблю моладзь, усё жыццё працую з ёю, але не лічу, што да такой ступені неабходна прыніжацца перад маладымі — часам такога кшталту паліткарэктнасць даходзіць да смешнага і непрыстойнага: на любым «круглым стале» — абавязкова з глыбокадумным выглядам — нешта вяшчаюць маладыя дараванні, прычым пераважна адны і тыя ж. Яны ж, у сваю чаргу, ужо ўпэўнены, што выказваюць ісціну ў апошняй інстанцыі, хоць пакуль і спасылаюцца на аўтарытэт універсітэцкіх прафесараў…

* * *

Не буду апраўдвацца: ёсць у нас некаторыя выкладчыкі, якія ў сваім крытычным запале, у адмаўленні таталітарызму, не думаюць, што падрываюць аўтарытэт прыгожага пісьменства. Але ўсё ж мы даём грунтоўныя веды па беларускай літаратуры. Што ж тычыцца любові да яе… Тут адных намаганняў універсітэта недастаткова — неабходна змяненне агульнай гуманітарнай, так бы мовіць, атмасферы. А як яе змяніць, калі ў пераважнай большасці СМІ да гэтага зусім не імкнуцца. Вось рубрыка «Асабісты густ» у той жа цэнтральнай газеце. На пытанне «На якую кнігу, тэлеперадачу, кінастужку вы параілі звярнуць увагу» адказваюць зноў-такі маладыя — спартсменка-чэмпіёнка, актрыса, рэпарцёр СТБ. Ні адна беларуская кніга не была названа — толькі замежныя, і далёка не шэдэўры, звычайная масавая прадукцыя, хоць і модная. Вось густы нашай «эліты», якая імкнецца павучаць народ! Прычым ім самім, прадстаўнікам гэтай «эліты», здаецца, што яны надзвычай прагрэсіўныя і душэўна тонкія — як жа, чытаюць Зюскінда, Кундэру, Гейла!

Тое, што ўсе каштоўнасці ў грамадстве перавернуты дагары нагамі, — «заслуга» такой вось «эліты».

* * *

Зноў адносна «эліты». Гляджу на адну нашу «зорку», якая не стамляецца рэкламаваць сябе, і кожны раз успамінаю яе даволі ўжо даўняе інтэрв'ю ў газеце «Беларускі універсітэт». Распавядаючы пра свае непрыемнасці ў вучобе, «зорка» не можа стрымаць абурэння: «Павінны ж выкладчыкі разумець, што я не такая, як усе! Я выключная!» Хапіла ж розуму выказацца! Ужо тады я ламала галаву, чым яна «не такая»? Пераможца ў конкурсе прыгажосці? Дык скажы дзякуй за знешнасць (гены) сваім бацькам, продкам, візажыстам і мадэльерам. Якая тут твая заслуга? У нас поўны факультэт такіх і яшчэ лепшых прыгажунь. Ды і ўвогуле я не бачыла непрыгожую дзяўчыну ў 18 гадоў, тым больш калі над ёю папрацавала цэлая каманда спецыялістаў. А вось захаваць прыгажосць да 50-60-70 гадоў — гэта бясспрэчная заслуга, тут можна схіліць галаву ў павазе да жанчыны (дастаткова згадаць Вольгу Аляксандраўну Няхай, удаву пісьменніка Рыгора Нехая, дацэнта лінгвістычнага універсітэта, або Вольгу Васільеўну Казлову, дацэнта нашай кафедры, на якіх і ў іх 80 гадоў прыемна паглядзець). Шанаваць здольнасці той спявачкі? Людзям, якія не чулі сапраўдных спевакоў, яна

можа і падабацца, а на самай справе — натуральная «папса», плоская і нецікавая. Гісторыі такіх «зорак» разбуральна дзейнічаюць на маладых, якім здаецца, што ўсяго можна дасягнуць лёгка, без асаблівай вучобы. Ці варта Міністэрству культуры кідаць грошы падаткаплацельшчыкаў на з'явы, якія на самай справе не маюць ніякага дачынення да культуры, а ўсяго толькі — выяўленне працэсаў, што адбываюцца ў спажывецкай цывілізацыі?

* * *

Часта думаю, што сапраўдныя паэты жыццёва неабходныя нават у такой прыкрай з'яве, як масавая культура (на самай справе, паўтараю, гэта з'ява цывілізацыі, якая паразітуе на культуры і імітуе яе). Вось, скажам, расплadзіліся ў нас розныя «зоркі». Праспявала адну песню — ужо «зорка». Але да слова «зорка» людзі сёння прызвычаіліся, яно сцерлася і хутка не будзе ўспрымацца так, як запраграмавана творцамі шоу-бізнесу. А як тады называць чарговую агурбаш? Вось і пачнуць шукаць свежыя метафары і параўнанні. Але як жа цяжка думаць пра такі прагматычны аспект высакароднай справы!

* * *

Успамінаю, як мой бацька абураўся, даведаўшыся пра фенаменальны ганарар Але Пугачовай ад Беларусі на «Славянскім базары». Наіўны, ён ніяк не мог зразумець: за што? Я яму адказвала: за імя. А імя адкуль, як яно зроблена, зароблена? І тут справа не толькі ў тым, што Шамякін як чалавек і пісьменнік сфарміраваны ў сацыялістычнай сістэме каштоўнасцей, а ў тым, што ён меў арганічнае пачуццё нейкай вышэйшай справядлівасці. Атрымоўваючы ў савецкі час намнога больш, чым шмат хто іншы (але ж раман пісаўся не менш, як тры гады), ён сваё багацце (адноснае, безумоўна) ніколі не дэманстраваў. Ды і жыў у бытавым плане надзвычай сціпла — як, дарэчы, і М. Танк, П. Панчанка, Я. Брыль, У. Караткевіч. Ужо ў нашы дні я чытала меркаванні аўтарытэтных вучоных пра тое, што людзі адрозніваюцца адзін ад аднаго паводле розуму, ведаў і здольнасцей усяго толькі ў 3-5 разоў (пра геніяў не гаворым). Так жа павінны і атрымоўваць узнагароду за сваю працу! А сёння мы ведаем асоб, якія зарабляюць у 100 000 разоў больш, чым акадэмікі. Палічыць іх усіх геніямі? Неяк не вытанцоўваецца. Зноў-такі даказана: хоць прырода адорвае надзвычайнымі здольнасцямі і розумам шмат дзяцей (аднаго на дзесяць тысяч), але рэалізуецца адзін на мільён. Праўда, у тых грамадствах, што папярэднічалі нашаму. Выходзіць, лад, у які мы трапілі дзякуючы так званай «дэмакратычнай рэвалюцыі» 1991 года, дазваляе рэалізаваць пэўныя здольнасці шмат якім людзям. Мы павінны радавацца гэтаму. Чаму ж так мала я сустракаю радасных людзей?

* * *

Сцэнарысты тэлевізійных і радыёпраграм павінны ясна ўсведамляць галоўнае правіла нейратэхнікі: нельга ўжываць часціцу «не» ў дачыненні да з'яў культуры! Прыкладам, у нас па першым канале 4. 10. 2006 года прагучала наступнае катэгарычнае выказванне: «Паэзія не карыстаецца цікавасцю ў моладзі...» Груба, непрафесійна і няправільна! Гаварыць варта было б так: «Паэзія карысталася б інтарэсам у моладзі, калі б...(а далей — нейкі важкі аргумент, скажам, такі: «калі б гэтаму надавалі больш увагі ў школе...»). Вось у такім выпадку ТБ будзе выхоўваючым, а не дэструктыўным фактарам.

* * *

У беларускіх ВНУ скарачаюцца наборы філолагаў. Логіка чыноўнікаў абсалютна правільная: філолагаў зашмат, будуць беспрацоўныя. Але можна па-

глядзець і з іншага боку: няхай лепш будуць беспрацоўныя з адукацыяй, чым без адукацыі. Усё ж такі мы людзей ва універсітэтах нядрэнна шліфуем, ды і да сістэмнасці ў рабоце прывучаем, да ўмення думаць. Акрамя таго, рынак працы непрадказальны. Мы не можам сказаць, што на ім будзе запатрабавана праз пяць гадоў. Так, настаўнікі не патрэбныя, але патрэбныя стваральнікі рэкламы (тавараў усё больш і прадаць іх усё больш складана), рэдактары на ТВ і радыё (забаўляць людзей таксама робіцца ўсё цяжэй), спецыялісты па лінгвістычнай экспертызе ў судах і іншае. Ды мала дзе можа спатрэбіцца адукаваны, з высокай агульнай культурай, чалавек у дынамічным грамадстве, якое актыўна развіваецца? Я не толькі пра філолагаў гавару, а і пра іншых гуманітарыяў. Урэшце, нават маці з вышэйшай адукацыяй — гэта ўжо маці як бы вышэйшага гатунку. Дорага, безумоўна, але калі не думаць пра будучыя пакаленні, дык дзеля чаго ўвогуле ўсё? Які сэнс у цяперашняй эканоміцы?! Я разумею, што разважаю наіўна, але часам варта паглядзець на праблему і ў іншым ракурсе, а не толькі ў матэматычным, каб сышоўся дэбіт з крэдытам — набор студэнтаў з іх выпускам і працаўладкаваннем. Жыццё ўсё роўна ўносіць свае карэктывы. Акрамя таго, важна паклапаціцца пра баяздольнасць беларуса ў сусветнай канкурэнтнай барацьбе. Скажам, у Японіі ўжо ставіцца задача абавязковай вышэйшай адукацыі для кожнага маладога чалавека. А з другога боку, не можам мы сабе такое дазволіць, бо бедная краіна. Але, зноў-такі (глядзі вышэй): як жа даходы ў 100 000 разоў большыя, чым у акадэміка? Акрамя таго, існуюць прыватныя навучальныя ўстановы, ім жа таксама трэба есці хлеб з маслам, а яшчэ лепш — з ікрою, яны і адцягваюць частку абітурыентаў на сябе. Тут няма віны асобных чыноўнікаў. Гэта аб'ектыўная рэальнасць — капіталізм (як бы ён ні камуфляваўся). Шмат хто з прадстаўнікоў інтэлігенцыі хоча больш рынку (што азначае той жа капіталізм), сцвярджае, што яго ў нас яшчэ мала, — што ж, любуйцеся! А калі нешта не падабаецца, не вініце ў тым пэўных асоб! Вы самі гэтага хацелі!

...А між тым адчуванне сваёй непатрэбнасці — усё большае. Ва ўсім свеце гуманітарыямі валодае падобнае пачуццё, але ў нас яно мацнейшае, бо мы яшчэ памятаем савецкія часы…

Так што, якую праблему ні возьмеш, атрымоўваецца не два бакі, як я задумвала, а намнога больш. Праблемныя клубкі літаральна ва ўсіх сферах жыцця — сведчанне таго, што грамадства — прычым грамадства ва ўсім свеце, а не толькі ў Беларусі, — знаходзіцца не проста на пераломе, у пераходнай фазе, а напярэдадні фундаментальнага пераходу, перад кропкай біфуркацыі, перад рыўком у зусім іншы свет.

* * *

Вялікая колькасць серыялаў на тэлебачанні, з аднаго боку, з'ява станоўчая: па-першае, удзел у серыялах дае працу шматлікім акцёрам — такім жа бедакам, як і пісьменнікі: няхай артысты пацешацца, нядоўга ім засталося — будуць заменены камп'ютэрнай графікай. Па-другое, серыялы займаюць час людзей, даюць разрадку, адпачынак. З іншага боку, негатыву набіраецца, відаць, больш. Самае галоўнае: серыялы адвучылі людзей ад кнігі: чытанне — усё ж праца, а тут розныя жыццёвыя перыпетыі назіраеш, быццам заглядаеш у вокны суседа, без усялякіх намаганняў. Акрамя таго, дэмаграфічная сітуацыя, як ні парадаксальна гэта гучыць, ніяк не палепшыцца, пакуль будуць існаваць шматлікія серыялы: яны дэвальвіравалі каханне. Навошта ў жыцці пакутаваць, перажываць, высвятляць адносіны, калі можна лёгка і бесклапотна жыць у віртуальным свеце! Нават знікненне бабулек на лавачках перад пад'ездамі — таксама адзнака серыяльнай эпідэміі: бабулькі задавальняюць сваю прагу жыць жыццём іншых людзей, гледзячы кінастужкі. Але лепш бы яны дыхалі свежым паветрам!

* * *

Мае дочкі адным часам запісвалі маўленчыя памылкі дыктараў і вядучых на ТБ. Потым кінулі: памылкі сустракаюцца кожны дзень і ва ўсіх перадачах. У сувязі з гэтым — яшчэ адно назіранне. Звычайна, калі мяне і маіх калег запрашаюць выступіць на тэлебачанні, рэдактары ўсяляк пазбягаюць папярэдне акрэсліць кола праблем, якія будуць разглядацца ў перадачы. Маўляў, калі спантанна, то цікавей, больш непасрэдна. Абсалютна ясна, што гэта — амерыканская методыка. Што яна дае? У тым выпадку, калі выступоўца — сарамлівы чалавек, ён адразу не збярэцца з думкамі, будзе мэкаць і бэкаць, і паўстане далёка не такім разумным, як ёсць. Затое на яго фоне вядучы выглядае, нібы Цыцэрон. Калі ж чалавек дастаткова разбітны і ў яго добра падвешаны язык, то яго адказы робяцца звычайнай балбатнёй. У любым выпадку размова заўсёды ідзе ўбок; вядучы застаецца незадаволены сваім суразмоўцам, а запрошаны шкадуе, што не ўсё сказаў, што хацеў. А ўсё таму, што няма логікі перадачы, не выбудавана яе кампазіцыя, не прадумваўся сцэнарый. Усё ж любую сур'ёзную справу неабходна папярэдне абдумаць. Я, скажам, магу прыйсці ў аўдыторыю і на любую тэму гаварыць дзве гадзіны, ні разу не спыніўшыся, прычым так, што думкі будуць натуральна перацякаць адну ў другую шляхам асацыяцый. Студэнты такія лекцыі заўсёды з цікавасцю слухаюць, нават пляскаюць у далоні, але калі бяруцца рыхтавацца да экзамену, аказваецца, што рыхтаваць няма чаго, практычна нічога не запісана, бо запісаць свабодны палёт асацыяцый вельмі складана. Сярод маіх настаўнікаў асобныя выкладчыкі менавіта так чыталі лекцыі. І сама я так умею. Знешне, паўтараю, усё выглядае бліскуча. Але лічу, што гэта прафанацыя выкладчыцкай справы. Кожнае паведамленне павінна быць прадумана — і з усіх бакоў. Выступленне на ТБ перад агромнай аўдыторыяй — такое ж адказнае, як чытанне курса лекцый, і ісці непадрыхтаваным, са спадзяваннем, што язык вывезе, — несумленна і непрафесійна. Ад такога дылетантызму — усе нашы няшчасці. Таму я заўсёды адмаўляюся ад удзелу ў перадачах на ТБ. Зрабіла выключэнне толькі для перадач пра бацьку — дзеля яго памяці. А больш — не, таму што легкадумнасць у падрыхтоўцы адказнай справы мяне абурае.

* * *

Перад тым, як аднесці хвораму родзічу — для падняцця настрою — розныя гумарыстычныя газеты, я прачытала іх сама. Ні разу не засмяялася, хоць вельмі люблю жарты, — наадварот, засумавала. Так стала маркотна! З чалавечай дурасці і пошасці. Гумар прымітыўны, плоскі, у значнай ступені той, што ніжэй пояса, акрамя таго, абавязкова прыпраўлены пэўнай доляй антысемітызму. Гумар ёсць гумар — тут, безумоўна, не абысціся без здзекаў з цешчы, без няверных жонак і падобнае. Але не ў такой жа ступені! Агульнае адчуванне — літаральна агіды ад самой ідэі сям'і, ад жаночай пажаднасці і менавіта жаночага фенаменальнага глупства. Калі чытаць такога кшталту жоўтыя газеткі рэгулярна (што моладзь і робіць), то ўнутранае адмаўленне самой ідэі шлюбу проста не можа не ўзнікнуць.

* * *

Удзельнікі тэлеперадачы «Анекдот. Lad» на канале «Лад» таксама бяруць анекдоты з тых самых выданняў або з Інтэрнэта. Колькі ў апошнім смецця — вядома. Але нават анекдот для дэбілаў з вуснаў добрага расказчыка можа прагучаць смешна. На жаль, мілыя хлопчыкі і дзяўчынкі, — відаць, маладыя артысты, — такімі здольнасцямі не вызначаюцца. Мне, якая шмат разоў чула анекдоты з вуснаў незабыўных Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка і іншых пісьменнікаў (асабліва каларытных — украінскіх), зусім не артыстаў, але выдатных апавя-

дальнікаў, — мне проста шкада маладых выканаўцаў. Ёсць сякія-такія пробліскі, але ў цэлым — вельмі сумная карціна. Дылетантызм — ва ўсім. Адсутнасць індывідуальнай манеры, і такое адчуванне, што ўвесь час удзельнікам перадачы хочацца ўжыць звыклыя для іх словы: «прыкольна», «адпад», «грузіцца» і пад. А вядучая нейкай кулінарнай перадачы менавіта, не саромеючыся, такія словы і ўжывала: «Классно», «Обалденно». Вушы вянуць. Калі ТБ на нашы запытанні адносна беларускасці адказвае пра прыярытэт рускай мовы — так, як быццам, самі гледачы захацелі, — дык хоць «карміце» нас дабраякасным інфармацыйным прадуктам — нармальнай рускай мовай, а не тым слэнгам, які мы чуем пастаянна ад маладых хамаватых вядучых!

* * *

Схема заваявання папулярнасці некаторымі расійскімі тэлеканаламі, тэлекаментатарамі і газетамі бачыцца мне наступным чынам. Спачатку розныя нтв, «мк», «камсамолкі», познеры, сванідзе, пушковы, млечыны, салаўёвы, паўлоўскія, каравулавы гавораць пераважна праўду. Яны сапраўды выдатныя аналітыкі і ў вялікай ступені крытыкі, яны змагаюцца за справядлівасць — высакародныя абаронцы народа! Глядач і чытач захапляецца смеласцю журналістаў. Калі «рыбка» — спажывец СМІ — поўнасцю заглынула «нажыўку», знаходзіцца літаральна пад гіпнозам і абагаўляе свайго куміра, тады апошні пачынае паступова ўліваць атруту. Патроху, але пастаянна. Вось ён ужо і не гуманіст, і не патрыёт, і не змагар за справядлівасць, і зусім не дэмакрат, а — яўна відаць — пошлы абывацель і халтуршчык, але глядач-чытач купіўся і працягвае верыць свайму ідалу. Нарэшце, «усенародныя куміры» даходзяць да суцэльнага нахабства, гвалту над здаровым сэнсам, літаральна фашызму і сатанізму. Але гледачамі ўсё прымаецца на веру, больш таго, з'яўляецца стымулам да дзейнасці. Што і патрабуецца. Прыкладам. Усе памятаюць НТБ у пачатку яго работы. Колькі было захаплення! Чалавек, які глядзеў НТБ, лічыў сябе самым прагрэсіўным, дэмакратычным і правільным. Канал аб'яўляўся ўзорам свабоды, талерантнасці і дэмакратыі. Сапраўды, сякія-такія перадачы ўражвалі. Які ж сёння канал НТБ? Суцэльны крымінал — катаванні, кроў, трупы, сотні забойстваў за дзень ва ўсіх перадачах. Але чалавек ужо прывык глядзець НТБ, без яго не можа. Людзей, асабліва моладзь, тут прывучаюць не цаніць чалавечае жыццё. Гэта акажацца важным тады, калі нас будуць знішчаць мільёнамі, зводзіць пад корань цэлыя народы. Прывучаныя НТБ, пэўнымі літаратурнымі творамі і фільмамі, людзі будуць назіраць за масавымі забойствамі спакойна, пакуль іх саміх гэта не закране… А можа, і адносна сваёй смерці спакойна… Гавораць жа філосафы аб «імкненні да смерці», якое з'явілася раптам у рускага народа. Цікава, адкуль?..

* * *

Рэдактары і пастаянныя аўтары рускамоўнага штотыднёвіка «Секретные исследования», які прэтэндуе на аб'ектыўнасць і навуковасць, з нумара ў нумар праводзяць такога кшталту думку: жыхары Зямлі, нават увогуле ўвесь Сусвет, які бачыцца нам з Зямлі, — не што іншае, як віртуальная рэальнасць, нейкая, тыпу камп'ютэрнай, рэчаіснасць, дзе мы, людзі, як «сімы» з папулярнай гульні, — валодаем некаторай самастойнасцю, але запраграмаваны і выконваем, на самай справе, загады тых, хто намі маніпулюе. Тую ж думку праводзяць знакамітыя кінастужкі кшталту «Матрыцы». Або таямнічыя кругі на палях і НЛА — гэта, паводле журналісцкіх тлумачэнняў, дасціпны жарт тых самых нябачных ігракоў-маніпулятараў, каб паглядзець, як людзі-«сімы» будуць рэагаваць. Што і казаць, прыцягальная для моладзі думка, якая, як быццам, не супярэчыць і рэлігіі, але, на самай справе, поўнасцю прафануе дагмат Бога. І ўвогуле, думка

далёка не бяскрыўдная. Яна прывучае да пераканання, што намі маніпулююць, што чалавек спрадвеку — не свабодны (хоць у рэлігіі якраз надзелены свабодай волі). А наступствы такога ўсеагульнага пераканання няцяжка прадказаць.

* * *

Мяне заўсёды цікавіў гістарычны антураж у мастацкіх творах. Стомленая ад расійскай «чарнухі» ва ўсіх відах мастацтва, ад пастаяннага згадвання пра савецкі таталітарызм, я вырашыла спецыяльна прыгледзецца да характэрных рысак часу ў творах, у той менавіта час і напісаных. Выбрала «Два капітаны» В. Каверына, ведаючы, што пісьменніка любілі лібералы-дэмакраты, але і рускія патрыёты нічога адмоўнага пра яго не пісалі, — задавальняў як быццам усіх; акрамя таго, выявілася настальгія па творах нашай маладосці. Перачытваючы, звярнула ўвагу на такія факты: у Маскве ў пачатку 30-х гадоў поўна кіёскаў для продажу кветак; былі кафэ, у якіх елі марожанае; у госці заяўляліся з тортам і французскім вінам; галоўнай гераіні Каці, калі яна сышла з дому, даволі хутка далі пакой у новым доме (праўда, як геолаг яна знайшла карысныя выкапні); яе родзіч, галоўны адмоўны герой Мікалай Антонавіч, калі стаў доктарам навук, атрымаў чатырохпакаёвую кватэру на двух чалавек на цэнтральнай вуліцы Горкага; у шмат якіх гарадах Савецкага Саюза існавалі спецыяльныя бальніцы для ленінградцаў-блакаднікаў і падобныя рэчы. Не абышоў аўтар і адмоўныя адзнакі часу — страшныя апісанні Ленінградскай блакады, ваенныя сцэны. Інакш кажучы, можна меркаваць, што твор — дастаткова праўдзівы. Нездарма ён карыстаўся каласальнай папулярнасцю ў некалькіх пакаленняў савецкіх чытачоў. Чаму пра яго сёння не гавораць — таксама зразумела. Але я папракнула сама сябе: калі я — я, якая памятае 60-я і нават 50-я гады і якая вельмі скептычна ставіцца да СМІ! — дзіўлюся са звычайных, элементарных прыкмет цывілізаванага грамадства, то як жа глыбока закранула расійская прапаганда мазгі маладых чытачоў, якія ўяўляюць жыццё сваіх бабуль і дзядуль цёмным, змрочным і страшным, пазбаўленым усялякіх звыклых даброт. Так, не было мабільных тэлефонаў і камп'ютэраў, але затое часта хадзілі ў кіно, тэатр і госці, шчыра кахалі і сябравалі, любілі сваю радзіму, жылі шчасліва і весела, хоць і не так камфортна, як мы. Інакш кажучы, у нашай гісторыі ўсё было — пра ўсё трэба і распавядаць.

* * *

Зімою на нашым Вучоным савеце ў БДУ выступаў з дакладам Генеральны дырэктар Сусветнай арганізацыі па інтэлектуальнай уласнасці Камаль Ідрыс. Яго даклад — даволі цікавы, таму што ён гаварыў пра культуру як самы важны капітал. Адносна ж Беларусі дасведчаны, безумоўна, чалавек згадваў пераважна наш фальклор, лічачы яго бясспрэчнай і вельмі дарагой каштоўнасцю. З аднаго боку, гэта было надзвычай прыемна, проста бальзам на сэрца: вось як у свеце цэняць нашу народную культуру! Самі б так цанілі! З другога боку, міжволі мільгала думка, што мы для <u>іх</u> цікавыя толькі вось з такога — з этнаграфічнага — боку. А ў развіцці нашай эканомікі, інавацыйных тэхналогій, адукацыі яны, безумоўна, абсалютна не зацікаўлены.

* * *

З іроніяй, але і са смуткам, назіраю нашых дамарошчаных бюргераў, нашых «гаспадарчыкаў», усіх гэтых гандляроў анучамі, бізнесменаў-рэстаратараў. Яны ўпэўнены, што забяспечылі сябе на ўсё жыццё, ды і дзецям свае рэстаранчыкі-кавярні пакінуць: «Людзей карміць заўсёды будзе патрэба». І лезуць у бюргеры эстрадныя зоркі і тэлевізійныя аглядальнікі, былыя інжынеры і дзеці знакамітых

людзей. Пры гэтым шмат хто працягвае займацца, скажам, мастацтвам. Якія ж майстры на ўсе рукі нашы людзі, як паспяваюць ва ўсіх сферах жыцця!

Але вось што засмучае: няўжо не бачаць разумныя людзі (гэта ўжо без іроніі — сапраўды, разумныя), што агульныя тэндэнцыі ў эканоміцы не на іх карысць? Ды не ў Беларусі, а ў сусветным маштабе. Развіццё ідзе ўбок узбуйнення прадпрыемстваў, убок манапалізацыі. Тут тое ж, што і на ТБ: важна, каб як мага больш прадпрымальных і актыўных людзей «заглынулі нажыўку», а потым іх з усёй імі наладжанай інфраструктурай усё роўна паглынуць. Яшчэ трохі патрымаюць (гадоў пяць-дзесяць), каб захапіліся людзі сваім бізнесам, а затым «прыхлопнуць».

З другога боку, і нам, прафесарам, няма чаго радавацца. І нас чакае такі ж лёс. Нашто трымаць столькі выкладчыкаў, ды і універсітэтаў столькі мецъ? Дастаткова аднаго: для заходняга свету, напрыклад, у Сарбоне ці ў Кембрыджы, для ўсходняга — дзе-небудзь у Варшаве. Усё роўна навучанне будзе дыстанцыйнае. Ды і студэнтаў столькі не плануецца. Ужо сёння нават на Захадзе 80 % «лішніх людзей». Неафіцыйная, безумоўна, статыстыка, але правільная. Глабалістам гэтыя людзі абсалютна непатрэбныя. Пані Тэтчэр, скажам, прама заяўляла, што ў Расіі для абслугоўвання «трубы» дастаткова пакінуць 15 мільёнаў чалавек. «Хопіць і 5—6», — папраўляла яе пані Олбрайт. І што, хіба мы не бачым масавага вымірання рускіх? Беларусаў пакінуць, відаць, тысяч сто — у этнаграфічных рэзервацыях, як амерыканскіх індзейцаў…

* * *

Але магчымы і зусім іншы сцэнарый — незапланаваны ўладарнымі пані, якіх так любілі апошні савецкі і першы расійскі прэзідэнт. Прагрэс навукі няўхільны, яго можна замарудзіць (што і робіцца), але нельга спыніць. У рэшце рэшт, дзякуючы перадавым тэхналогіям, не спатрэбіцца «труба» — энергія будзе танная, з'явяцца іншыя (ды яны ўжо і сёння ёсць) будаўнічыя матэрыялы і метады будаўніцтва, новы, напрыклад, «струнны» транспарт. Не будзе лішніх людзей, хоць з'явіцца шмат «лішняга часу». Будзем займацца навукай, асвойваць космас, акіян і нетры зямлі, вырошчваць сады, вывучаць гісторыю і культуру да драбніц (колькі яшчэ нявывучанага!), аднаўляць культурныя помнікі, скажам, сем антычных «цудаў свету», займацца «эксперыментальнай археалогіяй». І, на самай справе, работы хопіць усім. Тады, у эпоху творчай рэвалюцыі, і наша літаратура ўся спатрэбіцца, усе метафары і прыгожыя параўнанні пойдуць у справу, будуць «працаваць» на лепшае развіццё вобразнага мыслення, прызнанага, нарэшце, найважнейшым. Так будзе.



Вольга КАЗЛОВА

# МОЙ ХРОСНЫ БАЦЬКА

*Слова пра Міхася Рыгоравіча Ларчанку*

Юбілейныя падзеі 85-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў выпускнікоў майго пакалення ўзбударажылі ўспаміны аб маладосці часу ліхалецця Другой сусветнай вайны, выклікалі жаданне яшчэ раз пакланіцца памяці тых, хто даў нам магчымасць вучыцца, працаваць, радавацца жыццю. Мне, філолагу БДУ выпуску 50-х гадоў XX стагоддзя, хочацца схіліць галаву перад хросным навуковым бацькам, доктарам навук, прафесарам, Заслужаным дзеячам навукі, Ларчанкам Міхасём Рыгоравічам і яго аднадумцам-паплечнікам Заслужаным дзеячам навукі, членам-карэспандэнтам АН БССР Гутаравым Іванам Васільевічам, доктарам навук, прафесарам, Заслужаным дзеячам навукі Пшырковым Юліянам Сяргеевічам.

У студзені 1943 года СНК БССР звярнуўся ў СНК СССР з хадайніцтвам: «Улічваючы вялікую патрэбу ў высокакваліфікаваных спецыялістах для аднаўлення народнай гаспадаркі і культуры БССР, ёсць неабходнасць цяпер, у час вайны, аднавіць Беларускі універсітэт, адзіны ў БССР, і сканцэнтраваць вакол якога хаця б асноўную групу навуковых работнікаў універсітэта і іншых ВНУ Беларусі» (Памяць і слава. Белдзяржуніверсітэт у гады Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945. Мінск, БДУ, 2005).

15 мая 1943 года. СНК СССР прыняў пастанову «Аб аднаўленні працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта» і размяшчэнні яго на станцыі Сходня Кастрычніцкай чыгункі, што пад Масквой.

Рэктару Савіцкаму Парфену Пятровічу была даручана справа дзяржаўнай важнасці: у кароткі тэрмін праз сродкі друку абвясціць і тэрмінова сабраць калектыў выкладчыкаў і студэнцкай моладзі. Дзякуючы клопатам урада БССР, матэрыяльнай дапамозе партызанскага беларускага штаба, брацкай падтрымцы Маскоўскага універсітэта імя М. В. Ламаносава і іншых ВНУ сталіцы СССР у кастрычніку 1943 года Белдзяржуніверсітэт атрымаў другое дыханне і распачаў навучальны працэс. Асяродак беларускай інтэлігенцыі ўзначаліў гісторык па адукацыі П. П. Савіцкі. Вызначаўся рэктар разважлівым спакойным характарам, арганізатарскімі здольнасцямі, добрымі ўзаемаадносінамі з калектывам.

Хачу засяродзіць увагу чытачоў часопіса «Полымя», навукоўцаў-філолагаў, бібліёграфаў Белдзярджуніверсітэта, гісторыкаў на асобе прафесара Міхася Рыгоравіча Ларчанкі.

Выхадзец з сялянскай сям'і вёскі Хварасцяны Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці, старшы супрацоўнік Акадэміі навук БССР (1932—41) М. Ларчанка ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны трапіў у Мінску пад шквал варожай бамбёжкі, быў мабілізаваны ў армію, удзельнічаў у франтавых абарончых аперацыях, на Бранскім фронце атрымаў цяжкае раненне і трапіў у шпіталь.

М. Ларчанка падтрымліваў з шпіталя пісьмовую сувязь з Маскоўскім беларускім пастпрэдствам, спадзяваўся атрымаць звесткі пра сям'ю, наладзіць сувязь з роднымі праз партызанскую пошту, адшукаць калег па Акадэміі навук. У пачатку восені 1943 года капітан Савецкай Арміі М. Ларчанка быў адкліканы ў распараджэнне Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, дзе і быў прызначаны на пасаду дэкана філалагічнага факультэта і загадчыка кафедры гісторыі беларускай мовы і літаратуры БДУ. Не залячыўшы франтавое раненне, хаваючы ад студэнтаў пакуты хваробы, горыч цяжкага роздуму аб лёсе сям'і, што засталася на акупіраванай ворагам тэрыторыі, Міхась Рыгоравіч пачаў збіраць пад універсітэцкі Сходнінскі дах філолагаў, раскіданых вайною па тэрыторыі Савецкага Саюза.

У суровую зіму 1943-га нямецка-фашысцкія войскі яшчэ трымаліся за акупіраваныя раёны нашай дзяржавы. Я разам з сяброўкамі — дочкамі партызан Яўгеніяй Васілеўскай (будучым дацэнтам БДУ) і Нінай Ржэўскай (будучым аўтарам школьных падручнікаў) — дабраліся на станцыю Сходня, знайшлі БДУ. У драўляным будынку нас сустрэў дэкан — Міхась Рыгоравіч Ларчанка.

Прыняў нас Міхась Рыгоравіч ветліва, прапанаваў паслугі па афармленні дакументаў на залічэнне ў лік студэнтаў, пазнаёміў з умовамі побыту. Запомніўся яго тэхнічны знешні выгляд. На плечы быў накінуты абкураны вайной шынялёк, з-пад якога выглядала суконная гімнасцёрка з падшытым белым каўнерыкам, а пад сталом, ратуючыся ад холаду, ён шморгаў нагамі ў добра стаптаных, без камандзірскага бляску, ботах. Сваім выглядам дэкан нагадваў службоўца прызыўнога пункта.

У прамёрзлую да іскрыстага ледзянога інею па вуглах сходнінскую аўдыторыю Міхась Рыгоравіч прыходзіў з апошнімі франтавымі навінамі. Гутарку пачынаў з паведамлення аб вайсковых падзеях учарашняга дня, звесткамі з Беларусі.

Ён часта наведваў у Маскве гатэль «Якар», дзе знайшла прытулак беларуская дыяспара. Часова размяшчаліся там партызаны пасля шпіталяў, камандзіровачныя вайскоўцы, пэўны час жылі беларускія пісьменнікі: К. Чорны, П. Глебка, жонка Янкі Купалы — Уладзіслава Францаўна, а з падмаскоўя наведваўся да іх Якуб Колас. Пасля сустрэчы з землякамі Міхась Рыгоравіч дзяліўся са студэнтамі рознымі беларускімі навінамі. Аднойчы прывёз студэнтцы першага курса — дачцэ беларускага пісьменніка Рыгора Мурашкі Ані — радасную вестку пра бацьку, паведаміў, што ён жывы, знаходзіцца сярод падпольшчыкаў Мінска.

Летам 1944 года калектыў універсітэта спецсаставам пад камандаваннем і наглядам студэнта і адначасова выкладчыка ваеннай справы Івана Паўлавіча Мележа вярнуўся ў Мінск, пасяліўся ў адным цэлым будынку — чырвоным фізіка-матэматычным корпусе, які зараз мадэрнізаваны і ў ім размяшчаецца рэктарат. У Мінску мы сустрэлі свята Перамогі. Студэнты рассяліліся па бараках, а заняткі праходзілі ў другую змену ў школьных памяшканнях.

Ларчанка застаўся дэканам філфака. Мяняўся выгляд горада, аблічча жыхароў, якія вытрымалі ліхалецце акупацыі. Міхасю Рыгоравічу пашчасціла адшукаць сям'ю, пабачыцца з роднымі. Праменем радасці свяцілася ўся яго постаць.

Дзявочае філфакаўскае асяроддзе пасляваеннай пары прафесар заварожваў сваёй інтэлігентнасцю. Твар Міхася Рыгоравіча заўсёды ўпрыгожвала лагодная ўсмешка, падсвечаная іскрыстым бляскам цёмных вачэй. Рухі густых броваў вызначалі ўнутраны псіхалагічны стан лектара. Карона пружыністых кучаравых валасоў надавала непаўторнасць яго абліччу. Знешняя далікатнасць была адметнай рысай асобы Ларчанкі. У добра падагнаным цывільным касцюме прафесара асабліва вызначалася мастацкая дэталь — гальштук. Перавагу аддаваў ён узорам саматканых беларускіх паясоў, якія асацыіраваліся са слуцкімі паясамі. Вузел гальштука вывязваўся так, што пад валявым падбародкам прафесара выглядаў ён кветкай нацыянальнага арнаменту.

Былыя студэнткі Л. Карпава, зараз старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры і культуры, прафесар Т. Шамякіна, загадчыца гэтай кафедры, у сваіх успамінах адзначылі, што ў паэтычных уступах перад лекцыямі «вельмі любіў Міхась Рыгоравіч чытаць Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Максіма Танка (ледзь не на кожнай лекцыі чытаў «Ave, Maria»!), М. Лермантава, С. Ясеніна. Чытаў ён выключна — як птушка спявае: адчувалася, што яму гучанне слоў, сказаў прыносіць не толькі эстэтычную, але літаральна фізіялагічную асалоду. Некаторыя фразы вымаўляў асабліва пафасна, выразна — ён вучыў нас правільнаму чытанню, разуменню твораў.

Памятаем, як ён здзівіўся пасля першага верша, што мы не рэагуем, прасіў нас не саромецца (а мы менавіта і не ведалі, ці можна на лекцыі пляскаць у далоні). З таго часу мы нязменна бурна сустракалі кожнае прачытанне — нават ужо і знаёмых твораў. Які ж мудры быў Міхась Рыгоравіч! Нашыя апладысменты — не толькі яму адпачынак, але і нам разрадка, падрыхтоўка да новага ўражання. Міхась Рыгоравіч, відаць, інтуітыўна адчуваў тое, што мы ведаем сёння: пляскание ў далоні — своеасаблівы масаж унутраных органаў, асабліва пэўных участкаў мозгу. Так што

зусім не дарэмна, як часам папракалі Ларчанку, праходзіў час слухання вершаў: у многіх адносінах развіваўся наш мозг. Даючы нам як быццам адпачынак, Міхась Рыгоравіч на самай справе стымуляваў мазгавыя структуры (не кажучы ўжо пра развіццё нашага густу). Ён лічыў, што на лекцыі павінна гучаць жывое паэтычнае слова, асабліва на лекцыі па літаратуры, бо сухіх навуковых звестак, дыскурсаў хапае і ў іншых выкладчыкаў. І мы любілі яго лекцыі, любілі нават проста любавацца яго каларытнай постаццю, жывой мімікай, такой частай мілай ўсмешкай.

Ларчанка размяркоўваў матэрыял лекцыі з улікам актыўнай знешняй рэакцыі слухачоў. Дасягаў яе пафасам ідэйнага зместу, тэмбрам голасу, выразам вачэй, рухамі кусцістых броваў. Пераступаў парог аўдыторыі прафесар Ларчанка, памятаючы народнае блаславенне: «Сустракаюць па адзенні, а праводзяць па розуме».

Маё пакаленне з удзячнасцю захаплялася яго лекцыямі па старажытнай літаратуры і асабліва курсам вуснай народнай творчасці. Тэхнічныя сродкі не існавалі ў тую пару. Прафесар уголас дэманстраваў прыклады амаль усіх мелодый і стыляў твораў вуснай паэтычнай народнай творчасці.

Міхась Рыгоравіч Ларчанка заняў пасаду дэкана філалагічнага факультэта ў 1943 годзе і на працягу 12 год з дапамогай сваіх намеснікаў спакойна, без пугі і тумакоў кіраваў амаль што жаночым калектывам студэнтаў і выкладчыкаў філфака. Ён стварыў маналітную кафедру гісторыі беларускай літаратуры, умацаваў яе маладымі навукоўцамі, якіх выгадаваў у аспірантуры пад сваім наглядам. З блаславення і дзякуючы Міхасю Ларчанку пуцёўку на актыўную навуковую працу атрымалі шэсць дактароў навук і больш як сорак кандыдатаў навук. Кожны з яго хрэснікаў у меру здольнасцей імкнуўся навуковаю працаю пашыраць гарызонт беларускага літаратуразнаўства, фалькларыстыкі, методыкі вышэйшай школы.

Вялікі аванс ад свайго хроснага — Міхася Рыгоравіча — у час вучобы ў аспірантуры (1948—1951) атрымала і я.

Аспірантура пасляваеннай пары мела сваю спецыфіку. За тры гады трэба было здаць дванаццаць экзаменаў і напісаць не менш рэфератаў. Мы налягалі галоўным чынам на выкананне кандыдацкага мінімуму, у тую пару не практыкаваліся навуковыя канферэнцыі, дзе зараз апрабіруюцца дысертацыйныя матэрыялы, у друк трапіць таксама было няпроста. У гэтых умовах Міхась Рыгоравіч лейцы навуковага кіраўніцтва не аслабляў: пасылаў збіраць матэрыял у дзяржаўныя бібліятэкі і архівы Масквы, Ленінграда, Вільнюса, розныя мясціны пісьменнікаў, над творамі якіх працавалі аспіранты, даручаў апрабацыю матэрыялаў Інстытута літаратуры АН БССР па гісторыі беларускай літаратуры, патрабаваў абавязковага прачытання мінімуму лекцый для студэнтаў і цікавіўся рэакцыяй аўдыторыі на лектарскае майстэрства выкладчыка, прыцягваў да ўдзелу ў грамадскай і выхаваўчай рабоце, у творчым жыцці Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Для дысертацыйнай тэмы Міхась Рыгоравіч прапанаваў мне разгледзець праблематыку аповесцей Якуба Коласа 20-х гадоў «У палескай глушы» (1922) і «У глыбі Палесся» (1927). Прафесар БДУ А. Вазнясенскі зрабіў першы навуковы аналіз гэтых твораў. У 20-я гады да аповесцей звярталіся М. Гарэцкі, Я. Карскі, М. Янчук і інш. Але літаратуразнаўчае рэха аб гэтых творах заглушылі нацдэмаўскія галасы, якія адшукалі ў аповесцях уласніцкія настроі, народніцкія ідэі. Час развіцця таталітарысцкіх тэндэнцый, падзеі вайны адтэрмінавалі на доўгія гады літаратуразнаўчы аналіз твораў, выданне тэксту палескіх аповесцей Якуба Коласа.

Міхась Рыгоравіч пры выбары тэмы для маёй працы кіраваўся высакароднай думкай — вярнуць гэтыя празаічныя творы Якуба Коласа ў рэчышча беларускай літаратуры, надаць ім законнае права заняць сваё месца ў праграмах сярэдніх школ і ВНУ, у жыцці грамадства, у лёсе беларускай інтэлігенцыі. Пад уплывам уласных навуковых думак і парад кіраўніка, падбадзёраная распачатай пісьменнікам працай над трэцяй часткай трылогіі «На ростанях», я ў 1953 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю. Выйшла на літаратуразнаўчы шлях дзякуючы сваім настаўнікам: М. Ларчанку, І. Гутараву, Ю. Пшыркову. Ад М. Жыркевіча атрымала блаславенне на педагагічную працу ў ВНУ.



*Пасяджэнне кафедры гісторыі беларускай літаратуры філфака БДУ. Справа налева першы рад: П. Глебка, В. Казлова, М. Ларчанка, П. Броўка, Д. Багрова, І. Мележ. У другім радзе стаяць: А. Лойка, І. Навуменка, К. Крапіва, Н. Гілевіч. 1955 г.*

У 1951 годзе пасля майго залічэння на пасаду выкладчыка кафедры гісторыі беларускай літаратуры Міхась Рыгоравіч адразу пусціў мяне ў самастойнае выкладчыцкае «плаванне». Ні кролем, ні брасам я яшчэ не валодала. Было боязна заходзіць у аўдыторыю, якую запоўнілі студэнты, — былыя франтавікі, партызаны, прататыпы тагачасных твораў пра Вялікую Айчынную вайну. Многія з іх былі старэйшыя і па вопыце жыцця багацейшыя за выкладчыцу. Давер Міхася Рыгоравіча, аптымістычнае яго бласлаўленне і смеласць маладосці дазволілі за кароткі тэрмін лекцыйна асвоіць пэўныя перыяды гісторыі беларускай літаратуры.

Пры распрацоўцы самастойных курсаў лекцый я актыўна выкарыстоўвала навуковыя працы М. Ларчанкі: «Творчасць Максіма Багдановіча» (1949), «Па шляху рэалізму» (1958), «На шляхах да рэалізму» (1959), яго матэрыялы ў «Нарысах гісторыі беларускай літаратуры» (1959), у падручніку «Старажытная беларуская літаратура» (1968). Вялікай тэарэтычнай і практычнай асновай пры вызначэнні праблемных спецкурсаў і спецсемінараў былі яго манаграфіі: «Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XX стагоддзя (1958), «Славянская супольнасць» (1963), «Яднанне братніх літаратур» (1974) і інш.

Даследчыя навуковыя працы М. Ларчанкі савецкага перыяду ў наш час набываюць новае значэнне. Яны з'яўляюцца своеасаблівым гістарычным ліхтарыкам, які падсвечвае шлях яднання славянскіх народаў, кідае прамень у яго гуманістычна-дэмакратычную будучыню.

Народнасць і гуманізм светапогляду, энцыклапедычнасць ведаў выклікалі ў студэнтаў і выкладчыкаў захапленне і чалавечую любоў да дэкана.

Міхась Рыгоравіч выдатна спалучаў навуковую і педагагічную працу. Навучанне і выхаванне ў яго струменілі адным рэчышчам, у адным ключы. Сведчаннем можа быць яго роля ў прызначэнні і выкрышталізацыі Купалаўскага свята ў Вязынцы. Падрыхтоўкай да фэсту займаўся ўвесь факультэт на чале з камсамольскім, прафсаюзным, партыйнымі камітэтамі. У гэтай жа звязцы дзейнічалі намеснікі дэкана Р. Булацкі, У. Лазоўскі і М. Піпчанка. Узначальваў рэй дэкан факультэта. У час свята выкарыстоўвалі шматлікія народныя традыцыі і абрады. Так, з хлебам-караваем і соллю на нацыянальным ручніку сустракалі шаноўных гасцей — радню народнага песняра, пляменніцу Раманоўскую Ядвігу Юліянаўну, дырэктара Музея Янкі Купалы Дапкюнас Жанну Казіміраўну і інш. Жаданымі гасцямі былі пісьменнікі, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі рэктарата на чале з рэктарам. Гасцей ушаноўвалі павязаннем купалаўскіх юбілейных касыначак-гальштукаў. Дзяўчаты пускалі па вадзе рачулкі сімвалічныя вяночкі, а вечарам каля начнога вогнішча ачышчаліся ад «грахоў». Фактычна студэнты на свяце здавалі практычны экзамен па курсе «Вуснай

народнай творчасці» выкладчыкам М. Ларчанку, В. Захаравай, Н. Гілевічу, Р. Кавалёвай. Паразуменне М. Ларчанкі з моладдзю ўпрыгожвала ўсе святы факультэта, у тым ліку і інтэрнацкія студэнцкія вяселлі, куды дэкана М. Ларчанку і сакратара партбюро В. Захараву запрашалі заняць месца пасажоных бацькоў, і выконвалі яны гэту ролю ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі народнага абрада вяселля, якому Вера Анісімаўна прысвяціла шматлікія працы і манаграфію «Палескае вяселле» (1984).

Ларчанка падтрымаў ідэю выкладчыкаў — купіць у складчыну баян для мастацкай самадзейнасці факультэта, разам клапаціліся аб студэнтах, так званых «бязбацькавічах», стукаліся ў дзверы высокіх дзяржаўных устаноў па аднаразовую матэрыяльную дапамогу.

Першае паэтычнае філфакаўскае аб'яднанне «Узлёт» — дзецішча загадчыка кафедры гісторыі беларускай літаратуры Ларчанкі. Шматлікім сучасным народным, вядомым членам Саюза пісьменнікаў Беларусі — выхаванцам філфака — Міхась Рыгоравіч пракладваў сцежку да творчых вышыняў, ганарыўся іх поспехамі, а кафедральным выкладчыкам — членам Саюза пісьменнікаў — ствараў умовы для творчай працы. Прафесар А. Лойка працягваў добрую справу настаўніка, падрыхтаваў некалькі зборнікаў філфакаўскіх узлётаўцаў. Сярод выхаванцаў Міхася Рыгоравіча лаўрэат Ленінскай прэміі пісьменнік Іван Мележ, кагорта народных пісьменнікаў Беларусі, Заслужаных дзеячаў навукі, культуры, мастацтва, лаўрэатаў дзяржаўнай прэміі СССР і БССР.

Загадчыку было спакойна за творчае спалучэнне ў маёй працы навучання з выхаваўчым працэсам. Пры праверцы любой камісіі (а яны былі шматлікія) у сваіх справаздачах ён спасылаўся на прыклады з маёй працы.

Я імкнулася быць годнай выхаванкай ларчанкаўскай навукова-педагагічнай школы. У адпаведнасці з грамадска-палітычнымі патрабаваннямі часу, ідэалогіяй дзяржавы намагалася трымаць пастаянныя кантакты з моладдзю. Не шкадавала часу, энергіі для куратарскай работы, індывідуальнага апякунства студэнтамі, якія жылі ў інтэрнаце, шукала спецыяльныя фонды для падтрымкі іх матэрыяльнага становішча. Звярталася за дапамогай да фонду Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў.

М. Ларчанка спрыяльна адгукнуўся на рух студэнцкіх будаўнічых атрадаў. Дазволіў датэрміновую здачу экзаменаў, спускаў на тармазах патрабаванні да іх, сачыў за прызначэннем камандзіраў будатрадаў. Звычайна ўзначальвалі іх камсамольскія важакі, такія, як Люда Агароднік, Міша Круталевіч, Таня Сочанка, Міша Ціцянкоў, Мікалай Кныш, Мікалай Прыгодзіч, якія быў адзначаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, Ася Надольская медалём. Будатрадаўцы — выхаванцы М. Ларчанкі — паспяхова працуюць зараз на адказных дзяржаўных пасадах.



*Салігорск. Справа налева: А. Лойка, Л. Тарасюк, К. Хромчанка, Л. Ламека, М. Ларчанка, Р. Семашкевіч, В. Казлова, М. Яфімава, У. Навумовіч сярод шахцёраў.*



*Купалаўскі студэнцкі злёт у Вязынцы. 1975 г.*

З часу заснавання філфакаўскага будаўнічага атрада імя Героя Савецкага Саюза Васіля Іванавіча Казлова свой філфакаўскі лёс я цесна перапляла з яго інтарэсамі, дапамагала замацоўвацца на перспектыўныя для заробку будоўлі рэспублікі, уплывала на паваротлівасць мясцовай адміністрацыі, забяспечвала дэманстрацыйнымі матэрыяламі для культурна-масавай работы сярод насельніцтва. Для сведчання нашых шчырых узаемаадносін спашлюся на адзін з лістоў будатрадаўцаў:

«*Паважаная наша Вольга Васільеўна, дзень добры!*

З самымі найлепшымі пажаданнямі і гарачым прывітаннем да Вас звяртаемся мы, 27 Вашых дзяцей.

Любая Вольга Васільеўна, вялікі дзякуй Вам за здымкі. Мы сардэчна ўдзячны Вам за цудоўныя сюрпрызы, якія камандзір уручыла нам на лінейцы. Гэта былі самыя смачныя цукеркі на зямлі! Яны данеслі да нас агеньчык цяпла Вашай крыштальнай душы, надалі нам сілы. Мы часта ўспамінаем Вас, Вольга Васільеўна. Вы для нас былі б самым дарагім госцем. Прыязджайце да нас. Чакаем!

Мы жывём добра. Дзень працуем, вечарам адпачываем. Валейбол, футбол, агляд мастацкай самадзейнасці, «аўтарскія вечары» нашых «артыстаў», кіно — вось чым займаемся.

А колькі розных прыгод! Пра ўсё ў пісьме ніколі не напішаш. Мы, калі сустрэнемся, пра ўсё раскажам Вам, добра? І пра калабояў, і пра брыгаду Сашы Макарэвіча, і пра Вясёлую армію Кучаравага Апалона, ці, як яна яшчэ называецца, брыгада «Іван ды Мар'я», а таксама пра нашых дзяўчатак, што кожны дзень кормяць нас снеданнем, абедам, вячэрай, частуюць блінамі.

Вольга Васільеўна, прыязджайце, калі зможаце. Вы самі ўбачыце, як мы ўладкаваліся (гэта нельга апісаць нават у казцы!), як жывём, чым займаемся; як загарэлі; сталі мацнейшымі, прыгажэйшымі.

Жадаем Вам самых вялікіх поспехаў, моцнага здароўя, шчасця і вечнай маладосці. Шчыра абдымаем, моцна цалуем. Вашы 27.

Наш адрас: 247311, Гомельская вобл.,
Акцябрскі р-н,
в. Раманішчы,
СБА ім. В.І. Казлова».

Кафедра пачала практыкаваць выязныя сумесныя з педагагічнымі калектывамі школ рэспублікі паседжанні, «круглыя сталы», сустрэчы. Мы ўмацоўвалі сувязь

са сваімі выпускнікамі, аказвалі метадычную дапамогу, знаёмілі моладзь з нашымі літаратурнымі сіламі, уласнымі вачамі і вушамі, душой і сэрцам спасцігалі жыццё рэгіёнаў рэспублікі.

У 1960 годзе група выкладчыкаў кафедры ў складзе М. Ларчанкі, В. Навумовіча, А. Лойкі, Р. Семашкевіча, К. Хромчанкі, Л. Тарасюк, Л. Ламекі, М. Яфімавай пабывала ў Салігорску. Старшыня гарвыканкама М. Яфімчык параіў наведаць школу № 5, дырэктарам якой быў ветэран вайны Г. Завадэўкін.

Пасля гутарак з настаўнікамі, вучнямі, наведвання ўрокаў мы ў сваёй заключнай гутарцы ў райана адзначылі прафесіяналізм прадметнікаў, а філолагаў асабліва, змястоўнасць і нагляднасць метадычных распрацовак у прадметных кабінетах, багаты наглядны матэрыял для міжпрадметных сувязяў, размешчаны ў выдатным школьным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Уразіла ідэйная задума мемарыяльнага школьнага саду-кветніка, прысвечаная памяці ўдзельнікаў партызанскага руху ў Беларусі часу вайны 1941—1945 гадоў. Сувязь кафедры з школай прадаўжаецца. Плённа ўплывала на гэту дружбу намесніца загадчыцы гарана, былая вучаніца Міхася Рыгоравіча Тамара Карняйчук.

У час святкавання 60-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, у 2005 годзе школе № 5 было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, арганізатара партызанскага руху на Беларусі Казлова Васіля Іванавіча. Дзякуючы завучу школы Ніле Лялькінай, жонцы галоўнага маркшэйдэра калійнага камбіната, мы атрымалі дазвол на падземную салігорскую экскурсію, убачылі прыгажосць саляных шахтаў-палацаў, падыхалі соллю і ўмыліся яе парай. Міхась Рыгоравіч першы праклаў шлях да камбайна і ўзяў інтэрв’ю ў шахцёра.

Паездка ў Салігорск стала для мяне вандроўкай у дзяцінства. У 1933 годзе ў вёсцы Міцявічы, якая ў 50-я злілася з горадам, я пайшла ў першы клас. Праз 30 год сустрэлася з першымі сваімі настаўніцамі Анастасіяй Іванаўнай Маталыцкай і Марыяй Максімаўнай Чарэўкай. Дачка Маталыцкай — вядомая настаўніца Людміла Бысік у сваю чаргу ў Салігорску гасцінна сустракала філфакаўскіх выкладчыкаў. Міхась Рыгоравіч спакойна адпраўляў студэнтаў на педагагічную практыку ў Мінскую сярэднюю школу № 44, дзе працавала выдатны настаўнік-метадыст рэспублікі Л. Бысік.

Членам кафедры імпанавала рашэнне Міхася Рыгоравіча даверыць прафесійную падрыхтоўку сына Уладзіміра калектыву філалагічнага факультэта. Лёс дзяцей,



*Пасяджэнне кафедры. Філфак БДУ. 1975 г.*



*Ветэраны філфака. Сядзяць, справа налева: Т. Мартынюк, В. Цімафеева, М. Ларчанка, В. Захарава, П. Шуба; стаяць, справа налева: Р. Брагін, І. Карабань, Л. Варанкоў, Л. Кароткая, С. Лысенка, Д. Сіненка, М. Пінчанка.*

якія трапілі ва ўстановы, дзе кіраўнікамі былі іх бацькі, — вельмі складаны... Знешнасцю і характарам Валодзя быў падобны да бацькі. Сярод студэнтаў карыстаўся даверам, павагаю, не злоўжываў блізкім сваяцтвам з дэканам. Міхась Рыгоравіч скіраваў старэйшага сына ў рэчышча літаратуразнаўства, нацэліў на карпатлівую працу даследчыка-тэкстолага. У падрыхтоўцы выдання шматлікіх прац Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук ён добрасумленна працаваў усё сваё жыццё. Малодшаму сыну, Барысу, бацька пажадаў поспеху на архітэктурнай пляцоўцы пасляваеннай Савецкай Беларусі. Барыс удзельнічаў у шматлікіх конкурсах, меў свой непаўторны архітэктурны стыль. У архітэктурным вырашэнні першай падземнай ніткі метро Мінска Барыс пакінуў значны след. Архітэктурным дзецішчам Барыса Ларчанкі з'яўляецца станцыя метро «Плошча Перамогі», аэрапорт № 2 і інш. У сям'і Ларчанкі, як і на факультэце, жыла згода і сціпласць. Утварала сямейны лад жонка Міхася Рыгоравіча — Вольга Уладзіміраўна, былая настаўніца матэматыкі. Дабратворны ўплыў спакойнай, разважлівай, сціплай жанчыны адчуваўся ў лёсе мужа, дзяцей і ўнукаў.

Міхась Рыгоравіч Ларчанка, гуманіст-вучоны, Богам быў прызначаны для мірнай працы. Ларчанка пасля абароны кандыдацкай і доктарскай дысертацыі актуалізаваў ідэю славянскай міжлітаратурнай супольнасці, прысвяціў сябе распрацоўцы пластоў нацыянальнай літаратуры ў манаграфіях «На шляху да рэалізму», «Па шляхах рэалізму» і іншых даследаваннях, узгадаваў не адно пакаленне літаратуразнаўцаў, крытыкаў, настаўнікаў. Аб усім гэтым хроснікі Ларчанкі расказваюць студэнтам на канферэнцыях, прысвечаных яго навуковай дзейнасці, выкарыстоўваюць працы даследчыка ў курсавых, дыпломных, дысертацыйных работах. У аўдыторыі імя Міхася Рыгоравіча Ларчанкі нараджаюцца новыя кандыдаты і дактары навук.

Дзякуй, дарагі хросны, «за хлеб насущный»!



**Генадзь ПРАНЕВІЧ**

# ПОРУЧ З КАЛЕСНІКАМ

## *Хроніка апошняга дзесяцігоддзя*

— Едзь! Ён цябе палюбіць!.. — падбадзёрваў мяне перад вяртаннем у Брэст мой навуковы кіраўнік Алег Антонавіч Лойка. «Ён» — гэта Уладзімір Калеснік, тадышні загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута, на якой я меркаваў працаваць пасля заканчэння аспірантуры пры Белдзяржуніверсітэце.

Здавалася б, трэба было радавацца. Чакаў родны горад, сям'я, ды і працу ў інстытуце мне абяцалі. Аднак настрой быў не з лепшых: адчуваў сябе, хутчэй, на шчыце, чым са шчытом. За спіной універсітэт, служба «двухгадзічнікам» у Савецкай Арміі, праца намеснікам дырэктара ў прафтэхвучылішчы, пасля — у апараце гаркама партыі. І вось па ўласнай волі, ва ўзросце Хрыста трэба было пачынаць усё спачатку. Асістэнтам. З зарплатай у 125 рублёў, ды яшчэ пасля трохгадовых аспіранцкіх 100... З няпэўнай перспектывай абароны кандыдацкай дысертацыі, якая здавалася мне недасканалай і незавершанай, бо ў душы я адчуваў агромністы патэнцыял і важнасць для літаратуразнаўчай навукі абранай мною тэмы, якая палягала на сувязях класічнай паэзіі Янкі Купалы з традыцыямі літаратуры беларускага Сярэднявечча і патрабавала, ні больш ні менш, як стварэння цэласнай канцэпцыі пераходнага перыяду ад старой да новай літаратуры. І вось гэтай-то маёй звышзадачы не разумеў, бадай што, ніхто, акрамя Алега Антонавіча, які ўвесь час падтрымліваў мяне і верыў, што задуманае мне па сілах.

Цяпер, пасля ад'езду з Мінска, я губляў гэтую падтрымку і мог спадзявацца толькі на самога сябе...

Імя Уладзіміра Калесніка, пад кіраўніцтвам якога я мусіў быў распачынаць свой новы жыццёвы круг, было вядомае мне, можа, яшчэ з таго часу, калі семнаццацігадовым юнаком прыносіў свае вершаваныя спробы ў рэдакцыю газеты «Заря», дзе тады працаваў літкансультантам Міхась Рудкоўскі. І той настойліва раіў мне наведваць літаратурныя серады, якія праводзіў тады Уладзімір Андрэевіч. Пазней, будучы студэнтам-філолагам, а пасля аспірантам БДУ, чытаў яго важнейшыя працы і грунтоўныя навуковыя артыкулы ў сталічных часопісах. Аднойчы нават размаўляў з ім па нейкіх грамадскіх справах па тэлефоне. Аднак пабачыць і пазнаёміцца з ім асабіста давялося толькі ў канцы 1983 года, калі я быў прыняты на працу.

З таго першага знаёмства засталіся ў памяці няёмкасць і разгубленасць першага прыходу на кафедру. Сёння гэта можа падацца дзіўным, але я не ведаў Калесніка ў твар і сярод двух найбольш падыходзячых па ўзросце лабастых, з залысінамі на ўсю галаву, мужчын (гэта былі У. А. Калеснік і А. А. Майсейчык) не мог вызначыць, хто з іх У. Калеснік, аж пакуль адзін з іх не заняў за сталом належнае яму месца загадчыка кафедры. Здзівіла суровая і нават некалькі прыгнечаная атмасфера пасяджэння кафедры — нібы гэта засядаў перад важнай аперацыяй штаб партызанскага атрада: твары выкладчыкаў былі напружаныя, яны яўна хваляваліся, робячы справаздачы ці выказваючыся. Кідалася ў вочы, што аўтарытэт Уладзіміра Андрэевіча быў тут не проста высокі, але бясспрэчны і нават безагаворачны. Яркая партызанская біяграфія, салідныя навуковыя і пісьменніцкія здабыткі, маштаб асобы і таленту, відочныя лідэрскія якасці, нарэшце, прынцыповасць і патраба-

вальнасць не толькі забяспечвалі яму асаблівае, выдатнае месца на кафедры і ва ўсім інстытуце, але і стваралі пэўную дыстанцыю паміж ім і астатняю часткаю кафедры. І часта ў гэтых «зазорах» не толькі іскрыла, але і грымела... І ўсім было зразумела, хто тут гаспадар. Так што, калі б Уладзімір Андрэевіч хацеў зрабіць пэўнае ўражанне на навабранца, дык задумка яму яўна ўдалася — эффект быў поўны! Прывыклы да больш свабодных каляжанскіх і нават сяброўскіх дачыненняў на сталічнай кафедры, дзе працавалі тады А. Лойка, Н. Гілевіч, С. Александровіч, Дз. Бугаёў, В. Рагойша, В. Казлова, К. Хромчанка, Р. Семашкевіч, Л. Тарасюк і інш., дзе знакамітасць, што называецца, церлася аб знакамітасць, я быў яўна ўзрушаны кантрастам...

Кафедра закончылася... Усё астатняе працякала звычайна і, бадай што, банальна: супакоены, размерваючы словы і неяк нават будзённа, Уладзімір Андрэевіч пацікавіўся тэмай, абмеркавалі нагрузку... Зблізку, сам-насам, гэта быў звычайны і просты чалавек, няспешны ў рухах і гаворцы, з адкрытым і прамым позіркам. Запомніліся яго выразны, як з-пад разца скульптара, твар, напружаны, «мысліцельны» лоб і дзівосныя, колеру чырванаватай алівы, глыбокія і ўважлівыя вочы.

Па часе адкрылася мне ў ім і іншае: пры ўладным, строга дзелавым і прынцыповым (без панібрацтва і ўсякіх інтэлігенцкіх «штучак») стылі кіравання кафедрай як загадчык ён быў яе сапраўдным лакаматывам, ствараў і ўсяляк падтрымліваў сярод калег па працы атмасферу навуковага пошуку, цаніў арыгінальнасць, заахвочваў навуковыя дыскусіі і сам быў яркім палемістам. Кожны мог свабодна і прынцыпова выказацца па любой навуковай праблеме, працах, што з'яўляліся ў рэспубліканскім друку, рыхтаваліся на кафедры і інш. Часта пад агонь хатняй кафедральнай крытыкі «падстаўляўся» і сам загадчык, выносячы на абмеркаванне свае кнігі і артыкулы, аб якіх хацеў пачуць староннюю думку, выверыць пазіцыю. І трэба сказаць, што такія абмеркаванні не былі ў нас на кафедры фармальнымі, а сам ініцыятар успрымаў іх чула і, думаю, не без карысці... Танная камплiментарнасць, шырока распаўсюджаная ў навуковых асяродках, была тут не ў пашане...

Між тым мае адносіны з Уладзімірам Андрэевічам складваліся пакуль што няроўна, ішла, што называецца, «прыцірка»... Ён прыхільна ставіўся да маёй працы як выкладчыка. Наведаўшы аднойчы лекцыю, напрарочыў мне будучыню харошага лектара і больш ніколі не прыходзіў з кантрольным наведваннем. У той жа час пабурквaў на маю няўступлівасць у палеміцы і звычку прыходзіць на пасяджэнні кафедры, што называецца, «пад абрэз». Прычым артыкуляваў гэтае сваё незадавальненне так ярка і вобразна, што я, успамінаючы ўсё гэта сёння, не магу не ўсміхнуцца яму туды, насустрач: «апошняе слова павінна быць за ім...», «гэты не недасоліць і не перасоліць...»

Пакуль што прагноз Алега Антонавіча «на любоў» не вельмі апраўдваўся і нават зрэдку вываротваўся для мяне аўчынкай: ці то я паводзіў сябе залішне самастойна і незалежна, што магло ўспрымацца ім як парушэнне субардынацыі, а можа, і як зазнайства звычайнага «выскачкі» з партыйнага асяроддзя, якіх па тадышняй завядзёнцы пасылалі на вытворчасць, у міліцыю, ва ўстановы адукацыі і культуры дзеля кар'ернага росту і ўмацавання, так сказаць, кіруючай ролі партыі... Ці нешта іншае, не ведаю: чалавек жа не бачыць сябе збоку, толькі знутры...

Неўзабаве гэтае непаразуменне вылілася ў недарэчны і зусім неабавязковы канфлікт. Восенню 1984 года ў Доме літаратара праходзіла вечарына, прысвечаная, здаецца, Валянціну Таўлаю, якую вёў Уладзімір Андрэевіч. Напярэдадні мы дамовіліся па тэлефоне з Алегам Антонавічам, які таксама павінен быў там прысутнічаць, аб сустрэчы, каб абмеркаваць пытанні, звязаныя з маёй працай. І я прыехаў у Мінск. Вечарына, што называецца, удалася. Калеснік выглядаў трыумфатарам. Да яго падыходзілі і падыходзілі людзі... Мне таксама хацелася падысці і павіншаваць яго з удалым выступленнем і поспехам мерапрыемства, аднак

перарываць гаворку лічыў непрыстойным і чакаў. Ён гэта добра бачыў і пры гаворцы раз-пораз паглядаў на мяне. Размовы зацягваліся. Алег Антонавіч даўно стаяў апрануты, і я мусіў рабіць выбар — часу на кансультацыю і да цягніка заставалася няшмат...

Назаўтра выпадкова сустрэліся на калідоры. Каляснік быў яўна раздражнёны і бліскаў вачыма. Прычына знайшлася імгненна:

— Чаму паехаў без дазволу?



*Уладзімір Калеснік з жонкай Зосяй Міхайлаўнай. Над Добраччу.*

У запале выгаварылася і галоўнае:

— Бач, які пан! Пачакаць не можа!

Я здзіўлена і моўчкі пазіраў на яго. Сказаў толькі з горыччу:

— Вось так са мною заўсёды, пакуль людзі мяне не ведаюць...

Ён неяк адразу аціх і сумеўся.

Дзіўна, але нейкай асаблівай крыўды, тым больш страху ад гэтага нечаканага гарачлівага «наезду» я не адчуваў. Можа, таму, што і сам Калеснік, і тое, як ён злаваўся, што гаварыў, былі нейкімі вельмі ўжо свойскімі, знаёмымі з маленства, ад бацькоў, а ад таго — нябоязнымі і нават смешнымі. Як гэта бывае, калі дзеці ўжо павырасталі:

— Ну-ну, няхай пакрычыць, з хаты не выганіць!..

Жыццё працягвалася... Адно было мне зразумела: быў гэта не бюракратычны канфлікт начальніка і падначаленага, а, хутчэй, канфлікт бацькоў і дзяцей, канфлікт характараў і абставін, дзе перамога аднаго была б паражэннем абодвух...

Уладзімір Андрэевіч быў чалавекам аскетычным, апантаным працай, з моцным унутраным самакантролем у дачыненні да ўсяго, што датычылася навуковых і творчых планаў, выканання службовых і грамадскіх абавязкаў. Ён быў заўсёды максімальна адмабілізаваны і сканцэнтраваны на тым, што рабіў і чым займаўся ў дадзены момант. Па-за такім вось ахвярным, насычаным працай, жыццём, не бачыў ні сябе, ні членаў сваёй кафедры: сам быў у цуглях цяжкой, самаахвярнай працы, добраахвотных і афіцыйных абавязкаў і ўсіх прыпрагаў у такі ж самы воз... Нейкіх выключэнняў, саступак не прызнаваў... Доўг і абавязак, як ён іх разумеў, дамінавалі ва ўсіх ягоных учынках. Да гэтага дадаваліся яшчэ і нейкія ўнутраныя, не заўсёды бачныя староннім творчыя імпульсы, уласныя перакананні і прынцыпы, якія вынікалі, відаць, з характару выхавання і асабістага жыццёвага вопыту, так што некаторыя ягоныя ўчынкі і рашэнні не заўсёды можна было правільна зразумець і вытлумачыць.

...Пасля Чарнобыльскай трагедыі жыццёвыя абставіны зусім загналі мяне ў кут: у гэты год сям'я мая падрасла, нарадзілася дачка, даймала пастаяннае безграшоўе, а навуковая праца мая па-ранейшаму «вісела»... Трэба было нешта рабіць. У 1988 годзе я вельмі разлічваў на стажыроўку, якая належала мне пасля пяці гадоў працы, каб папрацаваць у Нацыянальнай бібліятэцы з рэдкімі, недаступнымі ў абласным цэнтры, крыніцамі і матэрыяламі. Уладзімір Андрэевіч, аднак, упарціўся і на стажыроўку чамусьці не згаджаўся. Лічыў тыя стажыроўкі балаўствам, ці што...



*З Янкам Брылём.*

Было крыўдна... Тым больш, што за гэты час паміж намі ўсталяваліся адносіны поўнага даверу і ўзаемнай сімпатыі, якія з пэўнай агаворкай, улічваючы розніцу ва ўзросце і тую натуральную дыстанцыю, якая вынікала з маштабу асобы Уладзіміра Андрэевіча, можна назваць сяброўскімі: збліжалі навуковыя інтарэсы, блізкія падыходы ў ацэнках літаратурных і грамадскіх працэсаў, людзей і з'яў. Мы мелі патрэбу адзін у адным: сустракаючыся на кафедры, у інстытуце, на розных грамадска-культурных мерапрыемствах і прыватных кафедральна-сямейных урачыстасцях, маглі падоўгу гутарыць на самыя розныя тэмы, абменьвацца думкамі і ўражаннямі. Часта гэтыя гаворкі пераносіліся на вуліцу, на кватэру да Уладзіміра Андрэевіча, дзе ён не раз прыязна сустракаў мяне з прыветнай і гасціннай Зосяй Міхайлаўнай.

Таму неразуменне і адсутнасць згоды цяпер кальнулі асабліва балюча... Міжволі, сам таго не жадаючы, я нечакана грукнуў дзвярыма і пайшоў з кафедры...

Пры звычайнай маёй стрыманасці гэта нешта ды значыла. І Калеснік, відаць, зразумеў... Стажыроўку я атрымаў. І ў мінскіх, з пахам «чаромхі», «Дзядах» 30 кастрычніка 1988 г. пахрысціўся, і свой выпакутаваны раздзел пра адраджэнне і радавод Маладой Беларусі ўсё-такі напісаў.

Тыя 1988 і 1989 гг. былі пераломнымі ва ўсіх адносінах. Як ніколі раней, мы пачуліся з Уладзімірам Андрэевічам у адной лодцы. Наколькі хапала сіл, не згаворваючыся, кожны рабіў сваё: канферэнцыі, дыскусіі, сустрэчы ў школах і на прадпрыемствах, «круглыя сталы» і перадачы на тэлебачанні, агітацыя за беларускія класы — усё было кінута на алтар новай, што нараджалася ў пакутах гісторыі, радзімы...

І ён, ужо немалады, пад дышаль загружаны навуковай і літаратурнай працай і рознымі службовымі і грамадскімі абавязкамі, кругом падстаўляў сваё плячо — радзіў, абараняў, дапамагаў, заступаўся...

Ён першы адведаў мяне ў аддзяленні сасудзістай хірургіі абласной бальніцы, куды я нечакана трапіў улетку 1989 года. Сядзеў... Гаварылі... І для мяне гэта было вельмі важна, каб жыць далей...

Яшчэ праз год ён чытаў маю дысертацыю. Спачатку хмурыўся і бурчаў. Пасля другой главы, што пісалася ў Мінску, супакоіўся, а ў выніку на абмеркаванні сказаў, што «работа арыгінальная...» І гэтая ягоная ацэнка акрыляла і дадавала сілы, умацоўвала веру ў сябе. Я і да гэтай пары захоўваю той першы экземпляр з ягонымі паметкамі, заўвагамі, а часам з іранічна-смяшлівымі эмацыянальнымі каментарамі ў адпаведных, відаць, не самых удалых месцах працы: «Кот і сабака!..», «Жук і жаба...».

А сказаць ці, яшчэ дакладней, сказануць Уладзімір Андрэевіч мог! Ох, як мог!.. Гумар, дасціп былі надзвычай каларытнымі рысамі яго натуры, што ішлі ад глыбокага і арыгінальнага розуму, назіральнасці, імгненнай псіхаэмацыянальнай рэакцыі на самую складаную сітуацыю.

Неяк у нас на факультэце выступаў з беларускімі песнямі адзін малады, але папулярны ўжо спявак. Голас ён меў цудоўны і поспех у аўдыторыі — адпаведны. Усцешаны Уладзімір Андрэевіч запрасіў яго разам з арганізатарамі праграмы да сябе ў госці. Атмасфера вечара была прыўзнятая і радасная: гучалі песні, жарты, красамоўныя тосты... І тут разамлелы ад увагі і выпіўкі госць, відаць, страціў самакантроль і незаўважна перайшоў мяжу дазволенага. Убачыўшы на сцяне цудоўныя пейзажы, выкананыя гаспадаром, пахваліў і нечакана выказаў жаданне іх купіць...

Узнікла няёмкая паўза... І тут прагучаў спакойны і далікатна-ўсмешлівы голас Уладзіміра Андрэевіча: «Вы ведаеце, я ўсе свае карціны лічу незакончанымі...»

Ён быў лідэрам ва ўсім — у малым і вялікім, у аўдыторыі і дома, нават калі лавіў рыбу і збіраў грыбы. Ніякае іншае месца, акрамя першага, яго не задавальняла. Выслоўе «лепей быць першым на вёсцы, чым другім у Рыме» — гэта пра яго...

Помню, паехалі аднойчы ў грыбы на ягоным легендарным чырвоным «Масквічы-407». Здаецца, учатырох: ён, вядома ж, за рулём, нашы выкладчыкі Мікола Аляхновіч, Уладзімір Сенькавец і я, хто дзе, — у карэце. Добра пахадзілі... Уладзімір Андрэевіч прыстойна такі назбіраў. Ідзе задаволены, у кошычку акуратна падрэзаныя, падчышчаныя баравічкі бялеюцца... Падцягваемся да машыны, каб ехаць дадому, бо змяркацца пачало. І раптам, ідучы следам за Калеснікам ужо да машыны, пачынаю падымаць (за ім!) баравік за баравіком, адзін прыгажэйшы за другі, ды яшчэ радасна дэманстраваць свае знаходкі...

Гляджу: Уладзімір Андрэевіч зноў пашыўся ў лясны буралом!..

Добра, што сцямнела...

Цярпець не мог розныя «бабскія» (тым больш мужчынскія) плёткі-сплёткі, калянавуковыя інтрыгі і, асабліва, той стан дробязнага запалу і непамерных жаночых амбіцый, аб якім гавораць: «Ну, усё! Зайшла шляя пад хвост...» Таму і жанчын на кафедру падбіраў з асцярогаю... Да навуковых здабыткаў жаночага полу ставіўся паблажліва. Таму з асаблівым піетэтам вылучаў сярод іх «светлыя галоўкі».

— Разумныя!.. Асабліва гэтыя дзве, — казаў пра Галіну Мікалаеўну Малажай і Веру Якаўлеўну Зарэцкую.

Цаніў у жанчынах розум, але найперш усё ж жаночую красу і абаяльнасць, далікатнасць і інтэлігентнасць. Узорам гэтых якасцей была для Уладзіміра Андрэевіча ягоная жонка Зося Міхайлаўна — жанчына і прыгожая, і разумная, і адданая яму ва ўсіх справах. З асаблівай сімпатыяй ставіўся на факультэце да Ліліі Валер'еўны Асташонак, Станіславы Антонаўны Каралевіч, Марыі Іванаўны Новік.

Быў ён, так бы сказаць, эстэтам ва ўсім і заставаўся такім і ў старасці. Помню, ідучы на ўступныя экзамены, жартаваў:

— Ну, не набяром разумных, дык прыгожых... Каб было на кім воку спыніцца!

Чалавек ён быў патрабавальны, прынцыповы, часам залішне суровы... Але, заўважыўшы ў іншым нейкі талент, нейкую праўду ці іскру, якую той нёс і атуляў у сабе, лагоднеў і дабрэў. Перад бескарыснай красой, адкрытай і шчырай чалавечай душой быў ён безабаронны — адкрываўся і ішоў ёй насустрач, браў пад сваю апеку... Не па абавязку — па сэрцы, па пачуцці натуральнай справядлівасці, па перакананні і веры, што свет павінен быць лепшы, больш дасканалы.

Паводле свайго прызвання Уладзімір Андрэевіч быў літаратурным садоўнікам. Ён меў свой Душэўны Сад, у якім радаваўся кожнаму дрэўцу, даглядаў і песціў кожную дарагую яму былінку. Найперш любіў і атуляў сваёй увагай і клопатам мясцовых гадаванцаў, сваю заходнебеларускую паляну. Уважліва сачыў за публікацыямі членаў кафедры, за кожным маладым літаратурным парасткам, што набіраў сілу...

Зазначу, што не было ў ягоным «садоўніцтве» ні каліва нейкай правінцыйнай абмежаванасці, паблажлівасці да «сваіх» і інш. Наадварот, падцягваў і нацэльваў усю мясцовую навукова-творчую эліту на ўзровень нацыянальны, еўрапейскі. Аднак і ў крыўду не даваў, некваліфікаваных ці беспрынцыпных «наездаў» не дараваў...

Ведаю гэта на ўласным прыкладзе. Калі ў 1985 г. часопіс «Полымя» апублікаваў артыкул адной сталічнай аўтаркі, якая напярэдадні юбілею рабіла агляд друкаванай прадукцыі, прысвечанай скарынаўскай тэматыцы, і, не вельмі клапоцячыся аб фактах і аргументацыі, што называецца, услодыч «праехалася» па публікацыі невядомага ёй маладога аўтара, ён запатрабаваў ад мяне (а гэта была менавіта мая публікацыя) усе зыходныя матэрыялы, уважліва з імі пазнаёміўся. Паставіў на абмеркаванне кафедры падрыхтаваны мною артыкул у адказ, які рыхтаваўся для друку ў «Весніку БДУ», і пазней у адной лімаўскай публікацыі, прысвечанай праблемам сучаснай беларускай крытыкі, згадаў-такі маю крыўдзіцельку, якая, па яго словах, «села ў лужу смешнага», узяўшыся крытыкаваць працу аспіранта.

Крытэрыі праўды і хараства былі для яго не нейкімі ўмоўнымі, адцягненымі літаратуразнаўчымі паняццямі, але рэальнымі жыццёвымі прынцыпамі і перакананнямі, за якімі стаялі жывыя людзі, іх пачуцці, ідэалы, учынкі, паводле якіх ён сам жыў і тварыў... Гэта і надавала яго працам жыццёвую пераканаўчасць і глыбіню, выводзіла сам жанр літаратурна-мастацкай крытыкі, у якім ён працаваў, на стык з публіцыстыкай.

Крытык ён быў адмысловы. Прызначэнне і функцыю гэтага высокага літаратурнага рамяства, якое сам ён узвёў у ранг мастацтва, разумеў глыбока і дасканала. Гэта ад яго, Уладзіміра Андрэевіча Калесніка, я ўпершыню пачуў выказванне, якое прымусіла моцна задумацца: «Сапраўдны крытык не той, што ўмее адрозніць добрае ад кепскага, а той, хто ўмее адрозніць добрае ад выдатнага».

Над працаўнікамі гэтага літаратурнага цэха яго прыўздымала вышыня мысліцеля, які ўспрымаў і ацэньваў літаратуру і яе творцаў найперш з пункту гледжання іх высокай місіі ў грамадстве — як правадыроў, настаўнікаў і заступнікаў свайго народа...

Ён не проста суправаджаў літаратурны працэс, але разведваў для літаратуры новыя шляхі і дарогі, вёў творцаў за сабою, раскрываў перад імі новыя перспектывы і магчымасці.

За выключэннем хіба што М. Багдановіча, я нешта не прыпомню ў гісторыі нашай літаратуры імя якога-небудзь іншага крытыка, якому б каля двух дзесяткаў удзячных паэтаў — ад Уладзіміра Караткевіча да маладой і таленавітай паэткі Святланы Варонік (дарэчы, яго былой студэнткі) — прысвяцілі б свае вершы...

А гэта, згадзіцеся, не абы-якое прызнанне!

Было ў ім нешта маладое, хлапечае, вера ў мужчынскую дружбу, у надзейнае плячо сябра, якому давяраеш, як самому сабе.

На ўсё жыццё ў ім захавалася вынесенае, відаць, з вясковых хлапечых грамад і гімназіі пачуццё таварыскай сябрыны, умацаванае пазней у партызанцы абавязкам вернасці доўгу і ўзаемавыручкі, якія ён цаніў у чалавечых узаемаадносінах найвышэй...

Па-за гэтымі якасцямі і атмасферай ён не мысліў сабе стасункі і супольнае жыццё людзей у калектыве, грамадстве.

Добра помню ягоны гнеў і абурэнне, калі, паехаўшы восенню 1991 года па журавіны на Бабровіцкае возера, мы ўтраіх — Уладзімір Андрэевіч, я і добры знаўца гэтых мясцін, выкладчык нашага інстытута Уладзімір Барысюк — былі бяспечна «забытыя» ў глухім балоце, на другім баку возера, мясцовым рыбаком.

Глынуўшы гарэлкі, той бесклапотна спаў сабе дома, забыўшы і пра абяцанак налавіць свежай рыбы для прыезджых і для іх саміх...

Не было яго ні ў назначаны час — у сем гадзін вечара. Ні ў восем... Адплылі апошнія лодкі з вясковымі жанчынамі, якія ладзілі тут свой журавінавы промы-

сел. І на ўсім агромністым балотным абшары — між лесам, небам і вадою — засталіся мы адны...



*Сустрэча з А. Лойкам у Берасці. 90-я гг.*

У святым няведанні адносна таго, што рыхтуе нам лёс, мы, аднак, асабліва не хваляваліся — мала якая магла быць прычына для затрымкі!.. Ды, шчыра кажучы, й сама душа не адпускала адсюль, як бы хацела ізноў зліцца з прыродай, вярнуцца ў сваю старую калыску з зялёных ельнікаў і хвой, ірдзяна-залацістых клёнаў і рабін, што навісалі над берагамі і адбіваліся ў акварэльна-мяккай і нейкай ласкава-прыветнай азёрнай вадзе...

Стаяла тая пара залатога адцвітання, калі ўсю істоту ахоплівае разлітая ва ўсёй прыродзе нейкая недасягальна высокая і пранізлівая краса, што аддавалася ў сэрцы салодкай тугой развітання — як бы ўсё гэта бачыш і адчуваеш у апошні раз...

Тыя ж пачуцці, здаецца, перажывалі і мае спадарожнікі. Я бачыў гэта па ўлагодненым, задуменна-мройлівым твары Уладзіміра Андрэевіча, сцішанасці звычайна гаваркога і ўважліва-цікаўнага да калег Валодзі Барысюка. Цяпер, чакаючы маторкі і бавячы час у бесклапотным сузіранні навакольнай прыроды, я меў магчымасць неяк пільней прыгледзецца да Уладзіміра Андрэевіча.

Выглядаў ён фацэтна: падцягнуты, па-паходнаму акуратна апрануты, у зухаватай, скошанай крышачку набок, берэтцы а ля камандантэ Чэ Гевара, з доўгім, падобным да кінжала, паляўнічым нажом у скураной похве, прыладжаным да пояса, ён, і сапраўды, нечым нагадваў паўстанца з гор Сьера-Леонэ, што па нейкай неверагоднай траекторыі трапіў у нашэ балатэ...

Словам, каб не банальнае вядро ў руках, напалову напоўненае журавінамі, якое трошкі канспіравала былога партызана, выглядаў ён вельмі па-геройску!.. Было відаць, што рамантыка партызанкі і цяпер, у паважаным ужо ўзросце, не адпускала Уладзіміра Андрэевіча, вяртала яго ў пару адважнай і буянай маладосці...

На жаль, наперадзе нас чакалі не рэвалюцыйны подзвіг і не настальгічныя ўспаміны былога партызана аб гераічных дзеях дзён мінулых. Чытаць бы нам перад гэтай паездкай «Палескіх рабінзонаў» Я. Маўра!..

Выйшлі ўжо ўсе тэрміны чакання, адпушчаныя на магчымыя замінкі і перашкоды, пазбіраны ўсе падбярозавічкі, выяўленыя побач з нашай «стаянкай», у беразнячку, перагавораны звычайныя ў такіх выпадках тэмы, а матарызаванага нашага праваднікa ўсё не было... Цёплы восеньскі надвячорак змяніўся няўтульным вечарам, што няўмольна хіліўся на ноч. Пайшоў дождж, пад нагамі захлюпала...

Такая ж раптоўная перамена адбылалася і ў настроі Уладзіміра Андрэевіча... І тут, каб неяк развеяць няёмкасць і прыкрасць хвіліны, Валодзя Барысюк, які, як ініцыятар паездкі, міжвольна нёс на сабе ўвесь цяжар адказнасці за няўдалае мерапрыемства, падкінуў «тэму»:

— Уладзімір Андрэевіч, раскажыце, як было ў партызанах.

Лепш бы ён гэтага не гаварыў! Гневу Калесніка не было мяжы:

— Ты быў у партызанах? Ты ведаеш, хто такія партызаны!..



*З аўтарам успамінаў. На лецішчы Леснянка.*

Ад Валодзі агонь, як па сухой леташняй траве, перакінуўся далей... Дасталося тут не толькі «евангельскаму рыбаку», які абяцаў забяспечыць нас рыбай, але і жончынай радні Барысюка, якая не трывожыцца і не рупіцца аб «прапаўшых», а ўжо ж цёмна... і павінны ж бачыць, што людзей няма... Без віны вінаваты Валодзя мужна цярпеў, на ўсякі выпадак, бокам, адыходзіўся бліжэй да возера і пільна ўзіраўся ў даль... Вулканічны выкід агню і сажы закончыўся філасофскай сентэнцыяй, з якой вынікала, што ў гэтым аблудным свеце «... лепш жыць аднаму!» Гэта значыць, пакладацца толькі на самога сябе!

Між тым сітуацыя і сапраўды складвалася трагікамічная: з таго берага ніякіх вестак. З гэтага — на 15 кіламетраў навакол — непраходнае пасля дажджу балота.

Зняволеныя на невялікім лапіку больш-менш цвёрдай зямлі перад берагам, пад шатром мокрых дрэў, мы ўсё больш хмурнелі і чуйна ўслухоўваліся ў заціхаючыя гукі жыцця, што зрэдку даносіліся з таго другога, далёкага і нябачнага нам берага возера, дзе тулілася вёска, сілячыся пачуць адтуль такі жаданы стук матора...

Цяпер, з дыстанцыі часу, я ўжо не ведаю, абурацца ці захапляцца нашым «ратавальнікам». Праспаўшыся, а хутчэй за ўсё разбуджаны сярод ночы сваякамі, ён у суцэльнай цемры абсалютна дакладна, як касманаўт, прыстыкаваў свой чаўнок да берага, дзе яго ўжо даўно падчэквалі згаладнелыя і добра такі выматаныя нечаканымі прыгодамі «палескія рабінзоны»...

Ведаючы нораў Уладзіміра Андрэевіча, я асцерагаўся «другой серыі», але порах, відаць, ужо адсырэў... Ды і ўсе мы былі цяпер разам у адной (зусім не сімвалічнай, а рэальнай) лодцы, з нашым яшчэ неацверазелым гора-праваднікам, які, стоячы, як у самнабулічным сне, на самым носе маторкі, гнаў яе некуды ў цемру па адным яму вядомым маршруце...

Хлюпала чорная восеньская вада пад днішчам, мерна гудзеў матор. Усю дарогу назад Калеснік панура і горка маўчаў. Мы сядзелі на карме лодкі плячо ў плячо, і я добра бачыў: Уладзімір Андрэевіч перажываў... За сваю гарачлівасць і нястрыманасць, за нялюдскі свет, у якім разбураюцца нармальныя чалавечыя адносіны — давер, вернасць слову і абавязку. За дарагую сваю палавінку... за Зосю Міхайлаўну, што недзе там, адна дома, трывожыцца і пакутуе ад няведання, што ж магло здарыцца з ім у тых журавінах...

Сын патомнага плытагона, былы камандзір разведкі і начальнік штаба партызанскага атрада, ён ведаў цану чалавечай адказнасці перад іншымі людзьмі...

Лес і пушча, вясковыя дарогі і лясныя аселіцы заўсёды супакойвалі і суцяшалі Уладзіміра Андрэевіча. У такіх вандроўках з ім добра было маўчаць, пера-

жываючы разам красу роднай прыроды, яе краявіды, свабодна пускаючы павады думкам...

На ўлонні прыроды, у лесе беларус — як нідзе — становіцца сам сабою, пазбаўляецца свайго звыклага двайнога дна, раскрываючы душу да самага донца. Не маючы ўласнага Зауралля і Сібіры — як расейцы, задняпроўскіх стэпаў — як украінцы, ці адкрытай у шырокі свет воднай прасторы — як прыбалты, беларус вынайшаў уласны спосаб унутранай эміграцыі і дысідэнцтва. Лес — наш старадаўні схоў і прытулак. Яму давяраем мы свае самыя важныя і патаемныя думкі. Ён — адзіны, хто не здрадзіць і не выдасць...

Можа, гэта толькі мае ўласныя, зусім неабавязковыя фантазіі і прыдумкі... Але здарылася так, што менавіта ў часе лясной вандроўкі, недзе ў канцы чэрвеня ці пачатку ліпеня 1991 года, Уладзімір Андрэевіч і сказаў мне:

— Генадзь, трэба выходзіць з партыі. Партыя не рэфармуецца і тармозіць усякі грамадскі прагрэс...

Сітуацыя і сапраўды даспела... Думка была супольная. Думаю, аднак, што яму, за доўгія гады працы прывыкшаму да партыйнай дысцыпліны і выканання розных партыйных даручэнняў, суроваму крытыку ўсякага роду калабарантаў і перакінчыкаў, нялёгка далося такое радыкальнае рашэнне.

Праўда, здзейсніць гэты грамадзянскі ўчынак не ўдалося. Рух падзей апярэдзіў нашы намеры...

Не забуду 19 жніўня 1991 года. Раніцай, гадзін каля сямі, мяне разбудзіла жонка:

— Генадзь, уставай! У Маскве ваенны пераварот!

Хутка ўскокваю і кідаюся да тэлевізара... Па Маскве, равучы маторамі і лязгаючы гусеніцамі, суцэльным патокам ідуць бранявыя танкавыя калоны. Паказваюць Красную плошчу, кадры пасяджэння ГКЧП. Дыктары зачытваюць пастанову аб увядзенні па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза надзвычайнага становішча...

Ашаломлены ўсім убачаным і пачутым, набіраю кватэру Калеснікаў:

— Уладзімір Андрэевіч! У Маскве пераварот!

Ён яшчэ нічога не ведае... Доўгая, цяжкая паўза... Затым кароткае:

— Генадзь, я табе пазваню...

Пазваніў Уладзімір Андрэевіч на трэці дзень:

— Ну, што ты скажаш? Авантурысты!..

І ні слова пра самае галоўнае: колькі паміж гэтымі двума званкамі было ім перажыта і перадумана... З ягоным-то жыццёвым вопытам і веданнем таго, як гэта магло быць!

Калеснік мяняўся разам з часам. Хоць на пачатку перамен ён у адной літаратурнай анкеце і заяўляў бяспечна, што яму, маўляў, няма патрэбы перабудоўвацца, час і яго вызваляў з абдымкаў таталітарнай ідэалогіі, выводзіў за чырвоныя сцяжкі марксісцка-ленінскай дагматыкі і нарматыўнай эстэтыкі, прыадкрываў дзверы закрытых спецфондаў і спецсховаў, разбураў манаполію на ісціну. І ён чэрпаў з гэтых новых магчымасцей поўнай жменяй...

Той непараўнальны ўзровень творчай свабоды, які ён прадэманстраваў у сваіх апошніх кнігах і публікацыях («Усё чалавечае...», «Доўг памяці», «Менталітэт — птушка крыўдлівая...», у падрыхтаванай да перавыдання галоўнай кнізе жыцця «Ветразі Адысея» і інш.), быў вынікам яго безупыннай працы над сабою, яго абвостранай адказнасці перад жыццём, літаратурай, перад наступнымі пакаленнямі... Але ён і не патураў гэтаму новаму часу, не стараўся патрафляць яму, маючы на ўсё свой уласны, выпакутаваны жыццём і лёсам, погляд, стараючыся, як і раней, зазірнуць за звілістыя павароты сучаснасці — удалячынь... І ў гэтым сэнсе заставаўся самім сабою — Калеснікам!

У тым апошнім для яго 1994 годзе, пры падзеле былой кафедры беларускай літаратуры на дзве, менавіта ён, Уладзімір Андрэевіч, зусім нечакана для мяне прапанаваў маю кандыдатуру на загадванне кафедрай беларускага літаратуразнаўства, якую ён лічыў сваёю і на якой заставаўся працаваць да самай смерці...

Абавязаўшы сваім выбарам і даверам найперш быць самім сабою, жыць і працаваць па самым высокім рахунку, па-за кан'юнктурай часовых палітычных пасьянсаў і грашова-кар'ерных інтарэсаў, дзеля таго, каб большала тых, хто любіць, прафесійна ведае і навучае роднаму слову, дзеля будучыні...

Той ягоны колішні арыенцір для многіх з нас, хто не забыў маральныя ўрокі У. Калесніка, і сёння вышэй і аўтарытэтней за ўсякія прызначэнні, званні і ўзнагароды...

Развіталіся мы з Уладзімірам Андрэевічам восенню, у бальнічнай палаце абласной бальніцы. Без непатрэбных і лішніх слоў... Проста паглядзеўшы адзін аднаму глыбока ў вочы... На развітанне ён толькі леценька, аднымі пальцамі, памахаў мне рукою ўжо праз шкло бальнічнага акна...

Яшчэ праз некаторы час па просьбе Зосі Міхайлаўны мы ўдвух з Уладзімірам Адамавічам Сенькаўцом апраналі Яго перад апошняй дарогай...

Памяць чамусьці настойліва падказвае мне, што ў пакоі, каля ложка, на крэсле стаяла незакончаная ім карціна. Вясковы пейзаж, змаляваны з ляснога ўзгорка над абрывам, над якім ён пачаў працаваць яшчэ падчас адной з нашых сумесных лясных вандровак...

Сёння той пейзаж узгадваецца мне як ягонае апошняе пасланне ўсім нам, як напамінак аб вечнай, неўміручай сіле мастацтва і роднага слова, што лучаць нас з роднай зямлёю...

Гэта няпраўда, што няма незаменных людзей!.. Пасля сыходу з жыцця многіх выдатных творцаў у свядомасці нацыі — як пасля карчоўкі саду ці дубровы — застаюцца скразныя прагалы і глыбокія рытвіны, якія не зарастаюць дзесяцігоддзямі. Уладзімір Калеснік быў адным з такіх магутных дрэў...

У плыні паўсядзённага жыцця, калі апынаешся перад цяжкавырашальнымі праблемамі ці нечакана падступае да сэрца смяротная туга па нечым высокім і недасягальным, часцей за іншых успамінаецца ягоны твар, ягоныя глыбокія, удумлівыя вочы, якія, здаецца, ведалі пра гэты свет усё.

Ёсць рэчы, пра якія можна было пагаварыць толькі з ім...



Уладзімір ІСАЕНКА

# У СЭРЦЫ ПАЛЕССЯ

Сярод Усходняга, Мазырскага Палесся, яшчэ нядаўна глухога і топкага, між абшарамі лясоў і балот зрэдку трапляюцца абжытыя чалавекам мясціны — сёлы і невялікія вёскі з акаляючымі палямі і сенажацямі. На поўдні Калінкавіцкага раёна, у даліне Прыпяці, ніжэй Мазыра за 20 км, быццам аазіс, культурны і гандлёвы цэнтр — вылучаецца сярод населеных пунктаў старажытнае мястэчка Юравічы. Яно вядома з 1510 года (Калінкавічы з 1560 г.). Тры каралі Рэчы Паспалітай узвысілі яго сваёй увагай. Пад назвай Юрава месца трапіла на карту 1666 г. француза д'Абевіля. Месца — гэта горад. Як сведчанне таму, што Юравічы былі некалі старажытным горадам, на гары над цэнтральнай часткай сяла захаваліся гарадзішча — земляны вал і роў, выкапаны перад ім, курганы, а ў культурным пласце — рэчы X—XIII стагоддзяў. Па другі бок рова, што рассякае тут схіл узвышша, бачны руіны велічных мураваных будынкаў. «А якое вірлівае, буянае жыццё кіпела тут калісь», — так пісаў аб падобным Ул. Караткевіч. Зараз жа за цагляным мурам пануе цішыня...

Крутой сцяжынкай пойдзем на ўзвышша.

Перад вачыма адкрываюцца цудоўныя краявіды, бачна шырокая рачная даліна. Удалечы срэбранай стужкай нясе свае воды велічная рака — Прыпяць. За ёй у туманнай смузе праглядае высокі правы бераг, які пераразаюць яры, зарослыя хмызнякамі. На зялёным абрусе лугоў раскіданыя блакітныя плямы азёр, пясчаныя пагоркі з саснякамі. Кругом узвышаюцца асобныя дубкі, бярозавыя гайкі, стужкамі лазовых парасляў адзначаюцца рачулкі. Цяжка адвесці позірк ад наваколля, ад гэтых загадкавых прасцягаў. Колькі вякоў пранеслася над імі, і колькі тысячагоддзяў яшчэ міне? Хто стаяў тут раней і бачыў, і хто яшчэ пабачыць усю гэтую цудоўную прыгажосць? Паветра, насычанае духмяным разнатраўем, ап'яняе. Здаецца, адзін крок да абрыва — і ўзмахнеш рукамі, бы крыламі, імклівай, вольнай птушкай уздымешся ў паднябессе разам са сваімі думамі-марамі. І заўважыш раптам не толькі прыродныя цуды: унізе ля сваіх дамкоў корпаюцца людзі. Яны жывуць тут, шчаслівыя і небаракі, працуюць, нараджаюцца і паміраюць, пакідаючы нашчадкам помнікі сваёй працы. Хто ператварыў наваколле ва ўрадлівыя палі і квітнеючыя сады? Хто будаваў добротныя дамы і цагляныя муры? Хто шукаў паратунку на старажытным гарадзішчы? Як адбывалася тут спрадвечная барацьба чалавека за лепшую долю? Усе мелі прозвішчы, а засталіся безыменнымі, ляглі ў зямлю тыя, хто перадаў нам эстафету жыцця. Вынікамі іх работы жывуць сучаснікі. Гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў краіне, неяк адбіваліся і на лёсе «тутэйшых», закранаiі кожную, самую невялікую вёсачку — трэба толькі ўгледзецца ў даўніну, пагаварыць з людзьмі, пакорпацца ў дакументах архіваў. Як высветлілася, гісторыя Юравіч доўгая і цікавая. «Кожны з нас прыгадае радзімы куток, каб да старасці чэрпаць адтуль успаміны» (Пімен Панчанка).

## *Даўніна, якая ўзрушвае*

Цяжка перадаць пачуццё чалавека, які бярэ ў рукі рэч, зробленую многа тысячагоддзяў таму. Яму быццам перадаецца трымценне таго далёкага вытворцы, цеплыня яго рук. Падобныя пачуцці ахапілі, бясспрэчна, і першых даследчыкаў стаянкі. У верасні-кастрычніку 1929 г. раскопкі ажыццявіла экспедыцыя кафедры археалогіі Беларускай АН. Культурны пласт Юравіцкай стаянкі даследаваны на плошчы каля 270 кв.м. Фауну стаянкі вывучалі У. У. Громаў, геолаг М. М. Цапенка,



*Цудатворная ікона Маці Боскай. Юравічы, 1600 г.*

В. В. Шчаглова. Рэшткі жывёлін залягалі з перападам вышынь каля 1,5 м. Гэта асаблівасць сведчыць аб наяўнасці двух культурных гарызонтаў.

На стаянцы знойдзены рэшткі 15-20 мамантаў маладога ўзросту, а таксама першабытнага быка, дзікага каня, пясца. У згрувашчанні касцей і даволі вялікіх валуноў назіраецца пэўная сістэма, быццам выкладка. Частка касцей пабывала ў агні. Нават раструшчылася ў касцявы вугаль. На адным валуне заўважаны сляды вохры. Усё сведчыла аб наяўнасці жытла авальнай формы, аснова якога ўмацоўвалася не толькі чарапамі і буйнымі касцямі мамантаў, але і валунамі, вогнішча пры ім і культавага месца — стадола. Крамянёвых прыладаў працы параўнаўча няшмат — яны пакрытыя неглыбокай пацінай пераважна па рэбрах нарыхтовак. Знойдзены 16 пласцінчатых нажоў, 17 граветаў — вастрый з вузкіх пласцінак, 7 скрабкоў і іншыя прылады. Асабліва цікавыя дробныя (15-30 мм) вырабы з вузкіх пласцінак — мікраграветаў, ножыкі, вялікі (130 мм) крамянёвы нож (захоўваецца ў Мазырскім музеі).

Бясспрэчна, гэта помнік «усходняга гравету», які тут больш старажытны, чым цэнтральнаеўрапейскі, што ўказвае на кірунак рассялення ў Еўропе гэтай групы палеалітычных абшчын. Ён нагадвае помнікі мадленскай культуры на самай ранняй ступені развіцця. Яго датаванне — каля 26 000 г. да н. э.

## *Жыццё ў халодным лесастэпе*

Першабытная родавая абшчына ля будучай вёскі Юравічы была нешматлікай, не перабольшвала 20 чалавек. Гэта былі пераважна родзічы па адной матцы, краманьёнцы, «людзі новыя», г. зн. сучаснага аблічча, сапраўдныя «гома сапіенс», высокія, моцнага целаскладу.

Паселішчы, падобныя да Юравіцкай верхнепалеалітычнай стаянкі, мелі звычайна ад аднаго да 3-4 жытлаў авальнай формы, 4-6 м у папярэчніку, а ўнутры спецыяльна адведзеныя месцы для жанчын, старых і малых. Каркас будаваўся з доўгіх костак, рэбраў і жэрдак, накрываўся скурамі. Ніжняя частка даху ўмацоўвалася валунамі, чарапамі і буйнымі косткамі, стойма закапанымі ў зямлю. У жытле падтрымліваўся непагаслы агонь, палівам былі косткі звяроў і кавалкі дрэва. Побач за ветравымі заслонамі таксама распальвалі вогнішчы, былі месцы для майстэрні, ямы-лядоўні, дзе ва ўмовах вечнай мерзлаты захоўваліся запасы мяса, тлушчу і паліва, наладжваліся схованкі для каштоўнасцей роду, прылад працы, крамянёвай сыравіны.

Нядоўга віліся дымкі над жытлом Юравіцкай стаянкі, год-другі, аб чым сведчыць невялікая колькасць знаходак. Холад узрастаў, узнімаліся снегавыя віхуры, пыльныя бураны. Аднойчы зрабілася нясцерпна — і людзі пакінулі стаянку. Уся тэрыторыя Беларусі тады апусцела на доўгі час. Самыя жорсткія халады наступілі XVIII—XVI тысячагоддзяў назад. Але потым паступова, хвалямі, стала вяртацца цяпло, край ледавіка адсоўваўся да поўначы. Услед за ім аднаўлялася лясная зона з яе багатым жывёльным светам. Затое адыходзілі статкі мамантаў і паўночных аленяў. Чалавеку даводзілася выбіраць іншую дзічыну для палявання, мяняць вобраз жыцця. Ледавіковая эпоха скончылася прыкладна 8300 гадоў да н.э., наступіў галацэн-сучасны геалагічны перыяд.

## *Пад шатамі змрочных дрэў*

Даліна Прыпяці, акаляючая мясцовасць, абрысы азёр і рачулак набылі выгляд, блізкі да сучаснага. Усё зарасло дрэвамі і кустамі розных парод. Спачатку было больш халодналюбівых: бярозы, асіны, хвоі. Рэкі цяклі спакойна, не ведаючы веснавых паводкаў, а нізінныя мясціны толькі-толькі пачалі забалочвацца.

Мінула некалькі тысячагоддзяў, і ў даліне Прыпяці зноў пасяліліся людзі. Іх спосаб гаспадарання — паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва — прыстасоўваўся да жыцця паблізу вады, сярод велізарных некранутых лясоў, пад шатамі змрочных пушчаў.

Стаянкі адносіліся да мезаліту — «сярэдняга каменю», калі шырока выкарыстоўваліся лук са стрэламі, човен-аднадрэўка, быў прыручаны сабака. Гэтыя стаянкі мелі невялікую колькасць жыхароў, працягваліся да 100 м. Тут хутка ставіліся лёгкія разборныя авальныя жытлы са скур. На пяску трапляюцца крамянёвыя прылады працы, плямы попелу, вуголле, бялёсыя кавалкі крэменю, што пабывалі ў вогнішчах. Характэрныя прылады працы з вузкіх пласцін: нажы, наканечнікі стрэл, разцы. Але рэзка пераважаюць дробныя, даўжынёй 10-15 мм крамянёвыя вырабы — устаўкі ў пазы касцяных і рагавых апраў. Укладышавыя наканечнікі дзідаў, кінжалы, гарпуны былі лёгкія і трывалыя, патрабавалі мала крэменю, што прыдавала зручнасць для вандроўнікаў — паляўнічых і рыбаловаў.

Паданні і казкі аб змрочных лясах з іх насельнікамі, небяспечных пярэваратнях і страшных ваўках данеслі да нас подых той эпохі, познамезалітычнага часу (7000—4500 гг. да н.э.), калі даліны рэк былі ўпершыню асвоены чалавекам. Да лепшага мяняліся жыццёвыя абставіны.

## *Неалітычны світанак*

Апошняя эпоха каменнага веку — неаліт, або эпоха «новага каменю», наступіла 4500—4000 гадоў да н.э.

На трыццацікіламетровым адрэзку Прыпяці паблізу Юравічаў выяўлены 16 паселішчаў неалітычных рыбакоў: невялікія часовыя стаянкі з адным або некалькімі жытламі. Буйныя паселішчы — рэдкасць, вядомыя каля Мазыра і Ломыша. Некаторыя мясціны засяляліся шматкратна, там стаянкі трапляюцца групамі: на берагах возера Ліцвін, каля Шарэйкаўскіх азёраў, на поўнач ад Мазыра, ля яго прыгарадаў — Баравікоў і Пхова.

Амаль усе стаянкі знайшлі ў 1960—1970 гг. А. П. Гарчанка, настаўнік Юравіцкай школы, і аўтар. Раскопкі вяліся на берагах возера Ліцвін (Юравічы), на р. Тур'я, на захад ад в.Слабодка, за возерам Бярнатава. Была ўскрыта плошча каля 900 кв.м, да глыбіні 0,3—1 м. Выяўлены два жытлы: авальнае (даўжынёй да 5 м з апорным слупом у цэнтры і вогнішчам, вузкім уваходам з поўдня) і прамавугольнае (з вогнішчам у куце, абкладзеным камянямі). У кожным з іх магла жыць сям'я ў 6-8 чалавек, бо плошча жытлаў была 8-12 кв.м. Жыхары выкарыстоўвалі ў побыце нізкія шыракагорлыя гаршчкі, якія сваімканічным дном устаўляліся ў невялікія яміны.

Сярод прылад працы сустракаюцца трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, скоблі і праколкі, пераважна вуглавыя разцы, серпікі, невялікія сякеркі і цеслы, рагавыя прылады.

Насельнікі днепра-данецкай культуры былі рослымі людзьмі моцнага целаскладу, далёкімі нашчадкамі вандроўнікаў прыледавікоўя. Некаторыя даследчыкі лічаць іх непасрэднымі папярэднікамі старажытных індаеўрапейцаў, так званай «першай хваляй». Гэта, відаць, і былі продкі сучасных народаў, у т. л. — славян.

## *З сякерай у руках за «таварам»*

У 2000 г. да н. э. пачаўся бронзавы век, які быў адзначаны вандроўкамі плямён новай, сярэднедняпроўскай культуры з шнуравой керамікай, рассяленнем другой хвалі старажытных індаеўрапейцаў. Яны пранiклі ў басейн Прыпяцi з вялікімі статкамі быдла («тавару») і табунамі коней. Жывёлагадоўцы былі добра ўзброены, каб бараніць гэта багацце ад ліхіх людзей і дзікіх звяроў.

Сляды насельнікаў бронзавага веку выяўляюцца амаль на кожнай неалітычнай стаянцы, узвышэннях сярод поймы. Часам на пясчаных пагорках заўважаюцца плямы попелу на месцы пахаванняў. Некалькі каменных сякер знайшлі на агародах у цэнтры Юравіч, у даліне Прыпяці, на схілах ля вёскі Бярозаўка.

Тагачасныя рэлігійныя культы звязаны з жыватворнай сілай агню, характэрнай для земляробаў, а таксама са значнымі прыроднымі з'явамі. Багі падобныя да чалавека альбо звяроў. Верхаводзіць усімі Пярун, валадар маланкі.

Так заканчваўся найстаражытнейшы перыяд гісторыі Юравіч.

## *Набыццё бацькаўшчыны*

Сапраўдны пераварот у гаспадарцы здарыўся ў 700—800 гг. да н.э., калі мясцовыя плямёны авалодалі жалезам. Яны здабывалі яго з балотнай руды, што сустракалася паўсюдна.

Ланцужок гарадзішчаў з'явіўся на берагах Прыпяці ад Барбарова да Загорын, сярод іх — Юравіцкае. Некалькі селішчаў меліся ў высокіх сухіх мясцінах даліны, аточаных азёрамі і балацінамі. Яны належалі мілаградскай і зарубінецкай культурам. Тагачасныя насельнікі будавалі своеасаблівыя паўзямлянкі са слупамі на вуглах.

Славянізацыя насельніцтва ў басейне ніжняй Прыпяці пачалася ў сярэдзіне першага тысячагоддзя. Тут перапляліся розныя культуры, што характэрна для ранняга жалезнага веку, часоў «ваеннай дэмакратыі» і пачаткаў дзяржаўнасці. У 500—800 гг. гэтыя землі ўвайшлі ў арэал калочынскай культуры, у якой пераважаюць славянскія элементы.

Усходняе адгалінаванне праславян станавілася рэаліяй на зямлі — наваколлях Кіева, Мазыра і Петрыкава, аб'яднаных велічнай Прыпяццю і магутным Дняпром.

## *Роду-племя дрыгавіцкага*

Нашчадкамі раннеславянскіх плямёнаў (тыпу Хатомельскай культуры) пасля VII стагоддзя былі дрыгавічы. У адным з курганоў былі знойдзены рэшткі маладой жанчыны, на галаве якой захаваўся вянок-абручык на берасцянай аснове. Гэта быў убор прыгажуні-юравічанкі, што жыла каля васьмі стагоддзяў таму...

Дрыгавічы, насельнікі гарадзішчаў у Юравічах, жылі пад значным уплывам Кіева. Пасля 1149 года звесткі аб іх знікаюць, але дрыгавіцкія абрады захаваліся.

Сярод юравіцкіх дрыгавічоў шырока распаўсюдзілася падсечна-агнявая сістэма земляробства .У некаторых населеных пунктах развіліся касцярэзнае, ювелірнае і ганчарнае рамёствы, вытворчасць рэчаў са шкла, каляровых металаў, мастацкіх вырабаў. Некаторыя паселішчы мясціліся на гандлёвых шляхах, ператвараліся ў гарады.

## *«Градня на Юры»*

У канцы XX ст. на мысе карэннага берага даліны Прыпяці, што на 40 м уздымаецца над рэчышчам, было пабудавана гарадзішча. Яно потым пашырылася, а месца назвалі Юравічамі. Гарадзішча пачыналася амаль адразу за вядомай стаянкай і адзначана валам і ровам, якія добра захаваліся і абмяжоўваюць пляцоўку плошчай каля гектара. Побач можна ўбачыць іншую пляцоўку — прыгарад ці «вакольны

горад». Адасоблена выглядае «Царкавішча» (120 м у дыяметры, з рэшткамі студні). Нягледзячы на нядаўнюю гаспадарчую дзейнасць, яшчэ і зараз тут знаходзяць старажытныя рэчы. На свежым ворыве раптам паяўляюцца абломкі гаршчкоў X—XIII стст., жалезныя вырабы, шыферныя праслы, а таксама косткі, вугаль, кафля і цэгла XV—XVI стагоддзяў. Траплялiся і выключныя рэчы: аканечнік ножнаў мяча, пацеркі. Асабліва цікавыя абломкі ляпных сасудаў X ст., якія сведчаць аб адначасовасці паходжання з Туравам. У Юравіцкае гарадзішча можна было трапіць з усходу, ад поля, або па вельмі стромкаму спуску на паўночна-заходнім куце ад прыпяцкай даліны. Тут уздоўж падножжа, па вуліцы ўбок Відоліч цягнуўся гандлёвы пасад XII—XIII стагоддзяў. Адсюль вяла дарога да прыстані (2 км), але ў час вялікіх веснавых паводкаў рачныя судны маглі падыходзіць ушчыльную.

Паводле падання менавіта тут знаходзіўся Юр'еў-град з крэпасцю Відолічы і кляштарам. Падчас татарскага нашэсця ўсё было разбурана. Захавалася толькі назва «Царковішча», іншыя называлі месца «Граднёй», а горад «Юравам». Пазней археолагі знайшлі незвычайную каштоўнасць: касцяную лыжачку (для прычасця) з выявай княскага герба — трызубца, што пацвярджае значнасць места.

## *Свет хрысціянства*

Жыццё патрабавала ад людзей больш турбавацца аб сваім маральным абліччы, аб сваіх блізкіх, суродзічах, суседзях. Новая духоўнасць, хрысціянства, стала распаўсюджвацца з Кіева са жніўня 988 г. Даволі хутка хрысціянамі сталі жыхары Дняпроўскага басейна, хаця гэта адбывалася па-рознаму. Тураўцаў хрысцілі быццам «агнём і мечам», самі «прыплылі знізу, ад Кіева, каменныя крыжы». Хрысціцелі-прапаведнікі дзейнічалі больш пераканаўчым словам і ўласным прыкладам. Місіянеры дасталіся ў Тураў, бясспрэчна, паўз Юравічы і мясціны, дзе потым узніклі Мазыр, Загорыны, Петрыкаў. Адпаведна і жыхары Відоліч, Юр'еўграда сталі хрысціянамі раней. Паганства скончылася, ідалішчы скінуты, капішчы зруйнаваны. Напэўна, аб гэтым сведчыць паданне, што «царква» ў Юравічах правалілася. Рэшткі яе выплылі... ў Кіеве. Калі потым на вяроўцы апусцілі ў правал зайца, той таксама трапіў у Кіеў. Само знаходжанне «царквы» над вадой, калодзежа, сведчыць аб наяўнасці капішча, аб дзясятым стагоддзі. Хутчэй за ўсё і першая хрысціянская царква была пабудавана на гэтым месцы, па-над прыпяцкай кручай, у пачатку XI стагоддзя. Сын кіеўскага князя Уладзіміра Святаполк наведаў Польскае каралеўства і адтуль у 1012 г. вярнуўся ў Тураў з маладой жонкай і каталіцкім епіскапам Рэйнбарнам, пабудаваўшы для іх касцёл.

Духоўным цэнтрам Палесся робіцца Тураў, дзе ў 1003 г. была заснавана епіскапская катэдра. Пазней тут у манастыры працаваў вядомы асветнік Кірыла Тураўскі. Паводле падання існаваў манастыр і ў Юравічах.

Спачатку Юравіцкая царква належала, хутчэй за ўсё, не да Тураўскай, а да Кіеўскай епархіі. Як сведчыць летапіс, да першай былі прыпісаны Слуцак, Ляхі, Гарадок, Смядзін (ст. горад). Брагін, Мазыр, Юравічы не паміналіся. Здаўна была ў Юравічах праваслаўная Свята-Троіцкая царква. Глухія звесткі аб існаванні ў Юравічах праваслаўнага манастыра з цудатворнай іконай, нібыта разбуранага татара-манголамі.

## *Княскія разборкі*

З 1147 г. (час першых звестак аб Брагіне і Маскве) разгарнулася цяжкая шматгадовая барацьба паміж Юрыем Доўгарукім (шостым сынам Манамаха) і Ізяславам Яраславічам (Валынскім), яго нашчадкамі. Яна фактычна вызначала вакол якога цэнтра — Валынскага (Украіна) або Маскоўскага — будзе збірацца спадчына Уладзіміра Святога. На баку Юрыя выступалі ў хаўрусе ўплывовыя чарнігаўскія князі Ольгавічы. Лёс не толькі Турава і Мазыра, але і значнага ў той час

месца Юравічы, якое было ў сумежжы, залежаў ад вынікаў гэтага супроцьстаяння. Некалькі гадоў ішла барацьба за Тураў. Калі Юрый Яраславіч (Валынскі) выгнаў адтуль Барыса, Тураўская зямля ператварылася ў вотчыну яго пяці сыноў, дамагласся самастойнасці ў 1162 г. У Тураве княжылі Святаполк (да 1190 г.), потым Глеб. Тры ваенныя паходы на Тураў у 1158—1160 гг. засталіся безвыніковымі. Баявыя дзеянні, якія разгортваліся на Кіеўшчыне, відавочна, закранаі Мазыр і Юравічы, як і ўсё насельніцтва даліны Прыпяці. На берагах ракі будаваліся ўмацаваныя паселішчы (Акулінка, Кімбараўка, Лубня, Стрэльск, відаць, Барбароў), якія баранілі ўрадлівую Мазыршчыну, рачныя прыстані ад раптоўных нападаў. У Іпацеўскім летапісе засведчана, што зімой 1168—1169 гг. войска Андрэя Багалюбскага падступіла да Кіева. Яго князь Мсціслаў Ізяславіч Валынскі накіраваў пасланца кн. Міхалку Юр'евіча да сына Рамана, які княжыў у Ноўгарадзе, з просьбай аб дапамозе. Пасланец быў схоплены каля г. Межымосце. Дапамога не прыйшла, Кіеў быў узяты. Лічаць, што Межымосце — магчыма, Юравічы. Яны сапраўды размешчаны між двума мастамі — на Тур'і і Пясчанцы (в.Прудок). Першае ўпамінанне аб Межымосці адносіцца да 1170 г.

У часы Кіеўскай Русі два Юрыі мелі пэўнае дачыненне да гісторыі населенага пункта. Гэта Юрый Уладзіміравіч Даўгарукі, заснавальнік Масквы, і Юрый Яраслававіч, нашчадак валынскага князя Ізяслава. Суфікс –ічы абазначае «суродзічы», «саўдзельнікі», «падуладныя», «дзеці». Таму Юр'евічы, Юравічы — «падуладныя Юрыя». А па іх было перайменавана само месца.

## *Першыя звесткі*

Першая пісьмовая звестка аб Юравічах з'явілася ў Літоўскай метрыцы пад 1510 годам (Кніга запісаў VIII, 340—341лл.). Гэта дакумент № 479, якім пацвярджаецца права на валоданне сялом нашчадкам земяніна, які служыў у войску вялікага князя Свідрыгайлы, брата і саперніка караля Ягайлы. Ён выдадзены «зямянам валынскім Сенку і Федку Багдановічам Сярбінавым на сяло Юр'евічы ў Мазырскім павеце, даніну вялікага князя Свідрыгайлы дзеду іх Богдану Сербіну на вечнасць». Даніна пазначана не раней 1430 г., калі Свідрыгайла стаў вялікім князем, потым збег у Кіеў, перабраўся на Валынь. У Юравічах магло быць на той час 20-25 двароў (сельскіх гаспадарак), каля 150-200 жыхароў. Харужы валынскі Богдан Сербін Харахорынскі пасяліўся на Валыні, прадаўшы Юравічы.

Праз 40 г. пасля першага запісу з'явіўся другі — у інвентары Мазырскага замка 1552 года, на які павінны былі працаваць сяляне чатырох навакольных валасцей. «Сяло Юравічы, 23 чалавекі, Касцюшковіча, падымшчыну (налог з дыма-двара) на падводы, на стацэі далі, а горада (Мазыра) не рабілі ад 5 гадоў ... Возера ўступнае ж у сяле Касцюшковіча ў Юравічах на імя Ліцвін, тоня адна, валочаць яго на замак людзі гаспадарскія Айцючацкія а Гулевіцкія і тыя людзі Касцюшковіча Юраўскія невадам замкавым жа, а даюць неваднічаму хоць бы валачыў або не валачыў у кожны год з кожнага сяла па бязмену (2,45 кг) мёду, па бязмену пшана і па грошу».

## *Ад смуты да вайны*

Асаблівую вядомасць набылі Юравічы ў час «казацкіх войнаў» на Украіне (1648—1651 гг.). Расійскія ваяводы-назіральнікі даносілі цару з амаль несхаванаю радасцю: «Казацтва ўсё абярнулася... Магнаты і шляхта гарады робяць і валы земляныя насыпаюць ад чаркас... і сядзяць ледзьве не ў аблозе». Умацоўвалася і Юравіцкая сядзіба, аднаўляўся колішні дзядзінец старажытнага горада. Падобныя работы вяліся і на супроцьлеглым беразе — у панскім маёнтку Бабіцы (Барбарове). На поўдзень ад Бабіцы мелася найбольш зручная пераправа праз раку і праходзіла дарога паўз Абухаўшчыну і Юравічы проста на Загалле, а адтуль на Брагін, Лоеў

або на Рэчыцу. Летам 1648 г. да Прыпяці накіраваліся казацкія загоны А. Нябабы, Міхненкі і другіх. У студзені 1649 г. пасол Хмяльніцкага абвясціў цару, што між іншымі вызвалены Мазырскі павет. Выступленні казакаў былі падтрыманы сялянскімі паўстаннямі. Восенню наступнага года «сяляне, пачынаючы ад Велішэвічаў да Мазыра і Рэчыцы, колькі ёсць вёсак і вотчын», насельнікі гэтых гарадоў, таксама Брагіна, Турава, Бабруйска «паказачыліся». Мазырскі жыхар Іван Сталяр узначаліў атрад паўстанцаў (400 чалавек) і нападаў на маёнткі, якія паспешліва ўмацоўваліся.

Атаман Міхненка з казакамі асеў ў гарадскім замку, шляхецкія атрады былі разбіты паблізу Рэчыцы і Горваля. Неўзабаве карныя аперацыі на Палессі распачаў гетман Януш Радзівіл. Яго войска пад кіраўніцтвам стражніка Мірскага пасля жорсткага штурму знішчыла казакоў у Мазыры і накіравалася да Рэчыцы — важнага стратэгічнага пункта. Дарога туды праходзіла праз умацаваныя Юравічы.

Праз Юравічы праходзіла войска палкоўніка Міхаіла Крычэўскага, што накіроўвалася да Лоева, але было разбіта Радзівілам. У 1651 г. радзівілаўскія рэгімэнты рушылі на Чарнігаў і Кіеў. Пасля Белацаркоўскага пагаднення 28 верасня 1651 г. казацкія загоны былі выведзены з Беларусі.

Хутка вайна ўзнавілася і працягвалася 13 год.

У выніку вайны насельніцтва Беларусі скарацілася ўдвая, многія хаты стаялі пустыя. На пасяджэнні сейма ў 1674 г. адзначалася: «Разграблены і спалены горад Мазыр уяўляе страшэнныя развалiны, выратаваліся ад забойства толькі некалькі дзесяткаў жыхароў». Тое ж адбылося і з Юравічамі.

## *Місіянеры-асветнікі*

У другой палове XVII ст. на Палессі актывізавалі сваю дзейнасць бернардынскі, дамініканскі і езуіцкі ордэны. Місіянер-езуіт Марцін Тураўскі асветнічаў у гэты час на Палессі з цудатворнай іконай Багародзіцы, асеўшы ў Юравічах. Ён і стаў заснавальнікам вядомай езуіцкай місіі, першага кляштара ў мястэчку.

Паводле Збораўскага дагавора 1649 г. езуіты пакінулі Кіеў і перанеслі сваю місію ў Оўруч. Ім дапамог мазырскі падстароста М. Лозка. Вядомы езуіт Ігнат Ельца меў сястру Барбару Лошчыну (з Юдзіцкіх) і пляменніцу Марыяну Байбузінку Катарскую. Кожная з іх у 1674 г. аддала езуітам сваю палову Юравіч. Вось тут і абаснаваўся ксёндз Марцін Тураўскі, які пабудаваў драўляную капліцу для захоўвання цудатворнай іконы Маткі Боскай. Багамольцы ўсё часцей наведвалі палескую святыню. Місія набірала моц, разгортваючы асветніцкую дзейнасць.

Каб хутчэй аднавіць разбураныя вайной селішчы ў Вялікім княстве, кароль Ян III Сабескі ў 1683 г. выдаў пад Венаю грамату, у якой між іншым Юравічам быў нададзены ранг мястэчка. Наступны прывілей на вольны гандаль і кірмашы мястэчку даў у 1727 г. кароль Аўгуст II. Новы прывілей мястэчка атрымала ў 1778 г. ад Аўгуста Станіслава, апошняга караля Рэчы Паспалітай. У 1717—1756 гг. у Юравічах быў узнесены велічны касцёл разам з будынкамі місіі і калегіума. Старыя памяшканні былі выкарыстаны для школы, аб якой паведамляецца ў 1756 г. Хутчэй за ўсё школа пачала дзейнічаць значна раней, бо асвета заўсёды была ў цэнтры ўвагі езуітаў. Патрэба ў ведах нарастала. Вучылі езуіты не толькі добра, але і задарма, прычым ад шкаляроў не патрабавалася быць каталіком і мяняць веру. Неабавязковай з'яўлялася прыналежнасць да шляхецкага ці духоўнага саслоўя. Маглі вучыцца дзеці сялян або мяшчан, прычым спачатку (да авалодання лацінскай) на роднай мове.

Праз паўсотні гадоў многія маёнткі наваколля апынуліся ў руках езуітаў: Прудок, Шарэйкі, Крышычы, Глінішчы, Кустаўніца, Тульгавічы і частка горада Мазыра. У Юравічах пачаў будавацца новы цагляны касцёл і будынак для місіі. Падобных рэзідэнцый-кляштароў з касцёламі і калегіумамі на Беларусі было толькі восем.

У 1773 г. рымскі папа скасаваў ордэн езуітаў. Яго маёнткі перайшлі ў іншыя рукі, але даходы з іх перадаваліся Эдукацыйнай камісіі на ўтрыманне былых

езуіцкіх калегіумаў і школ. З Юравічаў у 1773—1781 гг. школа была пераведзена ў Мазыр пад апеку бернардынцаў. Гэты ордэн існаваў з 1645 г. і быў закрыты толькі ў 1832 г. Паводле сведчання нямецкага падарожніка Й.Мюллера, у 1787 г. у Юравічах існавала вучылішча, у якім было каля 40 навучэнцаў, пераважна дзяцей мясцовай шляхты.

У юравіцкім кляштары ўладкоўваліся бернардынцы (да 1789 г.), дамініканцы (1799 г.), ізноў бернардынцы і капуцыны (1832 г.).

Такім чынам, у XVII—XVIII стагоддзях на Палессі, у Юравічах, быў створаны своеасаблівы асветніцкі і культурны цэнтр, які набыў шырокую вядомасць.

## *Палеская святыня*

Высока над далінай Прыпяці ўзносіцца быццам у паднябессе (на 50 м) цудоўны храм, агульная святыня каталікоў і праваслаўных, выдатны помнік архітэктуры і гісторыі, які моцна пашкоджаны часам і людской няўдзячнасцю. Будаўніцтва пачалося ў 1717 г., цягнулася каля 40 гадоў, ды яшчэ патрабаваліся працяглыя работы для аздаблення, надання не толькі знешняга, але і ўнутранага хараства. А асвечаны касцёл быў 5 верасня 1758 г.

Юравіцкі храм па сваёй архітэктуры нагадвае езуіцкі касцёл у Нясвіжы, пабудаваны некалі вядомым архітэктарам Бернардоні. Характэрная асаблівасць — спалучэнне на фасадзе дробных архітэктурных форм з выявамі ў нішах, фрэскавым жывапісам. Копія галоўнай святыні — на франтоне, трэцім паверсе. Фасад ператвораны быццам у іканастас, які вынесены на плошчу, да людзей. Гэта — стыль позняга барока.

Юравіцкі касцёл Раства Прасвятой Багародзіцы — трохнефная базіліка са скляпеннямі, памерам 34 х 20 м, дзвюма вежамі вышынёй больш за 26 м. У левай (паўночнай) вежы знаходзіўся некалі гадзіннік з боем. Вялікія званы віселі ў правай вежы, сярод іх — у 53 пуды (850 кг), 15 пудоў (240 кг), два па 12 кг і адзін — 8 кг.

Храм быў складзены з вялікапамернай цэглы-пальчаткі, пакрыты дахаўкай (чарапіцай), падлога з цясанага каменю, пасярэдзіне драўляная. Вежы пакрыты медзяным лістом. Да храма вялі прыступкі.

Мноства дэкаратыўных элементаў на фасадзе: вертыкалі ў спалучэнні з паясамі, пышнае акаймаванне вокнаў, наяўнасць крывалінейных элементаў, ляпніны, скульптуры надавалі будынку лёгкасць, зграбнасць, узнёсласць, што адбівалася і на настроі наведвальнікаў. Нарэшце, праекціроўшчыкі дабіліся цудоўнай гармоніі з прыродай, з будынкам кляштара. Увесь комплекс быў абнесены прамавугольным мурам 170х90 м з васьмю вежамі.

Вялікую ўвагу прыцягваў інтэр’ер. Алтар у галоўным нефе быў выкананы ў «старасвецкім» стылі, з тонкай разьбой, работы майстра Тараса Оршыцкага (1732 г.), залачэнне — Сцяпана Пятроўскага. Бакавыя алтарныя сценкі былі аздоблены штучным мармурам. Над уваходам мясціўся арган. У сутарэннях стаялі саркафагі святароў і розных вядомых асоб.

Для місіі побач з касцёлам быў узведзены двухпавярховы будынак, П-падобны ў плане, франтонам таксама на захад. Даўжыня яго 56 м пры шырыні 26 м, вышыня да даху 9,4 м. Па абодвух вуглах будынак укаранаваны вежамі, вышынёй да канька болей за 16 м. Фасад, звернуты да мястэчка, меў тры ўваходы. У цэнтры знаходзіўся курданэр (парадны двор), вылучаны пілястрамі, — уваход, што вёў да залы-трапезнай. Апартаменты настаяцеля (суперыёра) размяшчаліся направа ад залы. З другога боку была кухня з каморамі (кладоўкамі). Адсюль па калідоры можна было трапіць на ганак і спусціцца на гаспадарчы двор. На другім паверсе таксама знаходзіліся зала, бібліятэка і жылыя памяшканні з камінамі.

Будынкі кляштара і місіі ўяўляюць класічныя ўзоры «беларускага барока». Для іх характэрны прастата, празрыстасць форм, спалучэнне строгага сілуэта з вертыкалямі, уласцівымі замку. Разам з касцёлам будынак утварае маляўнічы комплекс,

сапраўдны духоўны востраў сярод акіяна звыкласці. Галоўная святыня Палесся — Юравіцкі вобраз Маці Боскай — была ўрачыста, пры вялікім скапленні навакольнага люду перанесена з драўлянага ў раскошны мураваны храм 5(18) верасня 1758 года, дзе ўпершыню і было адзначана яе свята — дзень Прачыстай 8 (21) верасня.

Гісторыя цудатворнага вобраза губляецца ў вяках. Прыблізна з 1630 гг. ікона захоўвалася ў нашчадкаў вялікага кароннага гетмана Станіслава Канецпольскага. У спадчыне гэтага дзяржаўцы яе знайшоў малады ксёндз Марцін Тураўскі (аднадумец А. Баболі). Ён атрымаў дазвол ад унука гетмана, таксама Станіслава, на тое, каб весці асветніцкую дзейнасць пры гэтай святыні. Шмат палескіх дарог ад Кіева і Оўруча да Чарнобыля і Мазыра зведаў місіянер, пакуль не спыніўся ў Юравічах (1673). На працягу стагоддзяў выконвалі пры цудатворным вобразе службу тутэйшыя езуіты. Паводле падання месца для свайго храма выбрала сама Багародзіца, ікона-вобраз якой нейкім чынам з'явілася на дрэве, якое там расло і доўгі час захоўвалася потым каля брамы. Гэта хрысціянская святыня шанавалася і давала палегчанне тысячам каталікоў і праваслаўных. Ёй прысвячаліся вершы і багаслоўскія творы. Недзе каля 1860 г. спіс (копію) выканала мастачка Ядзвіга Кіневіч з Дзярэчына са згоды апошняга пробашча Хугона Градзецкага.

## *Зямля — крок да волі*

19 лютага 1862 года з усіх царкоўных амвонаў быў абвешчаны царскі маніфест аб скасаванні прыгоннага права. Юравіцкія сяляне атрымалі свабоду. Яны рабіліся ўласнікамі зямлі, якую на той час апрацоўвалі, праўда, за выкуп. Даўняя сялянская мара здзейснілася.

Сялянства было ўзрушана. Збіраліся групамі, гаманілі, будавалі планы. Зямля — гэта добра, але яна лічыцца абшчыннай, будзе час ад часу перадзяляцца. Воля — гэта яшчэ лепш, але застаюцца часовыя абавязкі працаваць на пана, ды яшчэ новы — самому плаціць падаткі. Тым не менш, сяляне склалі і падпісалі ліст да самога цара, дзе словы ўдзячнасці чаргаваліся з абяцаннямі вернай падданасці, г. зн. паслухмянасці. Хутка наступіла праверка і таго, і другога. Выбухнула паўстанне 1863 г.

У сялян абуджалася ўласная годнасць, хоць бракавала яшчэ свядомасці. Аб гэтым паведамляе Ганна Гарчанка, дачка юравіцкага валаснога старшыні Івана Целеша: «Бегалі па лясах паны, якіх цар падмануў. Ён пазваў паноў да сябе, даў ім паперу, каб распісаліся за вызваленне тых, хто сядзіць у няволі. Яны і распісаліся, бо думалі, што просяць за сваіх родных, пасаджаных у турмы. А калі цар пачаў вызваляць сялян з прыгону, паны зразумелі падман і ўзнялі паўстанне. Бегалі ад старога саду да Зацішша, хадзілі бандамі. Некаторы час жылі на Конанавай паляне, ля «жывой крыніцы». Ды спазніліся. А сяляне хадзілі за імі, у барабан бухалі, шукалі, лавілі, вязалі... Некаторыя паны паразбягаліся, шукалі паратунку, закопвалі зброю на Відолічах, кідалі ў возера Ліцвін».

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. генерал-губернатарам М. Мураўёвым у губернях было ўведзена ваеннае становішча, ажыццяўляліся мерапрыемствы, якія падрывалі ўплывы шляхты і каталіцызму, паглыблялі раскол паміж панамі і сялянамі-праваслаўнымі. Такое становішча працягвалася да 1868 г.

У год паўстання асабліва «дасталася» юравіцкаму касцёлу. «У Юравічы прыбыла сотня казакаў, якія на працягу чатырох гадзін секлі сякерамі алтары ў касцёле, разбілі статуі 12 апосталаў і арган, кошт якога перавышаў 6 тысяч рублёў. Гэта абурыла мяне да глыбіні душы...» — так пісаў мясцовы ксёндз. Хутка касцельны будынак быў пераўтвораны ў царкву на чале з благачынным Ёганам Шэнцам з Барбарова ў прысутнасці ротмістра Ул. Самарына.

Каталікі, відаць, прадбачылі гэтыя драматычныя падзеі, бо спешна і патаемна зрабілі копію з цудатворнага вобраза Маці Боскай. Праўда, копія пазней была асвечана і захавала ўсе цудоўныя якасці арыгінала.

Што да сапраўднай іконы Маці Боскай Юравіцкай, то яна трапіла, дзякуючы пробашчу Х. Градзецкаму, да Габрыелы Горват (з Ваньковічаў). У 1885 г. яна адвезла святыню ў Кракаў і аддала на захаванне ў касцёл Св. Барбары з умовай: ікона вернецца некалі ў адноўлены юравіцкі касцёл. Так лёс злучыў Юравічы з Кракавам.

У свята Троіцы 1868 г. жыхары мястэчка сустракалі другую святыню — цудатворную ікону Св. Благавернага князя Аляксандра Неўскага. Яна была змешчана ў раскошны ківот на левым баку царквы.

Так узнікла новая духоўная сувязь з Аляксандра-Неўскай лаўрай, што ў Пецярбургу.

У 1937 г. падчас ганенняў на царкву Юравіцкая ікона Багародзіцы (копія) трапіла ў Гомель.Тут сляды яе губляюцца. Застаецца толькі спадзявацца на вяртанне вобраза ў Юравічы.

У новым юравіцкім саборы, перабудаваным з касцёла ў дванаццацікупальны праваслаўны храм, з 1866 па 1916 гг. вёў службу святар Аляксандр Біруковіч. З 1872—1874 гг. працамі па змяненні вобліку будынка кіраваў губернскі архітэктар С. Іваноў. Акт прыняцця царквы « Во имя Рождества Пресвятыя Богородицы» падпісаны 18 верасня 1876 г.

Цікава, што ў той час старшынёй валасной управы ў Юравічах быў Ігнат Мележ — дзед вядомага беларускага пісьменніка Івана Мележа. Валасны старшыня клапаціўся аб адукацыі юравічан: у 1865 г. адкрылася народнае вучылішча, крыху пазней — жаночае, а потым — школы розных рамёстваў (кавальства, рукадзельства). А былы панскі маёнтак у Юравічах набыў па купчай у 1875 г. багаты селянін з Радуля І. Бакуненка.

## *Новае стагоддзе*

Сучасніку цяжка ўявіць, як выглядала палескае мястэчка на пачатку XX ст. Сціпла інфармуюць аб Юравічах і тагачасныя даведнікі: «Мястэчка Мінскай губерні, Рэчыцкага павета, пры р.Прыпяці. Жыхароў каля 1000; царква, школа, аптэка. Паштова-тэлеграфнае аддзяленне. Мяшчанскае кіраванне. Прыстань, з якой у 1901 г. адпраўлена 501 тыс. пудоў грузаў (лес, сельскагаспадарчыя прадукты) і разгружана 4 тыс. пудоў».

Мястэчка было забудавана вельмі шчыльна, асабліва ў цэнтры, дзе жыло многа яўрэйскіх сем'яў, знаходзіліся розныя адміністрацыйныя ўстановы, крамы, майстэрні. Уздоўж вуліцы цягнуліся драўляныя тратуары, керасінавыя ліхтары. Працавалі ганчары, кавалі, майстры абпальвалі цэглу, цяслярнічалі, выраблялі аўчыны, хромавыя скуры. Яшчэ і зараз у цэнтры пры Лясным завулку захаваўся двухпавярховы мураваны дом (потым у ім быў сельсавет), дзе знаходзілася кравецкая майстэрня Шэрмана.

Ушчыльную размяшчаліся крамы, большасць — у цагляных будынках. Прамтавары прадаваліся, напрыклад, у лаўцы, што знаходзілася насупраць пазнейшага сельсавета, дзе доўгі час былі клуб моладзі, райспажыўсаюз і сталовая. Тавары завозіліся з Варшавы, Лодзі і Кіева.

Вельмі вялікімі і шчодрымі былі ў Юравічах сады. Выдатнараслі і пладаносілі яблыні розных гатункаў, асабліва славіліся ранеты.

Дваццатае стагоддзе прынесла юравічанам новыя выпрабаванні. Рэвалюцыйныя падзеі, войны, акупацыі, гаспадарчыя цяжкасці, урэшце — чарнобыльская трагедыя. І ўсё гэта, пачынаючы з гістарычных падзей да сённяшніх дзён, павінна назаўжды застацца ў памяці народнай.





# МЕТРЫКА
## *літаратурная*

**120**

гадоў таму ў вёсцы Цялякава Уздзенскага раёна нарадзіўся **Мазуркевіч** Язэп (Іосіф Ігнатавіч), беларускі празаік, крытык, краязнаўца.

Скончыў вышэйшыя курсы беларусазнаўства ў Мінску. З 1924 года выкладаў у Віцебскім вячэрнім рабфаку, а з канца 20-х і на пачатку 30-х гадоў працаваў у Віцебскім краязнаўчым музеі. Быў адным з арганізатараў і кіраўніком Віцебскай філіі «Маладняка» і Віцебскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў.

Друкавацца пачаў з 1924 года ў альманаху «Пачатак». Былі шматлікія публікацыі ў альманахах «Світанне», «Рытмы будавання», часопісах «Маладняк», «Полымя» і іншых выданнях. Аўтар апавяданняў «Здзекі», «Бранявік» ды іншых твораў у жанры прозы і журналістыкі.

Загінуў у час сталінскіх рэпрэсій у 1937 годзе.

**100**

гадоў таму (1907) было створана выдавецтва **«Нашай Нівы»**.

Заснавальнікі браты І. і А. Луцкевічы, В. Іваноўскі, Цётка і іншыя. Выдавалі газету «Наша ніва». Рэдактарамі-выдаўцамі былі С. Вольскі, А. Уласаў, Я. Купала.

Існавала да 1914 года.

**50**

гадоў таму **Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку** (Польшча) пачало выдаваць «Беларускі каляндар» на беларускай мове.

## ВЕРАСЕНЬ

**3**

— **80** гадоў таму ў вёсцы Канюхі Капыльскага раёна нарадзіўся **Адамовіч** Алесь (Аляксандр Міхайлавіч), беларускі празаік, крытык, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч.

Праз год бацькі будучага пісьменніка пераехалі на сталае жыццё ў пасёлак Глуша Бабруйскага раёна. Тут А. Адамовіч скончыў сем класаў школы. Падчас вайны быў у партызанскім атрадзе. На самым пачатку 1944 года паехаў на Алтай (г. Ленінагорск) вучыцца ў горна-металургічным тэхнікуме. У 1945 годзе, вярнуўшыся на Беларусь, здаў экстэрнам экзамены за сярэднюю школу і паступіў на філалагічны факультэт БДУ. У 1950 годзе скончыў БДУ, а ў 1953 годзе аспірантуру пры ім і два гады працаваў там на кафедры беларускай літаратуры. З 1954 года навуковы супрацоўнік, а з 1976 года загадчык сектара ўзаемасувязей літаратур Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Пасля абароны доктарскай дысертацыі (1962) вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве (1962—66), адначасова выкладаючы беларускую літаратуру ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце (1964—66). З 1987 года — дырэктар Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута кінамастацтва Міністэрства культуры СССР (Масква).

Літаратурнай працай пачаў займацца з 1950 года. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Сярод найбольш вядомага з выдадзенага: «Я з вогненнай вёскі...» (сумесна з Я. Брылём і У. Калеснікам), «Хатынская аповесць», «Здалёк і зблізку», «Літара-

тура, мы і час» і многа кніг ваеннай тэматыкі на рускай мове, сярод якіх выдзелім такія, як «Война под крышами», «Сыновья уходят в бой», «Блокадная книга» (сумесна з Д. Граніным), «Каратели», «Иди и смотри» (рэжысёрскі кінасцэнарый), «Выбери жизнь», «Моленье о будущем»... Нямала кніг А. Адамовіча ўбачыла свет ужо пасля яго смерці, як дакументальных (у тым ліку і дзённікі), так і мастацкіх.

Не зважаючы на хваробу, вёў актыўнае грамадскае жыццё. Яго выступленні, асабліва перабудоўчага часу, мелі шырокі розгалас ва ўсім свеце. Пабываў у складзе як афіцыйных, так і неафіцыйных дэлегацый шмат у якіх краінах. Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1976).

Памёр у 1994 годзе ў Маскве. Пахаваны ў пасёлку Глуша.

**3**

**— 80** гадоў таму ў сяле Аксіньіна Маскоўскай вобласці нарадзіўся **Сульянаў** Анатоль Канстанцінавіч, празаік.

Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся ў Маскоўскай спецшколе ВВС (1943—46). У 1946—50 гадах быў курсантам Тамбоўскага і Армавірскага авіявучылішчаў лётчыкаў. У 1950—51 гадах — слухач вышэйшых лётна-інструктарскіх курсаў у Грозным, у 1951—58 гадах — лётчык-інструктар, камандзір звяна ў Армавіры і Каранеўску. У 1958—62 гадах — слухач Ваенна-палітычнай акадэміі ў Маскве. Пасля заканчэння — намеснік камандзіра па палітычнай частцы авіяпалка ў Карэльскай АССР (1962—68), начальнік палітаддзела дывізіі ў Архангельскай вобласці (1968—69), інспектар, начальнік аддзела Галоўнага палітупраўлення Савецкай Арміі ў Маскве (1969—76), член ваеннага савета, начальнік палітаддзела арміі ў Мінску (1976—80).

З 1980 года начальнік Палітупраўлення БВА (Мінск). Ваенны лётчык першага класа. Генерал-маёр авіяцыі (1978).

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1957 годзе. З 1979 года выступае ў друку Беларусі. Старшыня Камісіі па ваенна-мастацкай літаратуры СП Беларусі. Аўтар кніг: «Расколотое небо», «Только одна ночь», «Голубые снега», «На критических углах». Адзначаны медалём імя А. Фадзеева. Выдаў раман «Голубые флаги» і аповесць «Арестовать в Кремле».

Піша на рускай мове. Заслужаны работнік культуры Беларусі.

**4**

**— 75** гадоў таму ў Ташкенце нарадзілася **Яўсеева** Святлана Георгіеўна, беларуская паэтэса, перакладчыца, крытык.

Дзіцячыя гады прайшлі ў Чымкенце, дзе яна пайшла ў школу. У 1948 годзе вярнулася ў Ташкент і там скончыла сярэднюю школу. Пасля няўдалай спробы паступіць у Маскоўскі тэатральны інстытут паступіла на літаратурны факультэт Ташкенцкага педагагічнага інстытута. У 1957 годзе, скончыўшы яго, паступіла на завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута імя А. Горкага, адначасова працуючы прыбіральшчыцай у выдавецтве «Молодая гвардия», а пасля пазаштатным літаратурным кансультантам у розных рэдакцыях маскоўскіх газет і часопісаў. У 1962 годзе пераехала жыць да мужа ў Мінск.

Першыя вершы надрукавала ў 1955 годзе ў Ташкенце ў калектыўным зборніку «Тетрадь юности». Піша на рускай мове. Выйшлі зборнікі паэзіі: «Женщина под яблоней», «Новолунье», «Зову!», «Евразия», «Последнее прощание», «Ищу человека» ды іншыя. Тонкі выбітны лірык. Некаторыя вершы пакладзены на музыку кампазітарам Г. Вагнерам. Займаецца таксама перакладамі.

**6**

**— 215** гадоў таму ў Слаўгарадзе нарадзіўся **Грыгаровіч** Іван Іванавіч, беларускі гісторык, археограф, мовазнаўца.

Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1811), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1819). Выкладаў у Магілёўскім духоўным вучылішчы (1811—15).

З 1820 года саборны протаіерэй, рэктар Гомельскага духоўнага вучылішча, з 1829 года саборны протаіерэй у Віцебску, з 1831 года ў Пецярбургу. Збіраў матэрыялы ў архівах Мсціслава і Магілёва для напісання палітычнай і царкоўнай гісторыі Беларусі («Беларуская епархія», 1824, выдадзена ў 1992). Выдаў першы беларускі археаграфічны зборнік «Беларускі архіў старажытных граматг» (ч.1, 1824), збор твораў архіепіскапа Г. Каніскага са сваёй прадмовай (ч. 1-2, 1835). Удзельнічаў у падрыхтоўцы да выдання «Актаў Заходняй Расіі» (т. 1-5, 1846-53). Складаў слоўнік беларускай мовы.

Памёр у 1852 годзе.

**6**

— **100** гадоў таму ў г. п. Церахоўка нарадзіўся **Рахленка** Леанід Рыгоравіч (Гдальевіч), беларускі акцёр, рэжысёр.

Вучыўся ў Ленінградскім інстытуце сцэнічнага мастацтва. Творчую дзейнасць пачаў у 1926 годзе у Ленінградскім рабочым тэатры пралеткульта. У 1929—1981 гадах — нязменна ў Беларускім тэатры імя Я. Купалы (у 1937—43 гадах мастацкі кіраўнік). Адначасова кіраваў мастацкімі студыямі пры тэатры. Сярод лепшых яго роляў: Сымон («Салавей» З. Бядулі), Гарлахвацкі («Хто смяецца апошнім» К. Крапівы), Старац («Раскіданае гняздо» Я. Купалы), Добрых («Амністыя» М. Матукоўскага). Як рэжысёр сам ставіў многія п’есы з класічнага рэпертуару: «Ваўкі і авечкі» Астроўскага, «Скупы» Мальера, «Пані міністэрша» Нушыча, «Каварства і каханне» Ф. Шылера... (Унёс свой уклад і ў распрацоўку Ленініяны ў тэатры.) Здымаўся ў беларускім кіно («Міколка-паравоз», «Палеская легенда», «Хто смяецца апошнім», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Веснавыя навальніцы»).

Народны артыст Беларусі (1946) і СССР (1966). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1970).

Памёр у 1986 годзе.

**13**

— **70** гадоў таму ў мястэчку Мормаль Жлобінскага раёна нарадзіўся **Содаль** Уладзімір Ільіч, беларускі літаратуразнаўца, краязнаўца.

Скончыў Мормальскую беларускую сярэднюю школу ў 1955 годзе. Працаваў электрыкам у Мурманску на сударамонтным вайсковым заводзе (1956—58). Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. Горкага (1963). Працаваў педагогам у дзіцячым сухотным санаторыі «Астрашыцкі гарадок» (1960—67), рэдактарам на Беларускім тэлебачанні (1967—2001).

За больш чым трыццацігадовую працу на тэлевізіі падрыхтаваў шмат асветніцкіх праграм. Сярод іх — «У кожнага была свая вайна» і першы тэлевізійны часопіс «Роднае слова». Адзін з заснавальнікаў навучальнага тэлебачання. Узначальваў студыю «Ліцэй».

Дэбютаваў апавяданнямі ў газеце «Піянер Беларусі» ў 1955 годзе. Выдаў кнігі: «Людзьмі звацца», «Францішак Бенядзікт Багушэвіч», «Кушлянскі кут», «Сцежкамі Мацея Бурачка», «Жупранская старонка», «Свіранскія крэскі», «Волат з Мігаўкі» ды шмат іншых. Аўтар цікавых дыяфільмаў: «Праўдашукальнік» (пра Ф. Багушэвіча), «Дудар Беларускі» (пра Ф. Дуніна-Марцінкевіча), «Кастусь Каліноўскі». Ёсць цэлы шэраг новых задумак, сярод якіх «Багушэвіч у Вільні», «Благаслаўлёныя Кушляны» і «Хроніка Кушлянаў»... Чакае свайго выдаўца таксама дакументальная аповесць «Стогадовы партызан» (пра дзеда Талаша).

**16**

—**70** гадоў таму ў Майкопе (Краснадарскі край) нарадзіўся **Луцэнка** Барыс Іванавіч, беларускі рэжысёр, педагог.

Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1967). Працаваў рэжысёрам у Беларускім тэатры імя Я. Купалы (1967—72 і 1981—82), галоўным рэжысёрам у Дзяржаўным рускім тэатры БССР (1973—81). З 1982 года — галоўны рэжысёр Тэ-

атра-студыі кінаакцёра. Адначасова выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Сярод лепшых яго пастановак: «Традыцыйны збор» В. Розава (1967), «Рудабельская рэспубліка» паводле С. Грахоўскага (1968), «Памяць сэрца» А. Карнейчука (1970), «Раскіданае гняздо» Я. Купалы (1972) у тэатры імя Я. Купалы; «Макбет» У. Шэкспіра, «Трохграшовая опера» Б. Брэхта, «Апошнія» А. Горкага, «Трагедыя чалавека» І. Мадача — у рускім тэатры БССР. Былі таксама арыгінальныя спектаклі «Вяртанне ў Хатынь» паводле А. Адамовіча, «Пайсці і не вярнуцца» паводле В. Быкава, «Глядзіце, хто прыйшоў» У. Аро... Зрабіў пастаноўку «Рэвізора» М. Гогаля ў «Максім Горкі Тэатэр» (1980, Берлін). Зняў мастацкі фільм «Раскіданае гняздо» і тэлеспектаклі «Зацюканы апостал» і «Вяртанне ў Хатынь».

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Народны артыст Беларусі.

**17**

— **100** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Дзяргай** Сяргей Сцяпанавіч, беларускі паэт, перакладчык.

У 1924 годзе скончыў 1-ю Мінскую чыгуначную школу, а ў 1927 годзе — агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. У звязку з хваробай шмат часу займаўся самаадукацыяй. У 1935 годзе працаваў карэктарам у газеце «Звязда». У 1935—37 гадах быў незаконна арыштаваны і прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі. У 1939—40 гадах зноў быў рэапрэсіраваны і высланы ў Казахстан. З 1941 года жыў у Новабеліцы. Вайна заспела яго ў Гомелі. Выконваў асобныя заданні партызанскага атрада. З 1946 года жыў у Мінску. З 1951 года працаваў загадчыкам аддзела паэзіі часопіса «Полымя». У 1953—67 гадах — адказны сакратар часопіса «Вожык».

Першы верш з'явіўся ў друку ў 1938 годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва». Выдаў кнігі: «Вачыма будучыні», «Крэмень аб крэмень», «Чатыры стыхіі», «Свята ў будзень» і дзве кніжкі гумару «Цешча» і «Салата з дзядоўніку». Двойчы выходзіла Выбранае паэта (1967 і 1977), а таксама зборнік «Вершы» ў «Бібліятэцы беларускай паэзіі». Пасля смерці, у 1988 годзе, быў перавыдадзены зборнік «Чатыры стыхіі».

Перакладаў з рускай, украінскай і польскай моў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

Памёр у 1980 годзе. Пахаваны на Паўночных могілках.

**17**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна нарадзіўся **Танк** Максім (Скурко Яўген Іванавіч), беларускі паэт, грамадскі дзеяч, народны паэт Беларусі.

У выніку Першай сусветнай вайны і бежанства сям'я Скуркоў апынулася ў Маскве. Тут будучы паэт сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю і пайшоў у школу. Рыжская мірная дамова падзяліла Беларусь на дзве часткі. У 1922 годзе сям'я вяртаецца на Бацькаўшчыну. У 1923 годзе Жэня Скурко пайшоў у першы клас польскай школы. Пасля паступіў у трэці клас Вілейскай прыватнай рускай гімназіі. Аднак за вальнадумства і ўдзел у забастоўцы быў выключаны адтуль і ўладкаваўся ў Віленскую рускую гімназію імя А. Пушкіна. Тут разам са сваім аднакашнікам, паэтам і мастаком пачаў выпускаць рукапісны часопіс «Пралом». Адзін з выдрукаваных там вершаў трапіў у Мінск і быў уключаны ў «Хрэстаматыю заходнебеларускай літаратуры». У газеце «Беларускае жыццё» (7.IV.1932) упершыню апублікаваў свой верш «Заштрайкавалі гіганты коміны» пад псеўданімам Максім Танк. У сакавіку 1932 года паэт быў арыштаваны і пасаджаны ў Лукішкі. Праў месяц, праўда, вызваліўся і прадоўжыў вучобу. Працаваў інструктарам ЦК камсамола Заходняй Беларусі (1932—33), вёў рэвалюцыйную дзейнасць на Віленшчыне і Навагрудчыне. Неаднойчы арыштоўваўся і прыгаворваўся да розных тэрмінаў зняволення. З перапынкамі прасядзеў за кратамі каля двух гадоў. У 1933 годзе выдаваў рукапісны часопіс «Краты», дзе друкаваў вершы П. Пестрака і В. Таўлая. У 1936 годзе ён быў прыняты ў члены КПЗБ. Вёў актыўную грамадскую

і літаратурную дзейнасць. Пры дапамозе КПЗБ былі выдадзены яго зборнікі вершаў «На этапах» (з прадмовай Р. Шырмы, 1936), «паэма «Нарач», «Пад мачтай». Першыя дзве былі канфіскаваны польскімі ўладамі. Пасля ўз'яднання Беларусі працаваў у сельскім камітэце і ў рэдакцыі абласной вілейскай «Сялянскай газеты». У Дзяржаўным выдавецтве ў Мінску выйшлі яго «Выбраныя творы», а ў Маскве — «Стихотворения». Падчас вайны быў накіраваны на Бранскі фронт, у газету «За Савецкую Беларусь». Працаваў і ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну». Пасля вайны працаваў у часопісе «Вожык» і галоўным рэдактарам часопіса «Полымя» (1948—67). У 1967—90 гадах — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Быў кандыдатам у члены ЦК КПБ (1961—66) і членам ЦК КПБ (1966—90), дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР (1969—89) і БССР (1947—71). У 1963—71 гадах — старшыня Вярхоўнага Савета БССР.

Выдаў шмат кніг, у тым ліку выбранага і збору твораў. Сярод найбольш выбітных: «Каб ведалі», «На камні, жалезе і золаце», «Мой хлеб надзённы», «Ключ жураўліны», «Дарога, закалыханая жытам», «Прайсці праз вернасць», «Ave Maria», «За маім сталом», «Збор калосся», «Каўчэг»... Выйшла кніжка дзённікаў «Лісткі календара» і дзесятак кніжак для дзяцей. Шмат вершаў пакладзена на музыку і перакладзена на іншыя мовы свету. Уваходзіць у лік знаных еўрапейскіх паэтаў.

Народны паэт Беларусі (1968). Акадэмік АН Беларусі (1972). Герой Сацыялістычнай Працы ((1974). Ганаровы грамадзянін Мінска (1987) і Радашковіч (1992). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1978), Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1966), літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1980), літаратурнай прэміі Таварыства польска-савецкай дружбы (1958) і Таварыства аўтараў (ZAIKS, 1969).

Памёр у 1995 годзе. Пахаваны побач з бацькамі на могілках у Пількаўшчыне.

**17**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна нарадзіўся **Калеснік** Уладзімір Андрэевіч, беларускі крытык, літаратуразнаўца, празаік.

У 1936 годзе скончыў сем класаў польскай школы і паступіў у польскую гімназію імя А. Міцкевіча ў Навагрудку. Пасля ўз'яднання Беларусі працягваў вучобу ў Навагрудскім педагагічным вучылішчы. Падчас вайны быў на падпольнай камсамольскай рабоце, а пасля ў партызанскім атрадзе — падрыўніком, кулямётчыкам, начальнікам штаба атрада 20-й камсамольскай брыгады «Камсамолец» Баранавіцкага злучэння. Пасля злучэння з часцямі СА быў накіраваны на работу ў Мірскі райваенкамат. У 1944—45 гадах настаўнічаў, у 1945—49 гадах вучыўся ў Мінскім педінстытуце, а ў 1949—52 — у аспірантуры гэтага ж інстытута. Працаваў выкладчыкам у ВНУ, найдаўжэй — у Брэсцкім педагагічным інстытуце імя А. Пушкіна (загадчыкам кафедры беларускай літаратуры з 1956 года). З 1988 года — прафесар гэтай кафедры. Літаратурную працу пачаў з рэцэнзій на кнігі беларускіх літаратараў у 1953 годзе. Выдаў кнігі: «Паэзія змагання», «Час і песні», «Зорны спеў», «Я з вогненнай вёскі...» (сумесна з А. Адамовічам і Я. Брылём), «Ветразі Адысея», «Максім Танк», «Пасланец Праметэя», «Тварэнне легенды», «Янка Брыль»... Выйшла кніжка яго Выбраных твораў «Лёсам пазнанае» (1982).

Кандыдат філалагічных навук (1958). Прафесар (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980). Заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі (1979). Адзін з найбольш адметных і ўплывовых крытыкаў беларускай літаратуры XX стагоддзя.

Памёр у 1994 годзе.

**20**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Равецкі Бор на Чэрвеньшчыне нарадзіўся **Каўка** Аляксей Канстанцінавіч, беларускі гісторык, літаратуразнаўца, публіцыст і грамадскі дзеяч.

Аўтар легендарнага «Письма к русскому другу», а таксама выбітных кніг «Тут мой народ», «Жывом!» (1997) і «Будам жыць!» (1998). Рэдактар альманаха «Скарыніч».

Жыве і працуе ў Маскве.

**21**

— **75** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Слаўковіч** Даір Фёдаравіч, беларускі празаік.

Падчас вайны пераехаў на радзіму бацькі, на Уздзеншчыну, і жыў у партызанскай зоне. Бацькі мелі сувязь з партызанамі. Моцна захварэў на запаленне лёгкіх. Доўга быў нерухомым. Вучыўся самастойна, і толькі ў 20 гадоў пачаў хадзіць на мыліцах. Скончыў дзесяцігодку ў 1954 годзе. Працаваў у Уздзенскай дзіцячай бібліятэцы. Адначасова паступіў на завочнае аддзяленне бібліятэчнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута. Скончыў яго ў 1960 годзе. У 1969—77 гадах працаваў загадчыкам Уздзенскай дзіцячай біліятэкі. Пасля перайшоў на творчую працу.

Першае апавяданне надрукаваў у 1947 годзе на рускай мове. Сапраўдным дэбютам была публікацыя ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў 1962 годзе (апавяданне «Пра сына»). Пісаў таксама гумарыстычныя творы, творы для дзяцей і п'есы. Пераклаў казку для дзяцей В. Гаўфа «Маленькі Мук». Многія яго творы перакладаліся на мовы народаў былога СССР, а таксама на англійскую, нямецкую і польскую мовы.

Выдаў кнігі: «Каласавічок», «Сцежкаю мужных», «Клуб вясёлых чамучак», «Фірменны сродак», «Я вярнуся, мама!», «Я ў рабочыя пайду», «Крутадух», «Беражыце мужчын», «Даеш хуткасны» ды іншыя.

**23**

— **105** гадоў таму ў вёсцы Запруддзе Сенненскага раёна нарадзіўся **Васілёнак** Сяргей Іванавіч, беларускі літаратуразнаўца, фалькларыст.

Скончыў БДУ ў 1929 годзе. Працаваў выкладчыкам у Віцебскім (1932—34) і Магілёўскім педагагічных інстытутах. У 1940 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1941 года — дацэнт. Удзельнічаў у баях Вялікай Айчыннай вайны. У 1946—60 гадах выкладаў беларускую літаратуру і фальклор у Маскоўскім універсітэце, а пасля ў Гомельскім педагагічным інстытуце.

Адзін са складальнікаў зборніка «Беларускі эпас», хрэстаматыі для ВНУ «Вусна-паэтычная творчасць беларускага народа». Праўда, у ацэнках літаратурнага працэсу і творчасці асобных пісьменнікаў не заўжды быў паслядоўным. Даволі спрошчана трактаваў ролю газеты «Наша ніва» ў згуртаванні беларускіх пісьменнікаў. Метадалагічныя памылкі ёсць у яго і ў падыходзе да вывучэння беларускага эпасу.

Памёр у 1982 годзе.

**23**

— **90** гадоў таму ў Саратаве нарадзіўся **Фактаровіч** Давід Яўсеевіч, беларускі літаратуразнаўца.

Пасля смерці бацькоў у 1933 годзе пераехаў у Казань, дзе скончыў сярэднюю школу. У 1938 годзе скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт, пасля аспірантуру. Абараніў кандыдацкую дысертацыю (1941). З-за стану здароўя на фронт не трапіў. Выкладаў у Свярдлоўскім педагагічным інстытуце. З 1944 года — у БДУ: дэкан факультэта журналістыкі, загадчык кафедры замежнай літаратуры, дацэнт. У 1965 годзе пераехаў у Маскву. Працаваў у Інфармацыйным цэнтры Вышэйшай школы МВА СССР (1968—73), у НДІ праблем вышэйшай школы (1973—75), у праектным інстытуце «Гіправу» (1976—89).

Пачаў літаратурную працу ў 1946 годзе. Аўтар шматлікіх манаграфій, падручнікаў і артыкулаў. Сярод якіх: «Беларуская савецкая літаратура за мяжой», «Сусветная вядомасць беларускай літаратуры», «Чэшска-беларускія літаратурныя сувязі» ды іншыя.

Памёр у 1993 годзе. Пахаваны ў Маскве на Дамадзедаўскіх могілках.

**30**

— **115** гадоў таму ў пасёлку Мяджыбаж Жытомірскай вобласці (Украіна) нарадзілася **Верас** Зоська (Сівіцкая Людвіка Антонаўна, па мужу Войцік), беларуская пісьменніца, выдавец, грамадска-культурны дзеяч.

З дзяцінства пісала вершы на польскай мове. У 1904 годзе паступіла ў прыватнае гандлёвае вучылішча Л. Валадкевіча ў Кіеве. Скончыўшы 4 класы, у 1909 годзе паступіла ў прыватную жаночую гімназію Е. Баркоўскай у Гродне, дзе спрынілася на ўсё сваё астатняе доўгае жыццё да беларускай нацыянальнай справы. У 1911 годзе яе вершы надрукавала «Наша ніва». Скончыўшы гімназію, вучылася ў Варшаве на 10-месячных курсах «агародніцтва, садоўніцтва і пчалярства» (1913—14). Там жа скончыла і 6-тыднёвыя ваенныя санітарныя курсы (1914). Падчас войнаў (і Першай сусветнай, і грамадзянскай) дапамагала раненым. У жніўні 1915 года пераехала з маці ў Мінск і займалася праблемамі бежанцаў. Служыла ў Земскім саюзе і кантрольнай палаце. З 1917 года працавала сакратаром Беларускага нацыянальнага камітэта, сакратаром Беларускай сацыялістычнай грамады, была дэлегатам Беларускага вайсковага з’езда і Усебеларускага кангрэса. Мела блізкія дачыненні з такімі вядомымі беларускімі дзеячамі, як М. Багдановіч, А. Смоліч, С. Рак-Міхайлоўскі, М. Гарэцкі, З. Бядуля, У. Галубок, Ядвігін Ш., А. Паўловіч... У 1918 годзе вучыла дзяцей, а пад восень выехала з маці ў родныя мясціны. Жыла ў Альхоўцы, працавала над складаннем беларускамоўнага «Батанічнага слоўніка». У 1923 годзе апынулася ў Вільні. Працавала адміністратарам газет Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Арганізавала выпуск беларускага адрыўнога календара на 1926 год, што дало падставу для іх рэгулярнага выхаду ў Заходняй Беларусі. У 1928 годзе выдала на свае сродкі зборнік вершаў М. Машары «Малюнкі». У гэтым жа годзе стварыла і ўзначаліла таварыства «Пчала» (у 1934—39 гадах выдавала пры таварыстве штомесячны часопіс «Борць»). Заснавала і выдавала часопісы для дзяцей «Заранка» (1927—31) і «Пралескі» (1934—35). У 1920—30-я гады друкавала ў заходнебеларускай перыёдыцы вершы, апавяданні, эсэ. У 1939 годзе перабралася з сям’ёй на ўскраіну Вільні і пабудавала там хату (хата згарэла ў 1990 годзе). З 1960-х гадоў З. Верас зноў актыўна ўключылася ў літаратурнае жыццё Беларусі. Друкавала артыкулы, успаміны, кансультавала гісторыкаў і літаратуразнаўцаў, музейных і выдавецкіх работнікаў.

Памерла ў 1991 годзе і пахавана ў Вільнюсе на могілках Панерай.

— **60** гадоў таму быў створаны **Гродзенскі абласны драматычны тэатр** (на базе пераведзенага сюды Бабруйскага абласнога драматычнага тэатра).

Першы мастацкі кіраўнік М. Кавязін. Найбольш значныя пастаноўкі беларускай драматургіі: «Прымакі» (1972) і «Паўлінка» (1979, 1992) Я. Купалы, «Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна (1965), «Мілы чалавек» К. Крапівы (1976), «Францыск Скарына» А. Петрашкевіча (1978), «Князь Навагрудскі» Л. Пракопчанкі і Дз. Кальчанкі (1987), «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча (1988).

*Аўтар рубрыкі*
***Леанід Галубовіч.***



## *ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!*

**Адкрыта падпіска на II паўгоддзе 2007 года.**

**упершыню індывідуальная льготная**
**для настаўнікаў (індэкс — 00471)**

**на 1 месяц — 4300 руб.**
**на 3 месяцы — 12 900 руб.**

**індывідуальная (індэкс — 00471)**

**на 1 месяц — 5520 руб.**
**на 3 месяцы — 16 560 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**

**на 1 месяц — 7440 руб.**
**на 3 месяцы — 22 320 руб.**

**ведамасная льготная (індэкс — 00727)**

**на 1 месяц — 6240 руб.**
**на 3 месяцы — 18 720 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***


*e-mail: minsk@lim.by*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 10.09.07 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 19,23. Тыраж 3489 экз. Зак. 2290.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і
Міністэрства адукацыі — 00727
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 00471

# Чытайце ў наступным нумары:

**Уладзімір Гніламёдаў**
**Вяртанне**
Раман

**Міхась Южык**
**Лесвіца**
Раман (заканчэнне)

**Міхась Даніленка**
**Два апавяданні**

**Анатоль Зэкаў**
**Аксана Спрынчан Ізяслаў Катляроў**
Вершы

**Станіслаў Саладоўнікаў**
**“Следства працягваецца...”**
**Штрыхі да творчасці**
**Мікалая Чаргінца**

**Ніна Рыбік**
**Напіцца з радзімай крыніцы**
Нарыс

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130-8068


